*Выданне кнігі было магчымым дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраванням.*

Выдавец:
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка Kamunikat.org

Склад і ўступнае слова:
Міра Лукша

Рэдагаванне і карэктура:
Віталь Луба

Выдавецтва:
Agencja Wydawnicza EkoPress
Andrzej Poskrobko
601 311 838

ISBN 978-83-937536-0-4

**Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка Kamunikat.org**
Беласток 2013

kamunikat.org
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

## Юрка Геніюш

*З Зэльвы, Прагі, з Сібіры*
*словы матулі,*
*Ларысы. А Яна – сімвал*
*Беларусі спакутаванай –*
*ці прытуліць?*
*– Ой, мама, чаму я чорны,*
*Хоць белы маю твар?*
*Ой, рэчанька...*

*На рукі браў ты чужых дзяцей,*
*і цяпер маеш на Выгодзе месца*
*побач хлопчыка,*
*старэйшага ад цябе на сто гадоў.*

*Прытуляў людзей,*
*лячыў лекам і словам,*
*гожы пане ў капелюшы,*
*а ніхто цябе за дзверы не ўпусціў,*
*калі ты канаў пасярод пекных дамоў.*

*Вольным ветрам дыхні, Стрыбожа.*
*Яшчэ раз! Яшчэ раз!*
*Валасы патрывож. Сэрцы ў нас скалыхні.*
*Вей! Вей! Вольным ветрам дыхні.*

Міра Лукша

# *Ой, мама, чаму я чорны...*

Юрка Геніюш, сын Ларысы і Яна, народжаны 21 верасня 1935 года ў Зэльве на Гродзеншчыне. Праз два гады пераехаў з маці да бацькі ў чэшскую Прагу, дзе той у Карлавым універсітэце штудзірваў медыцыну. 27 ліпеня 1948 года Ларысу і Яна Геніюшаў дэпартавалі з Чэшскай Рэспублікі ў Савецкі Саюз і засудзілі на 25 гадоў лагераў (датэрмінова звольнілі іх у 1956 годзе, але ніколі не рэабілітавалі, не прынялі яны і савецкага грамадзянства). Юрку ўдалося перакінуць праз зялёную мяжу ў Польшчу. Хлопчык нейкі час быў у дзіцячым доме, пасля заняліся ім бацькавы сваякі, што жылі ў Вроцлаве. Стаў быў на працу ў фабрыцы цацак, пасля падаўся на Беласточчыну, адкуль родам былі ягоны бацька (Крынкі) і дзед Павал Міклашэвіч (вёска Астапкаўшчызна каля Крынак). Вывучыўся на лекара ў беластоцкай Медыцынскай акадэміі. Працаваў педыятрам між іншым у Гарадку, а таксама ў папраўчым доме ў Беластоку. З бацькамі сустрэўся ўжо ў сталым узросце, з цяжкасцямі з атрыманнем права на ўезд, пры сочцы службаў.

Юрка Геніюш ад самага пачатку пражывання ў Беластоку стаў супрацоўнічаць з беларускімі пісьменнікамі з літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (заснаванага ў 1958 г.), з тыднёвікам беларусаў «Ніва» (выдаецца з 1956 г.). Пісаў ён адносна няшмат, коратка, больш заняты медыцынскай практыкай і шматлікімі хобі. «А можа стрымлівала ягоную творчасць тое, з чым не мог не лічыцца: ён жа быў сынам, як тады гаварылася, здраднікаў айчыны, ворагаў народа, бацькоў зведаўшых Поўнач. Не выявіўшыся шырэй і глыбей, чымсьці мог» (Ян Чыквін). Успамінаючы драматычную смерць Юркі (20 лістапада 1985 г.) Сакрату Яновічу прыйшла на думку такая канстатацыя: «Яго згубіў нядобры час! Будучы па сваёй натуры паэтам, ён балюча перажываў бясслаўную эпоху, прытым нажыўшы сабе ворагаў сярод грубаскурых здаволенцаў і наменклатурных паноў». Вельмі дбаў пра свае тэксты,

не дазваляў калечыць іх, дапісваць што-небудзь. Празмерна ўражлівы, да болю сумленны, заплаціў за трагічнае жыццё хваробамі, стратай нерваў, заўчаснай смерцю ў свае пяцьдзесят. Перажыў сваю маці на два гады.

Пры жыцці Юрка Геніюш друкаваўся ў альманахах «Белавежы», калектыўных зборніках п’ес, беларускіх календарах, на старонках тыднёвіка «Ніва» (таксама пад псеўданімам «Ларс»). У 1980 годзе быў у Беластоку выдадзены зборнік яго паэтычнай лірыкі перакладзенай на польскую мову «Na początku było słowo...». У 1992 г. выйшаў зборнік твораў «Маці і сын» – з творамі Ларысы Геніюш, а ў1993 г. зборнік сатырычных фельетонаў і апавяданняў «З маёй званіцы». Новая кніга з’яўляецца найбольш аб’ёмным зборам ягоных тэкстаў, з выбарам розных жанраў творчасці Юркі Геніюша.

*Міра Лукша*

# У Гарадку і наваколлі

## Гарадоцкія трыкатажніцы

Гарадок, трэба сказаць, мясціна нікавая. Цікавая ўсебакова. Хопіць прайсціся па чысценькіх вуліцах, пагутарыць з людзьмі, асабліва старэйшымі. І ні ў якім выпадку нельга абмінуць тутэйшага трыкатажнага камбіната «Кара»[1].

Звыш пяцісот жанчын уключае штодзень трыкатажныя машыны. З маланкавым поспехам снуюцца мільёны метраў нітак. Штука за штукай ідуць у пакоўню гатовыя вырабы. Яшчэ крыху, і гэтакіх чарадзеек сучаснага верацяна будзе приступаць да працы звыш 1000 асоб. 30 мільёнаў інвестыцыйных залатовак кінулі ўлады ў гарадоцкую, пятага класа, зямлю. Шчодра паліваная потам рабочых (зласлівыя кажуць, што півам), яна ўжо пачынае цвісці карпусамі новых цэхаў.

А гэта толькі кветачкі. Ягадкі таксама будуць. Да трох існуючых камунальных дамоў далучацца яшчэ некалькі. Будзе і дзетсад, будуць і яслі. Усё будзе. Каб толькі далей жвава круціліся гарадоцкія «шпулькі».

## Гарадоцкі хор

Хадуном захадзіў вядомы ўсім чытачам «Нівы» гарадоцкі харавы калектыў. Замітусіліся дзяўчаты. Абставіны прымусілі памаладзець яшчэ на некалькі гадоў і так бадзёрую Ніну Мушынскую — душу калектыву.

Справа ў тым, што дзяржаўнае прадпрыемства «Эстрада»[2] запрасіла кабетак у славутую Лясную оперу ў Сопат на вялікі канцэрт рэгіянальных

1 «Кара» (Zakłady Przemysłu Dziewiarskiego „Karo") – трыкатажны завод; дзейнічаў у Гарадку ў 1959-1995 гг.

2 «Эстрада» (Państwowe Przedsiębiorstwo Imprez Estradowych „Estrada") – дзяржаўнае канцэртнае агенцтва.

калектываў нацыянальных меншасцей. Выступаць маюць у пачатку жніўня. Бяда толькі, што паэтычна-музычная інсцэніроўка, з якой калектыў выступіў 15 ліпеня 1973 г. у Беластоку ў парку, «Эстрадзе» не падышла.

Прадпрыемства жадае адных песень ды танцаў. Вазьмі і апрацуй за некалькі дзён новую праграму! Вывучы новыя песні!

Двояцца і трояцца дзяўчаты. Дзівы творацца ад іх спеваў у Гарадку. Спяваюць работніцы на трыкатажнай фабрыцы «Кара». Кажуць, што ад гэтага выразна ўзрасла прадукцыя кальсонаў. Здзіўлена паглядаюць хворыя на сімпатычную медсястру Раісу, якая ў такт вясёлай песні спрытна мяняе іголкі і, заглянуўшы хуценька ў картку са свежавывучаным тэкстам, цэліцца шпрыцом куды трэба. А гэта, думаеце, усё. А што адзець? А што абуць? Прычоска свая, ці парык — гэта ж таксама пытанне. Прыгажэйшыя купальныя касцюмы даўно ўжо раскупілі. Трэба дзе чым бліснуць на сопацкім пляжы.

Адны дыстрыбутары заціраюць рукі. Перасталі да іх чапляцца за недахопы ў крамах. Увесь калектыў перайшоў на жорсткую дыету. Трэба ж ім у шырокім свеце паказаць зграбную гарадоцкую лінію.

## *У кафлярні ў Гарадку*

Старшы фарміроўшчык Язэп Гогель працуе ўжо больш чым сорак год. Такіх фарміроўшчыкаў мала дзе знойдзеш. Ды і малодшыя стараюцца. Усе згодныя з тым, што прадукцыю прадпрыемства можна было выдатна павялічыць. Бяда толькі з глінай. Справа ў тым, што не хапае людзей да перапрацоўкі гліны. За гэтую вельмі цяжкую, а зімою проста катаржную працу плацяць чамусьці найніжэйшыя стаўкі. Не дзівата, што і ахвотнікаў да яе не знаходзіцца.

Як бачыце, рэзервы ёсць. Кафлярня ў Гарадку смела магла б дакінуць сваю жменю ў дзяржаўны банк 20 мільярдаў. Без ніякіх інвестыцый. Хапіла б цвяроза ацаніць чалавечую працу. Шкада, што дзе якіх дробных недахопаў ва ўмовах працы і аплаты нельга ўпарадкаваць грамадскім чынам, так як, скажам, тэрыторыі прадпрыемства. Спатыкалі б мы тады, напэўна, на жыццёвым шляху замест частых яшчэ бедакоў адны кветкі — такія, як на пляцы перад гарадоцкай кафлярняй.

На ляжайцы, вядома, зімою найлепей бакі пагрэць. Хоць шмат хто ўжо заводзіць у хаце цэнтральнае ацяпленне, печнікам таксама работы не бракуе. Ідуць у справу кафлі — белыя і каляровыя. Растуць печкі — вялікія і меншыя з ляжайкамі і без ляжаек. Толькі кафлярня ў Гарадку пастаўляе штомесяц 40 000 бліскучых, проста з печкі, свежанькіх кафляў. 20 працаўнікоў штодзённа месяць, лепяць (фармуюць), ды выпякаюць новую прадукцыю. За першых 5 месяцаў 1973 г. выканалі план на 100%.

Ой, прыйшлося папацець. Тэмпература ў печах да выпальвання кафляў 900-1000°С. Працуй каля гэтакай цацы, калі на дварэ спякота!

Не дарам кіраўнік прадпрыемства Уладзімір Саеўскі топчацца каля рабочых як квактуха каля куранят. А то ім малака, а то ім кавы. Для ахвотнікаў нават сок «Сарбовіт» у запасе трымае. Бядуе за сваіх падапечных і адзіны, акрамя кіраўніка, працаўнік адміністрацыі Люба Кандрусік.

Яна тут і рэферэнт, і магазінер[3]. І як тут не бедаваць. Іхняя гордасць – сатуратар для газавання вады, за які заплацілі 5 000 зл., стаіць пераважна бясчынны, не хапае газу, які абавязаны дастаўляць Беластоцкія заводы будаўнічай керамікі.

Вось, кажуць рабочыя, каб узяць пару мяккіх крэслаў перанесці з беластоцкіх блокаў паблізу нашай печы (разумеецца, разам з тымі, якія на іх сядзець прывыклі).

А калектыў тут маем дысцыплінаваны. Узяць такога Мікалая Гогаля, выдатнага фарміроўшчыка. Лепіць кафлі быццам бы гуляе. Раз! Ломаць гліны дроцікам адрэзаў. Два! Залажыў у форму. Прыціснуў, абгладзіў і маеш кафляк, хоць ты яго на выстаўку пасылай. Нездарма ён 45 гадоў у сваёй спецыяльнасці працуе, да пенсіі набліжаецца. На саракавыя ўгодкі актыўнай працы дастаў узнагароду. Не міне яна яго, мусіць, і на 45-ыя, якія прыпадаюць сёлета.

## Будзе гаспадарам на пірагі, хопіць і свінкам «на сала»

Калісьці з мяне, малога, жартавалі, што белыя мышы могуць вадзіцца толькі на млыне — вядома, мукою прыпарушаныя. На гарадоцкім млыне, які я нядаўна наведаў, ніякіх мышэй, праўда, няма, усе працаўнікі аднак з кіраўніком Станіславам Лапічам разам салідна прыпудраны белым пылам.

3 Магазінер (польск. magazynier) – загадчык склада.

Пан Станіслаў (так яго, як добрага сябру, прывыклі называць сяляне і супрацоўнікі) кіруе тут пастаўкай «матэрыялу» на булкі, пірагі, блінчыкі ўжо дванаццаць год. Кажуць, што ў закінутых старых млынах часта чэрці і іншая нечысць водзяцца — самі колы скрыпяць, самі жорны варочаюцца.

Прыглянуўшыся да працы міні-камбіната пана Станіслава, таксама проста дзіву даешся — у чары гатоў паверыць. І калі ўнікнеш у планы, дасягненні, кошты і іншую дакументацыю, справа ясная — ён чарадзей, і ўсё. Ну, бо як іначай?

Паспрабуй, калі ласка, выканаць план за першых 6 месяцаў у 181,4%! Паспрабуй даць за гэты самы час гээсу[4] 125 тысяч чыстага даходу! І ўсё гэта сіламі пяці чалавек.

Ёсць яшчэ другая справа. Як гэта, каб цэлых 12 год працаўнікі самі праводзілі ўсю кансервацыю і рамонты, ні разу не спыняючы прадукцыі? Хоць — не!

Тут бы я змахляваў. Быў, сябры, выпадак. Гады два таму назад узяў і ў зачараваны млын пярун трэснуў. І што думаеце? Дзякуючы добраму забеспячэнню толькі праводка крыху прысмалілася. Праз некалькі гадзін ізноў траскаталі машыны. Цэлай страты, кажуць, столькі было, што адзін з чакаючых сваёй чаргі дзядзька ад страху аб шклянку, якую да рота падносіў, зубамі ляснуў, а другі, сусед ягоны, селядцом мала не падавіўся. Так што бачыце самі — варта такой цацаю пацікавіцца. Стаў я сабе ў старонцы і прыглядаюся. Не такі я, думаю. Мяне нават млынар і той на мякіне не правядзе. Ніхто, бачу не спяшаецца і не бегае. Пад'язджаюць, акрамя сялянскіх фурманак, поўныя збожжа самаходы. Ссыпаюць зерне ў бункер і адразу падстаўляюць пустое «пуза» пад карыта, якім зверху «сьрута»[5] сыплецца. Пачынаю дапытвацца млынара пра сакрэты прафесіі. Зубы на ёй з'еў, як кажуць. Любіць ён яе і ганарыцца ёю. Цешыцца, што акрамя паслуг для сялян мае магчымасць выдатна памагаць мяшальні кармоў са станцыі Валілы. Дзеля гэтага якраз ён запраектаваў і разам з працаўнікамі правёў мадэрнізацыю прадукцыі.

Трэба было паставіць новы «сьрутоўнік»[6]. Мяшкамі да яго збожжа падносіць, вядома, — горб вырасце, а толку не будзе. Трэба было хоць часткова

---

4 Гээс (польск. GS – Gminna Spółdzielnia «Samopomoc Chłopska») – назва вытворча-гандлёва-паслуговых кааператываў, якія дзейнічалі ў гмінных цэнтрах.

5 Сьрута (польск. śruta) – мука грубага памолу.

6 Сьрутоўнік (польск. śrutownik) – зернедрабілка.

аўтаматызаваць працэс. Цяпер зерне сыплецца «люзам»[7]. Высыпаў, пад'ехаў пад слізг-карыта і забірай гатовую «сьруту».

Уся мадэрнізацыя з коштам машыны ўключна абышлася гээсу ў 20 000 зл. Прадукцыя млына ў выніку яе ўзрасла на 150 тон у месяц. Сур'ёзна ўзраслі даходы прадпрыемства. Нездарма пан Станіслаў атрымаў высокую грашовую прэмію (13 000 зл.).

Цікава і тое, што ўсё гэта працаўнікі млына зрабілі ўласнымі сіламі, не спыняючы ні на хвіліну працы млына, за адзін месяц часу.

— Няма тут ніякіх чараў, — тлумачыць пан Станіслаў. — У нас проста згодны і працавіты калектыў. Важна таксама і тое, што гарадоцкі гээс, якому мы ад 1 студзеня1973 г. падлягаем, памагае чым можа і заахвочвае да працы. Прэзас[8] Паплаўскі ў ніякую бюракратыю не гуляе. У яго гаспадарскі падыход. Калі ёсць эканамічны разлік — трэба рабіць. Праўленне гээсу прытым і пра сацыяльныя ўмовы не забываецца. Пагляньце вы! Хочаш пакупацца — калі ласка. Ёсць душ, пускай на выбар халодную ці гарачую ваду. Ёсць дзе пасядзець, снеданне з'есці. Думаем цяпер яшчэ зрабіць рамонт — памаляваць усё нанава.

— Ёсць і яшчэ адна думка. Бачыце, сялянам у нас усё яшчэ мяшкі насіць трэба. Вось і камбіную, каб гэта яны з вагі на фурманку самі каціліся. Навошта мучыцца людзям?

І як вам здаецца? Напэўна «выкамбінуе» і зробіць. Для людзей, якія любяць сваю прафесію і працуюць, як кажуць, не за грошы, а за сумленне, спраў немагчымых няма.

## Акварыум

Развіваецца сёння, даражэнькія, будаўніцтва — глядзець люба. Растуць адзін за другім дамы і вялікія, і меншыя крыху, і тыя зусім маленькія. Прынялося, ведаеце, у народзе, што некаторыя з іх — якраз найбольш шыкоўныя — акварыумамі называюць. Бо ў іх, як кажуць, заўсёды найбольшыя рыбы водзяцца — дырэктары там усялякія, магістры і іншае начальства.

І вось, пабачце, не схацеў і Гарадок быць горшым. Даўжэйшы ўжо час і ён не абы-які, на ўсю ваколіцу вядомы, акварыум мае. Праўда, нетыповы

7 Люзам (польск. luzem) – навалам, без упакоўкі.

8 Прэзас (польск. prezes) – старшыня.

крыху, бо да людскога выгляду яму вельмі далёка — аднак свой, мясцовы, гарадоцкі. Калі б самому бачыць не давялося, ні за што б не паверыў. А было яно так...

Спатыкаю я калісьці на вуліцы знаёмага свайго, Олька — паляўнічага заўзятага. У адной руцэ вудачкі, банка чарвякоў у другой — топае дахаты.

— Што гэта ты, рыбалкаю заняўся? — пытаю. — Стрэльбу на кусок палкі з лёскай замяніў? І дзе ж ты тут, урэшце, вудзіць будзеш? Бо ў рэчцы Супрасль, што Гарадок працінае, пасля меліярацыі вады ледзьве што па шыю будзе — ды і то тады, калі чалавек на галаве стане.

— Як то дзе? — ён на тое. — Вось хадзі разам. Фільм у тэлебачанні паглянем і пры нагодзе карасёў на вячэру наловім, — яны ў смятане, ведаеш, закуска якая.

І валачэ мяне за руку ў сваю кватэру. Па дарозе толькі ў аднаго гаспадара боты гумовыя на маю долю прыхапілі.

— Бачыш, — тлумачыць мне Олек. — Наш блёк, ну той, што пры гміне, было не было, а ўжо 18 год неатынкаваны стаіць, ну і без ніякага рамонту, вядома. Рамонтна-будаўнічае прадпрыемства камунальнай гаспадаркі № 2 у Беластоку, праўда, абяцала зрабіць рамонт і направіць усе непаладкі да студзеня 1974 года. Толку ад іх, аднак, што кот наплакаў. Двух работнікаў прышлюць, і што ты з іх возьмеш? Толькі што дзеці на бутэльках прызаробяць, ды і я коркаў на паплаўкі заўсёды назбіраю.

А пры кожным дажджы вада ў кватэры цераз столь і цераз вокны ліецца ды ліецца. Жывем, як у сажалцы. Усе мы ўжо настолькі з мокрымі ўмовамі зжыліся, што рана ўстаеш часамі і пачынаеш прыглядацца, ці ў цябе яшчэ перапонкі паміж пальцамі альбо плаўнікі не выраслі. Спачатку клялі вінаватых, скаргі пісалі, а пасля рушылі мазгамі, як тут найлепей выкарыстаць гэтую сітуацыю.

Я вось, бачыш, на той прыклад, карасёў напусціў у спальню. Хацеў яшчэ і ў кухню, у ёй аднак жонка качак загадавала. У калідоры адзін кут на ванну адгарадзілі, бо там дзе вада быць павінна, у кранах значыцца, яе, як на злосць, амаль ніколі не бывае.

Сусед жа, што з боку, ракаў разводзіць. Толькі тыя, ведаеш, больш па норах пад ложкам — рукамі шнырыць даводзіцца, пад шафай — намучышся, пакуль наловіш. А я сабе сядаю ў гамак, які ад сценкі да сценкі развесіў, вудачку закідаю, а пры нагодзе і тэлевізійную праграму аглядаю. Вобраз,

што праўда, не вельмі выразны, дрыжыць, бо тэлевізар у мяне ўладкаваны на складанай лодцы — пантоне і на хвалях яго гойдае крыху — усё ж, аднак, весялей.

Ну, бо частка жыхароў нашага блёку наогул разбагацець вырашыла. Вычыталі, што французы ахвотна жаб на харчы купляюць і вельмі добра плацяць. Ужо, кажуць, вядуцца перагаворы пра стварэнне гарадоцкага кааператыва «Ква-ква-экспарт-жаба» па вуліцы Міхалоўскай № 3, у нашым доме, значыцца.

Так што, сам бачыш, колькі здаровай, грамадскай ініцыятьтвы. І ўсё гэта, дзякуючы дальнабачным рамонтнікам. Няма што, трэба будзе іх хоць на рыбку калі запрасіць, а то чаго добрага, падурэюць яшчэ людзі ад нуды, столькі часу нічога не робячы.

## Дзівы дыстрыбуцыі

Самі, сябры, ведаеце, як гэта добра зайсці, скажам, у мясную краму, разгледзецца навокал, выбраць каўбаскі той ці іншай, шыначкі крышку, ну, і мяса на абед. Хочаш, напрыклад, рабрынку, дык рабрынка. Любіш адбіўную, бяры, калі ласка.

А вось паспрабуйце ў Гарадку! Крамаў, не скажаш, шмат. Па блузачкі, бялізну ці іншыя шматкі з Беластока нават прыязджаюць. Хваляць, што выбар вялікі. А вось з мясам ці вяндлінай бяда. Справа ў тым, што ўлады лічаць Гарадок звычайнай вёскаю. І надзяляюць яго рознай ядой так, як вёску.

Паводле «вышэйшага» разліку, значыцца, кожная сям'я ў Гарадку, безумоўна, трымае паршука, карову, а то і дзве, не гаворачы пра такую дробязь, як куры, качкі ці гусі. Безумоўна, што дзе хто і займаецца гадоўляй. Што аднак маюць рабіць жыхары трох гарадоцкіх блёкаў, з якіх большасць нават гародчыка не мае? Бяда, казалі калісь, усяму навучыць. Не тыя, аднак, часы. Пад даўнішні шырокі ложак смела з дзюжыну курыц упіхнуў бы. Паспрабуй аднак пад тапчан, ці пад версальку[9]. А паршукі? Калі галава сям'і ў ванне купаецца, дык жонка дзверы насцеж адчыняе, каб было дзе ногі выставіць. У такой пасудзіне ледзь парася памесціцца, ды і то без карыта.

9 Версалька (польск. wersalka) – канапа-ложак.

А інакш, гадавалі б. Чаму не? Не глядзелі б на ніякія ўказанні санэпідэмстанцыі. Есці ж трэба. А ў грамадскіх установах? А на іншых прадпрыемствах?

Добра, як хто мае цешчу. Бабулькам, ведама, не спіцца. Сапрэш такую з ложка а чацвёртай гадзіне раніцы, пастаіць яна ў чарзе да дзесятай і можа якраз з кілаграмчык з косткаю ці без косткі дастане. У найгоршым выпадку націранне старэнькай у аптэцы купіцца. Гэта каб бакі, якія ў чарзе намялі, разагрэць. Дык і гэта, калі яшчэ пашанцуе. Бо калі, скажам, з'явяцца прадстаўнікі дзіцячага садка і школы, сяброўкі Тыхава і Дылко, тады зусім бяда. Іх падапечныя, дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту, на недахоп апетыту не наракаюць. Ім толькі падавай. Ведаюць адно, што барабаніць лыжкамі ў талеркі. Інтэнданты і стараюцца, са шкуры вылазяць, што ж, калі пасля іх «закупаў» адзіным куском мяса, які застаецца ў краме, з'яўляецца сам прадавец. Яго і ядуць! А што ён бедны зробіць? Прадасць тое, што дадуць і — замок на дзверы!

Ходзяць чуткі, што мясцовыя ўлады думаюць даць дзе якім прадстаўнікам гандлю, адказным за такую сітуацыю, права на ганаровае жыхарства ў Гарадку. З тым, каб абавязкова пажылі хоць з месяц. Няхай выядаюць кашу, якую самі наварылі.

Адны лекары ў цэнтры здароўя паціраюць рукі. Кажуць, што калі пашанцуе, дык міністэрства можа прызнаць Гарадок курортнай мясцовасцю. З тым, што маглі б тут лячыць толькі хваробліву сытасць. Нават і лозунгі ўжо прыдумалі: «Хочаш стройную кабету — дай ёй гарадоцкую дыету», альбо «На мужыку сала многа — толькі ў Гарадок дарога».

## Жыла-была бабулька

Жыла-была бабулька. І жыла яна ў гмінным цэнтры. А што бабулькі пераважна жывуць доўга, была яна старэнькая-старэнькая.

У казцы, вядома, усякае быць можа, таму, уявіце сабе, не было ў яе нават тэлевізара, а радыё, якое яшчэ пакойны гаспадар купіў, чамусьці сапсавалася. «А цьфу на цябе, чортава скрынка, — раззлавалася старэнькая калісьці вечарам. — Не хоча адазвацца, дык і не трэба. Пайду я лепш да кумы Сляпязычыхі, якая каля чыгункі жыве. Тая, нават хворай будучы,

языком ахвотна варочае. Пакалякаем крыху, вечарок скароцім». Узяла кастур у рукі і патупала памаленьку.

А трэба вам ведаць, што хоць да чыгункі тае не больш як паўтара кіламетра, даўно бабуля кумы не наведвала. То спіну ломіць, то ў каленях скрыпіць, а то проста не хочацца.

Помніла толькі, што дарога вечарам цёмная і што добра па ёй трэба кастуром пастукваць, каб на якую закаханую парачку прыпадкам не нарвацца.

Выйшла наша бабуленька за гмінны цэнтр (калісьці казалі — царства). Палачкаю сабе стук-стук па прывычцы. І раптам павіс кастур у паветры. Аж рот, бедная, разявіла.

Уся дарога аж ззяе. Стройныя, радам цягнуцца ўздоўж яе лямпы. Ды не звычайныя, а ртутныя. На высокіх слупах, з выгнутымі, як у буслоў, шыямі. Як удзень відно.

Ой, як прыгожа! Ой, як цудоўна. Задзерла старэнькая бараду, разглядаючы новыя свяцілы. А тут як не зачэпіць нагою за калдобіну, як не трэсне ілбом у новенькі стоўб! З вачэй іскры пасыпаліся. «А каб вы аслеплі, нягоднікі, — заенчала на ўсю ваколіцу. — А каровам вас пад хвост начапляць, каб бугаёў палохалі. Ой, галоўка ты мая, бедная. Ой, пабягу хутчэй да кумы, прылажу халодным, каб гуза вялікага не было». А дзе там!

Тут яміна, там раўчук, тут ізноў брук крывы паложаны. Паспрабуй паспяшаць. Ледзь дабралася.

Кума рукамі ўспляснула, бабулю ўбачыўшы. Кастур абломаны, на галаве гуз з яйцо велічынёю, на адну нагу кульгае.

Селі яны абедзве на ляжайку ды галосяць: «А хто ж гэта бачыў? А хто ж гэта чуў?»

Ад самога Беластока 38 км шашы як стол роўнай, а дурных паўтара кіламетра паправіць няма каму. Дагэтуль хоць цёмна было, людзям у вочы не кідалася. А цяпер узялі яшчэ і асвяцілі гэтую дарогу — усёй гміне на сорам.

На гэтым казку і канчаць можна было б. Бо і я там быў, у аўтамабілі рысору зламаў. Упраўленне дарог да трэцяга калена праклінаў.

Хоць кажа бабка, што ёсць і між Гарадком ды станцыяй Валілы ўсё ж два месцы гладкія. Гэта тыя, якія яна, з разгону падаючы, задам выраўнавала.

А можа адказныя ўлады разлічваюць на тое, што за нейкі час жыхары Гарадка такім жа спосабам выраўнуюць і рэшту?!

## Была сабе дарога

Гарадоцкія зубныя лекары заўсёды хвалілі кусок дарогі ад касцёла да гміны. Ямы і калдобіны, дзіркі і выбоіны. Адна радасць. Едзе, скажам, аўтобус, пасажырамі набіты, раз, другі заенчаць рысоры і глянь — ужо той і іншы зубамі неспадзявана ляснуў. У аднаго пломба выляціць, у іншага адкрышыцца паўзуба, а то і цэлы. У лекара, вядома, чарга, работа ёсць. А цяпер што? Па загадзе гміннага ўпраўлення пералажылі нанава гэтую дарогу. Роўненькай, як стол, стала. 22 ліпеня[10] па ёй рушылі першыя аўтобусы, машыны і фурманкі. Бяда будзе спецыялістам ад клешчаў і бормашыны. Ну, што ж — усім ніколі не дагодзіш.

## Перцам іх і бобам...

Ад мая пачаўшы, ва ўсіх газетах толькі пра падрыхтоўку да зімы і пішуць. Што ні артыкул, то добрыя навіны. Столькі і столькі, ведаеце, нарыхтавана пяску, цэлыя горы солі. З газетных рубрык плугі там розныя і іншыя машыны для ачысткі дарог цэлымі статкамі шчаціняцца. Ды і не ламачча там якое заіржавелае, а ўсё новенькае, падрыхтаванае, закансерваванае і падмазанае. Пры гэтым яшчэ цэлая армія працаўнікоў. Адказныя за цэласць кіраўнікі гудуць у баявыя трубы. Фронт гатоў! Дарожныя палкі і дывізіі на пазіцыях. І што нам зіма?!

Такі здаровы, разумееце, аптымізм, што аж ездзіць хочацца. Гэта — пакуль першы белы пух не пасыпаў з неба.

Не мне, аднак, наракаць. Мне яшчэ пашанцавала.

Пашанцавала, бо выбраўся я пасля першай снежнай ночы шашою № 12 у напрамку Беласток — Баброўнікі. А шаша тая адной з лепшых лічыцца і адной з першых яе расчышчаюць. Страх падумаць, што было б, калі б я ў які іншы бок сунуўся.

---

10 22 ліпеня – у Польскай Народнай Рэспубліцы ў гэты дзень адзначалася нацыянальнае свята адраджэння Польшчы на памятку падпісання 22 ліпеня 1944 г. Маніфеста Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення і адраджэння Польшчы пасля другой сусветнай вайны. У гэты дзень улады планавалі важныя падзеі, напрыклад, здача ў карыстанне важных аб’ектаў, адрамантаваных дарог, запуск новых фабрык, цэхаў і т.п.

Спачатку нават зусім нічога сабе было. Каляіну перада мною ўжо нейкі грузавік, душа пакутная, паспеў працерці, і я сабе спакойненька ягоным следам вужакаю кручуся. Рысак мой бляшаны, праўду кажучы, замест барматаць паціхеньку, бурчыць і нават рыкае злосна. Часам зачыхае, часам кашляне. Аднак, нягледзячы на ўсё, хоць трашчыць, хоць пішчыць, а ўсё ж едзе. Толькі аж каля саміх Пяшчанікаў застраў, небарака. Застраў — і далей ні туды, ні сюды не дасць рады. Хоць ты яго лай, хоць штурхай нагою. Шчасцем, следам за мною «Сірэнка» пад'ехала і таксама засела.

Убачыўшы, што нам з той самай талеркі кісель хлябаць прыйдзецца, мы ўжо праз пару хвілін наладзілі з шафёрамі «Сірэнкі» сардэчныя адносіны і па-сяброўску адною лапатаю пачалі па чарзе снег разгартаць. Падзел працы ў нас сам выявіўся. Адзін з усяго пляча ў заспу ўгрызаецца, дух ледзьве пераводзіць, а другі тым часам поўнымі лёгкімі дыхае і дзеля лепшай іх вентыляцыі ўпраўленне дарог на чым свет кляне. Ну, а пасля наадварот, вядома.

Бачым, прэ «Варшава». Напэўна, затрымаецца, паможа. А куды там! Раптам захрыпела, зарыпела, уздыхнула цяжка разоў пару і побач з намі загразла. Вылез шафёр. Піхнуўшы брушкам другія дзверцы, выбраўся нейкі важны дзядзька, дырэктар, пэўна. Яшчэ метр, другі і праняслíся б, наракае. А цяпер, маеш табе...

— Пэўна, пэўна, — кажу яму. — Калі б у вашае калымагі яшчэ крылы былі, дык і па-над соснамі можна было б. А так, сядзіце, калі селі. Такім разумным, якія толькі сябе глядзяць, другім не памагаюць, так і трэба.

А ззаду за намі ўжо весела робіцца. Праезду няма для нікога. У доўгі рад уставіліся самазвалы, грузавікі, цыстэрны з ЦПНу[11] і розная іншая дробязь. Назбягалася хлопцаў вясёлых і дружных.

— Г-э-э-й, плячом, міленькія!

— Г-э-э-й, разам, родненькія!

Амаль у паветры перанеслі маю машыну і ўжо наступныя перапіхаюць.

Дзіва-дзіўнае, але і «дырэктар» з застраўшай «Варшавы» не адстае. Увесь трыбушок у снезе, лоб успацеў, а памагае. Нядрэнны, пэўна, чалавек. Зразумеў навуку.

11 ЦПН (польск. CPN – Centrala Produktów Naftowych) – дзяржаўнае прадпрыемства гандлю нафтапрадуктамі.

Ну і я з усіх сіл стараюся. Вушы пры нагодзе развесіў, слухаю, што паміж сабою прафесіяналы, людзі свядомыя, не адну дарогу бачыўшыя, гавораць. І што падумаеце? Разумна, вельмі разумна хлопцы кажуць.

Ну, па якое ліха гэтага пяску, солі нарыхтоўваць столькі? Шмат лепей было б прызапасіць перцу, скажам, адпаведную колькасць, ну і бобу ў прапорцыі... Навошта? А зусім проста. Усыпалі б тады, ведаеце, калі трэба, перцу тым, што ўсё лета да расчысткі снегу рыхтаваліся, і здорава б заадно задалі бобу тым, што гэтай справы дапільнаваць не ўмелі. Было б яно параўнаўльна танна, ды і эфект, на агульную думку, не быў бы благі.

## Ці вы былі ў Скупавічах?

Няблага было б таму з нас, любенькія, хто ў жыцці толькі булак і салодкага шукае, успамянуць і прадзедаў жорсткі кавалак хлеба. Нялёгка ён даваўся, ды і не заўсёды быў. Вось пры маладосці дзеда Няўдалага, скажам, не тыя зусім былі Скупавічы, што сёння. Паводле апавяданняў бабкі, усе хаты былі адно саломаю крыты. Праўда, дзякуючы таму, што цераз вёску пралягаў гандлёвы шлях з Гродна ў Беласток, былі ў вёсцы невялікая царкоўка ды царкоўна-прыхадская школка з чатырма аддзеламі.

Але з дарослых чытаць-пісаць умелі бацюшка ды псаломшчык, ну, і крыху ўмеў чытаць бязногі Сымон, які ў той час вярнуўся з салдатаў, ды толькі друкаванае.

Дзеда Няўдалага ў вёсцы не любілі. Жыў ён як не людзі. Людзям вочы мазоліў. Ды і дзівацтвы ягоныя яму карысці ніякай не прыносілі.

А пра Скупавічы ў тую пару па ўсёй губерні пагаворкі хадзілі. Едзе, скажам, селянін са Скупавіч на кірмаш, а каля воза жонка з дзецьмі бягуць. Пытаюцца ў дзеда, чаму сям'і на воз не бярэ.

— А што, я здурэў, кабылу мучыць? Нічога, забягуць.

— Дык жа і кабылу не шкадуеш, пугою лупіш?

— А пуга не мая, у суседа пазычыў.

Або вяртаецца гэты ж селянін з поля дахаты. Жонцы крычыць: «Есці давай!». Баба ж, занятая нечым, нічога згатаваць не паспела. Адпярэзвае гаспадар дзягу ды кажа распранацца аслупянелай бабе.

— Чаго ж гэта?!

— Нічога, нічога. Скідай хутка ўсе блузкі, спадніцы...

— Ты што, здурэў? — галосіць жонка. — Дзеці ж у хаце...

— Не буду ж я цябе, дурную, па адзенні лупцаваць! Яшчэ што змарнуецца, парвецца! Кожная анучка ж грошы каштуе!

Нягледзячы на ўсе насмешкі, скупавічане пастаянна багацелі. Тым больш, што на гандлёвым шляху заўсёды тое-сёе прадаць можна было, падзарабіць крыху.

Дзед тым часам, хоць працаваў не менш за іншых, галышом заставаўся. Праўда, сястрычка яго малодшая пасля пачатковай школы ў гімназію паступіла і яе закончыла, дзякуючы дзедавым грошам. Ды што за карысць дзеду? Млынарова дачка, якая разам з дзедавай сястрою вучылася, выйшла замуж за ветэрынара, і паняю стала. Маёнтачак недзе пад Гроднам купілі. А Неўдалянка, як Неўдалянка. Яшчэ калі ў гімназіі была, чуткі хадзілі, што палітыкамі там нейкімі займалася. Пасля пайшла за нейкага абадранца-настаўніка. Пару разоў брата ў Скупавічах прыязджала наведаць. Ды і падумаць толькі — вясковаю моваю з людзьмі гаварыла, па-просту! І закончыўшы гімназію! Ну не! Так то паняю не будзеш! Ніхто не здзівіўся, калі іх неўзабаве арыштавалі разам з мужам. Дзеда таксама тады папацёгалі на жандармерыю дзеля нейкіх папераў, што знайшлі ў хаце.

Гасцінны быў дзед. Хто толькі заедзе, таго частуе, чым хата багата. Скупавічане праезджых дарам не кармілі. Гэта яны, кажуць, вынайшлі спосаб, як хлеб гарачым нажом шмараваць: разагрэты над агнём нож тыкалі ў шмалец, хутка вымалі і пацiралі ім лусту хлеба. І хлеб быў не посны, і ашчаднасць тлушчу немалая.

І калі дзед яшчэ жаніўся з беззямельнай дачкою парабка, не ўзяўшы пасагу, усе пачалі яго цурацца. Кожнаму дурню казалі, што, мабыць, у Няўдалага навукі браў.

Зраўняла ўсіх першая вайна. Шмат маладых выгналі на фронт, таксама і майго бацьку. Мала няспаленых хат засталося ў Скупавічах.

Няўдалы да смерці застаўся Няўдалым. Людзі паддаліся. Кінулі ўсё. Падаліся ў бежанства. Усё рабілі, каб хоць перажыць.

Дзед Няўдалы пырнуў віламі нямецкага жаўнера, які цягнуў з хлява ягоную апошнюю карову.

Расстралялі яго за вёскаю на ўзгорку. Сёння ўжо нават крыжа няма ў тым месцы.

Бабуля толькі, унучанят пабраўшы на рукі, у той бок зойдзе. Бо дзецям — калі? Паканчалі ўніверсітэты, ганяюцца ўласнымі машынамі. Няўцям ім, адукаваным, што на шырокі шлях па камяністай сцежцы непісьменнага дзеда выйшлі.

## Сімпатычная вёска Случанка

У Случанку ў кожную пару года напэўна даедзеце. А яно і варта і не цяжка. Трэба толькі павярнуць з шашы на тракт на «Каралёўшчыну» (Каралёвае Стойла), а там за пераездам праз вузкакалейку накіравацца налева. Зрэшты, дарога сама пакажа. Яна вядзе проста ў Случанку. Ды якая гэта дарога! Беласток пазайздросціў бы! Скромна выглядае пры ёй салідны каралеўскі тракт.

— Сабе ж рабілі! — здзіўлена адказваюць бацька ды сын Тарасевічы на маё пытанне. Случанка ў наваколлі вядомая. Вядомая, як дружная вёска — што яны там не рабілі, і заўсёды разам! Нават на забаву ў Гарадок калі ідуць, дык адразу разам паўвёскі.

Самі жыхары вёскі дружна ўключаюцца ў конкурс «Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная». Пакуль не атрымалі вялікай узнагароды, але рук не складаюць і не зложаць. Хопіць толькі да іх заехаць, глянуць на роўныя плоцікі, стройныя хаты, на ўвесь вясковы парадак, і адразу ведаеш, што свайго апошняга слова Случанка яшчэ не сказала.

Го-го! Яны ў Случанцы не раз яшчэ пакажуць сябе. Не дарма — Случанка вёска дружная.

## Меляшкоўскі каравай

Аматарская пастаноўка сапраўднага вясковага вяселля расславіла ў апошні час вёску Меляшкі ва ўсім беларускім і не толькі беларускім асяроддзі. Не адзін глядач першы раз у жыцці скаштаваў па-дзявочаму чыстае, народнае цеста — каравай.

Мала хто аднак ведае пра тое, як і штодзень бойкае меляшкоўскае месіва буйна булькае, падрастае і лепіцца па-новаму, дзякуючы жвавым рукам мясцовых кабетак: «Расці, расці каравай, цыцаты, бо ляпілі цябе каравайнічкі цыцаты».

Паверце мне, не пустыя гэта словы. Мала ў якой вёсцы так добра гадуюцца дзеці, такой струёю льецца ў іх прагныя роцікі мацярынскае малако. Шыкуцяву можна было б ставіць за прыклад усім гарадскім мацяркам. Новы доказ — адмыслова адгадаваныя хлопцы-блізнюкі, што весела брыкаюць па панадворку. Меркай энергіі гэтых юнакоў, якім некалькі гадоў, могуць служыць шматлікія гузы ды сінякі, прыдбаныя падчас адкрыўчых вандровак і бітваў, ведзеных за свабоду малога чалавека.

Нездарма штогод у меляшкоўскай школе арганізуецца дзяцінец[12], які ў працавітую летнюю пару здымае з жаночых плеч найклапатлівейшы цяжар. Вялікая ў гэтым заслуга дырэктара школы сяброўкі Літвінавай. Ды не толькі ў гэтым яе заслуга. Гэтая надзвычай энергічная жанчына — не толькі настаўнік. Яна і дарадчык людзям, і паданне[13] напіша каму трэба, і аматарскім гуртком пакіруе. Яна не толькі жыве ў вёсцы, але жыве яе жыццём.

А новае ўсё лепіцца. Плешчуцца ў мясцовых сажалках карпы, паяўляюцца кожны год новыя гектары плантацый трускалак, хтосьці і сярэбраных мільёнаў завёў (пчол – рэд.), расце безупынна пагалоўе хатняй жывёлы. Дзве сям'і ўжо абзавяліся навенькімі «Масквічамі».

Пэўна, не ўсё яшчэ і тут добра. Буйнае меляшкоўскае цеста, напэўна не без закальцу бывае. Былі ў вёсцы чалавечыя драмы, вышчарбіла яе некалькі пажараў. Адным словам, розна бывала. Навошта аднак успамінаць дрэннае, калі на двары вясна і меляшкоўцы дружна думаюць пра новы, лепшы ўраджай.

## Былі б свінні — парасяты будуць

Нельга сказаць, каб Янка Чэшаль з вёскі Меляшкі быў у школьным узросце выдатным вучнем. Хлапец тэмпераментны, шустры. Настаўнікам няраз прыходзілася даводзіць яго да парадку. А вось пасля заканчэння школы... Узяўся Янка за гаспадарку. Разам з маткай і сястрычкай Алай. Мужнеў. Пашыраліся не толькі дзіцячыя дагэтуль грудзі і плечы. Пашыраўся і кругазор маладога гаспадара. Хутка ён зразумеў, што ў сучасных умовах не толькі гаспадарыць па-новаму, а па-новаму і думаць трэба. Заняўся

12 Дзяцінец (польск. dzieciniec) – часовы дзіцячы садок.

13 Паданне (польск. podanie) – прашэнне, заява.

гадоўляй свінаматкі і парасят. Дакупіў зямлі і сенакосу. Уступіў у ЗСЛ[14]. Ад імя гэтай арганізацыі нашага Янку падчас апошніх выбараў выбралі ў гмінную раду ў Гарадку.

А што далей? Марыць сёння Янка пра пабудову вялікай, сучаснай у поўным таго слова значэнні хлеўні. Хоча таксама, як член гміннай рады, дапамагаць сваім аднасяльчанам і наогул жыхарам гміны ва ўсіх шматлікіх жыццёвых сялянскіх справах. Хто іх лепш за яго ведае? За яго, які вырас і гадаваўся ў вясковым асяроддзі.

Калі Янка Чэшаль у элегантным касцюме, белай кашулі пад гальштукам займаў месца сярод іншых членаў гміннай рады, адразу было відаць, што гэты ведае, навошта сюды трапіў. Таму жадаем яму поспехаў у далейшай працы. Ён малады. Жыццё перад ім і ў яго ўласных руках. Мы ва ўсякім выпадку яму верым.

## Карміся мякінай, а хвост трымай кручком!

Пачне часамі апавядаць адна з другою бабка, і дзіву даешся. Чаго гэта толькі не даводзілася ёй чуць ды бачыць. Былі і знахаркі, і вядуны вядомыя. Кастаправы, умельцы, якіх пашукаць. Здараліся цуды цудоўныя. Быў чалавекам чалавек — звер зверам. Не без таго было, каб часам жывіна хатняя і тая людскім голасам не загаварыла. І вось падумаць толькі сёння — ну хоць я трэсні, калі гэта не так. У хлеўчуку, у Янкі, у Меляшках на мове зразумелай зарохкала свіння.

— Вы што, — паважна лыч узняла ўгору, звяртаючыся, ясна, да парасят.

— Здурэлі, мусіць, бачыў хто, маслёнкі раптам захацелі. Ад цыцкі адраслі, цяпер вось папасцеце. Ніхто вас не змушаў — у падсвінкі самі падаліся. Хто гэта бачыў — раптам летні туч. Дзяды і прадзеды зімою сала наганялі. А вы адразу — дай! А гаспадар ён што — красуля? Дамову падпісаў, дык справе ўсёй канец. За вымя не пацягнеш — што мае, то дае. Добра, што зелле есць, мяшанкі што хапае. А пра сыроватку, маслёнку не бядуйце. Наадварот, хваліць вам трэба трактарыста за тое, што дарма яе вазіць не хоча. Яны ж вам на бяду.

14 ЗСЛ (польск. ZSL – Zjednoczone Stronnictwo Ludowe) – назва сялянскай палітычнай партыі (1949-1989).

Усё еш, сыцей, еш, ды папраўляйся. Хлябчы сыроватку, маслёнкай запівай. Гэтак нядоўга дагуляцца на скуп пад нож і на каўбасы. Сказалі б лепей дзякуй сябру Шыкуцю, што лёс ваш парасячы ён па-братэрску проста зразумеў. Цяпер вам жыць і жыць, канца не дачакаеш. Вадой вас гаспадар не адгадуе. Што, страты будзе мець? Ну і няхай. Ён вас на сала, смерці вам хацеў, ён з чалавекам справы не ўмеў уладзіць — няхай сам і шкадуе.

Старэйшых папытайце, кожны скажа, што нам, свіному роду, гэта толькі на карысць. Бо гаспадар наш, Янка, летні туч[15] цяпер дзесятаму закажа. За гэта ў вёсцы ўжо не возьмецца ніхто. Бо ж што з тае дамовы? Ну хоць яе ў хляве ўголас дэкламуй. Не, не. Як гэты прагарыць, то больш ніхто рызыкаваць не будзе.

Вось, кажуць, чалавек, ён быццам не свіння. Як самі бачыце — далёка не заўсёды. Наш дабрачынца, гляньце на той прыклад, — хоць чалавек, а чым нам не радня? Няхай жыве, заўсёды няхай поўнае мае карыта, працуе няхай менш, затое няхай корміцца дасыта —на радасць нам усім. Я прапаную ўсім супольна ўзнесці яму хвалу.

І дваццаць пяць лычоў галодных, парасячых, на ўвесь падворак згодна гаркнула — хру! хру!

Ну, так. Не верыце. А я вось не махлюю. Вы лепей Янку папытайце ў Меляшках. Гміна звярнулася ў міхалоўскую філію Беластоцкага малочнага каапhousing ратыва. Дайце сыроваткі, маслёнкі, калі ласка. А тыя — чаму не, згаджаюцца ахвотна. Тут каб хацеў, усёй сыроваткі ў рэчку не ўвальеш. Можна і людзям даць. І абяцалі маслёнкі 30 літраў і 300 літраў сыроваткі штодня. А колькі прывезлі? Ад 1 да 16 ліпеня маслёнку прывезлі адзін раз, а сыроватку пяць разоў.

І вось вазьмі і паспрабуй за летні туч узяцца. І свінкі не растуць. І страты будуць. Хоць што свінням, яны не людзі, ну і зусім не ім за гэта трэба было б саромецца.

15 Туч (польск. tucz) – адкорм.

## Тата з мамай дом будуюць – дзеці сабе хатку

У гэясаўскіх магазінах ад вясны будаўнічыя матэрыялы з рук вырываюць. Той стадолу, той абору, а дзе і хату новую ставіць.

І ўсім трэба і цэглы, і пустакоў, і цэменту. А з будоваю вядома як. Хочацца, каб добра і прыгожа, і хочацца заразам, каб чым танней. Тут людзі ўласных плячэй не шкадуюць. Цэлая сям'я пераважна занята на будове. Кожны стараецца чым можа і як можа памагчы. Паміж горбамі складзенага на пляцы матэрыялу круцяцца маленькія дзеці. Бачачы працу дык і яны памагаць хочуць. І вось якраз за такімі малымі памагатымі патрэбны добры догляд. Бяду клікаць не трэба, яна і сама, ліха яе, прыйдзе.

Гаспадары С. з вёскі: Бялевічы з усіх сіл стараліся «падагнаць» будову, перад зімою пакрыць новую хату. Малая Аня (чатыры з паловай гады) з трохгодовым Тамашом не адставалі. Разам з суседскімі дзецьмі вырашылі таксама заняцца «паважнай справай».

Цэмент ёсць. Якраз адзін мяшок разарваны. Я жменю сыпну, ты жменьку сыпнеш — ну чым мы не будаўнікі? Маеш табе — забракла. Глянь, яшчэ адна цэлая горба новенькіх мяшкоў. Ці доўга ў ніжнім прабіць дзірку, каб пасыпаўся шэры парашок? Ужо можна гуляць далей.

Але парушылася раўнавага горкі. Пасыпаліся мяшкі. На пляцы пачулі дзіцячы крык. Прыбегла, запыхаўшыся, маці. Хтосьці пабег клікаць хуткую дапамогу.

Сёння маленькая Аня С. мае ножку ў гіпсе. Гіпс размаляваны ў каляровыя кветкі. Ён такі беленькі і на ім цікава маляваць. Яна ўжо забылася пра слёзы, пра боль, пра бальніцу. Абышлося пераломам касцей. Якраз абышлося. Што значыць кволая дзіцячая фігурка ў параўнанні з пяцідзесяцікілаграмовым мехам? Магло быць шмат горш.

Аня ўжо забылася — дзіцё. Кветачкі сёння на гіпсе малюе. Маці яе далей перажывае. Невядома яшчэ, як зрасцецца тая ножка. А вось вам, усім дарослым дзядзям і цёцям, нельга ніколі забывацца пра тое, што па пляцы будовы дзецям не месца, хоць там вельмі цікава і ёсць чым пагуляць.

Няхай гэты выпадак, які здарыўся ў верасні 1973 г. у вёсцы Бялевічы ў гміне Гарадок, будзе вам перасцярогай!

## Ці яе за рогі, ці за хвост...

Здаецца, ці цяжка прыгнаць карову з поля? Сцёбнуў хварасцінкай і сама пабяжыць. Малое дзіця справіцца.

А вось наша «Варшава» з ваяводскай хуткай дапамогі прэ якраз да такога пастушка. Так, так. Не едзе, а ляціць праз лес у вёску Татараўцы.

Падскокваем на ямінах. Да паловы кола ўнураем у лужы.

«Хлапец сур’ёзна скалечыў руку!» Такі быў заклік.

І трэба было 13-гадоваму Ёзіку Кяртовічу абкруціць ланцуг кругом далоні. «А паслухмяны ён у нас, а добры, а працавіты, — плача маці. — Каб хоць карова свая. А то чужую ўзяўся прывесці. І на табе!»

Рванула, праклятая, за ланцуг, пакалечыла пальцы.

Ёзік сядзіць спакойна. Нават жартаваць спрабуе. Левая рука вышэй запясця туга перацягнута бінтам, каб кроў не хлястала. Адзін член другога пальца левай далоні зусім адарваны. Трэці палец у лахмоццях. Капае кроў. Плакала маці, енчала сястра. Ёзік не піснуў. Паказваў дарогу; каб хутчэй выбрацца з лесу на шашу. Матор выў. На шашы можна прыціснуць газу.

У добрыя рукі папаў Ёзік. Хірургі дактары Адамчык і Руткоўскі моцна напрацаваліся над яго далонню. Ім ён павінен дзякаваць, калі яна будзе поўнасцю спраўнай.

Але назаўсёды застанецца на яго руцэ памятка таго, як ён, хлапцом будучы, вось так сабе звычайна гнаў карову з поля. У ліпнёвую нядзельку пад вечар.

## На сігнале

Нядзелька на Пакрову. На вёсках, вядома, свята. З гарадскіх таксама шмат хто святкуе. Карэткі хуткай дапамогі ўставіліся ў рад. Чакаюць выклікаў. Час ад часу каторая выслізнецца паціхеньку і гіне за паваротам. Іншыя вяртаюцца — сонна заязджаюць на стаянку і шукаюць свабоднага месца. Спакойныя выклікі — тэмпература, болі тут, болі там.

Штодзённыя звычайныя справы. Чарговы выклік вырывае з соннага настрою. Хутчэй! Хутчэй! Карэтку з лекарам-педыятрам. У Гарадку апарылася дзіця. Санітар хапае стэрыльную прасціну. Лекар з вадзіцелем ужо ў машыне. Рушылі. Сінім святлом заморгаў жолудзь-сігналізатар. З дарогі!

З дарогі! Карэтка спяшае. Перад скрыжаваннем уключаем сірэну. Усім, усім, усім — дайце дарогу! Карэтка імчыцца за горад. Гудзе матор. Педаль газу ўціснута амаль да адказу. Усе маўчаць.

Дзіцяці 17 месяцаў. Накрыты стол, напалоханыя госці, суседзі, выпадковыя гледачы. Бацька анямеў ад жаху. Маці енчыць. Адна адзіная шклянка гарачай кавы, якую малая Даротка сцягнула са стала, прычынай усяму. На апараных грудках амаль няма скуры. Апараны і тварык. Для дзіцяці гэта нясцерпны боль: з ім трэба змагацца ў першую чаргу.

Адразу — абязбольваючае лякарства, закруціць маленькае дрыготкае цельца ў стэрыльную прасціну і далей у дарогу. Толькі ў бальніцу. Толькі ў бальніцу. Выпадак цяжкі.

Сірэна ўжо не вые, а раве дзікім зверам.

Шмат турбот мелі хірургі з Дароткаю. Шмат цяжкіх хвілін перажылі бацькі. 18 працэнтаў знішчэння скуры, болевы шок, сур’ёзнае абезваднненне арганізму. Толькі спецыялісты ведаюць, чым гэта пагражае кволаму дзіцячаму арганізму. Падумаць толькі — адна шклянка кавы.

Сёння ўжо няма небяспекі. На тварыку, бадай, нават рубцоў не застанецца. Лячэнне аднак працягваецца. На грудках трэба рабіць перасадку скуры. Апёк трэцяй ступені — гэта не жарты. Гэта некроз падскурных тканак — глыбокія раны. І ўсё адна адзіная шклянка кавы...

Даражэнькія таты і мамы, памятайце! Малое, толькі пачаўшае хадзіць дзіця, да стала не дастане. Яно проста хапаецца за край абруса і разам з ім цягне са стала ўсё, што на ім знаходзіцца. Седзячы за сталом, на каленях таты ці мамы, яно таксама, выкарыстоўваючы іх няўвагу, мае магчымасць дацягнуцца ручкамі куды не трэба. Прыміце гэта пад увагу. Беражыце дзяцей!

Яны пазнаюць свет. Ім, вядома, хочацца да ўсяго новага дакрануцца. Усё памацаць. І толькі ад вас, дарослых, залежыць, ці іхнія ручаняткі не будуць мець доступу да небяспечных прадметаў.

## Белая нядзеля

Дзіўныя госці з’явіліся ў нядзелю, 3 лютага, у вёсцы Альхоўка Гайнаўскага павета. Прыехалі на аўтамабілі. Затрымаліся ў школе. І вось, у школу пачалі сыходзіцца жыхары вёскі. Ішлі паважаныя гаспадары і маладыя

хлопцы. Абмінаючы асцярожна лужыны, дабіраліся старыя бабулькі. Жанчыны вялі за рукі чамусьці ўпіраючыхся дзяцей.

«Што здарылася? Хто гэта прыехаў? Мо кіно?» Не відаць было аднак ніякай апаратуры. А мо інспекцыя? Навошта б тады людзі збіраліся? Давайце лепш станем разам з іншымі ў чаргу, якая выстраілася ля дзвярэй аднаго з класаў. Паслухаем, што людзі гавораць, а заадно і пастараемся падглядзець, што там усярэдзіне творыцца. Пасля некалькіх хвілін усё стала ясна. У вёску прыехалі «дахтары». Гэта БГКТ[16] супольна са студэнтамі апошніх курсаў Медыцынскай акадэміі арганізавала вельмі патрэбную акцыю — «белую нядзелю». Таварыства занялося арганізацыяй выезду. Дало аўтамабіль, шафёра. ЗСЛ памагло раздабыць рэцэпты. Сярод студэнтаў апынуліся людзі гатовыя добраахвотна выехаць у вёску, каб мець магчымасць прымяніць свае веды на карысць людзям. Вось і паехалі. 60 чалавек — мужчын, жанчын і дзяцей — праверылі яны ў вёсцы Альхоўка. Да позняга вечара прымалі яны хворых у вёсцы Масева. Давалі парады. Прыпісвалі найбольш патрэбпыя лякарствы.

«Колькі трэба плаціпь за параду?» — пытаецца дзядзька. «А мо вам, дохтар, хоць пару яек прынесці?» — кажа задаволеная рэцэптам цётка. «Нічога нам не трэба, шчыра дзякуем,— смяюцца. — Мы ж да вас проста так, па-сяброўску прыехалі».

Не так лёгка было аднак выкруціцца. У Альхоўцы пачаставалі абедам. У Масеве запрасілі на вячэру. Не вядома калі і дзень скончыўся. Удалася «белая нядзеля». Рады былі жыхары вёсак. Цешыліся і ўдзельнікі выезду.

## Супрацоўніцтва

Усё больш ажыўленым становіцца сяброўскае супрацоўніцтва БГКТ са студэнтамі Беластоцкай медыцынскай акадэміі. Студэнты актыўна ўключаюцца ў працу нашага таварыства, чытаюць у вясковых лектарскіх пунктах лекцыі на медыцынскія тэмы, арганізуюць т.зв. «белыя нядзелі». Пераканаліся ў гэтым у нядзелю 16 сакавіка1964 г. жыхары вёскі Трасцянка Гайнаўскага павета, якія прымалі чарговую студэнцкую медыцынскую экспедыцыю. Карысталіся лекарскаю парадаю старыя і маладыя. Карысталіся

16 БГКТ – Беларускае грамадска-культурнае таварыства.

і тыя, каму проста хацелася на ўсякі выпадак праверыцца. Больш ста жыхароў Трасцянкі атрымала рэцэпты на патрэбныя лякарствы. Шмат карыснага мелі ўдзельнікі выезду. Спатрэбіцца ім веданне сялянскага асяроддзя, у якім шмат каму з іх прыйдзецца ў будучыні працаваць.

## Не заглядай на чужы панадворак — вока не скосіш

А на гэты якраз панадворак, сябры, заглянуць варта. Варта дзеля таго, каб сыны і дачушкі нашы яснымі, здаровымі вачанятамі ў адкрыты перад імі свет углядацца маглі.

Няма такой школы, у якой усе вучні былі б здаровымі. Таго трэба вызваліць з гімнастыкі, іншага пасадзіць на першай лаўцы, а гэты мусіць рэгулярна з'яўляцца на лекарскі агляд. У настаўніцкім пакоі пачатковай школы ў вёсцы Падазяраны разглядаецца паступова клас за класам.

І вось дзіва. У сёмым і восьмым класах шмат дзяцей вымушана насіць акуляры. А ў малодшых класах чамусьці зрок ва ўсіх адмысловы. Пытанне — чаму? Лекар не першы раз у падазяранскай школе. Дзевяты год ён ужо сочыць за здароўем яе вучняў. Наглядае і ўмовы, у якіх ім даводзіцца грызці кніжную мудрасць.

Калісьці, гэта шмат гадоў таму назад, калі сённяшнія старшакласнікі толькі пачыналі алфавіт вывучаць, ён з жахам сцвердзіў, што большасць малых падазяранцаў вымагае кансультацыі ды нават і помачы лекара-акуліста. Сцвердзіць аднак мала. Мусіць жа быць прычына. У іншых жа школах не тое.

Звонку школьны будынак, здаецца, зусім нічога сабе. Пляц наўкруга, вялікі, цудоўны. Лес пад бокам. Ну, толькі што вокны малаватыя. У большасці вясковых школ аднак такія. У чым тут справа?

Янка Гайдучэня, малады яшчэ, энергічны чалавек. Падумалі разам. Звярнулі ўвагу на колер сценак. Сцены і нават столь у класах чамусьці цёмныя, брудна-карычневага колеру. Драбніца, здаецца, а класы выглядаюць панурымі, змрочнымі.

Пры рамонце мазнулі светленькім дзе толькі можна было. Паяснела, здаецца, школа. Тым больш, што па ўласнай ужо ініцыятыве дырэктар узмоцніў сістэму электрычнага асвятлення.

А гады беглі. Стайкамі вылятАлі ў свет выпускнікі восьмых класаў, напалоханымі зайчаняткамі прыбягалі новыя першакласнікі. Штогод вялася праверка зроку. Настаўнікі пільнавалі, каб, каму неабходна, без акуляраў не яўляўся.

Паняцця не маеце, як цяжка бывае ўпільнаваць малых чалавечкаў.

З хаты, вядома, са шкламі на носе кожны выходзіць. А вось толькі мінуў суседнюю хату, ужо запіхнуў паміж кніжкамі дзесьці.

А іншы возьме нават і аб камень гэтай урэднай штукай трэсне — каб толькі яе пазбыцца. Ну, бо як? Акулярнікам, прафесарам аднакласнікі абзывацца будуць. Усім, усім, асабліва дзяўчатам чамусьці здаецца, што нос, нават брудны, без акуляраў прыгажэй выглядае. Тлумач ім, пераконвай. Рабі насценгазету са здымкамі вядомых актрыс, акцёраў і песняроў, выбіраючы, вядома, тых, якія на свет цераз ашклёныя рамкі паглядаюць. Угаварвай бацькоў, каб дзеля дабра справы не шкадавалі грошай на модныя апраўкі. І ўсё гэта дзень за днём, год за годам.

Год за годам аднак таксама пасля кантролю і па загадзе акуліста са спіска дзяцей з аслабленым зрокам скрэслівалі па два-тры прозвішчы. Новыя ў спісках амаль не паяўляліся.

Куранят, як кажуць, восенню лічаць. Сёмы і восьмы класы — гэта якраз тыя, якія яшчэ вучыліся ў цёмных, змрочных памяшканнях.

У іншых вачаняты ўсіх колераў і адценняў бліскаюць так сама ясна і весела, як светлыя сцены сённяшняй школы.

## Дачакаліся і Падазераны

Паверце, у Падазераны ўжо ходзіць аўтобус. Такога факту найстарэйшыя не памятаюць.

Да вайны не навіной было, што цётка з двума кошыкамі ягад ці іншай спажывы перла пехатою на рынак у Беласток.

А ў Гарадок — нейкіх там 12 кіламетраў — дык гэта, здаецца, было рукой падаць. А сёння на табе! Аўтобус!

Скарысталі і Вейкі. Цераз іхнюю вёску дарога бяжыць. Сядай, калі ласка, і едзь, як пан — ці ў гміну, ці ў краму, ці з дзіцём да лекара. Не абышлося, праўда, без працы. Па абы-якой дарозе аўтобус не пойдзе. Прыйшлося

грамадскім чынам выпраўляць жвіровую стужку. З ахвотаю ўзяліся людзі з Веек і Падазеран за працу. Кожная падсыпаная фура жвіру набліжала людзей да свету, адчыняла вароты ў будучыню. І вось аўтобус ходзіць! Здзейсніліся мары. І нічога, што часам недзе застрагне, часам сапсуецца па дарозе, ці адменяць курс. З часам прывыкне. Прывыкне да рэгулярных курсаў, да пасажыраў з клункамі, да беларускай гутаркі дзядзькоў ды цётак.

Але таксама з часам толькі старыя бабулькі будуць расказваць унукам казку-праўду, як гэта яны ў Беласток пехатою хадзілі.

## Скуль дым ідзе, адкуль гарэлым пахне?

Стаялі сабе Лена і Віктар Бура а дзесятай гадзіне раніцы 1 лістапада на панадворку, калі раптам пачулі дзіцячыя крыкі. Бачаць, што гэта малыя Агатка і Эля Сталбоўскія перад домам лямантуюць, а са шчыта хаты валіць дым. Вядома, гарыць. Адразу бягом.

Віктар, мужчына, плячом у дзверы і ў хату. Па пакоі бабка старэнькая мітусіцца. Жменю грошай за пазуху ўпіхнула, дым яе душыць, а яна круціцца, што рабіць, сама не ведае. Людзей ужо шмат збеглася. Добраахвотнікі з пажарнай аховы таксама ўжо тут. Выносяць з хаты хто што. Віктар, бабку на двор выпіхнуўшы, за халадзільнік ухапіўся. Глядзіць, а тая назад ужо ўлезла, закашлялася, чуць не самлела. Прыйшлося яе ў першую чаргу выносіць.

Нягледзячы на тое, што гаспадароў не было дома, то дзякуючы дружнай дапамозе суседзяў і пажарнікаў не толькі што хата не згарэла, а нават рэчы амаль усе выратавалі. Пацярпела толькі Лена Бура. Мужа шукаючы, хацела ў хату заглянуць, ды не маючы чым, рукою шыбу выбіла — у такіх выпадках рэч звычайная. Што ж, калі руку сшываць трэба было і сёння яна на гіпсавай шыне.

Якая прычына пажару?

Пажарнікі кажуць, што проста печка з комінам была злучана толькі бляшанай трубою, абкручанай анучамі і аблепленай глінай. Усё гэта было абабіта драўнянавалакністай плітой і абоямі абклеена. Ну і якое дзіва, што загарэлася?

Перагляньце таму, даражэнькія, свае печкі ды коміны перад зімою. Калі «чырвоны певень» на вашу жэрдку сядзе, тады ўжо позна будзе. А пажарнай ахове з цэлага сэрца жадаем «агня ў меру – больш вады».

## За лесам, за борам...

Ведаеш, здаецца, ваколіцу, у якой жывеш і працуеш. Ведаеш добра, часам з маленства. І вось часам, зусім выпадкова трапляеш у якісьці куток і прыстаеш захоплены, не ведаючы, ці ты ў рэчаіснасці, ці ў казцы.

Пры шашы, якая вядзе з Беластока ў Баброўнікі, расцягнулася з левага боку вёска Пяшчанікі. Мінаеш хаты аднаго-другога Грэсяў (прозвішча Грэсь тут надта частае) — і ўжо ты за вёскай, ужо ты на тракце і шукаеш вёсачкі Радунін.

Радуніны — вядомыя лесуны. З дзеда-прадзеда мужчыны працуюць у лесе і з лесу прывыклі жыць. Іх папытайся. Яны дарогу пакажуць і нават завядуць на Выжары.

Мінеш леснічоўку. Па дарозе можаш спаткаць і лоўчага Куцкевіча, які са стрэльбай ды сабакамі даглядае свой паляўнічы раён. Далей ужо лесам. Кіламетр-паўтара і ты тут. Стаіш каля звычайнага мураванага белага доміка. Тут і хлявок, і калодзеж. Пуста і ціха. Калісь кожнае лета тут гаспадарылі дзяўчаты з гуфцаў працы[17]. Садзілі лес.

Цяпер трэба толькі падысці метраў дзвесце. Падышоў — і рот разявіў. Лес расступіўся, і быццам бы ў абдымках, трымае цудоўнае возера. Берагі чысценькія, пясчаныя. Чыстая і вада, якая ўліваецца ў яго са шматлікіх крыніц і сплывае ў рэчку Супрасль.

На ўскраі лесу велізарныя карчы, пакручаныя ў дзівосныя фігуры.

Прыглянешся, а на пяску сляды велічынёй з добрую талерку. Кажуць леснікі, гэта зубрыная сям’я прыходзіць да вадапою. Аглядаешся навокал. А можа якраз выйдзе з лесу барадаты волат, ды рыкне на ўсю пушчу, каб прывітаць выпадковага госця?

---

17 Гуфцы працы (польск. Ochotnicze Hufce Pracy) – маладзёжная арганізацыя, якая забяспечвае моладзь працай з адначасовай магчымасцю атрымання прафесійных кваліфікацый.

# Што плёскаецца ў Валілаўскіх ставах?

У Валілах — ПГР[18]. Адзіны ПГР на ўсю Гарадоцкую гміну. Вось такі сабе звычайны. Нават з тых меншых. Уздоўж пэгээраўскай дарогі пэгээраўскі пастух два разы ўдзень ганяе статак пэгээраўскіх кароў. Пэгээраўскія трактары лепш ці горш аруць пэгээраўскія палі. З левага боку дарогі ў радзе не надта прыгожых, блізнячых пэгээраўскіх домікаў жывуць пэгээраўскія рабочыя.

Дзіва пачынаецца толькі тады, калі зірнеш направа. Блакіт, свежая зелень і недзе далёка-далёка на небасхіле лес. Павеяў вецярок, і ўвесь краявід замільгаў перад вачыма, пакрыўся рабаціннем. Гэта паморшчылася драбнюткай хвалькай гладкае дагэтуль аблічча шматлікіх сажалак. Абрамленыя трыснягом, яны расплываюцца «вокамі», як тлушч на паверхні супу, аж некуды пад скрай земляной талеркі. Кіламетрамі цягнецца грэбля.

Ідзеш ды ідзеш. Сеў бы, здаецца, над стаўком, папляваў на чарвячка, закінуў вудачку, ды прыгаварваў ціхенька, як у той казцы: «Лавіся рыбка вялікая ды маленькая».

А вось і шмык! Не! Рыба дык тут ёсць. Камандуе аднак усім ПГРам, як і тым самым гэтым аграмадным рыбакамбінатам сябра Андрэй Крычко, чалавек, які ў ніякія казкі не верыць. Яму, калі ласка, рэчаіснасць падавай! Напусцяць вясною па яго загадзе рыбакі ў сажалкі рыбку маленькую, і падсыпаючы ёй лубіну ды іншага корму, «пасуць» на падводных пашах да восені. Тады і лавіць можна. Толькі што ў іх чамусьці рыбка толькі вялікая ловіцца. Карпы па 1-1,5 кг. Якраз на калядны стол. Калісьці ПГР Валілы малявак купляў у Дайлідах каля Беластока, плацячы за яго штогод сотні тысяч.

Ніякім чынам не ўдавалася выгадаваць уласнай моладзі. Пасля даручылі гэтую важную справу Антону Языкаву. Гэты скромны, непрыкметны дагэтуль працаўнік аказаўся ў справах рыбагадоўлі чуць не прафесарам.

У хуткім часе выгадаванай моладзі пачало хапаць не толькі сабе. Можна было і з другімі падзяліцца, з вялікай, разумеецца, карысцю для ПГР.

У фінансавым разліку шчупленькі, сярэдняга ўзросту Антон Языкаў даў прадукцыю большую, чым брыгада самых здаровых юнакоў. «Шмат ён

18 ПГР (польск. Państwowe Gospodarstwo Rolne) – дзяржаўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства, саўгас.

у мяне варты, — заўважае часта дырэктар Крычко. — Яму я і за тое зарабіць даю!»

А сябра Антон далей ціхенька правіць нешта над нейкім стаўком. Ён даглядае госця, які прыбыў аж з Усходняй Азіі. Белы амур называецца. Малюсенькі ён яшчэ. Вядома аднак, што ў сябе дома ён дасягае вагі да 30 кг і даўжыні да 120 см.

Па выглядзе ён у параўнанні з карпам проста прыгажун. Зеленаватая спіна, цёмна-залацістыя бакі. Па ўскраю кожнай лускавінкі какетлівы цямнейшы абадок. Прытым ён вегетарыянец. Мясам яго не кармі, а давай салатку з водарасцяў ды ў прыкуску трыснягу ці іншай зелені.

Нездарма белым амурам карыстаюцца ўсюды там, дзе буяе непатрэбная вадзяная расліннасць. Ён ачышчае зарастаючыя зелянню каналы. Яго ўпускаюць у халадзільныя вадасховішчы пры цеплаэлектрастанцыях. Ён сцеражэ доступу да плацінаў. І работу сваю ён ведае. Выгрызе кожную траўку пад корань. Пакуль што ён плёскаецца, маленькі, пад доглядам сябры Языкава. Гэты ўмелец напэўна выгадуе з яго саліднага тоўстабокага працаўніка. З тым, што мы з вамі, будучы не зусім вегетарыянцамі, можам спадзявацца, што па загадзе дырэктара Крычко ён пападзе і ў крамы, а тым самым і на нашыя сталы. Вы сабе як хочаце, а я ўжо пачаў вывучаць адпаведную літаратуру. Трэба ж на ўсялякі выпадак ведаць, чым гэтую рыбку запіваюць.

## Дзе б тут вудачку закінуць?

Змянілася рэчка Супрасль. Вады ў ёй сёння, як кажуць, чалавеку па шыю. Гэта тады, калі той на галаве ў рэчцы стане.

Дзе б тут быць рыбе? Калісьці, кажуць, паплявай на чарвячка, сеў над ямкаю і лаві, калі ласка, ці акунька, ці плотачку, ці іншую рыбку. А цяпер хоць ты ў ваду плюнь. А павудзіць хочацца. Найбольш азартныя ездзяць на Свіслач, на Нараў, а некаторыя нават на Бебжу.

Туды, аднак, далёка. Дзе тут выскачыць вось так сабе, на гадзінку, на дзве? Хто шукае, той знойдзе — кажа пагаворка. Так і я папаў з баначкай чарвякоў і вудкай на «Руду» — невялічкі ставок недалёка ад станцыі Валілы. Стаўкі там, праўда, два. Адзін зараз каля шашы. З яго, кажуць, калісьці паравозы ваду набіралі. Другі, далей у лесе, пры дарозе ў Пілатоўшчыну.

Ля яго да вайны быў дзіцячы лагер. Будынкі стаяць. Сёння тут ціха і пуста. Кругом ялінкі.

Не вельмі верачы ва ўдачу, закінуў я вудачку ў мутнаватую, заросшую цінаю ваду. Паплавок пастаяў хвілінку, пасля пахіліўся ўбок, вынырнуў раз і другі і раптам загінуў пад вадой. Падсек. Нешта ёсць!

І вось золатам бліснула ў паветры. Карасік, невялічкі, з паўдалоні. За паўгадзіны іх некалькі плюскалася ў вядзерку. За чарговай падсечкай кручок быццам бы ўвяз у вадзе. Вудзіла выгнулася дугою.

Цягну. Трашчыць, пішчыць, а лезе, як гавораць у нас. А вось і ён! Карпік гэтак з паўкілаграма. Далей ізноў карасікі. Нацягаў амаль поўнае вядзерка. Адвёў душу. Вось, табе і ставок. А кажуць, што недзе пад Вейкамі, у нейкім возерку таксама карасі водзяцца. Трэба будзе абавязкова схадзіць у нядзелю.

## Босай пяткаю на гвоздзь

Не за гарамі гэта было, а ў самім што ні ёсць горадзе Беластоку. Зірнула Зося на свайго мужа і вачам не верыць. Засучыў той нагавіцы і шчоткаю ногі шаруе, аж пена наўкруга пырскае! Ногці пры тым абрэзаў, абпілаваў акуратна.

— А ты што гэта, Вінцук, — заенчыла. — На баль які выбіраешся, ці як?

— Змоўкні, баба, — буркнуў той злосна. — Мне тут бяда, а ёй дурноты ў галаве. Як я іначай на работу заўтра выйду? Уяві сабе, прадпрыемства наша, дарожны аддзел ПКП[19] у Беластоку не выдала нам яшчэ належных за 1972 год чаравікаў. Старыя, вядома, разваліліся. Дзякуй Богу, пагода нядрэнная, можна будзе і на босую нагу папрацаваць. А ногі, вядома, ногі — калі іх ужо даводзіцца на свет выстаўляць, то памачыць не пашкодзіць.

Узялася пад бокі Зоська.

— Ты што? Ангіну падхапіць хочаш? Свае б якія чаравікі на работу альбо хоць шкарпэткі цёплыя нацягнуў бы.

— Нельга, бачыш. Паводле правілаў па тэхніцы бяспекі і гігіене працы мы абавязаны насіць абутак са сталёвымі наскамі. Гэта, ведаеш, калі што цяжкае на нагу ўпадзе, каб пальцаў не пакалечыла. Да звычайнага чаравіка як ты такую штуковіну прымацуеш? Мы ўжо да чаго хочаш прабавалі, і да валёнак і да калошаў нават. Ніяк не трымаецца — хоць ты трэсні.

19 ПКП (польск. PKP – Polskie Koleje Państwowe) – польская дзяржаўная чыгунка.

Адзіны выхад — у адпаведнага размеру банку з-пад кансерваў упіхнуць пальцы, каб начальства не казала, што без забеспячэння працуем. Калі ж на шкарпэтку — дзерці яе будзе. На босую нагу трэба. Мне яшчэ танна абышлося. Купіў пару піваў, дзве баначкі лешча ў таматным соўсе — умяў і ўжо ў зброі. А хлопцам некаторым, у якіх ступня 44-га размеру, дык тушонку свіную браць даводзілася, а гэтага ўжо без паўлітра не здолееш.

Думалі, ботаў не даюць, то хоць грошы заплацяць — было, не было, 350 зл. на чай там які гарачы, каб разагрэцца, ці на аспірын і сіроп ад кашлю хапіла б — дацягнулі б неяк да лета. А дзе там. Не далі граша!

Раз у год працаўнікам дарожнага 9 аддзела ПКП у Беластоку належалася пара службовых ботаў. Тэрмін выдачы ў кастрычніку 1973 г. У лістападзе таго ж года, не дачакаўшыся ні чаравікаў, ні грошай, завядоўца раёна будынкаў Лявон Дуброўскі выслаў у дарожны аддзел ПКП у Беластоку за нумарам 5-31(56)22 адпаведную заяву са спіскам чатырнаццаці пакрыўджаных работнікаў.

Чакалі, чакалі — не было адказу.

# Не толькі ўласныя прыгоды

## Як знайсці хулігана?

Паклікаў мяне аднойчы галоўны рэдактар.

— Слухай, Валодзя, — кажа, — чуў я, што ты застрахаваны ад смерці і няшчасных выпадкаў. Праўда гэта?

— Так, — кажу. — Абставіны прымусілі. Пакуль мы яшчэ адны з жонкаю жылі, можна было з бядою абысціся, хоць яна ў мяне і здаровая баба. Цяпер да нас аднак цешча жыць прыехала, так што іншага выхаду мне не было.

Галоўны чамусьці ўцешыўся.

— Золатка маё, — кажа і абдымае мяне за плечы. —Ты мне якраз патрэбны. Паедзеш, даражэнькі мой, у камандзіроўку. Хулігана ты калі блізка бачыў?

— Не, — кажу. — Не даводзілася.

— Ну, гэта глупства. Неяк разбярэшся. Вось што! Паедзеш у вёску і напішаш артыкул аб барацьбе шырокага насельніцтва з хуліганствам.

Мне аж дух заперла.

— Даруйце, — з прыемнасцю паехаў бы. Здароўе, аднак, не дазваляе. Сям’я адбірае ўсе сілы. З мяне адной жонкі хапіла б, а тут яшчэ і цешча! Паслалі б лепш рэдактара судовай хронікі.

— Не выкручвайся, не выкручвайся. У тым вось і справа, што табе траціць няма чаго, а ў рэдактара судовай хронікі трое малых дзетак. І апрача гэтага — з усіх працаўнікоў рэдакцыі адзін ты застрахаваны.

— Дык я ж, — кажу, — застрахаваўся толькі дзеля прынцыпу. Калі б са мною што здарылася, дык скарыстаю са страхоўкі не я, а жонка.

Тут галоўны раптам стаўся сур’ёзным.

— А ты, Валодзя, пра такую штуку як скарачэнне штатаў чуў? — кажа. — Ну дык я табе магу ў вушка шапнуць, што і ў нас каго-некага прыйдзецца звольніць. Ну, як? Паедзеш?

— Што ж рабіць, прыйдзецца паехаць.

— Ну, вось! Адразу так трэба было. Бачыш, па-добраму дамовіліся.

Галоўны выразна павесялеў і адпусціў мяне на гэты дзень з працы, каб я мог падрыхтавацца да дарогі.

Да цягніка мяне праводзілі ўсёй рэдакцыяй. Сябры ў складчыну букет белых хрызантэмаў купілі, а галоўны доўга трос мне руку і гаварыў нешта пра ахвяру дзеля агульнага дабра ці штосьці накшталт гэтага

Запланаваў я сабе, што заеду спачатку ў знаёмую мне вёску Гаркавічы. Можа якраз якога хулігана сустрэну, а мо нават барацьбу з ім мне прасачыць удасца? Хуліганаў я ведаў толькі з газет і фільмаў. Распазнаць гэта стварэнне, кажуць, вельмі проста: валасы ў яго нястрыжаныя, само бруднае, адно вока абавязкова падбітае, увесь час, паклаўшы рукі ў кішэні, па вуліцы ходзіць — шукае каму б гэта морду пабіць, жыве сярод людзей і да іх крыху падобнае — сляпы распазнаў бы такога.

Глянуў я на сваіх спадарожнікаў. Не! Быццам бы хуліганаў няма. Ля мяне сядзіць жанчына ў гадах з дзяўчынкаю, мабыць, унучкаю. Пры акне чацвёра добра апранутых маладых людзей у карты іграюць, папяросы кураць. Усе людзі, як людзі. Ну, думаю, навязалі мне заданне! Хуліганы ў сённяшні час — жывёла пэўна ўжо рэдкая, быццам тыя зубры. Калі б іх хоць у якім-небудзь запаведніку зачынілі! Калі нельга ў Белавежскай пушчы, дык хоць у якой іншай. Вядома было б, дзе іх шукаць, а так — паспрабуй іх знайдзі!

Раптам мая суседка звярнулася да рэшты спадарожнікаў:

— Можа б вы, — кажа, — сябры, у купэ курыць перасталі? Бачыце ж, што дзіця малое сядзіць, і акрамя таго, гэта ж купэ для некурачых.

Тут і пачалося!

— Зачыні, цётка, зяпу, — грымнуў адзін з іграючых у карты. — Не маеш дзе ўсадзіць нос, дык прышчамі дзвярыма, — параіў другі. — Не падабаецца, дык калідор свабодны, — кажа трэці і ўсе пачынаюць рагатаць.

Тут я не вытрымаў і ўмяшаўся:

— Калі вам, — кажу, — звяртаюць увагу, маладыя людзі, дык трэба слухаць, а не насміхацца. Жанчына праўду кажа.

— А ты — хто такі? — спытаўся адзін з іх. — Прадстаўнік Лігі жанчын? — і ўсе зноў зарагаталі.

Я раззлаваўся не на жарты.

— Ну, — кажу, — зараз прыйдзе праваднік, дык ён вам пакажа!

Што было потым, добра не памятаю. Хтосьці мяне трэснуў па шыі. Хтосьці бухнуў кулаком пад бок, хтосьці даў у зубы. Шчасце, што цягнік затрымаўся якраз на маёй станцыі і я, як ракета, вылецеў на перон (у апошнюю хвіліну мяне яшчэ падштурхнулі каленам у зад). Падняўся я неяк, абмацаў рукі, ногі. Нічога. Цэлыя, быццам. Шыя толькі ные. Добры, думаю, пачатак. Каб гэта хоць хуліганы мне па шыі наклалі, было б паўбяды. Меў бы хоць пра што пісаць! А гэта, як на злосць, звычайныя людзі! Плюнуў я і паплёўся ў Гаркавічы, да якіх ад станцыі тры кіламетры. Іду сабе памаленьку, шыю чухаю. Вось ужо да першых хат дайшоў.

Гляджу, бегае па вуліцы хлапчук, гадоў дванаццаць, з рагаткі птушак страляе.

— Ану, хадзі сюды, — клічу я яго. — Ты гэта што робіш? Хочаш, каб я цябе за вушы выдраў? А ну, давай рагатку!

Тут тое чарцянё як ні разравецца на ўсё горла:

— Тата! Тата! Біць мяне хочуць!

Гляджу, выбег на вуліцу нейкі чалавек з абломкам жэрдкі ў руцэ — такі сабе звычайны дзядзька. А я стаю і хлапчука за плячук трымаю. Падскочыў дзядзька да нас і адразу мяне за грудзі хапае:

— Ты што? Вырадак такі, сякі ды гэтакі?! — крычыць. — Над дзіцём здзекавацца надумаў?!

— Тата, ён мне і рагатку паламаць хацеў, — разроўся зноў хлапчук.

— Што? Цацкі дзецям ламаеш? — раз’юшыўся дзядзька. — Ну дык я цябе зараз!..

Тут ён апусціў жардзіну на маю патыліцу.

Ірвануўся я з яго рук і даў стракача ўздоўж вуліцы! Наўздагон мне паляцеў камень, пушчаны з рагаткі, і трапіў за вухам, набіваючы салідную гулю. Нягледзячы на боль, я пёр з усіх сіл, пакуль не ўбачыў на адной з хат надпіс «Солтыс».

У солтыса былі госці. На стале красавалася бутэлька гарэлкі, стаяла талерка з нарэзаным скрылькамі салам і другая — з гуркамі. Кругом сядзелі чалавек пару мужчын, добра ўжо падвыпіўшых, ды і сам гаспадар, які, вітаючыся са мною, ледзь не перакуліў вядра з вадою.

Я прадставіўся. Даведаўшыся, чаго я прыехаў, солтыс паглядзеў на мяне здзіўлена:

— У нас — хуліганы? Ніколі не было і, Бог дасць, што і далей не будзе! Вядома! Здараецца, што хтосьці каму морду паб'е ці шыбы ў вокнах дзе павыбіваюць або яблыкі каму абарвуць. Хуліганаў, аднак, у нас няма. Зроду мы іх не бачылі!

Я рашыў ісці напралом. Не вяртацца ж мне з пустымі рукамі ў рэдакцыю.

— Немагчыма, — кажу, — каб у такой вялікай вёсцы нават аднаго, хоць абы-якога хулігана не было! Вы што, газет не чытаеце? Выразна ж пішуць, што хуліганы ў вас ёсць і што з імі ўсюды змагаюцца?

Солтыс доўга чухаў патыліцу.

— Калі ў газетах так пішуць, дык, значыць, ёсць, — кажа, — там лепей ведаюць. Толькі як жа ж іх, чортавых дзяцей, выявіць? Бо змагацца з імі — гэта ўжо глупства. Гляньце толькі на нашага каваля. Ён сам траім дасць рады.

Тут ён паказаў пальцам на здаравеннага дзядзьку за сталом. — Ну, нічога. Можа супольнымі сіламі хоць аднаго хулігана знойдзем, — заявіў ён нарэшце. —А пакуль, вып'ем па кілішку.

Выпілі.

— А можа б вам Сымоніхі сынок падышоў. Ён жа ўсе шыбы ў Доме культуры павыбіваў ды майму Васілю пашчэнку звярнуў, — нясмела азваўся адзін з гасцей.

— Ты што, ачмурэў? — абурана закрычалі іншыя. — З Сымоніхай сварыцца хочаш? Дзе ж ты тады, дурань, у безалкагольныя дні гарэлку купляць будзеш? Яна ж адна ў нас нелегальна ёю гандлюе!

Другі кандыдат не падышоў, бо яго бацька мае знаёмствы ў павеце. Трэці аказаўся сваяком аднаго з прысутных. Адным словам, бяда. Выпілі яшчэ па чарцы.

— Знаеце вы што? — заявіў раптам хтосьці. — Давайце пройдземся па вёсцы. Мо якраз на кагосьці трапім.

Усе ахвотна згадзіліся і не паспеў я аглянуцца, як хата апусцела. Няма чаго чакаць, думаю, што ж з імі, п'янымі, гаварыць? Трэба вяртацца, а то чаго добрага, на цягнік спазнюся.

Не паспеў я выбрацца з вёскі, калі чую за плячыма: «Ёсць! Ёсць! Лаві яго, браткі! Лупцуй! Гэта той самы, што на дзяцей нападае!»

Тут на мяне накінулася чалавек з дзесяць, у тым ліку і вясковы каваль.

— Лупі! Лупі яго! — крычаў хтосьці. — Лупі, каб іншым адхацелася! Каб ведалі, што няма хуліганам месца ў нашай вёсцы!

Я памалу пачынаў траціць прытомнасць. Быццам бы з таго свету чуў я яшчэ голас солтыса, які прыгаварваў:

— Так яго, міленькага! Так яго, родненькага! Садані пад дыхала! Няхай улады пераканаюцца, што мы ў курсе спраў і што ўмеем праводзіць актыўную барацьбу з хуліганствам!

— Ой, маманькі! — крыкнуў раптам хтосьці. — Гэта ж наш рэдактар!

Тут я страціў прытомнасць.

Ачуняў я ў гарадской бальніцы, дзе мне прыйшлося праляжаць дзён дзесяць.

У рэдакцыі мяне сустрэлі варожа. За спіною шапталі:

— Хуліган. На дзяцей кідаецца.

Галоўны, буркнуўшы пад носам, што ён чагосьці такога па мне не спадзяваўся, загадаў мне па прычыне браку іншых хуліганаў напісаць артыкул аб сабе самім і прыгразіў, што ў рэдакцыі ён хуліганства не сцерпіць.

Адна страхавая каса мяне зразумела і выплаціла чатыры тысячы кампенсацыі.

Суцяшае мяне толькі тое, што з таго часу цешча стала больш людскаю. Бывае, падыдзе, пагладзіць мяне па галаве і кажа:

— Вось падлечышся, зяценьку мой любы. З'ездзіш яшчэ раз у камандзіроўку, страхавая каса ізноў заплаціць, і хопіць нам грошыкаў на новы тэлевізар...

## Паспрабуй напішы!

Вам здаецца, сябры, што напісаць фельетон — гэта вось набраў горбу паперы, сеў за стол і шмаруй сабе на здароўе, рэдактару на хваробу, а чытачам на злосць! Не так яно, ведаеце, проста. Асабліва ў сучаснай кватэры М-4[20].

Вострасць мук і ступень дакучлівасці залежыць непасрэдна ад статыстычнага вобразу нашай сям'і, а пасрэдна — ад вобразу і характару сем'яў нашых суседзяў. Прымаючы, што нашу сям'ю сімвалізуе ўраўненне С = 2 + 2 + 1, пастараемся прааналізаваць яго ўсебакова, як з матэматычнага, так

20 Кватэра М-4 – кватэра для 4 асоб, якая складаецца з 3 пакояў і кухні.

і з агульнага пункту гледжання. Толькі тады, параўноўваючы ўсе даныя, мы зможам уявіць сабе трагічную часта рэчаіснасць.

Левы бок ураўнення, невядомая С — сям'я залічваецца, сябры, да так званых невядомых адносных. Справа ў тым, што колькі б 2 + 2 + 1 не стараліся, каб суседзі нічога на ведалі пра іх узаемныя суадносіны, то тыя пераважна асвядомлены выдатна. Тут улічваецца і акустыка сцен, і ўзаемныя кантакты, і шмат чаго іншага. Мала таго, вельмі часта не ведае муж, што робіць жонка, і наадварот, у той самы час, калі па цэлым доме толькі пра гэта і чуткі ходзяць.

Цяпер возьмем правую частку ўраўнення. Разглянем і распрацуем. 2 + 2 + 1... Першую двойку можам матэматычна прадставіць як 2 = 1м + 1ж, як муж і жонка, значыцца. З вопыту вядома, што адна адзінка ў гэтай цэласці заўсёды верх бярэ, дамінуе. І хоць, паводле афіцыйных сацыялагічных і юрыдычных даных, 1м = 1ж, то паводле неафіцыйнай жыццёвай, а галоўна спартыўнай пункціроўкі адна жонка за паўтара, а то і за два мужы лічыцца, што на будучыню і прымем.

Даволі проста справа выглядае і з другою двойкаю, у якой 2 = 1 д +1 д. З тым, што Д — дзеці могуць быць хлопцам і дзяўчынкаю, могуць быць большымі, сярэднімі ці меншымі і могуць быць звычайнай альбо павышанай ступені шумлівасці. Усё гэта, аднак, драбяза.

Сапраўдны лабірынт пачынаецца пры апошняй адзінцы, якую мы пераважна запісваем як 1х. Ікс гэты мае заўсёды галоўны ўплыў на цэласць ураўнення і наогул на існаванне самога С — сям'і. Пад ім могуць значыцца Ддн — дзіцё дадатковае непрадбачанае, Цм і Цз — цешча маўклівая альбо цешча злосная. Дпс – добры прыяцель або прыяцельніца сям'і і ўрэшце сабака, кот, а на худы канец нават канарэйка альбо белая мыш, гадаваная ў скрынцы. Так што агульнае паняццe ўжо маем.

А цяпер уявіце сабе, мае міленькія, што я ўсёй, так сказаць, базай, асеў на зубцах кватэрных мукаў.

Сусед з левага боку пад п'яную руку стараецца з-пад ложка даказаць жонцы, хто ў іх хаце галоўны. З правага боку дзяцей цэлую тройку, павышанай прытым шумлівасці, рэмнем супакоіць стараюцца. А злоснай цешчы тых, што над намі жывуць, да канарэйкі таксама ніяк не прыраўняеш. Не дзівота, што на нізе сабака, быццам яму хто хвост прышчаміў, вые. А тут

яшчэ найлепшы прыяцель нашай сям'і замест з маёю жонкаю ў кіно пайсці ці куды там, у маіх тапачках перад тэлевізарам рассеўся, каву папівае.

Тут не то што ў скрынцы — у галаве белыя мышы развесціся могуць... А яшчэ вы як на злосць прычапіліся. Фельетон вам, бачыце, пішы. А ну яго з фельетонам. Думаеце, што гэта вось так сабе?

## *«Хвароба на цябе!»*

Скуль узяўся свет, а на свеце людзі? А скуль хваробы? Вось, адвечныя пытанні.

Чаму б нам не паслухаць, што на гэту тэму баяў вядомы вясковы весяльчак, дзед мой Антон?

Спачатку, міленькія, не было зусім нічога — адна бязмежная пустэча. Пасля ўжо толькі з асобных хмараў, пылу і яшчэ чагосьці невядома чаго ўзнікла вялізная туманная блытаніна, якая пад уплывам гарачых сонечных промняў ператварылася ў «ведзьмін кацёл».

Усё гэта булькала, набухала і пяклося, пакуль з касмічнай печкі не выкацілася галушка, якую мы сёння называем Зямлёю.

Як кожная першая спроба, была яна, зразумела, не вельмі ўдалая, і таму, пэўна, ніхто на яе не меў ахвоты. Кацілася яна вось так сабе, нікому непатрэбная, па бязмежжы.

З часам у адным месцы яе то выпучыла, у іншым — углыб уцягнула. Тут галушка прыпляснела, там падсохла, дзе-нідзе і падгніла нават. Вось так узніклі горы ды даліны, лясы, пустыні і балоты.

Раз, праўда, на яе накіраваўся нейкі міжпланетны абжора. Зірнуў, аднак, на яе нясмачны выгляд, толькі плюнуў і пагнаўся за цікавейшым аб'ектам.

Калі і адкуль узяўся на Зямлі першы чалавек — дагэтуль невядома. Найбольш прыхільнікаў у тэорыі Дарвіна, паводле якой чалавек — не што іншае, як дэгенераваная малпа. Я мяркую, што ад рою (так калісьці называлі статак) малпаў, у якім усё было супольнае. У ім аддзяліўся найбольш сварлівы і ваяўнічы самец. Ён загроб заднімі лапамі горбу супольных яблыкаў, пярэднімі сціснуў цяжкую паліцу, доўга нешта мыкаў і ўрэшце зароў па-чалавечы: «Гэта ма-а-а-а-ё!»

Рой, як кожная арганізаваная грамадскасць, выкінуў, зразумела, шкоднага індывідуума, і так першы чалавек застаўся адзін. Яго проста выгналі «з рою».

Тады істота гэтая, усё яшчэ вельмі ж валасатая, з доўгім хвастом, узяўшы сваю паліцу ў зубы, рушыла неўзабаве на ўсіх чатырох, каб агледзець зямлю, якую з той пары пачала лічыць свёю ўласнасцю. Шукаючы, на чым тут даказаць сваю ўладу і моц, яна наткнулася на нешта велізарнае ды чорнае. «Якім правам нейкае камяніска будзе мне тут завальваць дарогу?!» — падумала і грымнула паліцаю па велізарным ды чорным.

Гэта, аднак, міленькія, не быў камень. Гэта быў, мае любенькія, мамант. Патрывожаная звяруга, нядоўга думаючы, схапіла нашага продка хобатам за хвост і стукнула ім аб камель папараці, велічынёй у наш сённяшні дуб.

Ачуняў наш неразважны прашчур без хваста, з паламанымі рабрынамі і з болем у паясніцы. Штосьці, хіба, у ім трэснула, бо не змог хадзіць на чатырох, толькі нягнутка пайшоў на задніх. Побач убачыў падобную да сябе істоту, што шчырыла да яго зубы і безупынна нешта балбатала на невядомай яму, дзікуну, мове. Вось гэта і была першая жанчына.

Адкуль яна ўзялася, цяжка растлумачыць, так як цяжка высніць, адкуль бяда на галаву бярэцца! Некаторыя кажуць таму, што няшчасці парамі заўсёды ходзяць. Ва ўсякім выпадку, у першы ж дзень кабета замучыла свайго мужчыну балбатнёю да паўсмерці. Пад вечар, не пануючы над сабою, ён зароў: «А змоўкні ж ты, хвароба на цябе!» і сцебануў яе паліцаю па мяккім месцы.

О, цуд — дапамагло!

Т-а-а-а-к. І хоць з той пары лякарстваў розных, што рыб у моры, людзі пазналі, то ўсё некаторыя вераць, што ў найцяжэйшых выпадках спосабы дзядоў-прадзедаў на хваробу найбольш дапамагаюць.

## Жонка працуе, мужык ад сытасці бесіцца

Прыбегла Марыся дахаты і адразу мужыку кулак пад нос:

— А лянота ты, — кажа, — няшчасная. Абібок ты прыроджаны. А нашто ж я за цябе замуж выходзіла, дзяцей на свет прывяла? Ведала б, што

ў цябе дзве рукі левыя — за нішто не згадзілася б. І за што мне цярпець, за што пакутаваць? Сорак пяць гадоў мужыку і адказнасці ніякай не мае.

Узмаліўся Алёшка:

— Што ты, —кажа, — баба, беляны аб’елася? Які я табе абібок? А хто ж за мяне, — кажа, — гаспадарку робіць? Было не было, а чатыры гектары зямлі то маем. А каровы тры, а бычок, а кабылка? А свінням то, думаеш, дух святы дасць?

— А я што, не ведаю, — Марыся на тое. — Зразумей, аднак, што начальства наша на гарадоцкай фабрыцы «Кара» за нас з табою больш свядомае і на гэту справу свой погляд мае.

Памятаеш, дзеткі нашыя, Алінка з Эвай, пахварэлі і я на лекарскім звальненні некалькі дзён у хаце з імі пабыла? І што? Заплацілі за тыя дні думаеш? А адкуль!

Мужык ваш, кажуць, нідзе і нічога не робіць. Няхай ён дзецьмі апякуецца.

Доўга яму там бялізну памыць ці кашкі наварыць якой? Кажаце, што не ўмее? Ну, у гэта мы не паверым. Свінням жа ж, здаецца, варыць? Быў бы чалавекам, меў бы грамадскую адказнасць, яшчэ і цыцкі малодшай даў бы. Бацькам жа ж прыходзіцца і прытым нідзе не працуе.

— Ну як нідзе? — кажу. — А гаспадарка? А падаткі? Ну, і ў канцы канцоў выпівае ён у мяне. Няўжо ж яму дзяцей хворых пад апеку пакіну? Гэта ж і накарміць, і дагледзець, і лякарствы даць трэба.

Таксама выдумалі — п’е. А чым яно кепска? — гавораць мне. — Быццам бы дзеці з бутэлькі хлябтаць не могуць? Адгаворкі адно пустыя.

— Так што бачыш, — працягвала Марыся. — Тое, што ты ўстаеш а чацвёртай раніцы і зацямна кладавішся, Алёшка, ва ўлік не ідзе. Гэта тваё, як кажуць, «хобі».

І што пот часамі вочы залівае і гатоў расперазацца, каб гаспадарку «на ногі» паставіць — гэта проста прыхамаць твая такая. Кожны, вядома, чалавек па-свойму дурэе. Табе захацелася на гаспадарцы — твая воля.

Паводле аднак аддзела кадраў гарадоцкай фабрыкі «Кара» ты лічышся абібокам, чалавекам не працуючым, і ўсё.

— Ну добра, — пачухаў Алёшка патыліцу. — А рабіць то што далей будзем? Дзеці дзецьмі ж — вядома, хвараюць. Адно, мусіць, засталося. Хадзі, Марыська, развод браць будземо. Сабе гаспадаром застануся —

убеспячальню[21] сваю мець буду. А табе як разводцы за апеку над хворымі дзецьмі заўсёды заплацяць.

— Ну так, — Марыся на тое. — жыць то як? Грэх жа ж.

— А мяне то непрацуючым не грэх называці? А дзяцей малалетніх падчас хваробы на маю грубую, часта неадпаведную, мужчынскую апеку скідаць гэта не грэх, думаеш?

Мне ж вось бульбу капаць зараз трэба. Абору новую паставіць варта было б. Ну і наогул селянін жа ж я, проста мужчына... Ну, якая ж з мяне нянька.

Было б добра, даражэнькія, калі гэта казка была. Праўда аднак найпраўдзівейшая.

Жывуць сабе Марыся з Алёшаю ў вёсцы Бялевічы і ўсё думаюць, ці парсюка, ці кароўку прадаць, каб на развод грошай хапіла.

## А Гандзя ў мяне герой!

Трэці дзень мы ўжо, даражэнькія, у Беластоку, а здаецца, што сёння прыехалі. Не ведаю, як Гандзя, а я дыхнуць не маю калі. З сынам, нявесткаю яшчэ парадкам пагутарыць не паспеў. Першы дзень мы з унукамі ў мяч гулялі. Яны яшчэ лук са стрэламі, што ім бацька купіў, на двор вынеслі, дык я ім паказваў, як гэта правільна страляць трэба. Учора да абеду хадзілі перапрашаць суседа і пры нагодзе шыбы яму ўстаўлялі. У адну мяч трапіў, а другую прыпадкам страла выбіла. Пасля хадзілі ў парк. Валодзя дэманстраваў, як гэта ён спрытна па дрэвах лазіць. Ледзьве абед скончылі, пабеглі ў горад. Куплялі Валодзіку новыя нагавіцы. Бо ён іх няхочучы падзёр. Лепей няхай маці не бачыць. Яна ж, вядома, баба, хлапца не зразумела б, яшчэ чаго добрага адлупцаваць магла б. Я пры нагодзе купіў сабе новыя боты. У старых адарвалася падмётка. Выпадкова, падчас гульні ў футбол. Усё, здаецца, добра. Так як мае быць. Ажно сёння гром грымнуў з яснага неба. Узбесіліся нашы бабы. З раніцы яшчэ сяк-так было. Нядзеля. Юрка не працуе. Наказалі мы жанчынам яды-напітку нагатовіць, сабралі вудачкі ды паехалі ўсёй мужчынскай кампаніяй на рэчку Супрасль рыбку павудзіць, пакупацца. Чарвякоў мы з хлопцамі паспелі накапаць яшчэ ўчора ў гарод-

21 Убеспячальня (польск. ubezpieczalnia) – страхавая фірма, тут: страхавы поліс.

чыку, што перад блёкам. Вярнуліся, здаецца, як людзі. Рыбу, плотачак, акунькоў там пару на кухню занеслі. Паабедалі. Пасля абеду Юрка прылёг адпачыць. Газету пераглянуць. Я якраз узяўся расказваць унукам, якія гэта мне рыбіны ў маладосці даводзілася лавіць, калі ўсё і пачалося.

— Чаго ж гэта ты, як пан, разваліўся, — гэтак нявестка да Юркі звярнулася. — Памог бы хоць хату прыбраць. Не буду ж я ўсё адна ды адна. Стаміўся? А я то што? Столькі я, колькі і ты, працую, а яшчэ вам вары, бялізну памый, папрыбірай за вамі. А вы? Мала што маю найпрыгажэйшую вяргіню з карэннямі выдралі, чарвякоў шукаючы, мала што ўсю маю пудру з каробкі высыпалі, каб было куды гэта паскудства пакласці, дык навалаклі мне яшчэ акунёў саплівых, каб я аб іх рукі калола?

Юрка быў раззлаваўся, адбуркнуў нешта, калі ўмяшалася мая Гандзя.

— Вось што, сынок, — кажа. — Жонкі ты можаш паслухаць, а можаш і не. Але я табе маці. Я табе маломузадніцу падціpала, магу і дарослага за вушы выдраць. А ну мне марш да работы, а то перад дзяцьмі сорам будзе.

Яшчэ і нагою прытупнула.

Ну, думаю, хоць мяне і клічуць Няўдалы, а з жонкаю мне ў жыцці пашанцавала. Герой яна ў мяне. У салдатах не была, а каманду ведае. Не паспеў я падумаць, калі яна ўжо ля мяне стаіць, ды яшчэ мятлу пад нос падсоўвае.

— А ты, стары, чаго вочы вырачыў? — кажа. — Давай сыну ды ўнукам прыклад. Валодзік з Зюнікам пасціраюць усюды пыл і кветкі паліюць. Тату Юру загонім падлогі замятаць ды тую рыбу чысціць. А ты вяжы фартушок і бярыся за мыццё посуду. Ды потым яшчэ бялізну дзіцячую, тую, што ў місцы, перамыеш. Так, так! Нічога табе не станецца. А ты, нявестачка, апранайся, — кажа. — Мы з табою пакуль у кіно сходзім. І калі пасля таго, як вернемся, тут усё блішчаць не будзе, я з імі іначай пагавару, з трутнямі няшчаснымі.

Бачыце яе? Тааааак. З жонкаю мне пашанцавала, так сказаць. Аж надта.

А былі ж такія шчаслівчыкі, якія, кажуць, жылі перад гэтым, ну як яго там, ну, — раўнапраўем.

## Як я сына ў сярэднюю школу кіраваў

Заходзіць да нас аднойчы, ведаеце, Нінка Круціха. Кума мая, значыцца.

— Ну і што вы думаеце з сынам далей рабіць? — пытаецца.

А Юрка наш і ейная Марыся ў гэтым годзе якраз восьмы класканчаюць.

— Бо я, — кажа, — сваю вырашыла ў гандлёвы тэхнікум накіраваць. Сяброўка мая там прыбіральшчыцай працуе, добрае слова замовіць. Ну і наралі мне адпаведнага чалавека. Ён тут адной знаёмай з Пасынак у мінулым годзе дачку ўстроіць дапамагаў. Дамо пару тысяч, і ўсё будзе добра...

— А гэта — навошта?

— А што вы? Не з гэтага свету, ці што? Жыцця не ведаеце? Дзе вы бачылі, каб някормленая кабыла воз пацягнула? Сёння без добрага знаёмства ў сярэднюю школу не ўлезеш! На кожнае месца — пару ахвотных!

— Ну і што? Юрка наш выдатнік, дык экзамены здасць.

— Экзамены то ён можа і здасць, чаму не, хлопец таленавіты. Але не прымуць яго ў школу па прычыне браку месцаў, і ўсё. Цяпер у іх усюды адгаворка такая.

Адным словам напалохала нас баба. Юрка было хацеў у беларускі ліцэй, што ў Бельску, старацца. Дзе там аднак тыя «знаёмствы» возьмеш? Невядома, ні з кім выпіць, ні з кім закусіць. У Беластоку ўжо зручней. Як бы не было, а таго-сяго ведаем. Прадамо парсюка або кароўку. Быў бы грош, будзе каму і ўзяць. Ну і людзі — не свінні, хто бярэ — падкажуць.

Кажам Юрку, каб паміж беластоцкімі школамі выбіраў. А дзе там — давай яму толькі беларускі ліцэй! А Гандзя мая раскудакалася, як тая квактуха:

— А Юрачку ратуй! А нічога не шкадуй! А дзіцятка гэта ж наша бедненькае кепска ацэняць, спіхнуць набок!..

— Добрае, — кажу, — «дзіцятка», адразу буханку хлеба ды кіло каўбасы ўвапрэ, толькі давай! Перарос мяне, старога!

Але хто ж бабу калі пераканаў? Хлапцу зараз вусы пачнуць расці, а яна б яму ўсё цыцку тыцала! Ды і самому думаецца іначай. Разумнейшыя ж ад мяне ў лапу даюць, нейкіх там крывых сцежак-дарожак сваім дзецям шукаюць...

А Юрку тым часам начхаць на нашы клопаты! Як залезе з раніцы з кніжкамі ў садок, да вечара дахаты не вернецца. Да экзаменаў так рыхту-

еца. Гандзя ўсё туды і бегае. То з параным малачком, то з супікам, то катлетку занясе, ці пеўніка зварыць... Ну, думаю, калі ты, шалапут, не цікавішся сваёю будучыняй, то і я не буду мазгоў сабе марочыць, знаёмстваў шукаць. Рабі, сын, як ведаеш.

І падумайце толькі, людзі добрыя! Прынялі аболтуса гэтага ў ліцэй! Здаў вельмі добра ўсе экзамены!

Учора ізноў Нінка Круціха забягала. Марысю яе ў гэтым годзе не ўзялі ў тэхнікум. Прасіла хоць у наступным дачку «ўстроіць», параіць, як кум куме. Што даць, колькі і каму.

—А ідзі ты да нашага Юркі, — кажу куме, — папытайся. Ён, хоць як і ўвесь наш род, Няўдалы, у гэтых справах — амаль прафесар!

## Што такое каханне

Было, кажуць, калісь у суседа нашага Аўхіма шэсць дачок, і ўсе прыгажуні. Зразумела, што такое хаты хлапцы ніколі стараною не абміналі. Заходзілі вось так сабе проста пажартаваць і заходзілі з паважнымі, як гавораць, намерамі.

І вось стаў калісь перад Аўхімам кавалер адзін, і Настку, сярэднюю з дачок, за жонку яму аддаць з усяго сэрца просіць. А люблю, а кахаю, а гаспадыня мне ў хаце патрэбная і ўсялякае такое гародзіць.

— Добра, — Аўхім яму на тое. — Чаму ж і не аддаць. Толькі ведаеш што, сыну, — кажа, — пакажу я табе здалёк дачушак сваіх. А ты, каторая твая, адгадай. Адгадаеш — аддам. Не адгадаеш, на мяне не крыўдуй.

А тады якраз восень была, пара капання, ідуць яны ў поле. Давёў стары юнака да мяжы.

— Вось цяпер, — гаворыць, — выбірай, прыглядайся. А на полі тым дзяўчаткі, усе шэсць, з самай раніцы бульбу пільненька выбіраюць. Усе да зямлі пахіленыя, кожная сваёю баразёнкаю памалу сунецца. Вылупіў хлапец вочы і зроку адарваць не можа.

Шэсць азадачкаў дзявочых, гладзенькіх, угору тырчма тырчаць, у рытме працы далікатна калышуцца. Шасцю спаднічкамі вецер-свавольнік хітра гуляе. То ўздыме ўверх крыху, то ізноў апусціць, а то ў бокі гайдаць пачне, бержкі з кашулькамі разам як струны перабіраюцца. А з-пад спадні-

чак тых шэсць пар ножак, загарэлых, стройненькіх, калонамі выстраіліся. Адна за другою, быццам у танцы, у след за кошыкамі пасоўваюцца. Знізу ўверх, калі вокам вядзеш, кожная пара — дзве мяжы пры дарозе, здаецца. Пры такой дарозе, што ў неба.

Аслупянеў наш хлапец, барада ўніз апала. Твар пунсовы, пот на лобе гарохам. Шапку зняў, у руках мне-цярэбіць. Язык яму да нёба прысох. Толькі вочы вялікія, вялікія, пакруглеўшыя, маслам, здаецца, палітыя, туды-сюды збоку ўбок водзяць.

А Аўхім побач стаіць, люльку курыць, у вусы ўсміхаецца. Урэшце штурхнуў пад рэбры.

— А вы што? — кавалер быццам з печкі зваліўся.

— Як та што? Выбірай.

Той зірнуў раз яшчэ, другі ды ўзмаліўся:

— Дзядзечка, ой-ёй-ёй, каб хутчэй, хоць якую давайце.

— Гэтак не, — яму дзядзька, — маёй згоды няма. Пра каханне ты плёў. Табе дур у галаве, не даспеў ты яшчэ, ты зялёны.

Ашалеў наш хлапец, у ногі ўпаў, весь дрыжыць.

— Вы хоць, дзядзечка, тую, што пад узгоркам, у канцы, — тыцае пальцам, вужакаю ўецца.

Павярнуўся Аўхім, люльку дастаў з рота — глядзіць.

— А каб цьфу на цябе, з глузду з’ехаў, дурнап’яну ці чаго ты аб’еўся? Вось чаго захацеў, дурань, ёлуп сляпы — там жа ж суседава цёлка пасвіцца!

## Янка ў капелюшы

Вы, можа, сябры, нашага Янку і не ведаеце. Прыкметны ён, хоць можа ў горадзе так у вочы і не кідаецца. І вось здарылася з ім гісторыя ўсёй вёсцы на смех, а яму самому хоць ты, сеўшы, плач.

Пад Каляды гэта было. Параспускалі нашых «студэнтаў» па хатах — на канікулы. З’язджаюцца хто адкуль. Запрог бацька гнядую ў сані — Янку да аўтобуса сустракаць паехаў. Прывозіць... і каб цябе! Ён гэта, ці не ён? Распазнаць не можам. Нос кірпаты, той што быў, здаецца. А вось, адзежа... Усе мы вочы вырачылі: ну франт франтам!

Капялюш такі, ведаеце, з шырокімі палямі, нагавіцы, бы спадніца, «швэды», кажуць, называюцца, ад чаравікаў бляск ідзе, пінжак з разрэзам ззаду, а гальштук ядавіта-зялёны на ўсе грудзі... Ну, усяго не раскажаш! Шчыра гаворачы, выглядаў нават прыгожа! Старэйшым, вядома, непрывычна, а вось маладыя, якія за модай сочаць, так і цмокалі зайздросна, на яго глянуўшы.

Ну, яго, зразумела, адразу за стол — накарміць з дарогі. Пасля, як у нас прынята, пайшоў па вёсцы пахадзіць — сябе паказаць, знаёмкаў праведаць. Бяда ажно на другі дзень пачалася.

Свята святам, а адразу пасля снедання бацька кажа, што жывёле падаваць трэба.

— Пераапраніся, Янук, з майго там што накінь, пакажы, што не зусім «спанеў» яшчэ ў тым горадзе.

— А чаму ж, татку, — той на тое. — Зараз я. Толькі пераапранацца навошта?! Я і так дам рады. — І гэтак, ведаеце, пяшчотна самога сябе агледзеў. Ну, нічым певень перад курамі, крылы растапырыўшы.

Колькі яму ні тлумачылі, а ён сваё. Так і папёр у хлеў ва ўсёй красе.

Ахапак сена набраўшы, да кароў сунуўся спачатку. А гальштук той, ярка-зялёны, як змяя, каля шыі так і круціцца. Лацятая лыпнула здзіўленым вокам: гэтай парою ды свежая зяляніна? Ну як жа не паласавацца! Высалапіла шурпаты язык, шамкнула ляпай, і паўгальштука з ходу праглынула. І далей каўтае. Хлапца беднага за шыю ў свой бок цягне, ледзь не задушыць. Той у дугу сагнуўся, запёрся нагамі. Толькі выпучаны азадак з разрэза пінжака тырчыць.

У куце какетліва забляялі авечкі. Баран Мацей абег статак сваіх падапечных і сурова зірнуў на невядомую з'яву. Так спакойна, зацішна было, здаецца, у хлеўчыку, а тут з'явілася істота нейкая, выразна рагатая, і яго паненак маніць! Ну, як такое сцярпець? Пахіліў масіўны лоб, падагнуў калені, куляю наперад скочыў і з усяго разгону ў выпнутую кругляціну рагамі пальнуў.

Ну, браткі, чаго не казалі б пра «эляну»[22], а матэрыял, што трэба. Вытрымалі, ведаеце, порткі, па шве толькі разышліся. Паляцеў Янка наперад. Лацятую, рукамі за шыю абхапіўшы, пацалаваў проста ў пысу, з разгону.

22 Эляна (польск. elana) – сінтэтычная тканіна з поліэфірнага валакна.

Тузануўся назад, гальштук у зубах ён пакінуў, і ў дзверы. На босую нагу, бо модныя чаравікі ў гнаі застраглі.

— Ну і трык жа ў нас, бацьку, — кажа. — У зад, здаецца, трэснуў, а зубы ў роце захадзілі.

Два дні на вуліцу носа не высунуў — саромеўся. Бацькавы старыя нагавіцы нацягне, кашулю абы-якую, надзьмецца і сядзіць цэлы дзень на ляжанцы, як пень які.

Невядома, што было б, не будзь Марысі, дачкі суседавай. Ну, і хітрая дзеўка! Цэлую раніцу з маткаю нашаю ды сёстрамі па кутках шапталася. То да сябе пабяжыць, то ізноў да нас, то яшчэ кудысь. Пад вечар заходзіць. А ў клубе ўжо іграць пачалі. Забава мае быць.

Прыйшла Марыся, і адразу да Янкі. А сама прыгожая-прыгожая! Не гаворыць, а кацянём мурлыкае. Ножкі стрункамі, язычок — мёду банкаю. А Ясеньку, а міленькі, а ўстань, любенькі, а пойдзем. Пакуль агледзеліся, ужо нашага героя сцягнула з ляжанкі, у пакой валачэ за руку. А там ужо нагавіцы ягоныя, «швэды» тыя, зашытыя, адпрасаваныя, на чаравіках бляск, што ўсе лямпачкі адбіваюцца, кашуля белая нарыхтавана. Гальштук толькі іншы. Лацятая, як ужо што каўтне, — з горла ў яе не выдзярэш.

І, паверце, хоць мяўся Янка, аднекваўся, то дзяўчына ўламала яго ўсёткі. Не толькі што на танцы тыя пайшоў, а ўсю рэшту канікулаў кроку не адступіў ад Марысі. Ну, зусім, як тое ягня за авечкаю, за ёю бегаў. Солі на далонь насыпала б, то лізаў бы. Чуў я, як бацькі між сабой гаварылі, што вяселле, пэўна, спраўляць давядзецца. Бачылі, бяда якая?

## Як мы ўнука гадавалі

Ажанілі мы нашага старэйшага, Юрку, а і не падазравалі з Гандзяю, колькі бяды набярэмся! Гандзя, памятаю, на вяселлі яшчэ мазурку танцавала з кумам, то ўсе на яе пазіралі: ну, мая Гандзя — проста маладуха. Плёткавалі, што і я тады разышоўся. Пад п'яную руку з паненкамі ў стадоле ўзяўся ў жмуркі гуляці! Брахня гэта, мусіць, нічога такога не памятаю... Хоць хто яго ведае... Вяселле буйнае было. Тры дні цягнулася. Галава хадзіла хадуном, не ўсё запамятаеш. Гандзя да сённяшняга дня ўпікае.

Вяселле як трэба мы выправілі хлапцу. Не глядзелі, што сірату бярэ. Дзяўчо, якое акрамя пары сукеначак, бялізны і кніжак не мела нічога. Ну, не бяда! Абы Юрку жонкаю, а нам нявесткаю добраю была! Маладыя ж яны, рукі ў іх здаровыя, нажывуць што трэба. На пачатак далі мы ім грошай на каапэратыўную кватэру і на дзе што, ды абяцалі дапамагаць пакрысе.

Справа ў тым, што Юрка яшчэ навукаў не пакончыў. Школы сваёй інжынерскай. Два гады яму засталося. А што зробіш? Сам жа ў сямейныя сані ўпрогся! Закаханы, вядома, дурны, як той бычок вясною. Гатоў, задраўшы хвост, лобам мур бадаць, абы сваё дастаць. Ды мы яго і не адгаварвалі. Няхай, як хоча, робіць, а калі што, дык няхай сам на сябе наракае. А то яшчэ казаў бы, што гэта мы яго «пад дурнога хату падвялі». Адно мы яго папярэдзілі, каб ведаў, што быць сем'янінам, гэта табе не семечкі лускаць ці дзыгаць у рытм якогась ча-ча-ча. Сям'я — абавязкі, і каб нам потым не скардзіўся...

Ну і праўда. Зажылі яны небагата, але згодна. Атрымалі кватэру. Нявестка працуе, Юрка вучыцца і сям-там урокамі матэматыкі падзаробіць. Ды і мы то грошай, то з гаспадаркі сёе-тое падкінем. Памалу звыкліся.

І вось аднойчы прыязджаюць абое. «Цешцеся!» — адразу ад парога кажа Юрка. Нявестка неяк сарамліва збоку стаіць. А ў чым справа? Як гэта — у чым? Будзеце вы дзедкам з бабкаю праз пару месяцаў! Ад такое радасці я аж заікаў! У мае-то гады дзедам быць? Вось чаго падсвінак захацеў! Я ж яшчэ двух маладых перадзыгну!

Глянуў я на Гандзю, а ў тае барада трасецца. Бедная, ледзь не плача. Не дзівота: пачнуць яе яшчэ чаго добрага ў вёсцы бабай Няўдаліхай клікаць! Гэта ў сорак-то год! Падумайце толькі!

А тут маладыя просяць, каб мы пасля першых месяцаў малое да сябе ўзялі. У Юркі ж школа, у нявесткі праца...

Ну і даў жа я ім! Ні ў якім выпадку, кажу. Мы сваё ўжо даўно аднянькалі. Хто ў гаршку лыжкай мяшаў, той няхай і хлёбае кашу! Чым зможам, паможам, але што не — то не!

А час бяжыць. Вось і ўнук на свет паявіўся. Чатыры з паловай кіло важыў, кажуць, што ўвесь да мяне падобны. Хоць гэта брахня, думаю. Што ты па малым пазнаеш? Адно можа, што такі, як я, бо зусім лысенькі.

Выпісалася нявестка са шпіталя. Пара нам у адведкі ехаць. І вось, падумайце толькі! Нічога гэтай сённяшняй моладзі даверыць нельга. Першая

Гандзя скумекала. Як гэта ты малое няўмела ў рукі бярэш, нявестцы кажа! Хто ж гэта бачыў, кажа, вось так ляп-цап і да цыцкі?! Тут жа памаленьку трэба... А хлопчык пузаценькі, харошанькі... Праўду казалі — і нос мой, і барада! А ніжэй пупа і гаварыць няма што! Адно вочы цёмныя, па матцы.

Недачаканне смаркуноў гэтых, каб мы ім на змарнаванне яго пакінулі! Я яшчэ, як я, але Гандзя нават і слухаць не хоча. Адразу мы малога разам з маткаю забралі да сябе. А калі ёй на працу прыйшлося ісці, так наш унучак у нас і застаўся. І гадуем мы яго сёння. І ніколі мы яго ім, трутням гэтым, не аддамо, нашага золатка! Ды дзе ім там справіцца!

А цяпер, даруйце, бегчы мне трэба. Малы хімкае, пялюшку, відна, памачыў. На гэтыя справы ён проста мастак! Хоць ты яго зараз у пажарнікі кіруй!

## Нянечка

Ці вы чулі? У Фінціфлюшкіных кажуць, нянечка настолькі шырока свае абавязкі разумела, настолькі гаспадара кругом пальца абматала, што той, з жонкаю развёўшыся, з ёй жаніўся. Дзе якія, праўда, судзяць, што Фінціфлюшкін проста, як эканаміст па прафесіі, цвяроза падлічыў, што яму танней гэта абыходзіцца будзе.

Чаркоўскія ж, гавораць, сваёю няняю спачатку нацешыцца не маглі. Дзяўчына ўжо ў гадах, і рэлігійная прытым. Часамі з кіно вечарам вяртаюцца, а тая ўсё яшчэ на каленях стаіць, зямныя паклоны адбівае.

Выявілася пасля, што, бедная, проста да спіртных напіткаў была неабыякавай. Увесь каньяк у хаце выхлябтала, настойкі да апошняй кроплі высушыла, а нават адэкалон і той выкарыстала ў вядомай справе. Не дзівота, што на нагах устаяць не могучы, да зямлі, нябога, хілілася.

А ў Ціпуноўскіх на той прыклад? Анёлак з неба ім, думалі, на галаву зваліўся. Тварык міленькі, як у херувімчыка нявінны. Фігурка стройненькая. Ручкі, бывае, скромна накрыж на пупіку зложыць, павекі апусціць, вочы ў зямлю ўваб'е — ну чым не мадонна! І з сям'і мнагадзетнай прытым, бедная.

На добрых харчах дзяўчо любае не ўмеру хутка пачало папраўляцца. Гром з неба яснага тады толькі грымнуў, калі ўжо ў клініку везці давялося. Салдацік, гаворыць, нейкі ва ўсім вінаваты, а пялюшачкі вось Ціпуноўскаму сёння мыць даводзіцца — разам з жонкаю малое даглядаць памагаюць.

Скубчыкам, ізноў, нянечка іхняя адразу такі падкрэсліла, што калі яны каляровага тэлевізара не прыдбаюць, то сабе іншых гаспадароў пашукае, бо галоце там усялякай прыслужваць ёй не гонар.

А вазьмі ты без яе, нянькі тое, у сённяшні час з усіх абавязкаў выкруціся! Ніяк не здолееш. А спрабуй яшчэ знайсці яе сёння...

Людзі ідуць на неймаверныя ахвяры.

Кавярынскага жонка, возьмем, сваё ўласнае андатравае футра на шпацыр нянечцы пазычае.

У Хітрынскіх прынялося, што муж, з кветкамі дахаты вяртаючыся, няньцы іх уручае і два разы ў тыдзень рэгулярна яе ў найлепшую кавярню водзіць.

У Перавярцінскіх нянька ў пакоі на пуховай пярыне адлежваецца, а галава дома ў тым часе на кухні на раскладушцы косці размінае.

Слізнеўскія, ізноў, калі іхняя ненаглядная, хатняя памочніца, разумеецца, мужчынскую кампанію госціць альбо свята якое спраўляе, прывыклі ўсёй сям'ёю з хаты выходзіць — у парку на лавачцы адседжваюцца.

З усіх маіх знаёмых толькі адным Трэзвадумскім у гэтых адносінах пашанцавала. Скарб, а не дзяўчына на іхнюю долю выпала. Не прайшло і двух тыдняў, калі Трэзвадумскі ўжо навучыўся адмыслова лоск на падлогі наводзіць і дываны выбіваць да апошняй пылінкі, паспяваючы прытым перамыць посуд, бульбы начысціць і яшчэ, у чарзе пастаяўшы, у хату купіць што трэба.

Трэзвадумская ж не ачухалася нават, калі стала выдатным мастаком кулінарыі, спецыялістам па мыцці рознай бялізны і не абы-якім знаўцам у галіне апекі над дзіцём. І ўсё гэта пасля працы... Інтэлектуальна раслі яны, бо Галінка іхняя, як яны яе пяшчотна называлі, тэлебачанне гледзячы, усе газеты і журналы гартаючы, трымала іх у курсе ўсіх падзей і навінак.

Вось вазьмі і раскусі, што ды як. Адгадай, дзе ўзяць і якую выбраць. Таму мы, міленькія, і вырашылі прымаць, якая надарыцца. І ў далейшым на шчасце адно толькі спадзявацца.

Дзяўчынка яна была маладзенькая яшчэ, прыгожая. З'явілася з адным чамаданчыкам, абы-як сваё багацце ўладкавала і адразу за работу так і ўзялася.

Я, вядома, каньячок у гараж вынес. Настойка толькі ў буфеце на прыманку засталася...

Нянечка, аднак, увагі на яе зусім не звяртала. Ды і мяне самога не заўважала амаль. Аж крыўдна. Я ж яшчэ, здаецца, не стары такі?

Усё толькі мыла, варыла, скрабла, чысціла, дзіцём займалася — быццам бы толькі ў гэтым і было ўсё яе прызванне.

Дзіўна, ведаеце, неяк... Звольнілі мы яе, зразумела.

Ну бо як жа інакш? З кім не раішся, каму не апішаш, той адразу выразна пальцам у лоб тыцне.

Дурны і той адразу заўважыць, што быццам яна нейкая, нянечка тая нашая, не такая як усе — ненармальная, адным словам.

Дзе ж ты такую трымаць будзеш?

## Сардэчныя тайны

Неймаверна перамяніўся, любенькія, свет ад часу мае маладосці. Самому часамі паверыць цяжка. Тое, што, скажам, калісьці тайным, найтайнейшым было, сёння, здаецца, вось так сабе, проста, у жменю схапіць можна. Такое сэрца, напрыклад, возьмем.

Стукала-стукала яно сабе дагэтуль зусім непрыкметна, раз хутчэй, раз павальней — залежна ад сітуацыі, у кожнага чалавека па-свойму. А сёння?

Мала што на сэрцы аперацыі робяць. Мала што ўвесь час яго падмяніць чым-кольвек стараюцца. Сёння хопіць, уявіце сабе, абы цётцы ўзяць газету ў рукі, адшукаць адпаведную рубрыку, «Сэрца на талерцы», скажам, ці якую падобную, і ўжо яна ведае, чыё, у які бок і з якімі выкрунтасамі сэрца тое трапечацца.

Раней, каб такія інфармацыі раздабыць, ёй трэба было, язык высалапіўшы, паўвёскі абабегаць, усіх суседак распытаць, ды і то такіх падрабязнасцей не даведалася б. А ў газеце, міленькія, яшчэ і адказ альбо парада ў кожнай справе ёсць — вопыту пачарпнуць можна, павучыцца.

Пытае, скажам, Ганя М. з Зязюлева: «Скажыце, як гэта магло здарыцца? Нягледзячы на тое, што мне падабаецца Ванюша, я ўжо тры месяцы як сябрую з Андрушам, а цяжарнасць маю лекар акрэсліў на месяцаў шэсць».

Аўтар рубрыкі паясняе: «Мілая Ганя. У гэтакім выпадку альбо твая цяжарнасць не ад Андрушы, а ад Ванюшы, альбо табе ў той самы час яшчэ хто-кольвек іншы спадабаўся».

Шукае помачы і Марыя І. з Нетразвілаўкі. «Мой Сцяпан, — піша, — зусім мяне, пэўна, ужо разлюбіў. Раней, асабліва падвыпіўшы, прынамсі два разы ў тыдзень косці пералічыць, сінякоў, гузакоў з зайздрасці мне наставіць. А цяпер, уявіце сабе бяду, цэлы ўжо месяц не крануў мяне нават пальцам. Што думаць? Як ратавацца?»

«Т-а-ак, Марысенька, — разважае рэдактар. — Справа твая выразна скандальная. Абавязкова схадзі са Сцяпанам да лекара. Можа, у яго малакроўе, у бедненькага, альбо так ад якой хваробы аслаб. Калі не, дык, значыцца, выпівае замала і трэба яму пару кілішкаў у дзень прыбавіць».

Шукае парады і Ірына Т. з Неасветава. «З Ігнатам, — паведамляе, — мы ўжо ходзім больш года. Баюся зацяжарыць, бо вучуся ў сярэдняй школе і не хацела б перарываць навуку».

«Крый Божа, не рабіць больш нічога, — гучыць адказ. — Спакойна хадзіць далей. Наколькі мы ведаем, ходзячы, золатка, зацяжарыць амаль немагчыма, а ва ўсялякім выпадку надта ж нязручна».

Усё бачыце, проста. Усё, бачыце, ясна. І на ўсё ёсць адказ і парада.

Адзін раз толькі, ведаеце, бяда з гэтай рубрыкай у нашай рэдакцыі выйшла.

Напісаў калісьці да нас чытач: «Даражэнькае «Сэрца на талерцы», я з захапленнем чытаю твае парады. Ты напэўна жанчына, ды жанчына прытым маладзенькая і, безумоўна, прыгожая. Не бачыў я цябе ніколі, а ўсё ж закахаўся ў цябе без памяці. Веру, што такая, як ты, кабетка, з тваім вопытам, з тваім веданнем жыцця, была б мне найлепшай жонкаю. Для мяне нават няшлюбнае дзіцё не перашкода. Калі спаткаемся?»

Давялося яму адказаць: «Паважаны сябра! Пастарайцеся добра мяне зразумець. Ніякая я перад усім не маладая жанчына, а старэйшы ўжо, лысаваты дзядзька. Да прыгажосці мне таксама вельмі далёка — я вам не сакратарка галоўнага. Вопыт і веданне жыцця, вядома, ёсць, толькі што таксама не ў мяне, а ў нашай прыбіральшчыцы, цёткі Мані, якая мяне заўсёды ў адказах на пытанні выручае. Яна, як сама гаворыць, не такія яшчэ плёткі чула і не з такіх сітуацый выкручвалася. Затое спаткацца, вось гэта мы з вамі можам. Прыходзьце, калі ласка, напрыклад, у рэстаран «Фіялка». Я туды амаль штовечар на піва і чарку чаго мацнейшага заходжу. Вось тады і пра дзяцей няшлюбных пагаворым — бо мне гэтыя аліменты плаціць, ведаеце, таксама ўжо даўно надакучыла».

## Жонка, дзеці, сабака і я
## (уласныя прыгоды пад чужою грушаю)

На дварэ спякота, што ледзь стрываць. Мухі ў суп і тыя, здаецца, ужо варанымі падаюць. Я са шкадобаю азірнуў пахіленыя каркі супрацоўнікаў рэдакцыі. Натхненне выпаўзала на іх успацелыя спіны нерэгулярнымі, мокрымі з іржаўчынкай плямамі. А я вось еду ў водпуск.

На сэйненскія азёры — падумаць толькі. На адзін успамін, здаецца, халодным півам у горла пырснула. «Адпачынак пад грушаю» гэтакая штука называецца. Жывеш на вёсцы, у аднаго з гаспадароў, харчуешся ў рэстаране, загараеш і купаешся, дзе воку мілей — і ўсё гэта па турысцкай пуцёўцы, без ніякіх турбот. Вось дзе знойдуцца тэмы, адкуль пасыплюцца фельетоны!

Галоўны рэдактар аднак толькі махнуў рукою. Ну пра што ты там, браток, пісаць будзеш? Усё ж вядома. Тут вада, крыху далей — яшчэ больш вады, а дзе-нідзе палоска зямлі сухое, ды і тую турысты як авадні абляпілі. А пра ўсялякае там кваканне жаб, пра рыбу вялікую і маленькую, хлюпанне хваляў, каханне на пясочку, у лодцы ці прыбярэжнай крапіве ды іншую рамантычную драбязу мы ўжо не раз друкавалі — так што проста паперы шкада.

Нават трагедыі накшталт таго, што панаехаўшыя «дзікуны» з мусу найсыцейшага дзядзьку паўсырым зжэрлі, не могучы нічога акрамя цвікоў ды мыла дастаць у мясцовай краме, — сёння нікому ўжо не навіна.

Ну што ж, прыедзем — пабачым. А, можа, змей які вадзяны перада мною ў тым возеры аб'явіцца, а, можа, карміць па-чалавечы будуць — чаго ж на гэтым свеце не бывае!

Пазапіхаў я сваю сямейку з клункамі ўперамешку ў самаход, падпёр усю кампанію пукам вудачак, пасадзіў зверху сабаку, сам сеў за руль — ну і рушылі. Сабака брэша, дзеці пішчаць, жонка сварыцца, матор гудзе, усё нармальна — так і прыехалі на месца.

Адразу ў гміну. Там нас пералічылі, запісалі куды трэба, выдалі талончыкі на ежу і адразу павялі на кватэру.

Ну, ведаеце, курорт — курортам. Кожная лапінка месца выкарыстана. Жывуць ва ўсіх пакоях, жывуць і ў хлеўчыку, і ў куратніку, нават у агародзе, сярод гуркоў і памідораў нехта палатку паставіў — толькі дзве пары ног крыж-накрыж тырчаць.

Нам пашанцавала: пакой з дзвярыма на ганак, чатыры ложкі, да возера рукой падаць.

Толькі я ўзяўся за перанос багажу, калі з акна, якое на той жа ганак выходзіла, высунуўся пунсовы ў крапінку жаночы твар, вочы колеру расолу з падквашаных гуркоў вырачыліся на нашага сабаку, і пунсовы роцік расчыніўся да таго, ажно гланды замільгалі.

— Пупсік! Пупсік! Гэтыя таксама з сабакам прыехалі. А ў нашага ж Рэкса псіхіка далікатная, ды і задраць яго можа звярыска такое! Яны, альбо мы! Калі не, дык збірай манаткі — вяртаемся ў Варшаву!

Віск, шум. З'явіўся і Пупсік — адной рукой лысіну чухае, у другой абломак нейкай жардзіны трымае. Я ўпіраюся. Гаспадар мяне падтрымлівае — было ні было, а што чатыры новыя жыхары, то не двое. Баба бразнула акном, толькі шыбіны зазвінелі, зачынілася на ўсе зашчэпкі — разам з Рэксам сваім выюць.

Пупсік збянтэжана звесіў галаву. Та-а-ак, не дзівота. Пры такой жонцы не то што сабаку — ката і таго будзеш называць «Вы». Гаспадар у нас просіць прабачэнння. Так-сяк заключылі пакт аб часовай неагрэсіі.

Ну, мы, зразумела, адразу загараць, купацца, пазычаць лодку — не агледзеліся, калі і абед. Вяртаемся назад, чалавек пад'еўшы, вядома, у добрым настроі, а тут нам насустрач тая дамачка — свайго сабачку на павадку цягне. Наш сабака міма прабег, вухам нават не зварухнуў, а той яе, нейкая дзікая помесь аўчаркі з фашыстам, як не заенчыць, як не тузанецца і адразу мяне за лытку — да крыві нагу пракусіў. Тады і наш не стрымаў — ледзь мы разнялі нашых чатырохногіх.

Я з нагі кроў сціраю, а дамачка з'едліва ўсміхаецца, ручкамі ўсплёсквае. Ах, як добра, кажа, што мы свайму Рэксу прышчэпку рабілі, а то мог бы, чаго добрага, ашалець, бедны — такога пакусаўшы!

Я толькі скрыгітнуў зубамі, дамовіліся мы з жонкаю ўступаць колькі можна, ды паплёўся на пляж — ад граху далей.

Паляжаў я на траўцы, уздрамнуў нават крыху, пачало ўжо змяркацца. Побач са мною тым часам нейкая вясёлая камапанія расселася. Прыехалі аўтамабілем і бутэльку за бутэлькаю бразь аб донца і ў шклянкі — півам запіваюць. Ледзьве на нагах трымаюцца, асабліва адзін, дзябёлы такі дзядзька.

І наперла яго, бачыце, яшчэ ў ваду лезці — паплаваць. А, думаю, паплыву і я разам. Калі што, паратую дурня. Шкада, усё ж, чалавека.

Ён сабе плавае, я ўсё навокал яго пялёскаюся — то перавярнуся на спіну, то пад ваду нырну на хвілінку. Калі раптам гэты дурыла як не заграбе мяне лапішчам за валасы, як не пацягне да берагу — паспявай адно толькі ваду піць і нагамі дрыгаць. Ледзьве жывога мяне на пясок вывалак і давай крычаць. Лезуць тут, кажа, у ваду ёлупні ўсялякія, плаваць добра не ўмеюць, а мне іх толькі ратуй, лаецца.

Мне і без таго дух заперла, а ён яшчэ на маім жываце рассеўся, за рукі тузае, мала з суставаў не выкруне!

— Гарэлкі нясіце хутчэй! — крычыць. — Першая гэта для тапельцаў справа! Увальеш такому ў горла пару глыткоў і адразу ў яго новы дух увойдзе!

І ўжо мне бутэльку ў зубы ўціскаюць — хочаш не хочаш, а каўтаць мусіш. І новага духу набраўшыся, піхнуў я дзядзьку нагою ў тоўсты трыбух, вырваўся і ва ўсе лапаткі даў ходу.

Узлажу я, сапучы, на ганак, а там ужо мая жоначка, пад бокі ўзяўшыся, стаіць і нічога больш — адно: «хукні» кажа. Я давай тлумачыцца, а яна і слухаць не хоча. Толькі матрац надзіманы і коўдру на двор выкінула і дзверы зачыніла ключом.

Вось вазьмі і напішы што-небудзь у такіх умовах! Ды і тэму адкуль возьмеш? Не будзеш жа ж пра камароў пісаць, хоць яны і заядаюць, чэрці.

## Трэба думаць

Шлюбнай жонцы ніколі ні ў чым не адмаўляй — вучаць законы сямейнай стратэгіі; глядзі толькі, каб і табе на карысць гэта выходзіла.

Мая ўзяла і ўперлася, каб неадкладна на нейкія азёры ехаць. Пазагараць, рыбку павудзіць — паадпачываць, адным словам. Не глядзіць, што ў мяне, як на злосць, работы па горла назбіралася, на добрых два тыдні хопіць.

Пасля б — чаму не, сам з ахвотаю паеду. Але яна сваё: цяпер, і гутаркі ніякай быць не можа.

— Ну, добра ўжо, — гавару, — золатка ты маё, няхай па-твойму будзе. Толькі што ж ты, зязюленька мая бедная, на сябе надзенеш? Ну, бо тое, што

шафа ад шматак па ўсіх швах трашчыць, не лічыцца. Кабеце апранацца — з модаю ў нагу ісці, вядома.

Апусціла, гляджу, галаву ненаглядная мая, проста душою абмякла. А я ў горад, мігам туды і назад. І рассцілаю, што вы падумаеце, кавалак тканіны. Хоць ты з яе сукенку, хоць ты нагавіцы, хоць ты што хочаш. Вялікія грошы ўваліў, прызнаюся. Бачу, жонка весялее.

— Ну, цяпер, — гавару, — коцік, за справу. З суседкамі парайся, краўчыху падшукай, дзе чаго дакупі, адна, дзве прымеркі, і ўжо мы па-а-а-ехалі! А я тым часам за сваю работу буду брацца. Хоць і неахвота выезд адкладаць, але з табою, бачыш, затрымка.

Так яно і было. Два дні я спакойна працаваў, пакуль яна ўсе журналы агледзела, з суседкамі параілася і адпаведны фасон выбрала. На трэці дзень, запыханая, прыбегла, твар ззяе, у руках новыя туфелькі. А я хоць бы што.

— Цудоўныя, — кажу. — Адразу абувай, пашукай адпаведную падшэўку, бяры тканіну і да краўчыхі, і ўсё. — А сам бяруся за работу.

Цэлыя тры дні было спакою. Ну, бо то колер не такі, то якасць, то я адраю, бо, на мой погляд, не падыходзіць...

Пасля мы, разам ужо, сандалі выгадныя любай маёй куплялі. У туфельках новых бегаючы, мазалі, бачыце, панацірала.

Так што ізноў — цішыня. Я сабе працую, а жонка ціхенька войкае і ногі ў цёплай вадзе мочыць. А пакуль ногі загаіліся, то я што трэба і зрабіў.

Ну, цяпер, сэрцайка маё, і паехаць можам.

— А тканіна, а краўчыха? — пытае.

— Э там, — гавару. — З тваёю фігураю, з тваім выглядам, яшчэ сабе будзеш драбязою галоўку марочыць? Шчыра кажучы, табе ў тых старых нагавіцах і ў зялёным швэдры заўсёды найлепей было. Памятаеш, мы ў горы ездзілі, то табе больш дваццаці ніхто не даваў? Па-мойму ты ад таго часу выразна памаладзела.

— Немагчыма? Сапраўды?

— А як! Клянуся! Зусім так, як і я.

— А матэрыял на сукенку?

— А што — матэрыял? Каб бяды большай не было. Між намі кажучы, эластыкі гэтыя ўжо з моды выходзяць. Так што ты найлепей прадай яго Peравярцінскай — яна, здаецца, пытала. Заадно і туфелькі тыя збудзеш, бо нага ў вас аднолькавая, а там далей відно будзе.

Так і зрабілі. А тады за клункі, за вудачкі — і гайда на тыя азёры! Загарэлі, падурэлі, адпачылі, як мала калі.

Так што, самі бачыце, галоўнае — шлюбнай сваёй ніколі і ні ў чым не адмаўляць!

## Хто слухае, хто стукае

Даўно мінулі тыя часы, калі паездка да «дохтара» была чымсьці незвычайным. Сёння лекарская дапамога з'яўляецца справай агульнадаступнай. І не чакаюць ужо людзі, «пакуль смерць у зубы не загляне». Вядома, што чым хутчэй пакажашся ў цэнтры аховы здароўя, тым хутчэй і лекі памогуць. Час ад часу варта, асабліва з дзецьмі, і проста так сабе зайсці, паказацца на ўсялякі выпадак.

Усё без клопатаў, без коштаў, без непатрэбнай валакіты. Запісаўся да таго ці іншага лекара — і сядай спакойна перад кабінетам. Надыдзе твая чарга і вось, калі ласка, просяць. А ў кабінеце, вядома, пакажаш што там трэба — ну, пуп, скажам, ці горла. Агледзяць цябе, абслухаюць, абстукаюць. Не паспееш ачухацца і ўжо маеш рэцэпт у руках. Аптэка ахвотна служыць. Што каму. Таблетачкі ўсіх колераў і смакаў. Сіропы, кроплі ды настойкі. Уколы і ўколікі — бяры, звяртайся да адпаведнай медсястры і падстаўляй зад на здароўе. У сур'ёзных выпадках кіруюць да спецыялістаў ці ў бальніцу. Хто гэта калі чуў? Хто гэта бачыў?

— Ой-яй-яй! — цешацца адна перад другою бабкі. — Вось дык часы настали. Зойдзеш сабе да дахтароў тых, а там ужо заўсёды суседак пару чакае. Ёсць з кім слаўцом перакінуцца, пагаварыць пра ўсе мясцовыя навінкі.

— І паверыце, — дзеляцца ўражаннямі, — калі мне ў непрыстойным месцы скула села і я, нягледзячы на сорам, спадніцу перад імі задзерла, то не толькі масць і таблеткі прыпісалі, а яшчэ сказалі дзякуй... Калі б гэта я перад вамі, кума, то напэўна без лаянкі ці нават суда не абышлося б. А тут, гляньце — яшчэ дзякуюць... Ну, каб гэта мне было яшчэ васемнаццаць. А то ж на сёмы дзесятак ужо пайшло. Адным словам, жыць — не паміраць, даражэнькая.

Так, так. Нездарма штораз то даўжэй жыве статыстычны грамадзянін. І хоць ён штораз то часцей лечыцца, то здароўе ў яго, хітруна, скажу вам, у параўнанні з даўнейшымі часамі, проста завіднае. І гэта добра. Да гэтага

мы якраз і імкнемся. Таму заходзьце, не чакайце да апошняга, міласці просім. Цэнтр аховы здароўя — гэта, даражэнькія, установа, створаная для вас!

Заходзьце! Чакаем! Шпрыцы і іголкі ў нас заўсёды пад рукою.

## Калі хуткая дапомога хвораму дапамагчы паспее?

Едзяць, даражэнькія, туды-сюды «карэткі». Няма той вёсачкі, у якую не заглядалі б. Няма для іх ні дня свабоднага, ні ночы. Наколькі ўжо ў дыспетчарскай языкатыя кабеткі сядзяць, і тыя часам з тэлефоннымі просьбамі справіцца не могуць: дзынь-дзынь-дзынь і дзынь-дзынь-дзынь, а мне тое, а мне сёе, а да нас пасляшайце, а да нас, будзьце добрыя, яшчэ хутчэй. І хоць ты тут расперажыся, а ўсім не дагодзіш.

Часам сур'ёзны выпадак здарыцца, а ніводнай машыны якраз пад рукою няма. Ловіць іх тады бедны дыспетчар па радыё (у кожнай карэтцы свая радыёстанцыя), як тых блох па кажусе. «Дзевятка! — крычыць, — дзевятка, акажыся! Дзе вы? Дзе вы? Прымайце новы выклік».

Ну што ж, падумаеце, напэўна, лекараў ці машын мала. Бо як іначай? А вось, якраз і не. На добрую, справу, міленькія, хапіла б і «карэтак», і лекараў. Усё, ведаеце, у тым, што проста не разумеюць яшчэ людзі, нашто «хуткая дапамога» наогул існуе. Выклікае, скажам, а 6-ай раніцы ахрыплы мужчынскі голас. «І каб толькі доктар тых бланкаў, што на звальненне з працы, прыпадкам не забыўся», — прыпамінае. А калі яму, ужо дома, лекар тлумачыць, што кіслага малака ды расолу з гуркоў квашаных на лякарства і без рэцэпта дастаць можна, то яшчэ абражаецца. І ўсе чамусьці ў настаўнікі пруцца: «А я вас навучу, а я вам пакажу, а вы яшчэ не ведаеце, што я за цаца!»

Тут нават не ў хваробе справа. Усім жа ж вядома, што ад гадзіны 8-ай раніцы пачынаюць прыёмы ўсе раённыя лекары. Калі абавязкова патрэбны, дык можна такога лекара выклікаць і дахаты. Тое самае і пасля абеду. Раёны ў Беластоку працуюць да гадзіны 18-ай і кожны, вярнуўшыся з працы, на прыём паспее. Зразумела, хацеўшы.

Пытаем часам адну з другою мамулек, у якіх дзіця закашляла: «А ці вы, грамадзянка, пра такую ўстанову, як раённая дзіцячая кансультацыя, чулі?»

А чула, вядома, толькі ісці не хочацца.

У іншай паўстала лякарствамі застаўлена. І ў раёне нават была сёння. А навошта кліча? А бо лекі, разумееце, чамусьці не памагаюць. Гэта, ведаеце, праз некалькі гадзін. Наколькі мне вядома, дык нават Богу на стварэнне свету сем дзён спатрэбілася. Ды і то, большасць людзей на гэты свет наракае. А тут жа лякарства! Гэта каб каўтнуў таблетку — і за пяць мінут, калі ласка, ужо, як грыб, здаровы. З вопыту ведаю, што адна толькі рыцына, зразумела, калі яе хлябнуць добра, у хуткім часе пагнаць можа. Іншым жа медыкаментам на тое, каб задзейнічалі, шмат больш часу трэба.

А бывае і так, што добрая мамачка сама лячыць дзіця намагаецца. А то на жываце банкі паставіць, а то часнаком натрэ, а то проста ад суседкі таблетак пазычыць: ёй памаглі, то і можа майму малому памогуць. Да лекара? А нашто? Чакала, што само пяройдзе. А на каго ж, пытаем, перайсці мела? На тату, на маму ці на дзедку з бабкай, можа? І не дзіўна, што кабеткам з дыспетчарскай ад няспынных перагавораў часам языкі дзеравянеюць!

А і жартаўнікоў колькі! Пакліча такі дзеля пацехі «карэтку» пад неіснуючы адрас і толькі рукі зацірае, гледзячы, як тая па ўсіх завулках круціцца, знайсці не можа, А што ў тым самым часе да кагосьці з гэтай прычыны спазніцца можа, гэтага ён ва ўлік не бярэ — яму ж самому не баліць.

Часам бываюць зусім смешныя сітуацыі. Памятаю, не маглі мы з санітарам знайсці патрэбны нумар дома. А тут дзядзька прыбягае. «Вось, — кажа, — добра, што нарэшце прыехалі. Ніяк не маглі вас дачакацца. Сюдою, — кажа, — у гэтыя першыя дзверы».

Мы, вядома, у белых халатах, санітар — з чамаданчыкам, я з сумкаю. Заходзім.

Глядзім, па ўсёй кватэры вада плёскаецца, на падлозе дошкі разложаны, каб прайсці можна было. «Дык што здарылася?» — пытаю. — «А вось, вось, на кухні. Гэты вось водаправодны кран, — паказваюць, — сапсаваўся і, што, ні робіш, вада з яго безупынна так і хлешча». А яны, бачыце, гідраўлікаў на дапамогу клікалі і падумалі, што мы гэта. А мы што. Нічога не зробім. Прыйшлося адказаць бедным. Прыпісалі толькі аспірыну пачак пару. Гэта — каб не папрастывалі, ногі прамачыўшы.

Не заўсёды, аднак, бывае да смеху. Жыхарам аддаленых вёсак, паверце, часам зусім бяда. Прыехаць да іх — хуткая дапамога заўсёды прыедзе. Толькі вось ці памагчы здолее? Гэта якраз пытанне. Трэба ж зразумець, што

хуткая дапамога існуе выключна на тое, каб несці людзям ратунак у неадкладных выпадках. Гэта тады, калі хтосьці параніцца, руку-нагу зламае ці звіхне, або калі некага раптоўна моцныя болі схопяць. Лекары хуткай дапамогі не лечаць. Яны толькі аднаразова памагаюць на месцы або адвозяць хворага ў бальніцу. Пералік лекаў, якія яны возяць з сабою, адпавядае толькі і выключна гэтым заданням.

Дарэмна таму ў іх прасіць лякарстваў ад ангіны, запалення лёгкіх ці ад іншых унутраных хвароб. Гэта проста непаразуменне.

А такіх выклікаў большасць. Асабліва да дзяцей. І што тады бывае? Едзе, скажам, «карэтка» недзе ў раён вёскі Зубкі. Як бы ні было, ад Беластока больш за 50 км. Лекар агледзеў дзіця, абстукаў, абслухаў, у роцік зазірнуў. Пасля аднак выпісвае звычайны рэцэпт: калі ласка, тата з мамай, едзьце ў аптэку, даставайце, як хочаце. А дзе ў такіх Зубках аптэка? Аптэчны пункт і той толькі з раніцы дзейнічае. А вечарам нават у Беласток няма чым дабрацца. А калі гэта яшчэ субота або пярэдадзень якога свята?

Кляне тады бацька такі на чым свет стаіць: «І навошта вы мне тут здаліся, навошта прыехалі? Ну ці то я, — кажа, — дзіцяці гэту пісульку вашу каўтнуць даць маю ці як?»

І праўду ён кажа. «Карэтка» напэўна дарма прыехала, туды і назад больш 100 км дарма таўклася, больш за 2 гадзіны дарагога часу змарнавала. Толькі навошта яе наогул клікалі? Ёсць пункты аховы здароўя. У іх лекары. Туды якраз (а не ў хуткую дапамогу) са звычайнымі хваробамі звяртацца трэба.

Бачыце, колькі праблемаў?

І вось толькі тады, калі людзі іх зразумеюць, хуткая дапамога зможа адразу выязджаць да кожнага, каму патрэбна неадкладная дапамога.

А пакуль што пачакайце, любенькія, цярпліва, пачакайце. Бо вашая ў гэтым віна і суседзяў вашых.

## *У госці да суседзяў*

Мы едзем, едзем, едзем... у бок Ваўкавыска, у раённы цэнтр, што ляжыць над рэчкай Зэльвянкай. Едзем не аўтобусам, не цягніком, а на таксі. Таксоўкі ў Беларусі настолькі танныя, што выбіраючыся ўсёй сям'ёй, няма сэнсу таўчыся іншым транспартам.

Наладжваю гутарку з шафёрам. Ведаючы пры тым гасціннасць маіх сваякоў і знаёмых, спецыяльна закранаю так званае «бутэлечнае пытанне». Праходжу, так сказаць, «сухую падрыхтоўку» перад чакаючым мяне пачастункам.

Для нікога не тайна, што п'янства ў шматлікіх дзяржавах з'яўляецца сур'ёзнай грамадскай праблемай. У сувязі з тым, што ў СССР толькі пяць працоўных дзён у тыдзень і людзі маюць больш свабоднага часу, «піць ці не піць», амаль шэкспіраўскае пытанне, выступіла тут вельмі выразна.

І вось дзяржава вырашыла «не піць», альбо піць у меру і нізкаалкагольныя напіткі.

Для нікога аднак таксама не тайна, што прадукцыя спіртнога прыносіць дзяржаве немалы даход. Нягледзячы на гэта, у СССР рэзка абмежавалі продаж алкаголю. Метад найлепшы. Дазволіць сабе на яго можа аднак толькі багатае грамадства.

Не абмежаваліся тут толькі павышэннем цаны ўсіх гатункаў гарэлак ды каньякоў. Скарацілі гадзіны продажу (ад 11 да 19). Прытым папулярныя, танныя гатункі, як «Зверабой», «Белавежская», «Зуброўка» і іншыя, пачалі пастаўляць у крамы ў абмежаваных колькасцях. Раз на нейкі час. Віна затое і лікёраў выбар вельмі вялікі і каштуюць яны надта танна.

Нягледзячы на тое, што гэту апетытную дыскусію мы вялі, так сказаць, «без закускі», па ўтульнай «Волзе» так і насіліся высокапрацэнтныя назвы. За вокнамі замест дарожных слупоў мільгалі, здаецца, каляровыя этыкеткі.

Падчас «кансультацыі» аднаго з новых, даражэйшых гатункаў, названага «Экстра», мой субяседнік выявіў і заключаную ў гэтай назве мараль. «Эх, как стало тяжело русскому алкоголику» — тлумачаць яе на рускую мову.

Яно і праўда. Прытым яно і вельмі добра ды карысна для грамадства.

Таму і мы сустрэчу са сваякамі ды знаёмымі адсвяткавалі адным шампанскім. Коркі стралялі рэдка, жарты сыпаліся густа. Калі што і лілося ракою, дык гэта песні. Калі мяне хто спытае, як мы гасцявалі, адкажу: адмыслова, адным словам «экстра».

## Гаспадар спіць – кабылка сама ведае дарогу

Вядома, рынак. Той прадае, той купляе. У гасподзе таўкатня. Народу — не пройдзеш. Прадаў — барыш трэба выпіць, купіў — абавязкова «спырснуць» трэба.

Спаткаўся з кумам — ну як тут не зрабіць «па адным» за сустрэчу.

А ці мала ахвотнікаў перакульнуць чарку вось проста так сабе, з нагоды рынку!

Укаранілася дурная прывычка. Ты чарку паставіў, дык і я не буду горшы. Ідзе калейка[23] за калейкай.

Калі сцямнее, апошнія фурманкі вяртаюцца дахаты. Шнурком цягнуцца, брыдуць кабылкі. З гаспадароў — хто дрэмле, хто храпе, а хто апошнюю п’яную песню заводзіць.

Фурманкі неасветленыя. Мелі ж удзень дадому вяртацца. Ніхто не думаў затрымлівацца. Само неяк так атрымалася.

Раптам рык матора. Адзін зароў, другі, трэці. Гэта вяртаюцца рыцары вясковых дарог, трактаў ды сцежак. Як злыдні, імчацца сучасныя «каўбоі» на сваіх двух- і трохцыліндравых сталёвых конях. На двух, як кажуць, газах. Лес аддае рэхам. Бліскаюць фары. Праімчаліся, ледзь не зачапіўшы за адну з фурманак, якая з’ехала амаль на сярэдзіну дарогі.

Ізноў цішыня і цёмна навокал. Фурманак не відаць. Час ад часу толькі фыркне каторы з коней. Гаспадары спяць, а коні самі ведаюць дарогу. Як з’явы, плятуцца ўздоўж шашы неасветленыя фурманкі. Часам, калі над шашою сцелецца імгла, выплывае такая, вынырнуўшы з белай ваты, як прывід перад самаходам.

Скрыпяць тармазы. Чуюцца праклёны. Ізноў цішыня. Толькі колы паскрыпваюць. Гаспадары спакойна спяць, забыўшы пра тое, што гэтакім чынам можна калісьці прачнуцца аж на тым свеце. У лесе, як на кепскую варажбу, гукае пугач.

---

23 Калейка (польск. kolejka) – чарга.

## Бяда на голаў

Цяжка, паверце, сказаць, хто даў пачатак гэтай катастрофе. Ніхто да сёння не згаджаецца ўзяць на сябе адказнасць за ўсю гэтую неразбярыху, не толькі што індывідуальна, а нават, падумайце, любенькія, камісійна.

Факт, аднак, застаецца фактам. Вырашылі мы, ведаеце, арганізаваць у нашай гміне «Дзень ветлівасці і добрых учынкаў». Пачалі чын чынам. Ну, разумееце, рэклама, лозунгі, ідэйная падрыхтоўка насельніцтва і г.д. І вось урэшце настаў багаты на падзеі дзень.

Як прынята, распачалі мы ўрачыстай сходкай. Поўная зала народу, стол прэзідыума, мікрафон, буталь з вадою і наогул усё, што мае быць. Нават госці з ваяводства і тыя былі.

І трэба ж, любенькія, што якраз падчас прамовы аднаго з гасцей усю залу патрасло гучнае «а-а-а-п-ч-хі, а-а-п-ч-хі, а-а-п-ч-хі!». Важная асоба на хвілінку замерла, пасля агледзела прысутных і крыкнула: «Хто гэта чыхнуў?». Наўкола ціха, ніхто не зварухнецца. «Прашу па-добраму прызнацца!» — прагучала ізноў. Далей цішыня, толькі ў апошніх радах зашушукаліся. Госць зняў акуляры, упёрся кулакамі ў стол і працадзіў: «Чакаю».

І толькі тады ўзнялася недзе пасярэдзіне залы пагорбленая, худая фігура гміннага бухгалтара Дрыжычкіна. «Я — я гэта, даруйце», — не сказаў, а неяк дзіўна прабляяў бедны, не смеючы нават вачэй падняць.

«Вы? — начальства надзела акуляры і пачало разглядаць панікнуўшага ад жаху Дрыжычкіна. — Вы? Гмм. Ну дык, значыць, вам на здароўе!»

Дрыжычкін як стаяў, так ад уражання і плюхнуўся задам. У ціхай спачатку зале раптам нешта быццам забулькала, пасля, як у кіпеўшай кашы, запырскала і ўрэшце прарваўся гучны здаровы смех. «Цішэй прашу! Цішэй, грамадзяне! — пратрубеў з дакорам начальнікаў голас. — Людзі, здаецца, дарослыя — а ветлівасці звычайнай не разумееце».

Выразнае іржанне перайшло ў паасобныя пыркі, булькнула яшчэ раз і другі, зашалясцела і змоўкла.

Т-а-а-а-к. Як яно, міленькія, пачалося, так і пайшло далей. Ніводзін аўтобус не змог выехаць у пару з нашага прыпынку — настолькі грамадзяне-пасажыры адзін другога ўперад прапускалі. Бабку Чаўпоўскую, якая толькі дачку праводзіла, беручы пад увагу век, сілай усярэдзіну ўпіхнулі, а, калі не хацела лезці, яшчэ каленам паддалі ззаду — да самага Беластока даехала.

У мясной краме каўбаса кракаўская, пэўна, аж да наступнага дня спакойна правісела б, ніхто не рушыўся першым падысці да прылаўка. Прынясло, аднак, аднекуль двух чужакоў, неасвядомленых, камандзіровачных, якія, не зважаючы на лозунгі, хацелі выкарыстаць шанцы... Наклалі ім па карках усёй чаргою — будуць ведаць наступным разам, што ў нас, калі дзень ветлівасці, дык так і мае быць.

Найбольш, пэўна, пацярпеў усё ж наш музыкант Сяргей Юрчынскі. Папрасіла яго, бачыце, замужняя суседка памагчы тапчан у другое месца перасунуць — муж на рабоце, а яна па слабасці сіл адна не давала рады. Хлопец, да мозгу касцей добры, не толькі памог, а яшчэ, як кажуць, і на іншыя добрыя ўчынкі не скупіўся. Было б усё добра, калі б мужык раней з працы не вярнуўся. Давялося хуткую дапамогу клікаць, і, пэўна, разводная справа ў судзе будзе. Дантыст наш, хочучы ў гэтакі дзень таксама бліснуць паштальёну, які газеты прынёс, пакуль той паспеў адгукнуцца, два здаровыя зубы вырваў.

Найгорш за ўсё, што кіраўнічка гасподы[24] з ветлівасці і па дабраце сардэчнай гарэлкаю таго дня таргавала да адказу, і камендант пастарунка, шкадуючы нас і сем'і нашыя, цэлы арганізацыйны камітэт і яшчэ некалькі добраахвотнікаў да самай раніцы ў арышце пратрымаў. Цэлае шчасце, што на наступны дзень было ўжо не свята, і мы яму маглі ўсё, што пра яго думаем, выказаць.

Ва ўсякім выпадку, беручы яшчэ ва ўлік кошты судовай калегіі, якая нашыя справы разглядала, мы вельмі добра зразумелі, чаму гэта ў сённяшні час добрыя ўчынкі сталі такімі рэдкімі, а ветлівасць такой дарагой штукай. Не верыце — паспрабуйце самі.

## Скарбы на сметніку

Кожны чалавек, сябры, як кажуць, дурэе па-свойму. Адзін можа цэлы дзень з вудзільнам прасядзець над рэчкаю, дзеля таго толькі, каб пару саплівых акунькоў прывалачы дахаты. Другому дай стрэльбу ў рукі, і ў лес пусці — два дні не ўбачыш. Іншаму няхай дзяўчо якое пальцам здалёк кіўне, на край свету, язык высалапіўшы, бегчы гатоў.

24 Гаспода (польск. gospoda) – вясковы рэстаран.

Нямала і такіх, якія над чаркай гарэлкі душу адводзяць, забываючыся пры тым часта пра абавязкі, сем'і і свет цэлы. Нездарма ў народзе гавораць: душа, яна меру знае — пакуль ракам не стане, даволі не скажа.

Усё гэта, любенькія, справа густу, як лічыць мой сабака, англійскі сетэр — Бары, аблізваючы свой сыты трыбух і тую якраз ваколіцу, што пад хвастом.

Проста кожны чалавек імкнецца да таго, каб запоўніць свой свабодны час, нейкую пустэчу ў сваім жыцці, чымсьці цікавым, чымсьці, на сваю думку, вартасным. Амаль кожны другі чалавек сёння калекцыянер. Збіраюць паштовыя маркі, старыя манеты, значкі розныя, наклейкі і наогул рознае старое ламачча. Салідныя, здаецца, дзядзькі, вырваўшы скульсці старую жалязяку, гадзінамі яе скрабуць, чысцяць, бляск на ёй наводзяць і ставяць у хаце, жонцы на злосць, а іншым збіральнікам на зайздрасць. Ну і нашто? Карысць з гэтага ўсяго якая, спытаеце? Што яны з гэтага маюць? Т-а-а-к. Паспрабуй адкажы.

Не ўсё бачыце, даражэнькія, на гэтым свеце на грошыкі пералічыць можна. Што аднаму ламаччам непатрэбным, другому — дзіўным скарбам здаецца. Што адзін выкінуць гатовы і не думаючы, другі песціць, галубіць будзе, як дзіцё малое будзе цешыцца. І не зразумець таго ніколі таму, хто не быў калекцыянерам, чыя душа збіральніцкім агнём не гарэла. Вось, на той прыклад, сябра мой, Чыкчырычкін, ступкі розныя збірае. І такія, ведаеце, звычайныя, у якіх нашы бабкі перац, лаўровы ліст і іншае зелле таўклі. Бываюць яны з чыгуну, спатыкаюцца і латунныя — рознай велічыні і формаў.

І трэба ж было даведацца хлопцу, што мае адна цётка ў вёсцы Валілы ступку якраз такую, якой яму яшчэ прыдбаць не ўдалося. Без капейкі, як кажуць, мільён — не мільён. Без аднаго экземпляра калекцыя — не калекцыя. Адразу туды і папёр. А цётачка, а золатца, а хочаце грашыма заплачу, а хочаце млынок вам куплю. Вось гэту толькі ступку мне аддайце. А цётка ад прыроды скупая, з тых, што, як кажуць, вошай у кажуху і тых пералічыць, каменем узяла ўперлася. Не аддасць і ўсё.

Ну, бо мусіць жа штосьці быць у гэтым, калі чалавек за металу кусок грошы добрыя плаціць гатоў. Ну, а калі сябры Чыкчырычкіна, убачыўшы, што таму няшчасная ступка па начах сніцца, вырашылі, каб ратаваць беднага, купіць тую хоць за падвойную цану, — цётка ўпэўнілася, што не абы-які скарб у хаце мае. Пранюхалі, пэўна, штосьці паны тыя, ёсць пэўна

нешта ў той ступцы ўсярэдзіне. Ого! Яе не правядзеш на мякіне. Нездарма яна столькі год каля школы кароў на пашу ганяла.

І вось вечарком, вокны прысланіўшы, вырашылі яны з мужам разведаць тую тайну. Муж рукавы закасаў і спачатку таўкач, а пасля ступку нажоўкай пілуе, сапучы з натугі. Цётка, язык прыкусіўшы, вочы косіць — калі ж тое золата сыпнецца ўрэшце.

А тут пшык — усяго толькі што ў кускі разваліласяступка.

Ніхто яшчэ мары не злавіў у рукі. Думак, пачуццяў, імкненняў не перавёў на грошы. Яны, як тая залатая рыбка, існуюць проста. А ў лапы ўзяць захочаш — перад разбітым застанешся карытам.

## Кіраўнік

Кожны з нас, сябры, мае сваё начальства. Маю і я кіраўніка. У яго свой кабінет, свая пячатка, некалькі дзяцей і свой аўтарытэт.

Казаў я яму «добры дзень» — на прывітанне. Часамі здаралася, што адказваў. Прабаваў першы працягваць руку. Бывала, што нават падасць. Прабаваў я пытацца пра тыя ці іншыя справы. Часамі дзе што буркне, а часамі і не.

Паступовa яго кантакты з працаўнікамі абмежаваліся да аўтарытэтнага маўчання або яшчэ больш аўтарытэтных запісаў у кнізе, якую ў ніякім выпадку не прызначылі для запісвання пахвал... Я цярпеў.

Пайшоў ты к чорту — кінуў я яму калісьці на спатканне. Хацелася, нават, цаною буры, разбудзіць у ім чалавечыя пачуцці. Прайшоў побач, не звярнуўшы на мяне ўвагі. Яго аўтарытэт быў непахісны.

Хто сёння без граху? І мне чалавечыя слабасці не чужыя. Можа, і мне ўдасца ўзлезці ўгору па ступеньках крывой службовай драбіны... З паўлітрам манапалёвай я выбраўся ў кацельню. Качагар Федзька быў адзінаю асобай на прадпрыемстве, з якой кіраўнік падтрымліваў таварыскія адносіны.

У яго прысутнасці мой шэф, закусіўшы селядцом, трымаў даўжэзныя прамовы і з ім абмяркоўваў важнейшыя службовыя справы і перад ім разгортваў перспектывы на будучыню. Федзьку заўсёды здавалася, што кіраўнік гаворыць мудра. «Ну, бо зразумець з гэтага ўсяго — ні хрэна нельга». Нягледзячы на тое, што я яшчэ двойчы ў краму збегаў, то больш нічога

цікавага на гэту тэму даведацца не даў рады. У Федзькі, відавочна, былі таксама свае паняцці пра павагу. Рассеўшыся верхам, ён рассякаў паветра мятлою, час ад часу прыгаварваючы: «Я вас навучу. Я вам пакажу. Вы яшчэ Федзькі не ведаеце. Го, го!! У сябе ў кацельні і Федзька кіраўнік». Та-а-к! Не прапала дарма навука.

Дзеткі кіраўніка «добры дзень» таксама не кажуць. Жонка — калі-некалі. А можа гэта якраз спосаб? Можа неабходныя кіраўніку калектыву якасці трэба цярпліва прывіваць ад калыскі?

Я вырашыў прыглянуцца да шматабяцаючых «пацех». Калі не я, дык мае дзеткі, можа, скарыстаюць?

Раскошныя хлапчаняткі. Гулялі якраз па панадворку.

«Ты пабяжыш па цукеркі! А ты вось пяску навозіш!» Старэйшы размяркоўваў работу. «А ты?» — «А што я? Я тут кіраўніком, здаецца. А кіраўнік, вядома, не працуе, а толькі загадвае, што трэба». Я, здаецца, пачынаў разумець.

Са шкадобаю ўспомніў я яшчэ важнейшага павятовага начальніка. Вечна забеганы-запрацаваны. Безупынна нешта арганізуе. Перад восьмай — ужо заўсёды «на рабоце». Выходзіць таксама пунктуальна. Нават у адносінах да супрацоўнікаў непасрэдны, людскі. Выразная тупагаловасць. Зусім, пэўна, бязглузды. Магутныя, пэўна, меў плечы.

А за акном далей гулялі.

«А ты, шчанюк, выб’еш той дыван, што мне мама казала! А калі не, то я цябе тут зараз! Што, не хочаш? Дык на табе! На табе!»

«Лупі кіраўніка!» — данеслася раптам з панадворка. Я выглянуў:

Мой Ёзік заўзята малаціў кулакамі і з дакладнасцю добрага бухгалтара разлічваў кіраўніка-«юніёра» з незаслужаных пабояў.

Малодшая, Анулька, з дзікім піскам учапілася ў чупрынку «намесніка».

Так, на першы погляд, то тумакоў яны абодвум «кіраўнікам» не шкадавалі.

Так. Так. Гм-м-м???

## Жыў-быў у бабулькі сыценькі бычок

Даглядала бабулька бычка ляпей-лепшага. Даглядала, песціла і падкармлівала. Еж, бычок, рагачок, не шкадуй сабе. Вось вадзіцы папі, папраўляйся мне. Велькі вырасцеш — бакі бочачкай, завяду я цябе ў церам-гарадок. На самую завяду, на мясную базу. Людзям на карысць і сабе не на шкоду. За тваю прыгажосць — ляшкі тлустыя сам класіфікатар-пан гляне ласкава. Першым класам надзеліць — што для лепшых гасцей. І паедзеш ты экстравыбарам. Аж за мора, аж за сіняе. Мне ж сам банку кіраўнік, са скарбу, з дзяржаўнага, на маю кніжачку, на ашчадную, добры грошык прыпіша сваім шчодрым пяром. Добры грошык прыпіша, не шкадуючы: за клопаты мае – працу цяжкую. Што цябе даглядзела я — брыкуна рагатага. А ты еж, бычок — варушы ляпаю. Ужо дзед-сусед табе корм вязе; не звычайны корм, а гэзсаўскі. Вялікай вартасці, з вітамінамі. Ну і з’есць бычок. З’есць — аблізацца. А вадзічкі пап’е — жвачку жвакае. Шэрсць густая блішчыць шоўкам-атласам. Бакі круглыя бочкай пучацца. Разышліся ўшыр — не абняць абручом. Шкура цесная ляжкам гладзенькім. Нарасло на іх мясца цэннае.

І даспеў наш бычок так, як яблычак. Цэлы ззяе аж — медалём лосніцца. Нецярплíва б’е ў зямлю ножкаю. Ужо пара яму на дзяржаўны торг.

Устала бабуленька рана-раненька. Выламала ў кустах хварасціну доўгую. І пагнала бычка хварасцінаю ў той сам, што ні ёсць церам-гарадок. На пункт скупу той — да класіфікатара.

З хаты выбег бычок — хвост угору задзёр. Не баюся я падарожжа таго! А дарога вядзе полем-горкаю. Па калдобінах, дзірках, ямінах. Не вярста і не дзве — было лепей у хляве. Усё бяжыць і бяжыць — ні тут есці, ні піць. Бакі ўпалі, хвост абвіс, шэрсць каўтуніцца. А за ім бабулька ззаду і ледзьве топае. Пяткі ўсе панацірала, і хварасціну абламала, хустка спаўзла, і ў роце суха, ледзьве ўжо ідзе.

Урэшце церам-гарадок той і пункт скупу ўжо. Толькі што ахвотных многа, уся застаўлена дарога, то бычкамі, то свіннямі, то фурманкамі. Усе чакаюць, наракаюць, пункт клянуць і пазяхаюць. Сталі ў хвасце. Хвост, як хвост дохлай кабылы — што гадзіну раз кіўне. Наш бычок заснуў амаль ды й бабулька дрэмле ўжэ. А тым часам пункт працуе, тое купіць, тое не, той, хто дасць, таму шанцуе, хто не дасць — назад вядзе. Стаў і наш бычок

на вагу, ведае павагу хвілі. Лоб угору задзірае, хоць ад стомы ўніз хіліць. Махнуў пан ацэншчык вокам, шчупнуў тут і мацнуў там, мухі падаюць ад хуху, наш бычок аднак стрымаў. Гэты не — сказаў урэшце, уся будова не таго. Праўда, мае вагу бестыя, вага ўсё ж не ў аднаго. Можа ў трэці клас я б яго яшчэ прыняў. Чыстае нахабства гэта — больш жадаць, калі не даў.

Паслухалася бабуля, той парадзіў, той шапнуў. Праз гадзінку наш «рагачык» ізноў кіруецца на пункт. Толькі ўжо цяпер не той ён. Асцярожна ставіць ногі. Як калядная ялінка, пазавешваныя рогі.

На адным рагу паўлітра, звоніць, дзынькае і маніць. На другім — кружок каўбасы дымным пахам нос дурманіць. А каб не было замала (папу плацяць нават у пост), упіхнула наша бабка адну соценьку пад хвост.

Вось цяпер-та першы клас. Твар ацэншчыка аж ззяе. А бычка тым часам сперла, жывот пучыць, надымае.

Вось схавалі ўжо бутэльку. Хто і дзе — не адгадаеш. А бычка ўсё болей пучыць, а бычка ўсё надымае.

Нашу бабку ўсе хваляць, трэплюць лапай па плячу. Не агледзелася нават, як сцягнулі каўбасу.

Мае вагу так як трэба і такі як трэба рост, заявіў класіфікатар і зірнуў бычку пад хвост. А там соценька застрала, не туды і не сюды, сперла бедную скаціну, хоць ты лопні, хоць ты вый.

Пацягнуў за хрусткі скрутак, ураз палегчала бычку. Колькі мыўся пан ацэншчык, пэўна, ясна чытачу.

## Чаму ў каровы хвост уніз расце?

Іду я сабе спакойненька ў малочны бар — перакусіць, калі тут мяне хтосьці хлясь па плячы. Зірнуў — дзядзька ў акулярах, жывот бочачкай.

— Што, — кажа, — не пазнаў, мусіць? А я ж — Пшчынскі, Ёзік. Ну той, што з табою на апошняй лаўцы ў пачатковай школе сядзеў. Матэматыку ў цябе заўсёды спісваў.

— Ага! — сцяміў я ўрэшце. —Хоць, ведаеш, калі б не сказаў, не пазнаў бы. Нічога, не бяда. Гады ідуць, чалавек расце. Я часамі нават сам сябе не пазнаю.

— А куды гэта ты тупаеш?

— Вось паесці сабраўся.

— Во як добра, бо і я. Разам і паабедаем, старыною трахнём. Сядай, паехалі!

Невядома калі мяне каўтнула чорная «Волга».

— Дуй у рэстаран, — кінуў Ёзік шафёру. Паплылі.

У рэстаране Ёзік загадваў далей.

— Нам, — кажа, —жытнёвачкі бутэльку, піва лепшага, калі ёсць, два разы адбіўную. Ну і чаго б ты яшчэ хацеў?

Нервозна перабіраю ў кішэні дробныя ды паперкі. Больш 100 злотых не набярэцца. Можа не хапіць.

А Ёзіка я ўжо ўспомніў. Сыценькі такі, заўсёды добра апрануты, ён, і праўда, са мною за адной лаўкай сядзеў. Галава ў яго самога варыла слаба і мы, вясковыя хлапчукі, за цукеркі, якіх ён не шкадаваў, ахвотна яму давалі спісваць і матэматыку, і фізіку, і наогул усё, што трэба. На дзіва нам усім, ён лёгка паступіў у сярэднюю, а пасля і ў вышэйшую школу. Нават я, найлепшы, здаецца, вучань, меў цяжкасці. А яму ўсё само давалася.

— Ты ведаеш, — кажу, — навошта нам заказваць столькі. Я спіртнога не надта, ну і дома паеўшы. Можа вось так што лёгенькае перакусім, пасядзім, пагутарым ды і разыдземся кожны ў свой бок.

— А ты не таго. Не бядуй! — Ёзік на тое. — Столькі год не бачыўшыся, бутэлечку распіць не грэх. Ну, і вядома, што на мой кошт, я ж запрашаў. Расказвай лепш, што ў цябе. Што робіш, дзе працуеш? Бо я, як бачыш, у дырэктарах. Усе, так сказаць, плады-ягадкі ў вобласці да мяне належаць. Уся кантрактацыя, купля, перапрацоўка. Справа во! Людзям добра зробіш, яны і цябе не пакрыўдзяць. Асабняка майго не бачыў? Шкада. Палац, браток, не домік. Ну, а што ў цябе?

— А ў мяне што быць можа? Я чалавек звычайны. Выкладчыкам беларускай мовы працую. А пасля працы ў дакументах старых корпаюся і літаратурных матэрыялах. Некаторыя пытанні апрацоўваю. Рыхтуюся да дактарату.

— Эх! І яшчэ ж найлепшым вучнем калісь лічыўся! Вось што значыць марнаваць здольнасці. Таксама цябе паперла. У настаўнікі. Ды яшчэ беларускую мову выкладаць?! Калі б яшчэ матэматыку, ці нешта падобнае. Пальнуў бы пару двоек — і ўжо бацькі з кошычкам бягуць. З адной зарплаты, браток, сёння не пражывеш!

Ёзік са смакам перакульнуў чарку і, закусваючы, цягнуў далей:

— Пераходзь ты лепей да мяне працаваць. Што? Раскоша — ведаеш. Пункцік скупу табе выбярэм што трэба. Тут не даважыш, там не дамераеш — будзеш жыць. Камбінацыя, браток, толькі камбінацыя ў сённяшні час стварае адпаведныя ўмовы. А хто не хоча, альбо не ўмее, таму само жыццё камбінацыю з трох пальцаў, фігу значыцца, пад нос падсуне. Ну як, згодны?

— Не,— кажу, — не па мне гэта. Не дам я рады. Прывык я, ведаеш, да сваё працы і, што дзіўнейшае, прывык нават жыць на сваю зарплату. Скромна то скромна, але спіш спакойна.

— Дурніцы гародзіш, — абурыўся Ёзік. — Ніколі не зразумею. Даюць такому, як ты, чалавеку, здаецца, магчымасць скарыстаць, разгарнуцца, зрабіць, як кажуць, кар’еру, у рай за вушы яго цягнуць, а ён — не! Пры сваёй бядзе ўпіраецца. Ну, чаму? Дзеля чаго? Дурная рыба і тая, здаецца, шукае, дзе глыбей. А тут вось чалавек.

Тут мяне ўжо кранула.

— Нічога ты, — кажу, — і не зразумееш. Пляцеш толькі абы-што. Ну якая ў мяне бяда? Не горш за іншых жыву, дзяцей гадую. Ясна, што асабняка не пабудую ды «Волгай» не буду раз’язджаць. Ды і на хрэн мне гэта здалося? З часам, аднак, і я які скромны чатырохколавы транспарт набуду, не сумнявайся. Гэта — па-першае. А па-другое, ці ты мне можаш, Ёзік, вытлумачыць, напрыклад, чаму ў каровы хвост уніз расце?

— Ну, як гэта ўніз? Пэўна, што не ўгару, — здзівіўся той. — І няма што тут тлумачыць. Проста — расце і ўсё.

— Вось і бачыш. Мне таксама табе тлумачыць няма чаго. І так не зразумееш. Я проста такі і ёсць. Звычайны, працоўны чалавек. Такім быў, такі цяпер, такім хачу быць і такім ужо застануся. Не магу іначай, і ўсё.

— Тады табе ад жыцця столькі, колькі з-пад хваста і будзе, — злосна буркнуў Ёзік.

Падбег афіцыянт. Ён чамусьці падумаў, што яго клічуць. Мы расплаціліся па палове. Ёзік залез у «Волгу», а я пайшоў на аўтобусны прыпынак. Кожны ў свой бок, кожны сваім шляхам.

Нядаўна я даведаўся, што жыццё падсунула Ёзіку не прадбачаную ім камбінацыю. Камбінацыю з некалькіх жалезных прутоў, крыж-накрыж, ды моцнага замка на дзвярах. Памясцілі яго, так сказаць, у адпаведныя

ўмовы. Бываюць жа ж фокусы? Нездарма «Волга» — хвалёная машына. Глядзі, куды завезці можа!

## — Ало, Маня, — гаворыць Ганя

Не паверыце, любенькія, ліха яго ведае, што гэта сёння на свеце творыцца.

Разбэсціўся, скажу вам, народ. Усе пруцца некуды, дабіваюцца нечага!

Калісь, памятаю, найскрамнейшага чыноўніка спаткаўшы, селянін хуценька шапку здымаў і, у кулаку тую сціснуўшы, стаяў пакорна, галаву пахіліўшы, пакуль начальства міма не прайшло.

А цяпер проста сумлення не маюць! Мовы няма, каб далі якой паненцы ў бюро манікюр зрабіць, каву выпіць спакойна ці журнальчык з модамі, скажам, пагартаць з гадзінку.

Лезуць з нейкімі сваімі справамі, паперынамі.

Сам я быў нядаўна сведкам. Заходжу, ведаеце, у гміну, а дзень кірмашны, так што перад сакратарыятам[25] ужо чарга стаіць.

Сакратарка тым часам, свядомая павагі сваёй пасады і адказнасці сваёй працы, нават і не думае звяртаць увагу на ўсялякую там чалавечую драбязу. Адразу кідаецца ў вочы, што яна сюды дзеля вышэйшых ідэйных мэт пастаўлена. Цераз прыадчыненыя дзверы відаць увесь амаль містычны цырыманіял яе заняткаў.

То ў люстэрка зірне — ці лінія броваў адпаведна падкрэслена і пульхныя губкі колеру не страцілі. То грэбенем, бы вяслом па хвалі, па валасах праедзе. Паперы з аднаго стала на другі перакладзе. Выпешчанымі пальчыкамі шклянкі ператрэ, каву заварыць і панясе куды трэба. Урэшце за тэлефон узялася.

— Ало! Ало! Маня? Тут Ганя. Што там у цябе, золатка, новенькага? Наведвальнікі галаву марочаць? Не бядуй! І ў нас іх тут з паўкалідора. Нічога. Не заплеснеюць, пастаяўшы — сабака іх нюхаў, паразітаў надаедлівых. Ало! Ало! Што ў нас? Паняцця не маеш, навін колькі!

— Перш за ўсё — Валька Круцінская, ведаеш, рудая тая. Так. Так. З задам тоўстым. Замуж выходзіць. Што? Не, не. Не за Толіка. Той яе даўно раскусіў. За беластоцкага нейкага. П’яніца, кажуць, добры.

---

25 Сакратарыят (польск. sekretariat) – прыёмная.

— Пэўна. Пэўна. Для яе гэта шчасце. Так, так. На чаргу запісаліся...

Тут дзядзька адзін, чалавек ужо старэйшы, не сцярпеў, галаву ў пакой прасунуў. Узмаліўся:

— Любенькая! Прыміце ж вы ўрэшце мае паперы. Колькі мне тут яшчэ калом тырчаць пад дзвярыма? Чаго добрага, яшчэ карэнні запушчу — ўрасту ў падлогу. Змілуйцеся, прыміце, калі ласка.

Тая глянула на яго гідліва, бы на жабу якую, тэлефонную трубку рукой засланіла.

— Вы гэта куды? — пытаецца. — Тут вам што — кірмаш, ці дзяржаўная ўстанова? Пачакайце спакойна, пакуль не паклічуць. Бачыце — наперла, лезе адзін з другім, як у хлеў, не прымерваючы; парадку не ведаюць!

— Ало! Ало! Маня? На чым я скончыла? Пагаварыць, бачыце, не даюць нават. Так. Так. Разумею. Ага...

— А Пасвісцінская, ведаеш, тая худая, з першага пакоя, «бананавую» спадніцу па самыя пяты купіла. Як што? Круціць задам, бы млынком — цешыцца, малпа, што крывыя ногі засланіла...

Дзядзька тым часам, той самы, ізноў у сакратарыят улез.

— Ну перастань жа ты, — кажа, — дачушка, балбатаць урэшце! Людзі чакаюць, а яна тут сабе, бачыце, ляп і ляп, зусім, як тая цёлка хвастом, мух адганяючы. Капіцу збожжа баба змалаціла б, калі б ёй хто цэп да языка прывязаў!

Ой і пачалося, браткі, пачалося! Дзеўка енчыць, дзядзька кулаком па стале б'е, пугу з-за халявы даставаць пачынае!..

— Не дзеля вашай, — крычыць, — прыемнасці існуюць канторы, тэлефоны! Затое вам, шэльмы, плацяць, каб грамадзянін мог хутка і без ніякай валакіты свае справы аформіць!

Жах, адным словам. Уцёк я адтуль, не аглядаючыся.

А вы самі падумайце: ці ж не нахабства гэта патрабаваць, каб панкі ў канторы наведвальніка чалавекам лічылі і ягоны час шанавалі? Няўжо ж і сапраўды ўсе ўстановы дзеля выгады звычайных грамадзян існуюць? Т-а-а-к. Выразна разбэсціўся народ, міленькія. Пачаў, як бачыце, свайго дамагацца!..

## *Панкі і панечкі*

Даўно ўжо, міленькія мае, мінулі часы Вялікай Рэвалюцыі. «Бі яму морду, акулярніку, інтэлігенту паршываму», — разлягалася тады часценька на вуліцах.

Сёння ў інтэлігенты ўсе так і пруцца. Хто навукаю, працаю, удасканальваннем самога сябе, а хто проста, локця, кулакоў не шкадуючы, уціскаецца цераз усялякія шчылінкі, крывыя сцежкі-дарожкі, — вядома, лягчэй.

Большасці чамусьці здаецца, што ўжо адна адукацыя, адзін, так сказаць, дыплом-паперка ў руцэ дае права лічыць сябе чалавекам інтэлігентным. Іншыя атаясамліваюць гэтае паняцце з моднай вопраткай, прыгожай кватэрай, уласным аўтамабілем — з адпаведным узроўнем жыцця, значыцца. Нямала і такіх, урэшце, якія лічаць, што калі ўмеюць, адтапырыўшы мезенец, каву гадзінамі сёрбаць, папяросны дым кругамі пускаць і вывучылі на памяць жменю-другую малазразумелых слоў з «Малой энцыклапедыі», то ўжо Бога за бараду схапілі!

Колькі мне не даводзілася спатыкаць людзей сапраўды вартасных, пісьменнікаў, прафесараў, выдатных спецыялістаў, цэненых рабочых, — ніводзін з іх ніколі не падкрэсліваў сваёй важнасці, не цураўся басаногага часта дзяцінства.

Наадварот. Адзін з маіх сяброў, напрыклад, вядомая ў навуковых колах асоба, часценька ўспамінае, як гэта ён калісьці на выгане за вёскаю авечак пасвіў, печаную ў попеле бульбу ўмінаў, а свет шырокі толькі ў марах бачыў...

А вунь недавучкі ўсялякія, тыя якраз, што нічым пахваліцца не могуць, тыя зусім іначай... Пяткі яшчэ ў гнаі, як кажуць, а носа ўжо кулаком не дастанеш.

Вучыў, успамінаюць у маёй вёсцы, калісь пры цары яшчэ адзін селянін сына ў гімназіі. Ого, браткі! Тады гэта не абы-якая справа была і не абы-якія кошты! Ва ўсім сабе адмаўляць трэба было, каб дзіцятка любае магло, як гаварылі, у людзі прабівацца.

І вось сыночак, гордасць бацькава, сонейка маміна, на Каляды з тых далёкіх школаў вярнуцца мае.

Нацягнуў тата валёнкі, кажух на плечы накінуў, упрог гнядую ў сенам вылажаныя сані і паехаў да чыгункі, дарагога госця спатыкаць.

А як жа — прыбыў. Выходзіць з цягніка паўпанак малады ва ўсёй красе, гімназістаў тады форма абавязвала — гузікі на шынялі пабліскваюць, чуб бялявы фуражкай з лакавым казырком прыкрыты.

Ад радасці стары аж праслязіўся. У абдымкі схапіў першароднага. У буфет за руку пацягнуў.

— Хадзем, з дарогі, — кажа, — гарэлкі перакульнём па чарцы. Яно, ведаеш, на мароз вельмі добра. Сам, сынок, вып'еш — мяне пачастуеш.

У буфеце ж тым часам кампанія што трэба. Купцы, ураднікі, ёсць некалькі паненак... Куды тут земляробу?

Наш гімназіст замяўся, на валёнкі, кажух бацькоўскі зірнуў, няёмка кашлянуў і заўстыдаўся.

— Вы возчыку майму, каб не замёзр, падайце чарку, — уголас папрасіў...

Дзядзька спачатку аслупянеў. Пераступіў з нагі на нагу. Пасля нашчадка згары ўніз агледзеў і за халявай пугу мацануў. Вусаты твар крывёй наліўся... Дык, значыць, возчык я табе, шчанюк? За тое, што ты маім потам, працай карыстаўся?

І пацягнуў... той пугай... раз, другі і трэці, пры ўсіх панах тых і паненках, па тым мундзіры, па шынялі — у кут паляцела гімназічная шапка.

Вось каб сёння так... па тых, хто мову родную і тую ўжо забыўся!

## Паляванне на «бізона»

Бяжыць, калісьці, любенькія, дзевяцігадовы Славік, хлапчо шустрае, па дзернякоўскай вуліцы і раптам прыстаў, як у зямлю ўкапаны. На камені пры дарозе рассеўся дзядзька Сарачынскі і плача. Вось, дзіва. І яшчэ дарослы, мужчына. Бо сёння і бабы не вельмі так, ведаеце, плакаць хочуць. Калі ён аднойчы суседавай Мані жывую жабу ў кошык з ягадамі палажыў, дык тая, бачыце, замест крыкнуць з перапалоху і слязьмі заліцца, так яго гэтым самым кошыкам па вуху хапіла, што пару дзён у галаве, быццам пчолы бзыкалі.

А тут, мужчына. У салдатах, кажуць, быў нават.

— Дзядзьку! Дзядзьку, а вы чаго гэта?

— Ой Славічак, Славічак, не зразумець табе, малы ты яшчэ, — заенчаў старэнькі. — А мне ўжо, бачыш, сіл не хапае, замучыў мяне, сынок, сельска-

гаспадарчы гурток з Гарадка. Мне ж не трэба, золатца ты маё, ад іх адразу «Бізона»[26], скажам. З мяне і меншага звера даволі. Каб толькі здабыць, так каб і авёс быў, і жыта, а цяпер балота яшчэ няскошанае стаіць. Сам ніяк не дам рады. Мне ж даўно за семдзесят пераваліла.

Славік насцярожыўся.

— Ой, паблыталі, вы, дзядзечка, нешта, паблыталі. Ну які вам, скажыце, бізон у балота, а тым болей у авёс палезе? Яны на прэрыях водзяцца, ім падавай прастор. Вось там на іх чырвонаскурыя і палююць. Вы кніжку пра Вінету, правадыра індзейцаў, чыталі?

— А дзе там, Славічак, калі? Я пастановы пра тое, што сельскагаспадарчыя гурткі ў першую чаргу старым і адзінокім памагаць маюць, і тыя перагляпуць паспеў толькі.

— Вось, бачыце. І скуль вам што ведаць? Індзейцы, яны за бізонамі на мустангах, бягом.

— А ты думаў, я што? Ну, праўда, я не мустанга там якога загранічнага, а вось «Камара», нашага, свойскага, матаролер, на смерць заганяў, дыспетчара, старшыню гуртка і трактарыстаў па межах ганяючы.

— Дзядзечка, — не ўгамоньваўся Славік. — А вы б можа спосаб з пераадзяваннем спрабавалі? Гэтакі індзеец часамі шкуру звярыную на сябе напяльваў, мацаваў на галаве рогі і скрадваўся, хітрасцю дзейнічаў, як кажуць.

— І не гавары, Славічак, нават. Было, усё было. І з пераадзяваннем, і з раздзяваннем нават. Тут, ведаеш, адзін, браток ты мой, усіх чатырох дачок у адных купальных касцюмах размясціў у стратэгічных, як кажуць, пунктах. Ну, пры ўездзе ў вёску, значыцца, на скрыжаванні дарог, ды і пры бабцы-самагоншчыцы, вядома. Усе сабакі вясковыя ад брэху мала не падавіліся, вароны пазляталіся з усяго наваколля, а трактар ніводзін не стрымаўся.

— Ну, гэтак вы. А вось у Меляшках, любенькі, хлопцы суполку арганізавалі. Такім, вядома, помач усялякая па праву, належыцца. А гурток сельскагаспадарчы ў іх у Бялевічах. Тым проста раз'яснілі. Суполка, кажуць, дык суполка. Вас траіх, дык адзін за плуг, а двое ў плуг упрагайцеся.

26 «Бізон» – марка збожжаўборачнага камбайна польскай вытворчасці.

— А найсмяшнейшае, Славічак, тое, што ў каго касілка свая, а ў нашай вёсцы іх з дзесяць будзе, адна матаровая. І пры тым, гэтым у першую чаргу гурткоўцы пакасілі. Гэта, каб яны сваімі сіламі не паспелі, даход каб не прапаў. Ну, бо тыя, што і не маюць чым, не дзенуцца нікуды, раней ці пазней у ласку прыйдуць.

— Такія, бачыш, справы. А чаму плачу? Ну, бо восень ужо. Амаль усе парабілі. Яно так. Калі, аднак, падумаеш, што ў наступным годзе ізноў гэтакія мытарствы будуць, то слёзы самі так і цякуць, ручаінамі, безупынку.

## А хто ж майго коніка, хто ж напоіць?

Іржаць сабе, вядома, па стайнях яшчэ гнядыя, сівыя і ў яблыкі кабылкі. Шторaз часцей, аднак, праносяцца па вясковых дарогах, дым з-пад хваста пускаючы, сталёвыя жарабцы. Усялякія там, ведаеце, «Масквічы», «Вартбургі», ці іншыя «Трабанты» або «Фіаты».

Вёска велізарнымі крокамі горад па ўзроўню жыцця даганяе, праўда, сіл і поту не шкадуючы.

Узнікаюць аднак, разам з тым і штораз то новыя патрэбы. Ну, бо паставіць, скажам, такога, гумаю падкутага ад бяды і ў тым самым хляве можна было б. А вось аўсом і вадзіцаю ён, на жаль, не абыдзецца.

Забягае, бывае, сусед да суседа. Даражэнькі, міленькі — амаль на каленях моліць. Паратуй, нацадзі літр-другі жоўценькага, бо проста да сценкі прыперла — вось-вось госці прыехаць маюць.

А адкуль жа я табе сёння — сусед на тое. Малацьба ў нас учора ішла — да апошняй капелькі ўсё асушылі. Селядцоў вось з кілаграм засталося — хочаш бяры.

Ды што ты, што ты — махае той рукою. Чым за сталом прыняць — я заўсёды дастану. Я вось, ведаеш, гасцям насустрач да аўтобуса выехаць захацеў, да хаты іх падкінуць, а тут гляджу — бензіну няма. Мне толькі літр-другі. Мая бардовая, «Шкода», значыцца, сам знаеш, адно лепшым, жоўтым харчуецца — а дзе тут купіш, калі ў Гарадку толькі сіні прадаюць.

Ясна, — чухае сусед патыліцу. Нязручна. А ты вось што, кажа, паспрабуй яшчэ забегчы да старой Варфаламеіхі, ну да той, што гарэлкаю калісьці гандлявала. Казалі, што накупляла каністраў і бензін лепшы, вядома,

на бутэлькі прадаваць збіраецца. Тое самае заробіць, а міліцыя прынамсі ганяць не будзе.

Так, што, браце ЦПН, — трымай вуха востра! Наладжвай хутчэй у Гарадку продаж высокаактанавага бензіну, бо чаго добрага, сапраўды пачнуць ім бабкі па патаемках гандляваць — бо і выгадна, і бяспечна, і пры тым закускі не вымагае.

## Халадзільнік з фокусам

Я заўсёды, даражэнькія, люблю панаракаць на страшэнную нудоту сённяшняга механізаванага свету. Ну бо ва ўсіх, скажам, газавыя пліткі, і ўсе яны гараць. Ва ўсіх тэлевізары, і ў кожным, калі схочаш, праграму паглядзіш. Калі ў каго швейная машына, дык адразу вядома, што шыць будзе, а калі халадзільнік, дык будзе марозіць.

Усё штодзённае, ва ўсіх аднолькавае, вытаптанае, наперад запланаванае, — адным словам — нудота.

І вось аднойчы мне, ведаеце, пашанцавала. Зусім выпадкова мне прыйшлося прыдбаць механічную прыладу з выразнай індывідуальнасцю. Халадзільнік — але не звычайны, а халадзільнік-цуд, халадзільнік — мару кожнага сучаснага інтэлектуала.

Купляючы гэту бляшаную скрыню, я і не думаў нават, на якую вышыню ў таварыскіх адносінах я, дзякуючы яму, уздымуся.

Ну што ж, купіў я яе, прывалок дахаты, уключыў куды і як трэба, а мае жонкі як не было, так і няма. Пабег я па Перхацінскага — трэба ж камусьці новым набыткам пахваліцца.

По дарозе, вядома, прыхапілі паўлітра, піва бутэлек пару. На стол, зразумела, чаркі, а піва ў халадзільнік — няхай стыне. Чокнуліся мы раз і другі, калі раптам штосьці як не стрэльне!

Трэснуў я кулаком у спіну Перхацінскага, які ад перапуду селядцом папярхнуўся, і хутчэй да піва лезу: — няхай пап'е, бедны. Калі гляджу, а з усіх бутэлек капсулі паадскаквалі, і піва, замест стынуць, спакойненька сабе кіпіць-булькае. А тут, як на злосць, яшчэ званок у дзверы. Хітрынскі ўвальваецца, пранюхаў, падла, што ёсць да чаго прысесці. І раптам мне прыйшла ў галаву ідэя.

— Ведаеце што, — кажу, — халоднае піва гэта паскудна, усе так п'юць, даўно гэта выйшла з моды. А ці вы калі грэтае, з цукрам і яечным жаўтком каштавалі?

І адразу мяшаю, боўтаю — ратую сітуацыю. Бачу, пасмакавала.

Так і пачалося. Калі мы на другі дзень пачаставалі Цікавінскіх крутымі яйкамі проста з халадзільніка, пайшлі чуткі па ўсім горадзе. Ад гасцей адбою не было.

Зайздрасцінскія зваліліся якраз падчас чарговага рамонту. Ну, бо трэба вам ведаць, што цаца наша была на гарантыі, і майстры да нас штодзень акуратна наведваліся.

— Ну, цяпер, пэўна, будзе марозіць,— яхідна заўважыла Зайздрасцінская.

— Можа і так, — гавару скромна і запіхаю ў бляшанае нутро кілаграм селядцоў.

І ўявіце сабе, не мінула яшчэ паўгадзіны, калі бачым, а па ўсёй кватэры сівенькі дымок сцелецца. Я за дзверку, вокны насцеж, а пасля проста на стол свежую вэнджаную рыбку! Фурор, адным словам.

Альбо Бывальская, скажам, тая з сынком Ёзікам да нас прыйшла. Яе, вядома, нічым не здзівіш. Усюды была — усё бачыла.

— Дайце я, — кажа, — у вашым халадзільніку малако скіпячу малому, чула, што ён грэе адмыслова.

Ну што ж, калі ласка. Яна па тое малако, а дзверкі ні з месца. Тузанула мацней, а тут дзіва. Адзін лёд наўкруг — ручка толькі ад каструлькі тае тырчыць. Аслупянела баба!

А я, каструльку тую сякерай вырубаўшы, марожаным малочным малога частую, падвойную порцыю яму на талерку — а ў сэрцы ўсё аж спявае.

Хутка чуткі пра арыгінальнасць, незвычайнасць нашага быту дайшлі аж да Варшавы. Прыязджалі журналісты, з'явілася і тэлебачанне. На сходах, мітынгах і ў друку мяне не называлі іначай, як «наш агульнавядомы»...

І ўсё сапсавала мая жонка. А шчыра кажучы, дзядзька яе, Кандрат, які з вёскі прыехаў.

— Што, — гаворыць, — халадзільнік? А які ж ёлуп у такім выпадку на гарантыю ўглядаецца? Тут пакуль красуля разы два не рыкне, толку не будзе.

— Якая зноў красуля?

— А звычайная, з банка, соценька чырвоная.

Паслухалася, на маю бяду, дурная баба. З той пары, што я б не паклаў у халадзільнік, той звычайна марозіць. Зусім звычайна, як ува ўсіх людзей, на ўсім свеце. Ніхто больш не цікавіцца намі — ізноў мы ў шэрым натоўпе расталі.

А жонка яшчэ цешыцца!

Вядома, мяшчанка!

## Як чэрці свіней у балота зацягнулі

Ціха вечарам у вёсцы. Сонца ўжо схавалася за горкаю. Жывёла даўно прыгнана з пашы. А на дварэ цёпла, прыемна, хоць цэлую ноч сядзі перад хатаю. Сабраліся дзеці каля дзядзькі Рыгора і давай прасіць:

— Дзядзенька, дзядзенька, раскажы, як гэта табе чэрці свіней у балота зацягнулі.

— Самі вы чарцяняты, — буркнуў Рыгор. — Вы лепш скажыце, хто гэта мне ўсе яблыкі паабрываў.

— А вы, дзядзенька, не маніце, — уступіўся за ўсю кампанію Рыгораў пляменнік Валодзя. — Зусім не ўсе, мы вам яшчэ добрую палову пакінулі.

— Ну, я вас тут усіх зараз!

— Дзядзенька, нельга так, — запішчалі дзеці. — Вы ж асвету тармозіце. Мы ж гэта не так сабе, а для дабра навукі.

— А гэта што зноў за навіна? — у Рыгора аж вусы падняліся ўгару.

— А так, дзядзенька, — пачаў Славік. — Усе ж ведаюць, што вы нейкія новыя віды разводзіце, і што яблыкі ў вас — проста дзіва. Вось мы і рашылі па-навуковаму і планава завесці ў сваіх садах вартасныя яблыкі. Ну і ў першую чаргу нам трэба ж было пераканацца, якія там у вас больш смачныя, гэта, значыць, больш вартасныя.

— Ох вы, гарэзы, працаўнікі навуковыя! Навуку ж галавою, а не жыватом асільваць трэба! Ну, нічога. На гэты раз прабачу. А цяпер сядайце. Раскажу, як я ў пана свіней пасвіў. Толькі глядзіце, каб у мой сад больш не лазілі.

Даўно гэта было. Быў я тады маладым хлапцом. Захацелася мне жаніцца. А дзяўчына ў мяне была — проста мара. Доўгія косы, вочы, як васількі сінія, а сама стройная, як бярозка ў полі. Ну, вы ж жонку маю, цётку Алесю,

усе ведаеце. Цяпер гэта яна з гадамі крыху пахілілася, але ў той час ва ўсёй акрузе другой такой не было. А цяпер і зусім ужо няма дзяўчат такіх — нядужая нейкая моладзь пайшла. Ну — на чым я там скончыў? Ага! Вось і спатрэбіліся мне грошы на вяселле. Кінуўся я туды-сюды — няма скуль іх узяць. Трэба было да пана ў парабкі наймацца. А пан у нас быў скупы-скупы. Працавалі мы ў яго з раніцы да вечара, а грошайараблялі столькі, што кот наплакаў. Бачу, што такім спосабам я да смерці на вяселле грошай не назбіраю і пачаў думаць, як тут пана абмануць. Ну што ж, пасу панаву жывёлу. З аднаго боку балота, з другога — дарога. Гляджу, гоняць па дарозе гандляры жывёлу ў мястэчка. Затрымаліся побач са мною. Пытаюцца, мо свіней ім прадам. Пачухаў я патыліцу і раптам прыйшла мне ў галаву думка. Добра, — кажу, — прадам, толькі без хвастоў. А ім што з хвастоў — яны ж жывёлу на мяса куплялі. Узяў я ад гандляроў грошы, паадрэзваў свінням хвосцікі. Гандляры пайшлі, а я тым часам хуценька залез у багну, панатыкаў іх то там, то сям па балоце і бягом да пана. Паночку! — крычу здалёк. — Бяда, бяда страшэнная здарылася. Чэрці, — кажу, — рагатыя з балота павылазілі, жалезнымі віламі свіней нашых у трыснёг загналі і тыя, бедненькія, усе патапіліся, толькі хвосцікі тырчаць!

Усхапіўся пан і бягом на балота. Адразу так і злавіў за адзін хвосцік. Крычу яму: асцярожна, бо можа адарвацца. Дзе там. Тузануў і хвост у яго ў руках застаўся. Тарганý за другі — тое ж самае. Так і ўсе хвасты павыцягваў. Лаяўся пан доўга і сярдзіта, але што ж парадзіш супроць нячыстай сілы. Пайшла чутка аб гэтым здарэнні па ваколіцы. Да сённяшняга дня людзі тую багну здалёк абмінаюць — чарцей баяцца. А нам з Алесяй грошай на багатае вяселле хапіла.

Дзядзька Рыгор закончыў, устаў з лаўкі і, смеючыся, дадаў:

— А вам што? Свіней пасвіць вам не трэба, у школу ходзіце, у суседскіх садах навуковаю працаю займаецеся — чарцяняты. Ну! Бягом спаць!

# *Жменька слоў крылатых*

## Спачатку было толькі Слова...

Бойцеся Слова! Прад ім трапячыце. У ім Ваша смерць, нягоднікі ды злыдні. І малаважныя сотні лет ці тыдні: біць яно будзе ў зачыненыя дзверы... Усё ж пранікне.

Бойцеся Слова.

Ратунку Вам не будзе, як няма спакою. Як сну няма; як роспач, прыхаваная гульбою, зморай душыць.

Бойцеся Слова!

І што з таго, што Вашыя прысуды, паводле Вашых жа правоў, у харомах Вашых, выносяць нам патомкі Юды, за вырванае Вамі ж народу серабро? Бойцеся Слова!

О родзе Юдзін! Маліся, плач, уцякай, руку ліжы з адданасцю сабачай — цень твой усё роўна падзе асінаю, рук пераплёт... пятлёю. Бойцеся Слова!

Не закаваць у путы жаваранка ў небе. Спрабуйце перад строем мару расстраляць. Калі насустрач палымянай лавай льюцца словы; калі іх рэхам адгукаецца зямля, — лясы, палі, дубровы; калі ўласны салдат падставіць вуха ім гатовы — пазіцыяў, даруйце, танкам не стрымаць.

Бойцеся Слова!

Вось жменька слоў крылатых да сонца ўзнялася. Там хтосьці з клеткі ўзяў ды выпусціў другую. Не трэба корму ім на тое, каб жылі: мужнеюць у прасторы, чакаючы вясны. Не птушаняты ўжо — дарослыя арлы — гатовы каменем несціся да зямлі. Вось збіліся ў хмару з гнёздаў усяго свету.

Пры гуле гэткай хмары тонкі піск ракетаў, паверце, вераб'ям на смех. Ды трапіць як — у звідлівасць, у дрыжыках, наспех? Бойцеся Слова!

І сховішчаў няма, няма і абароны. Што супрацьставіць бязлітаснаму джалу, якога не бярэць і ні агонь, ні меч? Куды Вам уцячы? Няма такіх пустэч, куды не сягнула б; няма такое далі, не засланіцца нат сцяною з кутай

сталі — бо словы, вядома ж, самыя гартуюць сталь і таму праз сталь, наўскрозь, патрапяць біць на смерць.

І таму надалей кажу Вам —

Бойцеся Слова!

## Адкуль узяліся ў полі васількі

Даўно, даўно, калі людзі яшчэ бяды не ведалі, калі шчасце было штодзённым госцем пад кожнай страхою, калі звер чалавеку быў сябрам, а чалавек чалавеку братам, у адной з тысяч амаль аднолькавых, саломай крытых хатак, якія невядомая сіла прыгаршнямі, як белыя грыбы, параскідала сярод непраходных лясоў, жыла сям'я — бацька і маці. Не бедныя яны былі і не багатыя. Ды і навошта было ім багацце? Родная краіна па-мацярынску шчодра адносілася ў тыя часы да сваіх дзяцей. Карміў і лес, карміла і рэчка, багатая рыбай. А невялічкая лапінка ўзаранай зямлі аддзячвала за кожную кроплю зрасіўшага яе поту то збожжам, то гароднінай, снапамі ільну, які ўмелыя рукі гаспадыні ператваралі ў палосы белага палатна. Не ведалі б яны ні тугі, ні суму, калі б не тое, што не было ў іх дзяцей. Зайздрасна пазіралі яны на пару чырванадзюбых буслоў, гняздо якіх было на страсе іх хаты. Буслы штогод акуратна выводзілі буслянят.

Аж раптам у адзін прыгожы веснавы дзень нарадзіўся ў іх сын, шустры, сінявокі хлапец. І назвалі яны яго Васільком. Весела клекаталі буслы на страсе. Радасна ўсміхаліся бацькі, гледзячы, як брыкае ножкамі малы Васілёк. Соладка ўздыхала цёплым ветрыкам цяжарная ўраджаем зямля. Калыхаліся лагодна вяршыні магутных дубоў і стройных бярозак, напяваючы маламу з першых дзён чароўную песню пушчы — гэту калыханку нашых прадзедаў.

Непрыкметна прабягалі дні і месяцы. Лета змянялася восенню. Пасля надыходзіла зіма. І зноў вясна. І так праходзіў год за годам. Ціха і спакойна. Штогод падрасталі новыя бусляняты, а з імі разам падрастаў і Васілёк.

А зямля, нягледзячы на цяжар стагоддзяў, сустракала сямейку кожнай вясною ўсё маладзейшай усмешкай. Васіку ішоў ужо дванаццаты годзік. Не ведаў ён, што надыходзіць вялікая бура, што страшэнная небяспека павісла над самлелай ад шчасця і спакою краінай. Галоднымі ваўкамі кралі-

ся да яе лютыя ворагі, каб крывёю заліць яе сённяшні дзень, дымам пажараў прысланіць гераічную мінуўшчы, цяжкім крыжам прываліць усю будучыню, звонам мячоў глушыць родныя песні. Здзіўлена глядзеў Васілёк на першых веснікаў злога — вогненныя віці, склікаўшыя на смяротны бой за радзіму. Задзіраў галоўку на стаі груганоў, якія зляталіся з усіх бакоў, чуючы спажыву. Шырока раскрытымі блакітнымі вочкамі глядзеў на гурты барадатых вояў, узброеных цяжкімі паліцамі і пікамі. Яны ішлі на захад, каб супрацьставіць уласныя грудзі варожаму жалезу. Назад адтуль чамусьці ніхто не вяртаўся. Урэшце і бацька, забраўшы жалезную сякеру, рушыў услед за іншымі. Васілёк не плакаў, хоць маці аблівалася слязьмі. Ён яшчэ не ведаў, у чым справа. І толькі тады, калі паявіліся, папярэджаныя цяжкім пахам гару і крыві, закутыя ў жалеза чужыя людзі, калі полымя ахапіла родную страху, калі ўскрыкнула паваленая варожым мячом маці, засланяючы ўласным целам яго, Васілька, калі ўвесь свет прысланіў яму пакрыты іржавымі плямамі белы плашч з чорным крыжам, ён зразумеў, затрапятаў, як птушка і, не бачачы ратунку, заплакаў.

Раптам нешта падхапіла яго з абодвух бакоў пад рукі і ўзняло ўгору. Агледзеўшыся, ён убачыў, што ляжыць на спінах двух дужых буслоў, а зямля застаецца недзе далёка-далёка ўнізе.

— Клёк, клёк. Трымайся моцна за нашыя шыі, — заклекатаў адзін з буслоў. — Нам трэба спяшацца.

— Куды? Куды вы мяне несяце? — закрычаў Васілёк. — Я не магу. Я баюся. Я да мамы хачу.

— Клё, клё, клё. Няма ўжо ў цябе бацькоў. Адзін ты застаўся на свеце, — заклекатаў другі бусел. — А нас табе няма чаго баяцца. Сябры мы табе. На вашай страсе выгадаваліся. Не маглі ж мы цябе, клё, клё, аднаго ў бядзе пакінуць.

— Куды ж мы ляцім? — меў яшчэ сілы спытацца Васілёк.

— Клё, клё. За мора. Клё, клё, у цёплыя краіны. Клё, клё, далёка. Спяшацца трэба, спяшацца. Клё, клё, клё, — дружна адказалі буслы.

Больш Васілёк не гаварыў нічога. Дзве пары магутных бусліных крылаў згодна рассякалі паветра. Вецер шумеў у вушах. А ён усё маўчаў і пільна ўглядаўся на мільгаючыя ўнізе лясы, рэчкі, азёры, на спаленыя сёлы, стаптаныя палі. Ён развітаўся з роднай краінай, якую не ведаў калі зноў убачыць. Пра яго пачуцці гаварылі толькі сплываючыя па шчоках ручаінкі слёз.

Доўга працягвалася падарожжа. Паступова абсохлі слёзы. Ужо новыя ўражанні не давалі волі ўспамінам. Усё было такое новае, незвычайнае. Здалёк цудоўнае, як казка. Замест адвечных пушчаў, роўна пастрыжаныя паркі. Палацы замест прывычных воку саломай крытых хат. Мора, на якім як цацкі плавалі караблікі ў белых ветразях. Чужыя, у дзівосных вопратках людзі. Рознакаляровыя гарады прыкоўвалі позірк. Здавалася Васільку, што вось тут бы толькі і жыць, у гэтай казачнай краіне.

Не паспеў ён пра гэта падумаць, як убачыў, што зямля ўсё бліжэй і бліжэй. І праз хвіліну ягоныя крылатыя сябры спыніліся разам з Васільком сярод незнаёмага горада.

— Клё, клё, — цяжка ўздыхнуў адзін з іх. — Вось тут мы з табою развітаемся.

— Як жа ж гэта? — спалохана спытаў Васілёк. — Я ж тут нічога не ведаю. Дзе я дзенуся?

— Даруй, нам нельга іначай, — адказаў другі бусел. — Не данесці нам цябе да гарачых афрыканскіх берагоў. Пралічыліся мы, брацік наш, з сіламі. Цяжкая і небяспечная дарога перад намі. А час асенніх бураў набліжаецца. Прыйдзецца табе застацца тут.

— Буслікі даражэнькія, буслікі родненькія, — узмаліўся Васілёк. — Не пакідайце мяне. Застаньцеся са мною.

— Нельга! Нельга! — пакруціў галавою першы бусел. — Мы ляцім на адвечны зоў. Нас кліча мутны Ніл. Гэты закон мацнейшы за хаценні. Мы мусім, мусім падпарадкавацца. Не сумуй аднак. Мы вернемся з першымі праменнямі веснавога сонца. Мы вернемся да цябе, летучы дахаты. Вернемся. Вернемся. Клё, клё, клё, клё, — і буслы, кіўнуўшы дзюбамі, узняліся пад хмары.

Так апынуўся Васілёк адзін ноччу на чужыне. Змучаны падарожжам, прыгнечаны перажытым, лёг ён на зямлю, накрыўся світкаю і заснуў.

Ачнуўшыся, Васілёк убачыў, што ляжыць на плошчы вялікага горада, а вакол тоўпіцца народ, разглядаючы яго як нейкае дзіва. Ды і што гэта былі за людзі! Такіх ён яшчэ ніколі не бачыў. Рознакаляровыя дзіўныя вопраткі, шапкі, капелюшы ў некаторых — бліскучыя, жоўтыя, як янтар, ланцугі на шыях і каштоўная зброя, незразумелая мова гучыць навокал, — усё чужое, незнаёмае.

Раптам пачуліся крыкі, натоўп расступіўся, узброеныя людзі падхапілі Васілька пад рукі і павялі ў каралеўскі палац. Там толькі напалоханаму

хлапчуку сяк-так растлумачылі, што шчаслівы лёс яго закінуў у багацейшы з гарадоў Чужынаград і што будзе ён з гэтата дня служыць самаму знатнаму сярод каралёў, вялікаму Экзылію, які па сваёй міласці ўзяў яго пад апеку.

Дні нізаліся адзін за другім, як пацеркі на нітку. Міналі нядзелі і месяцы. Васілёк прывык да новых абставін, вывучыў незнаёмую мову, пазбыўся страху, перастаў дзівіцца. Ён ужо ведаў, што не яго аднаго сюды доля закінула. Шмат іх штодзень садзілася за каралеўскі стол. Ведаў і тое, чаму адным падаюць есці на драўляных, а іншым на залатых талерках. О! Золата! Колькі яму пра яго нарасказвалі. Золата — гэта багацце, гэта праўда, пашана, гэта шчасце, зачараванае ў поўныя жоўтыя кружочкі, якія называюць грашыма. Так кажуць амаль усе. Яго звонам жыве Чужынаград. Аднак не кожнаму яно даецца. Штомесяц усіх слуг вялікага Экзылія збіраюць у аўдыенц-зале. Некаторым міласціва дазволена пацалаваць панскую руку. І толькі ў іх падстаўленыя далоні сыплецца гэтае дзіва, гэтыя грошы. Іншыя толькі здалёк аглядаюць міласцівае аблічча. Сярод іх і Васілёк. З яго ўсе насміхаюцца. Дзівак. Не хоча змяніць даматканай світкі на модную вопратку. Кажа, што гэта свая, хатняя. Ну, гэта яшчэ паўбяды. У свабодным Чужынаградзе кожны мае права апранацца, як хоча. Ды і тое, што мовы сваёй не забываецца, не так страшна: вядома, тупагаловы, карысці сваёй не бачыць. Горш за ўсё, што гэты балван дадому хоча вяртацца. Падумаць толькі, з самога Чужынаграда, пупа свету і сусветнай культуры, у нейкія лясы і пушчы. З каралеўскіх пакояў у халопскую хату. Ды і чорт яго ведае, ці там яшчэ камень на камені застаўся. Звар'яцеў хлопец. А тлумачаць жа ж яму: пакарыся, кінь свае мары. Не паспееш агледзецца, як чалавекам станеш. Раз-другі да каралеўскай рукі прыгнешся і тады толькі надстаўляй кішэнь. Золата! Ці ты разумееш? Золата! Самое гэта слова звініць. Ідзі, браток, там, дзе яно.

Цяжка Васільку. Што рабіць, не ведае. Мо людзі і праўду кажуць? Чужа яму аднак у палацы. Праўда, кормяць добра. Не скажаш, багата тут людзі жывуць. Ды і дамы тут якія і ўся абстаноўка! А аднак чужа. Увесь час адчуваеш, што ты тут не свой — адным словам, Чужынаград. Ох! Пачуць бы зноў пах роднае нівы. Пасядзець ля дубровы. Салавейку паслухаць. Праўда, салаўі і тут ёсць. Аднак і тыя, хоць у залатых, а ў клетках. А да вясны далёка. Не хутка буслы прыляцяць. А мо пайсці яшчэ ў якую другою старонку? Пашукаць шчасце. Бо золата шчасця не дасць. Гэта ён, Васілёк, ведае. Яму калісьці таксама далі кавалак. Ён яго мае і носіць заўсёды

з сабою і разглядае гадзінамі. У яго толькі колер цёплы. Такі, як спелай пшаніцы. А само яно халоднае і нейкае варожае. Сталь меча таксама халодная, а аднак дадае мужчыну бадзёрасці, адвагі. А гэты холад марозіць. Як быць? Як быць? Панурыўшы галаву, блытаецца Васілёк туды-сюды па Чужынаградзе. Успаміны, як цеста ў дзежцы, бушуюць, растуць, не даюць спакою. Цягне, цягне, цягне яго дамоў. Куды аднак ісці?

Хто дарогу пакажа? Няма, няма жыцця на чужыне.

Раптам яго аклікнулі.

— Сынок! Сыночак! Памажы. Пашкадуй мяне бедную.

Аглянуўшыся, Васілёк убачыў старэнькую бабулю, згорбленую пад цяжарам вялізнага клунка. Сабою бабуля невялічкая, худзенькая. У руках кіёк. Твар зморшчаны. Валасы сівыя-сівыя. Адно вочы, здаецца, як два вугалькі сярод твару бліскаюць, на Васілька паглядаюць.

— Памажы. Памажы, сынок, дахаты клунак данесці, сіл не хапае, — просіць.

Устрапянуўся хлапец. Да старэнькай падскочыў. Цяжар сабе на плячо закінуў. Самую яе пад руку ўзяў.

— Хадзем, — кажа. — Дарогу адно паказвайце.

Ідзе Васілёк вуліцамі Чужынаграда. Побач з ім бабулька стук-стук, кійком пастуквае.

Выйшлі за горад — ідуць полем. Перайшлі поле — уваходзяць у лес. Спыніліся ўрэшце. Хоць дзе тут хата, невядома. Страха, здаецца, адна, мохам павісшая, з зямлі тырчыць.

Бабулька адчыніла дзверы. Заходзіць Васілёк, назад клунак ставіць. Глядзіць навокал. Неяк тут дзіўна, у печы трэскае агонь, а чорны кот паленні дакладае. На пліце гаршкоў, гаршэчкаў нейкіх. Усё булькае, кіпіць. Сава вялізнай ценню пільнуе варыва. То зіркне тут, то там, то лыжкай шум здымае. Усюды, куды не глянеш, пучкі зелля, траваў нейкіх. І дзіўны пах, духмяны, таямнічы. Аж рот разявіў, бедны, ад здзіўлення.

— Што ж, дзякуй табе, мілы. Замарыўся пэўна. Прысядзь вось, — бабуля прысоўвае лаўку. — Цяпер кажы, якой узнагароды хочаш. Пашкадаваў мяне. Дык і я не паскуплюся.

Апамятаўся Васілёк. З лаўкі ўскочыў.

— Што вы, што вы, — аднекваецца. — Няма за што. Я ж з ахвотаю. Вяртацца вось мне трэба. Вечарэе ўжо. А ісці кавалак дарогі.

— Ты сядай, сядай, сыночак. Не спяшайся, — усміхнулася бабулька. — Слухай мяне, старую. Нездарма мяне ў ваколіцы ўсе ведзьмай клічуць. Я шмат магу. Прасі. Не бойся, — голас у бабулі быў лагодны, добры. Васілёк жа адзін на чужыне. Не было яму нават перад кім пажаліцца. Таму, нягледзячы на незвычайныя абставіны, ён пасмялеў і выказаў усе свае думкі, мары ды турботы.

Задумалася бабуля. Пагладзіла хлапца па галаве, падышла да пліты, зняла адзін са стаяўшых там чыгуноў і паставіла яго сярод хаты. Чорную хустку на плечы накінула.

— Я, — гаворыць, — сынок, варажыць буду, а ты тым часам прыляж, паспі.

Прылёг Васілёк на лаўку, не варушыцца. Са старэнькай вачэй не зводзіць. А ў чыгун тым часам усё ліецца, сыплецца нешта і дзіўныя словы гудуць у вуглах.

— Варажба. Варажба. Варажба. Што было, што ёсць, што будзе, явіпакажы. На мёртвы свет маладзіка, смяротны ўдар перуна, на гук савы, выццё ваўка, змяіны яд, на вечны шум святых дубоў — заклінаю, заклінаю, заклінаю. Хмельнае брагі чарпак. Сатлеўшых касцей сыпнем жменю. Са спаленай хаты вуглёў. Чароўных дакінем карэнняў. Размесім крылом кругана. Варажба. Варажба. Варажба.

Забулькала, захадзіла варыва ў чыгуне. Бабульку, якая над ім схілілася, клубы пары ахуталі.

Усё кругом памутнела, пачало расплывацца. Невядома калі вочы заплюшчыліся. Хлапец заснуў. Прачнуўся Васілёк на світанні. «А дзе ж гэта я?» — думае. Убачыў бабульку, усё ўспомніў. Бабулька за стол пасадзіла хлапца, а потым і кажа:

— Не ведаю нават, што рабіць, сынок. Дзіўныя мары твае, дзіўнай варажба была. Не разлікам, а сэрцам ты кіруешся. І замест выгаднага жыцця, цяжкі шлях выбраць хочаш. Толькі моцны здолее па ім ісці. Адно смелы перашкодаў не баіцца. Той толькі дойдзе, хто больш за ўсё край свой кахае. Затое аднак, што мне ты памог, дам я табе параду: на нішто не глядзі, адно сэрца слухайся. Заўсёды наперад ідзі, не палохайся. Калі б цяжка прыйшлося, родным словам аказвайся.

Вывела бабуля Васілька з хаты.

— Вось сюдою і ідзі наўпрасткі, — рукою паказала і згінула.

Згінулі і лес, і хатка. Застаўся Васілёк на невядомай дарозе, якая бегла палямі і хавалася недзе за небасхілам.

Дарога сцелецца. Ногі тупаюць. Ідзе Васілёк, куды вочы вядуць. Сонца даўно за паўнеба пераваліласся. У жываце бурчыць. Есці хочацца.

Аж тут, глянь, невядома адкуль, стол пры дарозе стаіць, абрусом каштоўным накрыты. На стале ж ежа ўсялякая. Тут і каўбасы, і вяндліна, печанае парася з паўміска ўгору лычык узносіць. А булак, булачак і пячэння рознага! З віном бутэлькі, як салдаты, сярод усячыны то тут, то там трымаюць варту. Адразу хлапцу слінка пацякла. Здаецца, так і ўгрызся б у што папала. А стол аж ззяе. Здаецца, сам прысесці просіць. Выпадкова ўбок глянуў: ад стала недалёка белы ручнік на траве разасланы. На ім жа скромная хатняга хлеба буханка, ды гладышка, расою пакрытая, мусіць з кіслым малаком стаіць. Побач нож, талерачка з соллю. На хлеб глянуў — вачэй ад яго адвесці не можа. Здаецца, ён дома. Маці ў дзежцы цеста замясіла. Чакаючы, пакуль падыдзе, яго, Васілька, які пад нагамі круціцца, ад гарачай печкі адганяе. А потым з той печы выкладвае на стол адзін за другім пухкія, румяныя буханкі. Аж прыжмурыўся, бедны. Пацягнуў носам. Па ўсім наваколлі, здаецца, свежым хлебам запахла. І ўжо Васілёк ля ручніка. Ужо лусту добрую адрэзаў. Першы кус адкусіў. З гладышкі малако папівае.

Раптам загуло навокал. Вецер невядома адкуль узяўся, пяску, пылу хмару ўзняў угору. Глядзіць, няма стала, ні смакаў ніякіх. Усё згінула. Адна луста хлеба, якая ў руках засталася, даводзіла, што гэта яму не сон прысніўся. Зразумеў хлапец, што небяспеку шчасліва абмінуць здолеў. Далей рушыў.

Зноў сцелецца дарога. Ногі, хоць змучаныя, тупаюць бадзёра. Уперад далёка выбягаюць думкі. Змарыўся ўрэшце. Той прылёг бы, паспаў бы гадзін пару. Сонца і тое, пачырванеўшае ад стомы, апошнімі праменнямі пазірае. За небасхілам шукае адпачынку. А навокал пуста. Нідзе ні кусцікаў, ні траўкі. Раптам, адкуль ні вазьміся, пры дарозе ложак стаіць. Дый што і ложак! Шырокі, як возера. Белым лебедзем плыве па ім пярына. Снежныя падушкі, нібы гусі, збіліся ў статак. Нырнуў бы ў яго, здаецца, і выплыў аж недзе над раннем. Так і маніць. Так і маніць. Вападкова ўбок глянуў. Ад ложка недалёка сена стаіць капіца. Ля яе — дыван хатні саматканы. Падушачка невялічкая, у каляровыя ўзоры вышываная. На сена глянуў — вачэй ад яго адвесці не можа. Здаецца, ён дома. З бацькам, мацерай на сенажаць выйшлі.

Дзінь, дзінь, дзінь — у бацькавых руках каса звоніць. Шась, шась пакос за пакосам кладзецца. Падсохшае, разам згартаюць у капіцу. Пацягнуў носам. Ва ўсім наваколі, здаецца, свежым сенам запахла. І ўжо Васілёк ля капіцы. І сена разгортвае. Дзяружкай накрывае. Ужо лёг. Ужо заплюшчвае вочы. Аж раптам стукат-грукат нейкі пачуўся навокал. Глядзіць, на месцы, дзе ложак стаяў, вялізная яма. Агонь з яе бухнуў раз і другі, і згінула ўсё. Толькі сена, на якім ён ляжаў, даказвала, што не сон прысніўся. Шчасліва хлапцу другой небяспекі пазбегнуць удалося. Лёг ён і да раніцы праспаў на тым сене.

І зноў ён ідзе. Крок за крокам мераюць ногі. Колькі разам усіх крокаў — не злічыш. Поле ўжо скончылася. Дарога перайшла ў ледзь прыкметную сцежку, якая бегла сярэдзінай вялізнага балота. А Васілёк ідзе. Усё наперад. Усё наперад. Дамоў. Бачыць раптам — ажыло балота. Адкуль ні вазьміся, вужакоў поўна. Клубамі круцяцца, прайсці не даюць.

— Шшш, шшш, — шыпяць проста ў твар. — Ты куды? Ты куды? Шшш, шшш. Ужо няма і быць не можа той зямлі. Шшш, шшш. Целы мужных абаронцаў раздзяўблі груганы. Шшш, шшш. Ужо ніхто цяпер не беліць кужаль ля вады. Шшш, шшш. Ужо няма і быць не можа той зямлі. Шшш, шшш. Выракліся роднай мовы яе сыны. Шшш, шшш. Застанься тут. Па што? Па што табе туды? Шшш, шшш, шшш!

Жудасна Васільку. Вужакі халоднымі бізунамі труцца і шыпяць усё сваё, «шшш, шшш, шшш, не йдзі, згінеш, не йдзі». А ён усё ж ідзе. Ідзе наперад. Усё наперад. Дамоў.

Так і выйшаў з гнілога балота. Разгледзеўся. У краявідзе ўжо нешта знаёмае воку. Не тая раўніна. Тут узгорак за ўзгоркам. Кусцік тут, кусцік там. Пару белых бярозак. А наперадзе, недзе далёка мурам, чарнее лес. Шпарка, шпарка панеслі яго ногі. Здаецца, ішоў бы без сну і адпачынку. Сцямнела аднак. Дарогі не ўгледзіш. Прылёг на ўзгорачку. Світкаю накрыўся. Заснуў.

Прачнуўся Васілёк сярод ночы. «Што за шум? Што такое?» Глядзіць: адкуль тут столькі людзей? І што за яны? У шкурах і світках, а ёсць і пры зброі. У каго паліца, лук. У каго піка ці меч. Укруг пасядалі. Гавораць. Смяюцца. А словы знаёмыя. Прыслухаўся лепей. Браты. Адзін кажа:

— Як штогод, у гэту ноч мы сабраліся тут. Дзеці розных вякоў. Адной долі сыны. Ці ў той бітве, ці ў іншай, які б вораг не быў, кожны з нас за

айчыну. Гасцей заўсёды шчыра мы віталі. Былі і хлеб і соль. І мёд і піва. Хто ворагам прыйшоў, той мур грудзей тут сустракаў. Лілася кроў. Было для смерці жніва. З усіх нас, што тут, ніхто не адступіў. У перамешку нашы косці пад курганам. Сёння нашая ноч. Час сустрэчы, размоў. Потым зноў мы на год засыпаны.

Сказаўшы гэта, ён павярнуўся, і Васілёк угледзеў, што замест рук у яго тырчаць косці, а замест твару бялее голы чэрап. Лепей прыгледзеўся. Бачыць, што гэта мёртвыя сабраліся на сходку. Перапалохаўся хлопец. Паварушыўся неасцярожна. Шум зрабіўся навокал. Кінуліся да яго з'явы.

— Хто тут? Хто тут? — пытаюць. — Мы чуем чалавечы дух. Той, хто на наш з'явіўся сход, з намі застацца мусіць.

Усё бліжэй да Васілька падыходзяць. Касцямі ляскаюць, зубы шчэрацць.

— Маманька, родная, ратуй! Людзі добрыя, не чапайце мяне. Я толькі дадому, дахаты хачу вярнуцца, — закрычаў Васілёк на роднай мове.

Супыніліся з'явы.

— Гэта што? Гэта ж свой. Гэй, браты. Гэта ж праўнук, нашчадак.

У тую хвіліну бліснуў першы прамень сонца. Задрыжала зямля. Ускалыхнуўся ўзгорак, і ўсё згінула. Толькі іржавы меч, які застаўся ў траве, даказваў, што гэта Васільку не сон прысніўся. Не паспеў хлопец адумацца, як чуе:

— Клё, клё. Клё, клё. Васілёк! Ужо вясна. Клё, клё, клё. Гэта мы. І мы ўжо вярнуліся дахаты.

Глядзіць, а над ім, весела ківаючы дзюбамі, лётаюць два добра знаёмыя буслы.

І зноў Васілёк на бусліных спінах. І зноў ляціць над роднай зямлёю. І зноў ён плача.

Слёзы радасці капаюць з сініх вачэй. Дзе ўпала сляза, там і вырасла кветка. Шмат іх, шмат іх сініх, як вочы хлапца. Хочаце верце, або не верце, васількамі называюць іх ад таго Васілька.

## Валодзька

Было гэта ў студзені недзе. За акном дзьме, быццам бы ведзьмы з чэрцямі вяселле гулялі, а ў хаце да млявасці цёпла. У печы гудзе, патрэскваюць паленні. У коміне свіст. Усе пошумы ў адно, урэшце, зліліся. Апала кніжка на калені. Здаецца, сыты кот на прыпечку мурлыча. І я ўздрамнуў. Было проста добра.

Валодзька ўваліўся без стуку. Здаровы гэтакі, чырвоны. За поламі расшпіленага кажуха смугі ветру сцелюцца.

— Я па вас, доктар, да бабкі паедзем. Яно хутка. Цераз багон наўпросткі. А кабыла, што звер.

Валодзька задаволена заіржаў — густым хмелем ударыла у вочы. У бок печкі дзьмухне — здаецца, хату спаліць.

— Ну, што? Паехалі?

Няведама і калі я ў санях апынуўся.

— Вось вам яшчэ і радзюжку, каб ногі ахутаць. Но-о-о! Па-а-йшла! А ну цябе, халеру.

Скрыпнула, і вось мы ў дарозе. А наўкол мяце. Дзе-нідзе бліскаюць вокны. Кабыла трухціць, ашмоткамі снегу з-пад капыт кідае, ды і вецер жменямі голак проста ў твар рэжа. Намагаешся, здаецца, глыбей у кажух залезці, а тут і так толькі нос з-пад каўняра тырчыць.

— Т-п-пру! Гнядая. Далей ужо памалу, — рашае Валодзька. — Цяжка ёй, бачыце. Жаробная. А з бабкі ўсё роўна нічога. Я бацюшку ўчора яшчэ да іх вазіў. Самыя прасілі... А кабылы шкада... Скінула прошлай зімы, бедная. Гэта калі пад Крынкі па дровы ездзіў. Два разы туды і назад абярнулі, і загнаў яе пэўна. А шкада. Няма другой такой у вёсцы. Добры жарэбчык быў бы. А з бабкі ўсё роўна нічога.

Мацануў рукою ў сене, пляшку вывудзіў, рукавом абцёр.

— Цягніце, свая гэта, здасца ў мароз.

А наўкол мяце. Зад адзін, конскі, спасены, перад вачыма, бо і галава недзе ў белай кашы нікне.

— А вас па што вязу? А людзі, што сказалі б? А мне не шкада. Прасілі бацюшку — прывёз. І вас, бачыце, вязу — дзеля парадку. І пахаваю, як трэба, каб як у людзей было. Мне не шкада...

Пачынаю дранцвець. Ногі тыя, мала што ў сене, зусім адубелі.

— А мне самому, вось, дахтароў не трэба. Да жонкі я вас калісьці, памятаеце, вазіў, а цяпер да маці яе, бабкі значыцца, вязу, хоць з яе ўжо і так нічога... А мне вось не трэба... — У пляшцы забулькала. — Можа і вы яшчэ таго?

Пацягнуў і я...

— А мне і мароз, бачыце, хоць бы што.

Валодзька рагатнуў. Ён і сапраўды без шапкі, кажух расшпілены, рукавіцы пад сябе падлажыў...

— Но-о-о, Гнядая! О! Бачыце, чуе стойла, падла. Вёска ўжо зараз — сама бяжыць.

Та-а-а-к. Валодзьку я ведаю не ад сёння. Проста з фронту яго сюды прыперла. З усходу. Аж недзе з Маньчжурыі. Трафеі, якія там не былі б, і тыя па дарозе сцягнуў нехта. Так што ў прымы ісці давялося. А зямлю еў бы... У яе і ўжаніўся. І дзёр яе — колькі сіл хапала. Гэта быў той кавалак святочнага пірага, які ён здолеў ад жыцця заграбастаць, і ён яго грыз са смакам. Такім я яго ведаў...

Назад кабыла ледзьве плялася. Завейку быццам стрымаў хто рукою. Зіхацела іскрамі неба. Мароз толькі збольшаў — рыпелі палазы. А Валодзьку яшчэ і вяртацца... Пляшку тую мы з ім, яшчэ дома, яешняй прыкусіўшы, да канца асушылі.

— А бабка, што? — пацікавіўся ён. — Праўда, слабая? Ёй ужо так цераз 80 пераваліла. Апошнія гады ўсё дахтары і дахтары.... Скажыце лепш, ці калі я ўсе тыя вашыя лякарствы выкуплю, то да вясны яна дажыве яшчэ? А можа яшчэ за лета гусей статак, штук з дзесяць гэтак, выкарміць дасць рады?

Гаварыць цяжка. Скіўцы стужэлі.

— Гусак пару? Гусак, чаму і не. На ганак памалу выйдзе, сыпне ім таго-сяго... Пра іншую работу і гаварыць няма што, а гусак пару... Чаму не. Павінна...

— Ну, што ж. Выходзіць на тое, што мне тыя лекі ўсё ж браць давядзецца, хоць я і не веру. А што там. Быў бацюшка, былі і вы, дык я лякарствы тыя куплю яшчэ. А будзе, што Бог дасць. А можа выжыве? Вы як лічыце? Што?

Гэта было ў студзені недзе. Пад восень я выбраўся ў водпуск. Каб чым падалей... Размяцца каб... На свет расплюшчыць вочы.

Вяртаўся ж хутчэй, чым паехаў...

І ўжо яно. І хаты, што былі, ну, можа, пару новых. І свае людзі. І вуліцы тыя самыя. Плот нават, дзе пакасіўся быў, так і стаіць.

Пры могілках я бабку напаткаў. На палавіну сагнёная, з кастурчыкам, у зямлю быццам урослая, у чорным уся, насустрач мне брыла.

— А вы скуль гэта? Здароўе як? І што чутно наогул?

— А так! Пamaлу... Ад Валодзенькі я гэта, вось, нашага вяртаюся... Пахавалі мы яго, бедненькага... Нядзелькі ўжо з дзве таму будзе. Сканаў нечакана...

### З апавяданняў старога сабакі Тарзана:

## Ой ты, доля мая...

Цяжка, сябры, нашаму брату. Ніхто нас, сабак, не разумее. Вы, людзі, усё толькі нейкай спажывы, карысці шукаеце. Самім вам шчасця няма, а па шчасце іншых сягаеце.

Ой, раззлаваўся я сёння! Яшчэ цяпер зубы свярбяць. Падумайце самі: ляжу я сабе пасля сняданку каля буды. На сонейку грэюся. Час ад часу цап — і блыху злаўлю (на «азатокс» спалягай, а сам не пазяхай). Хараством прыроды захапляюся. А трэба вам ведаць, што прыгажэйшага кутка, чым мой гародчык, які цягнецца рознакаляровай істужкай уздоўж усяго панадворка, ва ўсім наваколлі не знойдзеш. Якіх толькі няма ў ім кветак! Густыя кусты вяргінь: белых, жоўтых, аранжавых, чырвоных. Сярод іх сям-там задзіраюць носікі ганарыстыя лілеі. Побач калышуцца цудоўныя званочкі на каласах гладыёлусаў. Маняць чмялёў какетлівыя ружы. На высокіх сцяблах згусткамі крыві запякліся мальвы. Званец разяўляе ляпу да працавітых пчолак. І ўсё гэта нашпігавана, бы кавалачкамі сала, пахучым табачком. Прысыпана, бы макам, мацейкай. А дзе яшчэ засталася якая-небудзь свабодная шчылінка, туды пнецца непаседа — духмяны гарошак. Адным словам — мара. Не памяняў бы я, сябры, гэтага хараства на ўсе каўбасы, якія гаспадыня зробіць з нашага парсюка Перчыка! Я ганаруся сваім агародчыкам і сцерагу яго. Вы думаеце, што гэта лёгка? Трэба зырка сачыць, каб куры сюды не залезлі. Праганяць вераб'ёў. Два разы ў дзень ваяваць з суседскімі каровамі. Лавіць за хвост ката Мурзу (дзеля прынцыпу, бо шкоды

ён не робіць). «Апекавацца» нашым суседам. О! Сябры, з нашым суседам трэба асцярожна. Тут патрэбны дыпламатычны падыход. Наш сусед — гэта ў раёне «фігура». Яго нельга вось так сабе лап-цап і за лытку! Ідзе ён сабе, бывала, паўз плот, а я спакойненька побач з ім. Раптам, быццам нехаця, яго рука пачынае цягнуцца куды не трэба. Вы думаеце, я загаўкаю? О не, сябры. Толькі сабака ўмее быць сапраўдным дыпламатам. Я забягаю ўперад, вышчэрваю ўсе зубы, як на рэкламе зубной пасты, і пазіраю на яго так, быццам мяне пару дзён не кармілі (гэта мне не цяжка прыходзіцца, бо ён даволі тоўсты). Калі і гэта не памагае, я пачынаю аблізвацца. І ведаеце? Ён адразу знойдзе сваім рукам месца і паважна крочыць далей. Бачыце, колькі з гэтым работы?

І вось, заходзіць сёння на панадворак нейкі валацуга. Каб на яго ўсе мае блохі пералезлі! Каб ён у зайца пераамяніўся і папаўся мне ў зубы! Заходзіць і пачынае марочыць галаву маёй гаспадыні.

— Ці не шкада вам, — кажа, — Пятроўна, на гэтакім кавалку зямлі нейкае зелле разводзіць?

Гэта ён пра мае кветкі!

— Ці не лепш вам было б, — кажа, — бульбу тут пасадзіць? Добрых пару мяхоў для парсюка накапалі б.

Мне быццам бы хто хвост прышчаміў. Вось, думаю, зусім як суседскі Бобік, якому тое ж самае задраць ножку пад кустом крапівы, што пад пахучай ружай! А той ізноў сваё пачынае:

— Дурным трэба быць, каб гэтакі агарод пад кветкамі марнаваць, — кажа.

Тут мне ўся дыпламатыя з галавы выветрылася, няхай ёю каты займаюцца! Што?! Гэткай прыгажосці дзеля нейкай бульбы выракацца? Буду бараніць яе да апошняга зуба. І кінуўся я ў атаку!

Гэты бой я, сябры, выйграў. Нават трафей — кусок нагавіцы — у мяне ў зубах застаўся. Баюся, аднак, каб больш гэтакіх «разумных» не знайшлося. Усім дурням я сам, сябры, на жаль, не дам рады.

Вррр, гаў-гаў-гаў!

*З апавяданняў старога сабакі Тарзана:*

## Як мы арганізаваліся

Задумаў я, сябры, аднойчы сарганізаваць усю хатнюю жывёлу на нашым панадворку. Ці ж мы, падумаў я, горшыя за людзей? Сказана — зроблена. Вось мы і сабраліся ўсе ў апартаментах нашага парсюка Перчыка, у хляве, значыцца, на нараду.

— Сябры! — пачаў я. — Усе вы бачыце, што нашыя ўлады, гаспадар з гаспадыняй, значыцца, робяць што толькі могуць, каб падняць свой, а разумеецца і наш, жыццёвы ўзровень. Мы ўсе, як свядомыя жыхары нашага панадворка, абавязаны памагаць ім у гэтым. А што мы робім? Паглядзіце самі. Мышэй, пацукоў развялося столькі, што жах! Не толькі ў кладоўку, але ў маю ўласную міску нават залазяць. А што робіць кот Мурза? Спіць, сябры, на ганку або сёрбае малако з міскі. У найлепшым выпадку — мурлыкае сабе нешта пад носам. Ці ж на тое яго выгадавалі? Ці ж на тое яго столькі часу вучылі?

Тут Мурза ўскочыў на ногі, выгнуў хрыбет дугою і мяўкануў на ўвесь голас:

— Ты, — кажа, — Тарзан, чаго да мяне прычапіўся? Тое, што я па прафесіі «мышалоў», не мае ніякага значэння. Па штату я лічуся нянькаю гаспадарскага ўнучка, Міхаські. Маім абавязкам спяваць яму калыханкі, каб заснуў хутчэй. А з гэтым я спраўляюся добра.

— Ты што, здурэў? — кажу я. — А хто ж мышэй лавіць будзе?

— А мне якая справа, — кажа гэты нахабнік. — А ці ж кіраўнік нашае «Гасподы» цікавіцца сельскай гаспадаркай? А ён жа ж па прафесіі аграном і даўжэй за мяне вучыўся.

Вось куды, хітрун, загнуў! Справа, бачыце, у тым, што наш ГКХЖ (Грамадскі калектыў хатняй жывёлы) — арганізацыя маладая. Свайго вопыту мы яшчэ не маем і таму нам прыходзіцца асноўваць сваю работу на дасягненнях старэйшых сяброў, людзей, значыць. Загнаў нас хітры кот у тупік. Што ж нам рабіць засталося?

Прыйшлося нам, сябры, даверыць справу мышэй пеўню Пеці. Яго папярэдняй працаю, кукарэканнем, прыказалі заняцца мне. Штат стоража і маё месца ля будкі заняла карова Яргіня, а даваць малако забавязалі

старога казла Мітрафана. Адзін Перчык застаўся на старой пасадзе. Аднагалосна прынята рашэнне, што ён мае як найбольш есці, хутчэй сыцець і што тут многа гаварыць — рыхтавацца на каўбасу. Перчык, ведаеце, спачатку, пачаў нават бунтавацца.

— Вы што, — кажа, — здурэлі? Хочаце, каб я ўласную смерць прыспяшаў?

Тут голас узяў кот Мурза. Ён у гэтакіх справах у нас найлепш асвядомлены. Вядома! Усё каля вярхушкі, каля гаспадароў, значыць, круціцца.

— Ці ты, Перчык, — гаворыць ён, — ведаеш, якое шчасце на твой лёс выпала? Ці ты разумееш, якая гэта чэсць дзеля агульнага дабра загінуць? Ты ж будзеш героем нашага панадворка! Табе ж абавязкова пасмяротна медаль прысвояць.

Пачуўшы гэта, Яргіня пакруціла рагатай галавою і зараўла са смеху.

— Му-у-у, — кажа. — Зусім як у людзей у нас выходзіць! Замест таго, каб усім салідна за працу брацца, усю адказнасць на аднаго «героя» скінулі. Дурня на медаль ловім?

Да Перчыка гэта, на шчасце, ужо не дайшло. Пачуўшы пра медаль, ён адразу сунуў лыч у карыта і самазадаволена зашамкаў.

Ну і работа ў нас, браткі, пайшла!!!

Певень, растапырыўшы крылы, за мышамі ганяецца. Рады старацца, аднак дагэтуль яшчэ ніводнай злавіць не змог. Я, падпарадкоўваючыся калектыву, сумленна стараюся кукарэкаць. Што б я аднак не рабіў, на плот нават, бывае, ускочу і вочы па-птушынаму заплюшчваю, нічога ў мяне з гэтым не атрымліваецца. Мест кукарэкаць — вою. І ўсё. А халера тая, рагатая Яргіня, замест таго, каб хату вартаваць і пільна гаўкаць, усе кветкі ў гародчыку пааб'ядала. З казла ж, самі ведаеце, сколькі малака. Гэта аднак усё глупства. Галоўнае, што працуем мы арганізавана. Зусім як людзі. Хоць час ад часу я, ведаеце, пачынаю сумнявацца. А мо сапраўды гэтая арганізацыя працы павінна быць аснавана на іншых прынцыпах? Адзін Перчык адчувае сябе, як рыба ў вадзе. Сыцее і сыцее — пад нож даспявае. Праўда, я яго парою нават шкадую. Глянуўшы на яго, проста дзіву даешся, дзеля чаго ж людзі гэтак да «карыта» пруцца.

Вррр, гаў-гаў-гаў!

## Як Рыгор чорта выганяў

Жыло калісьці ў нашай вёсцы двое суседзяў. Адзін багаты, Сцяпан, меў шмат зямлі і двое добрых коней. Другі, Рыгор, гаспадарыў на невялічкім загончыку, які яму дастаўся ў спадчыну ад бацькі, ды і з тым ледзь спраўляўся.

Ці ж многа зробіш пры сляпой на адно вока старой кабыле? Вось яны і дагаварыліся, што Сцяпан пазычыць яму на пару дзён аднаго каня, а Рыгор за тое аддасць яму частку ўраджаю. Што ж, багатаму і певень яйкі зносіць!

Якраз здарылася нейкае свята. Ідзе Сцяпан з жонкаю ў царкву. Глядзіць, а Рыгор спрог яго каня са сваёю кабылаю, махае пугай і крычыць: «Но! Наперад, мае конікі!». Раззлаваўся Сцяпан, кінуўся да Рыгора.

— Што ты брэшаш, дурань! — кажа. — Якія гэта твае коні? Тут толькі адзін конь, ды і той мой, бо твая сляпая здыхляціна больш да казы падобная! Пасмей мне яшчэ раз назваць коней сваімі, дык я тваю кабылу калом заб'ю!

Вяртаецца Сцяпан з царквы, а Рыгор ізноў крычыць: «Но! Наперад, мае конікі!».

Уначы Сцяпан залез у Рыгараў хлеў ды трэснуў па галаве калом яго старую кабылку. Тая ўпала і да раніцы здохла. Што засталося Рыгору? Сам у плуг не запрэжацца. Здзёр ён скуру са сваёй старой памочніцы, высушыў, пашыў з яе мяшок, палажыў у яго лусту хлеба і пайшоў у свет шукаць шчасця.

Ішоў ён цэлы дзень цёмным лесам, аж пад вечар змучаны і галодны набрыў на адзінокі млын. Пастукаў у дзверы. Адчыніла яму млынарка.

— Дазвольце пераначаваць, — папрасіў Рыгор. — Хмары збіраюцца, дождж, мусіць, пойдзе, куды я адзін дзенуся, на ноч гледзячы?

— Мужа ў хаце няма. Паехаў у мястэчка за сваімі справамі, а я сама хворая, нават зварыць не маю сілы. Хочаш, лезь на печку, спі. Кута табе не шкадую, але накарміць не маю чым.

Ляжыць Рыгор на печцы, у жываце пуста, заснуць не можа. Раптам чуе за сцяною нейкія галасы. Зазірнуў Рыгор цераз шчылінку між дошкамі і бачыць, што млынарка прымае нейкага госця. Абдымае яго, цалуе, садзіць за стол. А там аж гнецца ад усялякай ежы. Сярод халодных закусак

красуецца печаная гусь, розныя пірагі, булачкі, гуркі салёныя. Нават салідны буталь гарэлкі апынуўся на стале.

— Сядай, еш, любенькі, не бойся, — запрашае млынарка. — Мужа няма і няхутка стары вернецца.

Пачалі яны есці, выпіваць. Аж раптам нехта стук-стук у дзверы! Млынарка, перапалоханая, ускочыла і пытаецца:

— Хто там?

— Гэта я, адчыняй, жонка!

— Муж вярнуўся, — спалохалася баба, схапіла госця за руку, вывела ў кухню і давай яго ў печку запіхаць. Запіхнула неяк сілаю, дзверы зачыніла, схапіла са стала гусь, засунула пад ложак, буталь з гарэлкаю пад падушку, пірагі і гуркі схавала ў шафу. Толькі тады адчыніла мужу, калі на стале адна бульба засталася.

Увайшоў млынар, прывітаўся:

— Давай есці, жонка, — кажа, — бо дужа прагаладаўся я з дарогі.

— Ой, бедная ж я, бедная, — загаласіла баба. — Я ж хворая, без сіл і ў галаве ў мяне гудзе, і пад лыжачкай смокча, і спіну ломіць!.. Дзе мне, хворай, яшчэ есці гатаваць? Адно бульбу зварыла — бачыш, на стале стаіць. Схадзі ў склеп, кіслага малака вазьмі, вось і пад'ясі з бульбаю.

Сказаўшы гэта, баба застагнала ды палезла ў ложак. Вяртаецца млынар са склепа, глянуў на печку — а там чалавек нейкі ляжыць. Выпытаўшы ў нашага Рыгора, хто ён такі, скуль узяўся і даведаўшыся, што той ад раніцы нічога не еў, запрасіў павячэраць разам.

— Даруйце, — кажа, — што вячэра скромная, адно бульба з кіслым малаком. Ведаеце, жонка захварэла. Бедная, не тое, што вячэру зварыць, а нават устаць з ложка сілы не мае.

Рыгора два разы запрашаць не трэба было. Селі яны за стол, з адной міскі бульбу ўплятаюць, запіваюць кіслым малаком. А мяшок свой скураны Рыгор пад стол паклаў. Піхнуў яго нагою раз і другі. Трэсь-трэсь — азвалася сухая скура. Рыгор хуценька схіліўся пад стол і зашаптаў:

— Цыц, цыц, нячыстая сіла, згінь, замоўкні!

— З кім гэта вы гутарыце? — пацікавіўся млынар.

Рыгор пачаў аднеквацца, выкручвацца, аж, нарэшце, кажа:

— Бачыце, сябра, тут справа незвычайная. Маю я мяшок цудоўны, сшыты са скуры старой ведзьмы, а ў мяшку тым сіла нячыстая, чорт, сакратар самога Сатаны сядзіць. Вось ён мне і розныя глупствы нашэптвае.

— Ну!? — здзівіўся млынар. — А што ён вам такога гаворыць?

— А, вось, кажа, для прыкладу, што пад ложкам печаная гусь стаіць.

— Ну, гэта брахня, — рассмяяўся млынар, схіліўся пад ложак і ад перапуду аж відэлец з рук выпусціў. Пад ложкам ляжала ва ўсёй красе, задраўшы ўверх ножкі, печаная гусь. Ачухаўшыся крыху, паставіў млынар гусь на стол.

— Хоць і чэрці, а прынеслі, — кажа, — усё ж гэта мяса!

Тут Рыгор зноў наступіў нагой на мяшок. Зноў затрашчала скура і зацікаўлены чартоўскімі штучкамі млынар даведаўся, што яго роднай жонцы пад падушку ўмудрыліся чэрці ўперці не абы-які буталь гарэлкі. Так Рыгор памаленьку піхаў нагою кабыліну скуру і ўмела тлумачыўшы яе трэсканне, выявіў і булкі, і іншую спажыву, нават салёныя гуркі, якія сам надта ж цаніў як закусь.

Пачалі яны есці ва ўсю, аж паясы трашчаць. Час ад часу па чарцы вып'юць. А млынарка тым часам ні жывая, ні мёртвая ў ложку ляжыць і словам не азвецца.

Раптам пад Рыгораваю нагою скура зноў затрашчала. Рыгор нахіліўся, раптам выпучыў, быццам з перапалоху, вочы і замахаў рукамі: Цыц, цыц! Заткніся ты, сіла нячыстая, згінь, прападзі!

— А што ён там зноў новенькага знайшоў? — засмяяўся падвыпіўшы млынар. — А мо яшчэ адну бутэлечку?

— Ой, не скажу, выбачайце, не магу сказаць! Страшныя рэчы чарцюга гаворыць!

Аказалася, што сапраўды здарылася бяда страшэнная! Не больш, не менш, толькі ў млынаровай печы сам Велзебуб — дваюрадны брат самога Сатаны — пасяліўся! Млынар збялеў. Страшна, хоць ты з хаты ўцякай. Прыклаў вуха да печкі, а там сапраўды нешта крэкча і варушыцца! Ад перапалоху ў млынара аж калені падагнуліся.

— Чалавеча добры, — кінуўся ён да Рыгора, — ратуй мяне, памажы! Што хочаш, табе дам!

Згадзіліся на дзве жмені золата. Загадаў Рыгор млынару ўзяць папругу і лупіць д'ябла, як толькі той пакажацца. Сам ён усе дзверы ў хаце насцеж

паадчыняў, узяў качаргу, адчыніў печку ды як пырне! Тут і пачалося! У печы нешта дзіка зараўло і адтуль выскачыў, увесь у сажы, млынарчын госць. Млынар, пасінеўшымі з ляку вуснамі вышаптаў толькі: «У імя Айца і Сына» і сцебануў пачвару з усяго размаху папругаю па мяккім месцы. Завыла нячыстая сіла (млынар потым расказваў, што ў тую хвіліну ў хаце сераю запахла), і, пераварочваючы лаўкі, крэслы і хатні посуд, кінулася ў адчыненыя дзверы, трымаючыся абедзвюма рукамі за пабітае месца. Хутка і след яе прастыў.

Млынар прывёў да прытомнасці жонку, якая ад уражання самлела, адразу выплаціў Рыгору дзве жмені золата ды яшчэ памяняў яго цудоўны мяшок з хітрым чорцікам на пару добрых коней і брычку. Невядома чаму, гледзячы на гэта, млынарка зноў самлела. Млынар кінуўся ратаваць жонку, а Рыгор, не чакаючы, пакуль тая зноў ачуняе, узмахнуў пугаю і паехаў далей у свет.

## Новая казка

Нядаўна ў вядомы павет, у вядомае лясніцтва накіравалі новага ляснічага. Ваколіца прыгожая. Навокал лясы. Сярод лясоў сям-там вёскі параскіданыя. Новы ляснічы — хлапец малады, нядаўна закончыў школу — быў захоплены. Усё яму тут падабалася. Як чалавек сумленны, ён адразу пачаў знаёміцца з падлеглым яму абшарам лесу, навакольнымі вёскамі ды і людзьмі. А акалічныя людзі, як людзі. Не без таго было, каб хто пару хвоек без дазволу не спусціў. На дровы, а то нават на дошкі. Здараліся і браканьеры заўзятыя, якія зайцоў, сарнаў у петлі лавілі. Адным словам так, як шмат яшчэ дзе некультурныя, прагныя людзі лічылі лес, гэтае агромнае багацце, за штосьці з радні ўласнага крывога хлеўчыка, у якім можна даволі паскудзіць.

Колішнія ляснічыя, ці то з ляноты, ці з абыякавасці, не вельмі ім у гэтым перашкаджалі. Новы быў іншы. Кахаў прыроду. Пабачыць дзе свежы пянёк, дык усю вёску пераверне, каб знайсці ўкрадзенае бервяно. Петлю дзе заўважыць, дык пару начэй ля яе ў кустах сядзець будзе, каб браканьера злавіць. Вялікімі карамі пагражае. Пабачылі лясныя хуліганы, што бяда. Дагэтуль, бывала, рабі ў лесе што хочаш, а цяпер нават сунуцца няма як. Вось і надумалі яны ляснічага загубіць. А трэба вам ведаць, што жыў у тым

лесе дзядзька Лесавік — чарадзей магутны. Усіх звяроў, птушак ды мурашак ваявода. Усіх дрэў, кусцікаў ды травак начальнік. Жыў ён у найбольшым гушчары ля Гнілога Балота. і як старыя браканьеры казалі, хто калі сустрэў яго ў лесе, той дадому ўжо не вяртаўся. Вось і пачалі хітрыя дзядзькі ляснічаму тлумачыць, што няма сэнсу па іх панадворках крадзеных дроў шукаць, што проста неразумна ля пятлі вартаваць. Што ўсё гэта чарадзейскія штучкі. Стары хуліган, дзядзька Лесавік, тут вінаваты. Гэта ён, каб свежанінкай паласавацца, зайцоў, сарнаў у петлі ловіць. Гэта ён, каб старыя, раматусам пакручаныя косці сагрэць, неміласэрна лес сячэ. Ад вякоў так было, ёсць, і, мусіць, застанецца! Абурыўся ляснічы. Малады, нявопытны яшчэ.

— Што гэта, — кажа, — такое? Чарадзей — не чарадзей, хоча хуліганіць, дык няхай ідзе ў «Гасподу». А ў лесе я не дазволю!

А дзядзькі сваё:

— Так і не дазволіце, паночку. Думаеце, ён спалохаецца? Гэта ж страхоцце! Росту ён з паўдуба. Вочы шчылінкамі. Барада лапатаю да пояса звісае. Рукі, ногі як карчы сукаватыя. Махне паліцаю — бярозы валяцца. Кіўне пальцам, усе звяры збягаюцца. Ды і знойдзеце яго як? У найбольшым гушчары ён жыве. Ля Гнілога Балота.

— А я лесу нішчыць не дам нікому, — ляснічы на тое. — Калі гэта ён віноўнік, дык хоць за бараду ў суд павалаку.

Шукае ляснічы дзядзькі Лесавіка. Па ўсім лесе абвяшчэнні развесіў, што «злосны хуліган, той якога дзядзькам Лесавіком называюць і чарадзеем лічаць, мае чым хутчэй з’явіцца ў лясніцтве на расправу за шкоды прычыненыя лесу».

Заціраюць рукі лясныя зладзеі. Напэўна, загубіць ляснічага страшны дзядзька. Тым часам ля Гнілога Балота шум. Лесавік са злосці бараду цярэбіць. Нагамі тупае так, што ўсе зайцы ў наваколлі са страху прысядаюць. Толькі што данесла яму сарока, ягоны вястун, адзін з лісткоў, якія ляснічы па лесе развешваў.

— Звярыны штаб, хутчэй на сход, — зароў Лесавік, аж з дрэў пасыпалася лісце. — Дам я яму хулігана, смаркачу такому!

А тут ужо бягуць. Зубр кусты ломіць. З балота лось ужо выбег. З’явіліся шэры воўк, ліса ды вожык. Здалёк прыбеглі алень, пару сарнаў і два вепры, дзікоў прадстаўнікі.

— Няма што, — ляснуў зубамі воўк. — Вось я толькі збегаю, пару сваіх братоў паклічу! Мы тры скуры здзярэм з брахуна!

— Яшчэ чаго, — зароў зубр. — Нават брыдка ў некалькіх на аднаго кідацца. Я яго сам! Як рагамі прыдушу!.. Як нагамі прытапчу! Збіраць не будзе чаго.

— І я таксама! — схапіўся лось.

— Дазвольце мне, — тут з-пад куста паднялася рысь. — Я лапкай яго пагладжу, карак яму скруну. Дый вочы выдзеру, лайдаку!

— А мы чым горшыя? — захрукалі вяпрыскі. — Жывот ягоны распорам. Развалачэм у кавалкі!

— А я ўсе куры падушу ў ляснiцтве! Да смерці ён яечак не скаштуе, — паабяцала ліса.

Тут усе зарагаталі. Што не было б, а ліса пра сваю карысць думае!

Раілі доўга. Спрачаліся моцна. Урэшце, за парадаю мудрай вароны, вырашылі ляснічага на суд даставіць і сходам усім судзіць. Трэ людзям прыклад даць! Яны без выбару амаль страляюць, звяроў у петлі ловяць. А суд ёсць суд. У лесе ёсць законы. І кара знойдзецца, што го-го!

У той час малады ляснічы, не дачакаўшыся водгуку на сваё абвяшчэнне, сам рушыў у лес на пошукі дзядзькі Лесавіка. Спачатку дарожкаю ішоў. Пасля сцяжынкаю. Урэшце праз гушчар пачаў прадзірацца. А ліха яго ведае, дзе тое Гнілое Балота! Раптам чуе, варушыцца нешта за суседнім дрэвам. Заглянуў. А там маленькі козлік у пятлі павіс! Прыдушаны ўжо. Вочы беднаму слязьмі заплылі. Духу не хапае. А вырвацца не мае як, не адпускае варожы дрот! Падбег ляснічы, адкруціў дроцік, зняў з шыі козліка пятлю. «Бяжы, каханы!» — козліку крыкнуў. І той, у шчасце сваё не верачы, шмыгануў у кусты.

Ляснічы ідзе далей. Навокал лес без краю. Тут чуе — недалёка хрукае нешта. А гэта дзічок, свінчо малое ўпала ў яму. Не можа вылезці. А смешнае, як арыштант — у палосачкі. Ускочыў ляснічы ў яму, вепручка наверх выкінуў. Той толькі хрукнуў, невядома, ад страху, ці радасці і прапаў у гушчары. Ляснічы вылез з ямы. Лесавіка шукаючы, далей па лесе бродзіць. Не ведае, што за ім самім тут пошукі вядуцца. Знайшоў яго мядзведзь. Паціху ззаду падышоўшы, у абдымкі абхапіў, аж косці затрашчалі, дый павалок на сход. Напалоханы хлапец праз некалькі хвілін апынуўся сярод натоўпу звяроў, перад тварам грознага дзядзькі Лесавіка.

— Го-го-го-го, — засмяяўся Лесавік. — Бачыш! Я цябе сюды без усялякіх там картак-пісулек даставіў! Без запрашэнняў.

— А я вас сам шукаў, — адказаў ляснічы.

— Гэта чаго ж? — здзівіўся дзядзька.

— Судзіць хачу, — хлапец на тое. — Судзіць, як злыдня.

Уз’юшыўся стары, вачыма бліснуў. Хоча ўзняць паліцу, калі нешта яго раптам — тыц у нагу. Глядзіць, а гэта козлік невялічкі, ледзьве год ад роду, з разгону ражкамі яго базануў.

— Не чапайце яго, дзядзенька, — пішчыць. — Не чапайце, бо забадаю.

— Хрук, хрук! — уперад выйшла дзічыха. — Няма, дзядзенька, што! І я бараніць яго буду.

Аслупянеў Лесавік. Што гэта за бунт? Калі яму, аднак, расказалі, як ляснічы вызваляў з пятлі козліка і як дастаў з ямы вепручка, перастаў гневацца. А калі яшчэ даведаўся ад хлапца, па якой прычыне той прыйшоў і хто яго падбухторыў — дзядзька Лесавік зароў ад смеху на ўсю аколіцу.

Смяяліся звяры. Ад рогату вавёрка з дрэва ўпала. Мядзведзь па жываце сябе так лапай лупцаваў, аж рэха ішло навокал. А воўк са смеху нават забрахаў. Ляснічы здзіўлена стаяў, не ведаючы ў чым справа.

— Ну, — кажа Лесавік. — Насмяшыў ты нас, сынок. Вось хітрыя зладзеі! Згубіць цябе хацелі, са мною пасварыўшы. На маю бараду сваю віну зваліць?! Ну, я ім пакажу! Го-го-го-го! Вось будзе штука! А ты, як бачу, хлапец неблагі. Умееш жыць у згодзе з лесам.

Тут усе звяры наперабой пачалі ляснічаму тлумачыць, у чым справа. Што Лесавік ім сябрам, што мяса ён не есць, адно карэнне ды ягады, грыбок час ад часу. А казак колькі ведае! Уся з лесу моладзь да яго іх слухаць ходзіць. Што хуліганяць у лесе злыя людзі, і што злавіць тых злыдняў яны яму памогуць. За тое, што ён добры, што ім памагае, што бараніць іх хоча...

Адразу вырашылі ў наступную ноч зрабіць вялікую аблаву на шкоднікаў і тых, каго зловяць, судзіць усім сходам. Апошнімі ў будучыні займецца сам ляснічы.

— Ну і я не дам ім спуску, — смяяўся Лесавік.

Тым часам, даведаўшыся, што ляснічы нанач не вярнуўся — згінуў, пэўна, зладзеі рушылі ў лес пажывіцца. Крывы Кандрат пайшоў петлі праверыць. Мо які зайчык задушыўся, мо козачка?.. Глядзіць, сярод дарогі ляжыць вялізны дзік, здаецца, нежывы.

Кандрат яго за нагу, за вуха тузануў, урэшце стаў над ім верхам і пераварнуць хоча. Тут дзік як не схопіцца, як не панясе Кандрата вярхом на сабе! Так і занёс проста суддзям у зубы.

Мядзведзь з лісою завязалі суполку. Ліса мех сцягнула недзе ў вёсцы. Мядзведзь, схаваўшыся ў кусты, мяшок наставіў. Рыжы Язэп тым часам, старую стрэльбіну схаваўшы пад палою, рашыў запаляваць. Глядзіць: ліса пад лесам. Язэп за ёю. Ліса між дрэвы. І ён туды. Урэшце за лісою ўлез у кусты. Ліса пад куст. За ёю Язэп. І проста ў мяшок улез з галавою. Так у мяшку мядзведзь яго і павалок.

Вось воз едзе. Гэта Зміртук так выбраўся па дровы. Вялізная рысь яго цяпер за карак трымае, а воўк кабылу гоніць, куды трэба. Яшчэ адзін. Вось хлапчука за вуха дзюбаю варона цягне. Рагамі ззаду козлік падганяе, вожык у пяткі коле. Гэта, бачыце, невук і хуліган Сцёпка выбраўся птушкам гнёзды бурыць!

Быў шумны суд. Быў і прыгавор суровы. Сяклі лазою ўсіх віноўнікаў. А дзе каму сам дзядзька Лесавік яшчэ штуршок даваў — такі, што той з лесу вылятаў стралою. Да раніцы пуста было ля Гнілога Балота.

Адзін ляснічы лесу пільнаваў. Хочаце — верце, хочаце — не верце, а гэту гісторыю ён сам мне расказаў.

## За што кахаю? Чаму пра цябе адно мару? Найхарашэйшая мая! Казачная! Адзіная...

*Бацьку майму прысвячаю*

Як заўсёды ля хаты дзядзькі Рыгора гурток моладзі. Расселіся хто дзе, і не даюць старому спакою. Асабліва прыліпаюць дзяўчаты.

— Дзядзенька! А! Дзядзенька! Расказалі б нам што...

Сівы, шыракаплечы Рыгор выглядае сярод іхніх, расцвіўшых усімі колерамі веснавых сукенак, як тугі, пакрыты замаразкам грыб баравік, які невядомая сіла ўткнула ў букет кветак.

— Дык не ведаю, пра што, — спрабуе ён аднеквацца.

— А вы, дзядзенька, пра каханне, — запішчала раптам Люба і, глянуўшы на Рыгоравага ўнука Слаўку, чамусьці засаромелася і апусціла вочы.

— Каханне вам захацелася, стракатухі? — спытаў Рыгор. — Ну, добра! Раскажу вам пра тую, якая першай маё сэрца запаланіла. Пра тую, якую я ўсё жыццё кахаў і да астатніх дзён кахаць буду. З усіх найхарашэйшую. Адзіную!

— Гэта вы, дзядзенька, пра цёцю Алесю? — пачалі пытаць дзяўчаты.

— О не, дзеткі! І хоць яна ў мяне, як ведаеце, баба з норавам, ды і зайздросная калісьці надта была, то гэтае каханне заўсёды мне выбачала. А цяпер — цыц! Не перашкаджайце.

Ад маленства я яе ведаў, дзеткі, ад маленства за ёю назіраў. Ніколі амаль з ёю не расставаўся. А пакахаць пакахаў шмат пазней. Незнарок. Рыбу вудзячы. Ой і любіў жа ж я ў маладосці гэта заняцце. А Нарва ў нас блізка, зараз за хатамі. Сядзеш, бывала, пад вечар недзе ля кусціка, закінеш вудачкі. Сыпнеш жменю прынады. Ды і сочыш за паплаўкамі. Пачырванеўшае сонца засланяецца небасхілам, быццам засаромлены дзявочы тварык хусткаю. Навокал цішыня, цішыня. Адно толькі хвалі гайдаюць паплаўкі, бармочуць без перапынку нешта сваё, незразумелае, а прытым цудоўнае. Сядзіш, як зачараваны. А хвалі бягуць і бягуць адна за адною. Усё далей і далей, каб урэшце згубіцца недзе за паваротам. Разам з хвалямі бягуць і думкі. Спачатку нясмелым ручайком выбіраюцца на прастор, каб, асмеліўшыся, хлынуць раптам бурным патокам, закруціцца ў водаваротах і панесціся ўздоўж берагоў недзе ў невядомае. Вось у тыя вечары і я яе быццам першы раз сапраўды пабачыў. Пабачыў і зразумеў, хто яна для мяне. З той пары толькі пачаў да яе ўважліва прыглядацца. І з той пары яна мяне захапіла.

— Дзядзенька! Дзядзенька! — загаманілі дзяўчаты. — А яна што — нашая, вясковая была?

— Не вясковая і не гарадская, — усміхнуўся Рыгор, хітра прымружыўшы вочы. — Штораз усё іншая. І ўсё прыгажэйшая. Раз уся ў зелень апранутая, сакавітая, кветкамі абсыпаная, ззяе ўсмешкаю, пяе жаваранкам. То зноў, раскінуўшы саламяныя косы, таемна ўздыхае, як жнівом у гарачы дзень зморaная. А то ўся ў золаце, шчокі яблыкамі румяныя, паважнай гаспадыняю хлеб-соль на стол падае. Іншым разам паняю ў белае футра загорнецца, пуховаю хусткаю захінецца, серабром мільгаціць. Халодная, недаступная, бы каралева. Бывае вясёлая. Дзявочымі песнямі заліваецца. Гарачая, бы хлеб свежаспечаны. Бывае, што чорнымі хмарамі суму прыслоненая, ручайкамі слёз грудзі аблівае, як маці, якая па сынах сваіх плача. Заўсёды, аднак, свая, блізкая, родная.

— Дзядзенька! — захіхікалі раптам дзяўчаты. — А цалаваць вы яе часта цалавалі?

Схілілася пад успамінамі сівая Рыгорава галава. Памаўчаўшы хвілінку, пачаў ён далей:

— Ці часта цалаваў, пытаецеся? Адзін раз, дзеткі, толькі. Гэта калі я пасля першай сусветнай вайны з салдатаў дахаты вярнуўся. Прыпаў я да яе тады, памятаю, прагна. Цалаваў яе, родную, і плакаў, як тое дзіцё — не саромеючыся. Адзін раз толькі цалаваў яе, дзеткі, і да смерці гэты раз памятаць буду.

— Дзедзік! — азваўся раптам Рыгораў унук. — А біцца вам за яе не прыходзілася? На гэткую ж прыгажуню шмат аматараў быць мусіла.

— А гэта ты, жэўжык, добра заўважыў, — засмяяўся чамусьці Рыгор, бадзёра страсянуўшы галавою. — Аматараў на яе то ніколі не бракавала. Ды і спуску, шчыра кажучы, мы ім не давалі. Лупілі так, каб іншым адхацелася. О! Паглядзі, якая ў мяне пасля гэтага памятка засталася! — тут дзядзька Рыгор расшпіліў кашулю і ўсе пабачылі на ягоных грудзях шырокі рубец.— Гэта мяне ў час другой сусветнай вайны нямецкі вартаўнік штыхам амаль не запароў. Я тады хадзіў у партызанах.

На хвілінку ўсе прыціхлі. А потым загаманілі.

— Дык як жа ж гэта, дзядзенька?— пачалі пытаць. — Дык колькі ж ёй гадоў тады было? Навошта вы за старую біліся?

— А хто вам казаў, што за старую? — засмяяўся Рыгор. — Яна і сёння яшчэ маладая.

— Ой, нешта вы тут, дзядзенька, круціце. Нешта тут не так. Хто ж яна тады такая? Ці мы яе ведаем?

— Ой, ведаць, дзеткі, добра ведаеце, — паківаў галавою Рыгор. — Толькі так, як і я калісьці, яшчэ прыгледзецца да яе па-сапраўднаму і ацаніць яе не паспелі. Гэта ж краіна наша родная. Зямля бацькоўская. І паверце мне, старому, што калі наогул магчыма на гэтым свеце вечна кахаць каго, дык толькі адну яе, родную. І ў ёй напэўна не расчаруецеся,— сказаўшы гэта, Рыгор устаў і, цяжка ступаючы, увайшоў у хату.

Моладзь моўчкі пачала разыходзіцца. Адзін толькі Слаўка, схапіўшы Любу за руку, шаптаў ёй:

— Не вер, Любанька, сонейка маё: я і цябе вечна кахаць буду. Вечна. Заўсёды. Моцна, моцна.

— І я цябе, — адказала Люба.

Вядома, маладыя. Ды і вясна ж.

## Ліст да Віктара Шведа

*Я беларус, я сваёй роднай мовы*
*Яшчэ дзіцём вучыўся ад бацькоў.*
*Таму адно з той мовы нават слова*
*Мне даражэй, чым з іншых сотні слоў.*

Віктар Швед

Добры дзень, Віктар! Што новага ў Варшаве? Бо ў нас, на Беласточчыне, вясна. Не так даўно з календара сарваў я лісток з днём 23 красавіка.

Патыліцу пачухай, любы дружа, і думкі павярні сцяжынкаю назад. Не верыш мне — люстэрка табе скажа, што харашэйшым быў год 50 назад.

Мест грызці алавік у пошуках натхнення, да цыцкі рваўся ты з гарачым пачуццём, смактаў аддана, сапучы з натугі — ружовы пуп ўздымаўся абручом.

Найпрыгажэйшым ты быў у цэлай вёсцы — так гаварылі мама, тата, дзед. З даверам выбалушваў вочкі на добразычлівы, здаецца, добры свет.

Перабіраючы нагамі ў такт песні маці, лавіў ты прагна беларускі сказ.

У справах сексу ты не меў камплексаў — і зад, і перад ставіў напаказ.

А сёння што? Мінула паўстагоддзя. Колькі пар ботаў трупамі адзначыла жыццёвы шлях?!

Ці ты быў шчаслівы? Прызнайся, Віктар, шчыра. Ці тое, пра што марыў у творчых снах, далося ў рукі?.. Ведаю, што не.

— Мара — не верабей, — за хвост яе не зловіш, насыпаўшы пшаніцы на акне. Гэта не чалавек, якому дай пасаду, карыта сытнае, свой самаход — і ён ужо гатоў зрачыся роднай мовы, забыцца, скуль ён, дзе яго народ!

Так, золатка. На жаль, мы ўжо не дзеці. Даверлівасці не застаўся нават след. Як слімакі паўзем — кожны ў шкарлупіне.

Жывем, бо трэба жыць, як іншыя жывуць.

Захочаш іншым быць — наперад ніхто не пусціць, а чаго добрага, яшчэ па задзе накладуць.

А мы ж з табой жывыя. Трапечам, рвемся недзе — у пошуках чагось. Вышэй нам хочацца. Каб на прастор, каб страпянуцца, каб расправіць крылы — пабачыць сонца, а не толькі столь.

Да сваёй песні, Віктар, кожны мае права. У небе, золатка, і жаваранак птушкай пажаданай — хоць вядома ўсім, што гэта не арол.

Таму трывай, пішы, як і дагэтуль. Трымайся трэзва, унікай спакус. І памятай: што хай цябе там нават клічуць Шведам — для нас ты быў і будзеш беларус.

## Вярніце Януку голас

*Гані Туронкавай прысвячаю*

Быў у нашага Янука галасок, як той званочак. Вяртаецца Янук, бывала, са школы, дык у другім канцы вёскі яго чутно.

Дома маці штораз яму рот то бінтом заткне, то хлеба кавалкам, то яблыкам прынамсі, бо інакай з-за яго балбатні стрываць нельга было. Тэлевізар і той заглушыў бы Янук.

А тут, маеш табе, бяда: прапаў, разумееце, у хлапца голас. Зусім згінуў, ды прытым так, быццам бы яго ніколі і ў паміне не было.

Разяўляе Янук ляпку, мала сківіцы не вывіхне. Языком варочаць стараецца. І нічога!.. І ціха... І голасу як не было,так і няма... Бяда!.. І скуль гэта бяда такая?

Плача маці. Бацька, час ад часу хоць ката за хвост турзане, каб перабіць незвычайную ў хаце цішыню. А Янук маўчыць. Трэба шукаць нейкай рады.

Спачатку вырашылі паказытаць яго добра, пад пахамі ды пад пяткамі. Тады ўжо заенчыць, пэўна. А што вы! Казыталі і пальцамі, і нават пёрышкам гусіным. Паўгадзіны над ім мучыліся. Брыкаўся толькі, як той жарэбчык. Бацьку акуляры пабіў, дзеду палову барады амаль з коранем выдзер, а голасам не аказаўся.

Карысталіся і «кашай бярозавай», лякарствам даўнейшым, агульнавядомым, пры ўсіх хваробах у гэтакім узросце адпаведным. Бацька, значыцца,

у лес схадзіў. Пруцікаў бярозавых, што больш гнуткіх, пару жменяў назрэзваў. Прыкладалі Януку і па «мяккім месцы», і па нагах нават. Прыкладалі і з левага, і з правага боку. І з разгону прыкладалі, і з пацяжкаю. Нагавіцы на хлапца ўжо не ўлазяць — а ён маўчыць. Ні бэ, ні мэ, ні кукарэку...

Паклікалі, урэшце, старую Хітрынскую, якая пра ўсё, што ў якім гаршку варыцца, ведае, а язык у яе, калі б палову ў арэнду здала, то рэштаю шчэ ўсе вясковыя вуліцы падмесці дала б рады.

А як жа, кажа тая:

— Перапалох гэта ў хлопца будзе, нічога іншага. Перапалох напэўна — як піць даць.

— Які зноў перапалох? — узмаліўся бацька. — Калі ж гэта яго самога ўсе сабакі ў вёсцы баяцца. Дзікім воям выюць, ва ўсе бакі кідаюцца, яго ўгледзеўшы!

— Дык сама ж бачыла, сама я чула, — Хітрынская на тое. — Сяджу я сабе, ведаеце, аднойчы каля аўтобуса, на лавачцы, што ля прыпынку, а там Янук ваш з хлопцамі гуляе. І вось панечка якаясьці, модная такая, увагу яму звяртае, чаму гэта ён па-свойму, па-беларуску, значыцца, гаворыць. Дурны ён яшчэ ў вас. Мовы роднае засаромеўся. Язык, бы дугу, у другі бок сагнуць захацеў. Вось і трэснула ў ім, пэўна, нешта. Голас выскачыў, загубіўся недзе. Не ўмеў яго шанаваць, ды шукай ты яго цяпер ліха ведае дзе і як. Так, так. Так яно і будзе. Сама ж чула, сама бачыла.

Ды і Янук, які дагэтуль збоку стаяў, і слухаў, вушы развесіўшы, цяпер падбег, рукамі разводзіць, губамі моўчкі варушыць. Што так, што так, пэўна, гэта — паказвае. Ай-яй-яй!.. Падумаць толькі, людзенькі добрыя! Вось гэта бяда дык бяда!

І пайшлі татка з мамкаю, Янука з сабою ўзяўшы, роднага, таго голасу шукаць. І ўсюды шукалі. Пад усе лаўкі, кусцікі заглядалі. Ва ўсё горла аукалі нават. А голас у таго ні гу-гу. Згінуў і знайсціся не хоча. Моцна, пэўна, абразіў яго Янук.

І надумалі тады, старыя дзяды ды бабкі, што выхаду іншага няма. Што трэба ісці Януку з першымі праменнямі сонца на той самы прыпынак, заклінаць той свой голас, з душы цэлай маліць, каб вярнуцца захацеў — дараваў тую крыўду.

І не паспеў, любенькія, першы сонечны бліск шэрай мышкай праз вёску прабегчы, калі Янук ужо тут — ужо на месцы. Дробная барада

дрыжыць, вочы слязьмі запацелі, падгінаюцца, як не свае быццам ногі. Чаго вусны нямыя выказаць не дадуць рады, у душы Янук паўтарае. Мальбою моліць!..

Вярніся, голас! Вярніся, родны! І з тою мовай — што свая. Будзеш у пашане, пешчаны словам — не пагляджу ні на каго! Маёй будзь песняй, маім сумленнем, дарагой марай, думак імкненнем.

Клянуся свята, на ўсё, што люба, цябе, мой родны, больш не зракацца ні за што!..

А вакол світае...

Святочнай печкай дзіцячы тварык збялеў. Вачаняты, угледжаныя недзе ў небасхіл, талерачкамі закругліліся. Роцік рыбкаю паветра ловіць. Ручаняты, не маючы за што схапіцца, у мальбе спляліся...

І восьззяючая мярэжка зямлю ад неба аддзяліла. Вось стрэліў з яе ўгору прамень, першы, другі і трэці. І ўрэшце, пуцатай надзеяй, бы з-за станіка цыцка, выпляснулася сонца. Выпляснулася, разглянулася наўкола і заззяла!..

Затрапятала маленькае цельца. Грудзі, дагэтуль абручом, здаецца, скованыя, ва ўсю шырыню разышліся. Разняліся далоні ўвесь свет у абдымкі схапіць гатовыя. І вырваўся на волю, аж недзе з-пад сэрца, з глыбіні нутра хлапечага, працяглы енк:

— М-а-а-а-мо!..

## Пачакай яшчэ — дачакаешся

*Наташы Туронкавай прысвячаю*

Ты прысела на ганачку ціхенька, ціхенька — маўчыш. Вочкі ж тым часам вавёрачкамі, шмыг-шмыг туды-сюды скачуць, палымяным пераліваm бліскаюць, кожную новую падзею адразу схапіць гатовыя.

Ды і вушкі крыламі растапырыліся — кожны подых новага, кожнае тхненне свету шырокага так, як матылькоў каляровых, ловяць.

Ты ж ужо ой якая дарослая — не зразумець гэтага татку з мамкаю.

Ты ж ужо ой колькі ведаеш — выявіць няма каму, падзяліцца з кім. Вось калі б на кані, на буйным, на чатырохколым, тармазамі скрыгітнуўшы,

каралевіч пад'ехаў. Страсянуў бы валасоў доўгіх грываю, звязкай ключыкаў па далоні бразнуў бы. Светлы ўвесь у бляску сонечным, джынсы тут ды там папраціраныя. Наскрозь дзірак няма, аднак ззяе ўсё. Сесці побач з ім так і хочацца...

А ў вушах гудзе, ды па сэрцы б'е, наўкруг ускалыхвае ўсім, той адзіны рытм — песня дзікая. І нягоды дня, сум штодзённых хвіль, уся нудота быцця — растварыліся. І не той ён ужо свет, шэры колер знік, расквітнела ўсё наўкол вясёлкаю.

Да цябе ён ступіў, узяў пад локаць, вядзе, а ў сэрцы б'е рытм, вецер ногі абвіў, дзяцел дзесь на сасне лупіць дзюбай у бубен, думкі ведзьмамі асядлалі цымбалы.

І не гром-то грыміць, а ўсё той самы рытм ашалела ў скронях стукоча. І хоць у пятках душа, кроў кіпнем пайшла, варам шчокі зліла дзявочыя.

І ў руцэ ўжо рука, адным крокам ідзе след, у адно вока зліліся чатыры — перад імі адно, перад імі сваё — гэта тыя пабачаць, хто верыць.

З кола на кола ўжо топчацца конь, старым серабром абручы памутнелі. І толькі дзве фары брыльянтаў агнём уцяліся ў жыццё— шляхам прывідным.

Месца пры месцы, пры мне ты, я з табою, жахі ды ахі нам ужо не ў спалох.

І конь заіржаў, на ўсіх, на чатырох цыліндрах, на рыцарскім шчыце заірдзелі аганькі.

Трымай мяне, трымай мяне, мой любы! Палёт арліны займае дух. Нават тады, аднак, калі б у свеце мы былі адзінымі — паімчымся, па вёсёлцы, па дузе, пупе цяжарнае краіны — пагоняю.

## Прыкметы

Не шанцавала сёння Сымону. Устаў ён чуць свет. Трэба на кірмаш з'ездзіць. Яблык у садзе хоць адбаўляй. Нездарма ён праводзіў у гэтым годзе апырскванне супроць шкоднікаў. Карысна. Вось прадасць яблычкі і будзе свежы грош у хаце.

Толькі ён выйшаў на двор каня запрагаць, як сустрэў суседку, якая, грымячы пустымі вёдрамі, ішла па ваду.

— А каб цябе трасца, — замармытаў Сымон пад носам. — Быць сёння бядзе. І трэба ж гэта, каб старая карга мяне якраз у кірмашны дзень з пустым вядром спаткала!

Аж сплюнуў у злосці.

Аднак, хоць і не ў вясёлым настроі, паехаў на кірмаш.

Не паспеў выехаць за вёску, калі, скуль не вазьміся — чмых і чорны кот перабег дарогу перад самім канём.

Звесіў Сымон галаву: вось ліха. Будзе бяда! І не малая! І баба з пустым вядром, і кот, ды яшчэ чорны, каб яго мышы загрызлі, — хоць ты назад дамоў вяртайся! Едзе Сымон і думае: ну і навошта ж я на той кірмаш пруся? Напэўна, сёння ў мяне нічога не купяць і давядзецца тавар назад везці. Пасля такіх прыкмет?..

На кірмашы, аднак, усе чамусьці ля ягонай фурманкі таўкліся. Ці таму, што ў яго яблыкі прыгажэйшыя, чым у іншых, ці так чаго? Не паспеў агледзецца, як усё прадаў і грошай узяў за іх столькі, што аж дзіва. Тут Сымон ужо сапраўды спалохаўся. Бачыць, жартаў няма. Тут звычайнаю бядою не абыдзецца. Нездарма кот быў чорны!

— Пэўна, грошы ў мяне ўкрадуць, — падумаў, — аж страх дамоў вяртацца.

Едзе, за кішэню трымаецца, азіраецца наўкола.

Але, дзе там! Ці міліцыя ўсіх зладзеяў пералавіла, ці ў іх сёння нейкае свята і не працуюць? Ніхто на ягоныя грошы не квапіцца. Проста жах. Цяпер ужо чорт ведае, што здарыцца можа!..

А здарыцца нешта ж мусіць! Прыкметы правераны!

Проста сам не свой заехаў Сымон пад гасподу. Заказаў сто грамаў, селядзец, піва. Сядзіць, думае, што гэта яго сёння чакае.

Няма горш, як невядомай бяды чакаць! За першай чаркай пайшла другая, за другой — трэцяя, чацвёртая... Адно піва, другое... У галаве шуміць, і думкі ў ёй усё чарнейшыя.

Заплакаў Сымон над горкім сваім лёсам і, ледзь трымаючыся на нагах, пайшоў да фурманкі.

Едзе дахаты і плача:

— Навошта ж ты мяне, маці, на свет радзіла? Еду і сам не ведаю, якой бядзе насустрач.

Заснуў урэшце п'яны Сымон на возе, разумнае каніска самое брыдзе дахаты.

Да вёскі ўжо даехалі, першыя хаты мінаюць, раптам насустрач выскачыў з-за павароту аўтамабіль. Перапалоханы конь шарахнуўся ўбок, воз перавярнуўся, а п'яны Сымон, праляцеўшы пару метраў у паветры, трэснуўся галавою ў плот.

Сабраліся на другі дзень у Сымонавай хаце суседзі. Сядзіць ён, небарака, у ложку, на лобе гуля з курынае яйка, нос расквашаны. Расказвае Сымон пра свае прыгоды.

Ківаюць галовамі дзядзькі і цёткі. Няма што: пасля такіх дрэнных прыкмет і так яшчэ танна выкруціўся!

Вось і не вер тут, чалавеча, у прыкметы!

## Век жыві — век вучыся

А ліха на яе, на школу тую, любенькія. А хто гэта калі чуў, хто гэта бачыў, каб ёю толькі займацца? Далібог, ніколі не было такога.

Мяне, памятаю, татка пад гаршчок кароценька астрыглі, мамка з бабкаю ў карыце, добра спачатку адмачыўшы, выскраблі, як парасё тое — і ўсё, здаецца.

Ну, праўда, наказалі яшчэ новых портак не дзерці, пана настаўніка слухацца і, галоўнае, чаравікі шанаваць, бо мала што дарагія, а купленыя навырост, як кажуць, каб гадоў гэтак два-тры праслужыць маглі.

Дзед толькі, а хітры ён быў у нас, шчыпануў за вуха, цукру костак з дзесяць насыпаў у кішэню і мовы ўласнай, простай, як тады гаварылі, загадаў не саромецца.

— Бо паны тыя, — ківаў стары закарэлым пальцам, — нам, сялянам, не радня, вядома. А то мужыцкая, а то халопская нават, кажуць, гаворка. А ты глядзі мне, не вер. Не так яно, браток, зусім не так, каб ведаў. Мне школаў, навукаў гэтых, бачыш, асіліць не ўдалося, — не ў тыя часы гадаваўся я. Усё ж, ведаеш, сам па-друкаванаму і газету змагу, і іншае што. Табе вось сем гадоў ужо, а дурноцце яшчэ ты якое. Я ў твае гады песню, верш дзе пачую — на ўсе лады скажу. Мо не верыш? Паслухай:

*Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці.*
*Мой бацька не мог даць раскошаў такіх, —*
*Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці*
*і дум беларускіх без школы і кніг.*

— Ну што, унікнуў? Гэта, браток, паэт пісаў, не кот табе наплакаў. А я, бачыш, ведаю.

*Не бядуй, што хмары*
*Сонца свет схавалі.*
*Народзіцца, мусіць,*
*Бура з гэтых хмар.*

— Гэта мы песняй спявалі калісьці, таткі свайго папытай. А колькі іх было, вершаў і песняў такіх? І пад слёзы былі, і пад штык, павер мне. Наслухаешся і разаком, здаецца, па сэрцы пацягнуў хтось. Малаціўшы, бывае, словы ўспомніш, і ток быццам бы ад удару трэсне:

*Зганіце сон, аслеплы сон,*
*Збудзіце дух прыбіты свой,*
*І ўдарце ў згоды гучны звон!*

— А ты, што? Так адразу за цукар і ўзяўся? Ну, грызі, грызі ўжо. Яно соладка, сам ведаю. Каб ты толькі гэтак і праўду-матку тую ў тых школах грыз так. Бо цукру я табе, свістун, добры мяшочак прыхаваў яшчэ, да навукаў тых каб заахвоціць.

## Т-п-р-р-р-у

Фабрыка, трактар, верталёт, ракета — цвёрдыя словы сённяшняга дня.

Яны вызначаюць дарогу прагрэсу капітанам круглага карабля. Скрыгічуць шасцерні агромнай машыны. Крывую грозы крэсліць радар. Нястройным рытмам працуюць турбіны. — Іх, якія прагналі мару, песню заглушылі, згрызае іржа.

Арыфмометры траскочуць — грошы, грошы, франкі, долары, цэнты. Круцяцца электрычныя мазгі. Кроў пераводзяць у працэнты.

Ратунку крычыць планета.
Тэрмаядзерныя рэактары рагочуць.
На гарызонце хмараю чарнее катастрофа.

## Касмічная эра

Ура! Ура! Мы смела прэмся ўгору. З выдатным поспехам зрабілі першы крок.

Піп-піп. Пііip-піп. Пішчыць-спявае ўслужных спутнікаў вясёленькі вянок. Калісь далёкі Месяц — сёння блізка. Усё болей позіркаў кіруецца на Марс. Пра неба марым. Не баімся рызыкі. Далей! Далей! Ура! Уперад!

Цішэй! Цішэй, сябры! Каб не забыцца:

Што спешка на карысць адно пры лоўлі блох. Што шмат лягчэй падскочыць, чым «мякка прызямліцца». І што на тое, каб браць штурмам высоты, трэба раней думак запускаць ракеты, гаспадаром быць дома — стаяць нагамі цвёрда на зямлі.

## Жнівень

Каласіўся жнівень золатам рублёвым. Той пажне, хто сеяў. Ці старым ці новым, розніцы не будзе. Абы сеяў шчыра.

Разгарніся духам, сэрцам у зямлю ўрэжся, шчодра палі потам, хрыбет трымай, як скрыпку, роўнаю струною. Хто карак сагнуў, хто зняўся пад бядою, пад тым, як багна, гнецца баразна, той ні адной палоскі не назве сваёю, той жаць не будзе.

Бо серпам ці касою, а мо машынаю — тут розніцы няма. Бо праўду калі сееш шчодраю рукою, куды б ні кідаў плённае зерне — яно ўзыдзе.

І парасткі, як дзеці пальцамі ў неба ткнуць у сваю зорку, каб зазіхацела тым святлом ядроным, што бацькі пяялі, што дзед успомніў перад сконам.

## Сейбіт

Загончык невялічкі, які, здаецца, ворагі і насмешнікі далонямі накрыць змаглі б, ды і той камянямі-падкідышамі панатыканы. Ні то вавораны — ні то грэбенем падзеяў расчэсаны.

А ён ідзе! Крочыць праз дваццатае стагоддзе, сыплючы ў крывыя барозны жменю за жменяй. Жменю за жменяю зярнятаў, часамі ад чужой прымешкі ледзь ачышчаных.

Быццам бы не бачыць суседніх тлустых дзялянак, на якіх, здаецца, і верабей арлом разгарнуўся б.

Быццам бы не заўважае шматлікіх сеялак, гатовых ахвотна падмяніць ягоную даматканую плахту.

Сее і верыць! Верыць ва ўраджай.

Няўжо ж ён думае, што хто-кольвек палашчыцца на ягоны чорны, з мякінаю, хлеб?

Хто ж ён такі? Дзівак якісьці? Ідэаліст? Апошні зубр з Белавежскай пушчы? Адкуль узяўся гэты небарака?

А, можа, сейбіт гэта — ты, мой сябра па пяры, пісака?

Пастскрыптум:

Вось і наблытаў! Што за параўнанні? Ізноў я з фактамі не ў згодзе.

Ядуць жа чорны хлеб. Дый хваляць яго тыя, каму жывот успучыла ад булак.

А зубр — які ж ён апошні? Гэта ж калісьці. А сёння іх, рагатых, не проста ўжо злічыць. І з пушчы вылезлі ж, у свет шырокі пруцца. А дзе якіх ў валюце нават цэняць.

Хоць — не, браткі! Тут падабенства яшчэ можна дашукацца. Бо ж ведама ўсім, што роднай барады ніводзін зубр пакуль што не зголіў па тое, каб пад вала прыстасавацца.

## Жырафа

Жырафа маджджачок свой вынесла над дрэвы. Куды там да яе ўсялякай драбнаце. Задзёршы нос пад хмары, сябе адну цэніць, а рэшту свету мае ў хвасце.

Паважна мордай тыцкаючы ў неба, шукае формул вечнага быцця — нястомна перажоўваючы жвачку.

Не могучы ніяк сягнуць карэнняў, не гляне нат уніз — грызець вяршкі. Дый тыя, пакуль да тонкае дойдуць кішкі, страцяць усю вартасць у сэнсе зместу. Мясі іх з слінаю і ноч, і дзень — не выляпіць буханку з таго цеста.

Часамі, праўда, калі ілбом трэсне аб галіну, то, раскірачыўшыся, лезе да крыніц — папіць вады.

Схіліцца непрывыклая, сагнецца ў тры бяды і ўбачыўшы, што ўсё ж не сягнуць ёй да стругі, паваліцца з пакорай на калені...

## Нас мільёны

Мільён — адзінка, шэсць нулёў. Чагось, вядома, горба. Насып хоць макавых зярнят — а поўнай будзе торба.

Сама ж адзінка без кружкоў будзе, як кій жабрачы. Як крыж на ростані дарог. Як чалавек без сваякоў — адцяты хвост сабачы.

Ізноў нулёвыя кружкі, мярцвячымі вачыма, хоць ты іх рэшатам лічы, хоць прыгаршчамі сып у мяшкі — будуць пусцей пустога. Колькі б тым ямам не чарнець — не ўбачыць ім жывога.

Нулямі засяліць зямлю — насыпаць ветру ў дзежку. Таму адзінкі ды нулі бываюць ўперамешку.

Адна адзінка, шэсць нулёў — мільён ужо стаў сцяною. Быццам бясконцы рад дубоў, поўнае неба жаўрукоў, пралітая за волю кроў, як лівень мацярынскіх слёз, магілы нашых дзецюкоў, загінуўшых вайною.

З адзінак творыцца народ. Яны нулёвы карагод у рады пастаўяць, як салдат. З кружкоў бясстварых твораць лік. І кожны лік, як братам брат, ставяць у ланцуг сваячы.

Сама ж адзінка без нулёў будзе, як кій жабрачы. Як крыж на ростані дарог. Як чалавек без сваякоў... Адцяты хвост сабачы.

## Запавет

І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам небыцця. І цені сэрцаў у вопратках мясцовых купінамі, бы вербы, гнуцца пры магілах.

Падкошаныя пні. Галіны рук спляліся ў знак пашаны. І толькі вуснаў два апошнія лісткі малітваю дрыжаць у асеннім ветры.

Сканала сонца. Раптам. Нечакана. І дзень, ужо вырваны з календара, сам злёг у труну. І ноч-удава, бы павуціннем смерці, накрыла могільнік загібам савана.

У мроку тым, густым ад паху ўспамінаў, духмяным дымам узношанай мальбы, снуюцца душы добрых і паганых, і толькі на агарках свечак аганькі хістаюцца туды-сюды ў паклоне.

І цішыня ў вушах гудзе трубою.

Здаецца, што вось-вось перад табою расчыніцца зямля, і мерцвякі, хрустаючы касцямі, натоўпам выйдуць глянуць на жывых.

І наўкруг усё падзе ніц прад імі. Пад вопраткамі сэрцы ажывуць. І страх іх сшчыміць, сціcне кіпцюрамі, вырве з іх праўду, змусіць шчыра біць.

Бо суд ідзе, сатлеўшых, па-над тымі, што, у целе будучы, усё ж гніюць. Смертны натоўп, хрустаючы касцямі, як час няўмольны, уперад брыдзе. Успыхнулі рэштркі свечак аганькамі, каб шлях асвятліць белай грамадзе.

І кулакі самі ў грудзі б’юць. Мая віна. Мая віна прад вамі.

І ваўкалакам дзесьці хтось завыў. Дзесь гукнула сава. У напоры ветру тапалёвы хор заенчыў прывітанне.

Пярэдні тут парушыў сківіцай бязмоўнай. Скрыгат зубоў гучыць нямым папрокам. Дном пекла пачарнелі яміны вачэй.

І кулакі самі ў грудзі б’юць. Бо ёсць грахі, якіх не выбачаюць.

Мая віна. Мая віна прад вамі. Бо вас няма, а словы мусяць жыць, мовы, якой мяне на гэты свет віталі. Той мовы, якою з светам развітацца найлягчэй.

Мая віна. І шчыра б’юся ў грудзі, што я здзяйсняю апошні ваш завет.

На добры лёс дзяцей. На тое, каб і мне ў свой час зямелька родная цяжарам не была. На тое, каб калісь сваім прылегчы з вамі.

## Чорным па белым

Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі. Вось толькі заімшэлыя, бацькоўскія, парогі кінуць — і ўжо яно. Самога Бога ты, здаецца, за бараду схапіў.

Белы-белы настане дзень. Ніхто не ведацьме, хто ты такі. І толькі ў песні, у святочнай, пад чарку, — дзяўчына мыцьме ў рэчцы ручнікі.

І белы-белы матчыны твар растане ў малочным тумане. Назаўсёды амаль. Каб не ведаў сусед. Пакуль доля ліхая не змане.

Белых бярозак прывідны чарод, белых грыбоў ліхаманка пад восень ужо сніцца толькі, і, мо незнарок, прагна хаваеш прыгаршчы ў кошык.

Снежных юнацкіх мараў кужаль, не затоптаных, сонцам абмытых, — скрутак застаўся недзе на гарышчы, у хаціне бацькавай пад шчытом.

І бель, што вочы слепіць, дзявочых грудзей каханнем налітых, як расою сенакос, — вуснаў сухіх ужо ж не змочыць.

Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі. Толькі крочыць.

Ды толькі словам бела-бела беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто...

## Афрыка

Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо — хоць белы маю твар? Чаму мне вецер заўсёды ў вочы дзьме?

Афрыка наўкола, Афрыка — перастук бубноў. Дарэмна хаваць галаву ў пясок — ахвярай не змякчыш багоў.

Тум-да-та, тум-да-та, тум-да-та-там. Хто чорны, той карак свой проціў волі гне. Джунглі ж навокал, як у жудасным сне, енчаць, рагочуць, ляскаюць ікламі — дзяруць за жывое, каб быць пры катле, душаць за горла, захлынайся крывёю...

О-о-о! Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо — хоць белы маю твар?

Доўгае вуха ўсюды — і тут, і там. Новым адкуль не падзьме, кожны подых пачуе, і дакладна прасочыць, якім крокам хто крочыць. Усё ловіць, хапае, усё на нітку матае, павуціну наснавала ўкруг. Ці галосіць там-там, ці заенчыць душа, ці дзе слініцца ядам змяя...

О-о-о! Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо — хоць белы маю твар?

Ільвы і сланы, глянь, на волі — без крат. Насарог трыбушыскам прымінае траву, буйвал з балота ўзняў галаву, іржавай плямай мільгануў леапард, зебра пасецца побач з антылопай гну.

І нават арлу і таму неўздагад, што тут — рэзерват...

І толькі гіены гагочуць. І шакалы смяюцца.

О-о-о! — Мамо!

## Успомні

Здараецца пад восень — нанова зацвітае бэз. Чаму і скуль — вазьмі ды адгадай.

Як выбух радасці ў адчаі беспрасветным — мала таго, што маем лістапад.

Дзіцячым смехам буйна заіскрыўся, расой духмянаю асеў на ламаччы, званочкамі ўсё разбудзіў наўкола. Птушкам голас звярнуў, уваскрэсіў у сэрцах бой; ізноў на свеце май, і вірам пайшла кроў, у вачах бадзёры бліск, сцяліся кулакі і лёгкім здаўся шлях, дарога ў нікуды, — хочацца жыць.

Калі здаецца, што ўсяму канец, ногі, хоць у ботах, ужо толькі босы пакідаюць след і кожны крок крывёю значаць. Неба імглою зайшло, вусны спёкаю гараць, карак, сагнуты дугой, восень потам зліла ды прываліла глыбай твой праторaны след і дарогу ўперад усю пяском замяла, і хочацца навек заплюшчыць вочы... Успомні: бывае вось, нанова бэз цвіце. Калі падняць бярэмя, здаецца, не пад сілу. Не цела ўжо, але ануча. Запёрла ў лёгкіх дых, скруціла рукі, пад лыжачкай шчыміць. І ўсё ўжо прагніло, і усё заплеснела. Смяецца вораг, прыяцель прадаў, і багна наўкруга, і помачы знікуль, а толькі здзек... Успомні: бывае вось, нанова бэз цвіце.

І голаў падымі, і кроч далей, — каб жыць!

## Янычары

Лязгнула лёза аб лёза. Жалеза жалезу насустрач. Цёплае крыві лізнула б — як хлопец дзявочых вуснаў.

Лізнуўшы, усмакталася б у цела, шукаючы ў сэрца сцяжыны. Згусткамі чырвані ірдзела б — бы хлопец у абдымках дзяўчыны.

Смерць янычару не грозна. Іскрыцца лёза аб лёза. Прэць упярод лава пяхоты. У адзін згібаецца лук. З-пад гострых шаломаў адно быццам пучыцца вока. Тысячай шабляў тнець меч Прарока. Уперад! Назад ні кроку! Ірвуцца з дзікай ахвотай — бы ў спотыкі палкіх пяшчотаў.

Сінявокія ды бялявыя. Мацярок хрысціянскіх сыны. Паўмесяцам узгадаваныя — у бок Каабы адбіваюць паклоны. Яны сцяною ісламу. Яго плячом ды вокам. Гатовы ў хвалу Прарока душыць і сясцёр, і братоў.

Адна ўзнагарода за гэта. Адна янычару ёсць мэта. У бітву ісці, як на свята. Прыняць смерць — з рукі кроўнага брата. І верыць, што блуднага сына ўтуліць па сконе айчына. Бо здраднікаў, нават за гэта, не бяруць у рай Магамета.

## Гіена

Трыбух гіены набіты падлам. Апошні кус застраг у засліненай зяпе. Глынуць не праглыне, а выпусціць не хоча — яшчэ хто забярэ...

Ужо сківіцы звяло, выпучыла вочы, дрыжма дрыжыць і задыхаецца з вісклівым хрыпам. Крывая ад прыроды, спружыніць абручом — не месціцца ўжо апошні кус, а яна жэрці жэрла б цяпер і надалей.

З застраглым у зубах крывавым ласкутом, з прышчымленым між ног падціснутым хвастом, з натугі лезе ракам, скідаючы ў сляды ашмоткі поўсці.

А небасхіл, што толькі серабрыў, жаўцее няўмольна. Вось-вось сонцам блісне...

І нават, калі б ноч трывала найдаўжэй, калісь яе падменіць новы дзень... На выпертых рабрынах ляжа цень і вырысуюцца палоскі арыштанта.

## Сон

О, Божа мой, які ж агідны можа часамі сон прысніцца! Бачу: праз увесь горад развалілася карова.

І ў дэлірыум такога падла не пабачыш.

У самы цэнтр рагаты лоб уперла, слінявай ляпай плошчу абхапіла. Язык шурпаты — валам мяса ўваліўся ў святыню ўсіх газет. Трыбух агромністы ўзвысіўся пад неба.

Вымя дойнае багнай расплылося па скрыжаваннях усіх, па вуліцах, па скверах.

І выхаду няма!

Куды б ні зірнуў — ружовым частаколам наёжыўся штыхетнік росных цыцак. Хоць ты адразу ўласны цэбрык падстаўляй.

І ашалеў народ. Бяды не чуе, лезе па спажыву. З гаршчкамі, з вёдрамі, хтосьці ванну прывалок. А дзе хто проста хлебча крывасмокам. Каму па барадзе цячэ, вочы шклянеюць ад перажору, — яшчэ хацелі б.

Сапе пачвара — самой няёмка ёй, пэўна. Уся ўздрыганулася, ад сораму задумала хвастом прыкрыцца, ды як не дрысне... Увесь свет, здаецца, укола абасраўся.

## Дзіцячыя мары

Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбкі?

А ну, мазнем чырвонаю. Гу! Якая пляма расплылася. Што б гэта магло быць? Ні сонейка і ні агонь. А можа, вайна? Не! Вайна брыдкая. А яно прыгожае, быццам жывое і, здаецца, нават з ножкамі... Ага! Так, так. Так, пэўна, выглядае жыццё. Хі! Як смешна. Нічога не было, здаецца. А цяпер яно жывое і можа, на дзіва, варушыцца.

А што далей? Ага! Сінім пацягнем. Т-а-а-к! Тут палоску. І тут таксама. Хопіць ці мала будзе? А што сіняе? Кве-та-чкі і неба, і... і... шчасце. А шчасця ўсім заўсёды не хапае. Дык не пашкадуем. І тут яшчэ ляпнем. І там. І там. Э! Разальем яго стружкаю. Усім тады будзе.

О! А цяпер намалюем смех. А смех які? Хі! Пэўна, жоўты. Такі вясёлы, залаты, як куранятка. І мы, вось, гэты куток... Ха, ха, ха! І той яшчэ. Хі, хі, хі! І цэлую сярэдзіну. Усё, усё будзе смяяцца.

А што зялёным? Зялёным — лісцікі. А ў лісціках... у лісціках птушачкі. А птушачкі — гэта-гэта-гэта песенькі. А песенек шмат. І мы іх — плямкамі. І плямка тут. Плім! Плім! Плім! І плямка там. Плям! Плям! Плям!

Мама! Глянь, які прыгожы, шчаслівы, вясёлы, расспяваны свет.

«А каб цябе, пастрэл ты сякі ды гэтакі. Чакай, прыйдзе бацька! Дасць ён табе шчасце ды вяселле. Не так заспяваеш. Бачыў хто?! Усю сурвэту фарбамі замазаць!»

# Чалма Умара Хаяма

*Налей того вина, что если капнет в Нил,*
*То пьяным целый век пробудет крокодил.*
*А если выпьет лань, то станет грозным львом.*
*Тем львом, что и пантер, и тигров устрашил.*

*Омар Хайям*[27]

Вітай, мой дружа! Што з Табою? Чыркнуў бы да мяне пару слоў. Чалма[28] Умара Хаяма[29] ільнянай беллю рассыпалася ў сцежку, сцелецца дзесь удалеч і, быццам гурт бярозаў, у адзін гай нас вяжа.

Ты не звяртай увагі, што часам хтось бруднай лапай на яе наступіць.

Не табе ўпэцкаць гэткай чыстай белі, вражэ! У дажджы намокне, у сонцы праяснее. То прывіднай пятлёю перад злыднем ляжа, то светлай марай выблісне ў прасторы. З віхуры сібірскай надзеяй бяжыцьме — родную хату атуліць імглою. То ручнікам паслужыць хлопцам на чужыне — няма вады з Нёмана, выбяляць слязою.

Сядзіць стары Хаям, ківаючыся, з непакрытай галавою. Вякі ўжо трывае жудны Рамадан. Што ў сонцы — сохне. Ад посту гарбее. А цемра жрэць, гуляючы дурэе ды па куску ўсё болей забірае дня ў сваё горла. Ноч усё даўжэй...

О, мой Сакі! Ты ведаеш законы. Алах адзін! І палец Прарока, як меч узняты над усёй зямлёю. І волас з барады не ўпадзе нам з табою без яго волі.

Дык плюнь на Шарыят — вінам напоўні збан.

---

27 Аўтар, відавочна, памыліўся. Чатырохрадкоўе ў эпіграфе належыць Абу Абдалаху Рудакі (858-941) – заснавальніку класічнай персідскай паэзіі. Яго беларускі пераклад, зроблены Міколам Мятліцкім, надрукаваў ЛіМ:
*Налі таго віна, што калі капне ў Ніл,*
*Дык п'яным цэлы век прабудзе кракадзіл,*
*А калі вып'е лань, то стане грозным львом,*
*Перад якім і тыгр дрыжыць з астатніх сіл.*
«Літаратура і мастацтва», № 6 ад 8.02.2013, с. 6.

28 Чалма – мужчынскі галаўны ўбор у мусульман – доўгі кавалак тканіны, абкручаны некалькі разоў вакол галавы.

29 Умар Хаям (1048-1131) – персідкі і таджыкскі паэт і вучоны.

І вер і ты і ўсе, хто белай звязаны чалмою, што сваю чару споўніць трэ да дна — нават, калі б налітая была крывёю. Да дна — за светлы новы дзень.

## Смыкам па сэрцы

*Выпускнікам Бельскага ліцэя*

Навошта ў чалавеку струны існуюць? Закрані абы-якую — гул ідзе. Вясёлую — і рогат півам пеніцца. А калі сумную — кіпцюры па сэрцы заскрабуць.

Бо дзе той Бельск? Ёсць іншыя ліцэі, славутыя, у гісторыю ўбітымі цвікамі. А я да вас імкнуся, хлопцы і дзяўчаты. На вашай ноце думкі мне пяюць — спеўку матчыную.

Бо не ўдалося піць мне з тых крыніц, дзе кожны дзень купаллем іскрыцца, дзе летні вечар коласам шуміць, дзе ловіш прагна кожны гук, каб не забыцца — хто ты.

І злосць бярэ, і ціснеш у руках паперу, і шчыміць нешта болем пад грудзьмі, і марыш — вось, каб двойку хто паставіў за мову родную, сярод сваіх, у сям'і.

А вас ужо грамада. Шарэнгі ў свет пайшлі, каб долю зваяваць. Сярод бландзінаў, рыжых і чарнявых ніводнага, здаецца, не пазнаць.

І струна брэнкнула. І вось зазыў сваячы вас склікаў у той скромны родны кут.

І цяжка мне. Хацелася б быць з вамі. З штодзённай муці плёснуцца ў стругу той плыні беларускай.

Гаворкай роднаю заліць тугу.

# З учарашняга ў сёння

## (урыўкі)

Склікаю Вас у гасціну, буйныя браты.
Раскінем ільняным полем гісторыі абрусы.
Будзь нам сталом дубовым хоць века ад труны,
Калі гуртам засядзем — усіх вякоў сыны...

* * *

Стук — перастук капыт малаткамі ў скронях б'ець. Рассядлай ужо Сіўка, дай каню адпачыць — змілуйся, Ярыла!

Твар свой сонечны скрый, у апачывальню зыдзі, зрэнкам аслепнуць не дай — змілуйся, Ярыла!

Свят! Свят! Свят!

Вольным ветрам дыхні, Стрыбожа. Яшчэ раз! Яшчэ раз! Валасы патрывож. Сэрцы ў нас скалыхні. Вей! Вей! Вей! Вольным ветрам дыхні, Стрыбожа.

Мрок навесь саванам, каб не згледзеў ніхто. Каб ніхто не ўрок — ні наш край, ні алтар, ні ахвяру, якую даём.

Стары шалом на спарахнелым пні. Галубка з ранай пад грудзьмі. З той раны стружкаю крыві — у чарпак крынічнае вады — жыццё сплываець цёплай хваляй. Яшчэ дакінуць дзівасілу, зуброўкі, сумніку, зарніцы. Касцей сатлеўшых сыпнуць жменю. Зямлі, што з дзедаўскай магілы. Дадаць да смаку горкіх слёз... І чару падымаю да нябёс. Далоні ірдзяцца, бы ў агні. Не грэбуй — выслухай мальбы! Удар, Перуне!

* * *

Зацвіла калінай родная зямля.
Белай, белай, белай — сувой палатна.
Каб пад восень, нечакана,
Даспяваць крывавай ранай.
Звісаць чырванню караляў.
Згусткамі сплываць з галля.

* * *

Ад захаду грымнула бураю. Да чарноты ссінела неба.
Жыццяў нашых, крыві ды цела, ненаеднай пачвары трэба.
Не было пражэрлівей жорала, хоць не адна нас зжырала зяпа.
Вечар бадануў у лоб раніцы. Раніца ўперлася ў вечар
І мрок настаў. Мрок спрыяльны кату...

* * *

Танцавалі хлопцы на шнурах — крыжачок, а, мо, польку.
Заплывалі ім вочы ад гару — а мо не толькі.
Клаліся целы ў адзін, у дзве, у тры столкі.
Буйнелі нівы замест жыта — асотам.
Каб вораг яму ў гэтай жа зямлі заскварыў,
Якую смеў таптаць акутым ботам.

* * *

Зубамі браліся за шпалы.
Уся зямля была дрыгвою.
Каб змог прайсці хто за табою,
То клалі сцежку сам-сабою.
І на твае ступіўшы плечы
Ірваўся наперад другі й трэці.
На яго карку ўжо дзесяты,
Ставіўшы ногу, цвёрда верыў,
Што хоць крывёю брацьмуць рэкордныя надоі,
Той цэбар смерці ўспеніцца надзеяй...
Ды толькі так змянялі бег падзеяў.

* * *

Забяліла раніца туманом рэчкі-рэчанькі.
Разлівае боршч пунсовы берагам-братам.
Гаспадарскі — як у звычаі.
Навар тлусты — на ўсім краі.
Пі з карыта, сёрбай смела, — усё навокал патаннела.
Кожны дорыць, чым багаты, — не пытай цаны.
Каму, можа, мала солі, — зачарпні сіроцкай долі.
Каму перцу — хопіць хатаў сцёртых на вуглі.

Пі з карыта, сёрбай смела, усё навокал патаннела — разам і з людзьмі.

Маеш вусы ў іржы. Спаласні трыснягі —
Шэпча праваму бераг ліхі.
Правы бераг ліхому адгукае ў адказ:
Спаласні трыснягі, бо іржа на вусах.
Хваля хвалю жанець у мора,
Бераг з берагам гамоняць.
Жыравацьмем, покуль дораць.
Нахлебчамся да ўпаду.
Хвалі зловім — да апошняй!
Усё працэдзім праз трысцё.
Няхай поіцца ракіта.
Няхай жлуктацьмуць палі.
Падсілкуем усю прастору.
Не прапусцім кроплі ў мора — роднае крыві.
Там растворыцца, загіне,
Бы лісточак, што з галіны
Змяло віхрам бурнай ноччу,
Скамячыла ды паперла — дзесь за небасхіл.

Там растворыцца, загіне.
Прыме колер чужой плыні.
Бескарысна дзесь буцьвецьме.
І галлё, што сыпле квеццем — будзе толькі сніць.
Хай сілкуецца прастора.
Не прапусцім кроплі ў мора — роднае крыві.

Хваля хвалю жанець у мора.
Дзень за днём нам сонца дорыць.
П’ець ракіта, мо з пахмелля, — чуючы вясну.
Абцякаюць ціханька, быццам бы слязьмі,
З галадухі спухлыя белыя палі.
Звыш сілы цяжар плечы асядлаў.
Ад натугі ўспацелі сцежанькі людзьмі.

Кропелькі поту стружачкамі збягаюць.
Сыплюцца патокам у кацёл вайны.
Восень абцярэбіла лісцейка з галля.
Прайшла дрывасекам жорсткая зіма.
У журбоце дрэвы ручанькі ўзвялі.
Родзічы, што плачуць па блізкіх ад радні.

* * *

А край жывець вось, са сну
Амаль смертнага ўсё ж працірае вочы.
І будзе, як адвечна...
На кволых грудзях узгоркаў новая зазелянее рунь.
Безліччу галоў непрычэсаных устрасяне памаладзелы лес.
Ды з часам песню пачуеш і смех іскрысты — дзявочы.
Бо хлопцы... бо хлопцы яшчэ на вайне.

Дзярэць за горла смага.
Цесна тугім грудзям.
Нейк пуста, томна, млеўка, пад лыжачкай шчыміць.
Балючым крыкам ірвецца просценькая спеўка,
Можа, дзе пачуюць нашы дзецюкі?

На гэты кліч птушыны, спякотны ўспамін
Вяртацьмуцца хлопцы й сталыя мужчыны
З межаў таго свету — на шасцёх адзін.
Дзе тых пецярых — хто ж так адгадае?
Туліць дзесь да сэрца іх зямля чужая.
Туліць з абавязку, як не свая маці.
Няўтульна, нябогім, у той пасцельцы спаці.
На шасцёх аднаго вітаюць дзяўчаты.
Больш буслоў на стрэхах, чым мужчын па хатах.
У плуг упрагліся маці ды з дачкою.
Адну тугу тужаць — адной баразною.
У мяшку не ўтрымаеш рою пчол бясконца.
Дзеўкі да кахання, кветкі імкнуць да сонца.

Зачарпнуці шчасця не кожнай прыпадзе.
Не хопіць падпоркаў, колькі дрэў у садзе.
Гарэла лета, ліпень бзыкаў млява.
Пайшло ўжо колішняе семя ў каласы.
Хадзілі зноў у госці, не маршыравалі,
Свае хлопцы — замест былых салдатаў.
Праснілі жудны сон ды цешацца надзеяй.
І вусны вуснам шэпчуць тое, што заўсёды.
І рукі блудзяць, дзе ніхто не быў, а ўсё вядома.
То цвітуць, то адцвітаюць прыполы дзяўчат.
Уздымаюцца, бы цеста на рошчыне свежай.
Бусліны клёкат чуецца ля хат
Ды быць нам з ураджаем — ажывае племя.

Крупніку па чарцы вып’ем, любы дружа.
Варыла маці крупнік, ціха чаравала.
Мёд спадзёвы, цёмны капаў, бы з грамніцы.
З вядра, быццам вока, поўнага да краю
Лінула, да меры, празрыстай слязою.
Сыпала карэнняў, мяшэчкаў не злічыш,
Цудатворных зёлкаў — сваёй таямніцы.
Дроў кідала ў печку заўжды скупавата,
Каб душу сагрэці, не згарэла б хата.
Усю чужую накіп, што наверх усплывала,
Сярэбранай лыжкай з пенаю збірала.
Быццам далікатна, а ўсё ж сурова.
Гонар гаспадыні вымагаў такога.
Чысты янтар шкліўся, вабіў глыбінёю.
Пах духмяны п’яніў, змушаў быць сабою.
Пасля ўжо рашуча, цвёрдаю рукою
Далівала моцы, сілы ды настрою.
Такой медавухі кубак ламатнуўшы,
Мёртвыя ўскрасалі, будзілі заснуўшых.
Чым мне напаіці, дружа, нас з табою?
Таямніца зелля ж адышла ўраз з ёю.

Ды не ўдаецца жорсткай пяцярнёю
Змяшаць моц, у меру, з крынічнай вадою.
Няхай тады будзе, быццам на кургане,
Таго памінацьмуць, хто ўжо не ўстане.
Належную зброю побач з ім злажылі.
Скрутачак паперы, два гусіных крылы.
Ёсць і верацёнца, жмут белай кудзелі.
Хай снуецца нітка бясконцай надзеяй.
Памянем, як мужна, без шчыта, суліцы,
Горда ўздымаў голаў супроць навальніцаў.
Мячом ваяваўшых кідаў на калені.
Палоніў на векі з кветкамі ў жмені.
Паклонімся нізка Светламу Ярылу,
Каб з промнямі сонца нам servicesлаў той сілы.
Воям не навіна ўсякія нягоды.
Пярун размахнецца молатам па небе.
Стрыбог дзьмухне гарам паленых сялібаў.
Гэй вы, варажыхі, не шкадуйце чараў!
Вуглі шчэ ірдзяцца ў свежым папялішчы.
Свой агонь сагрэе, толькі чужы нішчыць.
Няхай пырскае, няхай булькае.
Кацёл яду на іскрах дня.
Размясеце ж варыва, ведзьмы!
Няхай пеніцца, хваляй плешчацца.
У клубах пары, як у саване.
Праз усе шчыліны і душы сочыцца.
Каб, хто вып’е — спіны не сагне.
Першы кубак у зямлю ды на ветры чатыры
Пырснем шчодра ў ахвяру багам...
Пасля вып’ем самі ды другі раз паўторым,
Бо хоць шмат курганоў — мы далей жывём.

## Да свету

За вокнамі цёмна-цёмна, вецер дзьме.
Белай плямай вабіць-вабіць
Картка на стале.

Аб шкло лямпы п’яны-п’яны б’ецца авадзень.
Алавік сам лезе ў руку
Ціха, як зладзей.

Воўкам шэрым вые-вые ў душы туга.
Мо, ты пятым, непатрэбным,
Колам для ваза?

Мару-птушку ты ловіш-ловіш на страсе.
Можа, лепшай луста хлеба, —
Верабей у руцэ?

Аднак думкі гоняць-гоняць да стала.
Абмінаюць слоў шарэнгі,
Рэшткі авадня.

Пасля ночы будзе-будзе колісь дзень.
Мы не можам жыць без свету —
Я і авадзень.

# *П’есы*

## Хто – каго?

### (п’еса ў трох дзеях)

Дзеючыя асобы:
**Юрка** – мужчына каля трыццаці гадоў, добра апрануты, рухавы.
**Валодзя** – мужчына пасля трыццаткі, павольны.
**Ніна** – поўненькая, прыгожая, элегантна апранутая бландзінка. Жонка Валодзі.
**Марыйка** – зграбная, высокая, чорнавалосая. Жонка Юркі.
**Інкасатарка** – звычайная дзяўчына; збірае грошы за газ і электраэнергію.

Пакой камунальнай кватэры, у якім адбываюцца амаль усе дзеі п’есы. Аднак пакой гэты неабходна размясціць на сцэне так, каб гледачы адначасова маглі бачыць здарэнні перад уваходам у кватэру, а нават і ў калідоры, на ўсходах.

### Дзея першая

Звычайны пакой. На падаконніку – два вазоны з кветкамі. У пакоі – два тапчаны, вузкія, невялікі столік і два крэслы. На століку – гурба кніжак і розных папер. Гурбы кніжак і пад сценамі. З левага боку – дзверы ў кватэру. Відаць калідор. З правага боку, у куце, заслона з палатна ў кветкі ці ў іншы ўзор. За заслонаю знаходзіцца ўмоўная кухня з газавай пліткай, запасам пасуды, водаправодам, і г.д.

Ад калідора падыходзіць да дзвярэй Юрка, апрануты ў кажушок, шапку. Здымае рукавіцы. Стукае ў дзверы. Валодзя ляжыць на тапчане, апрануты ў піжаму, і гартае кніжку. Пачуўшы стук у дзверы, кідае кніжку на падлогу, совае ногі ў шлёпанцы, накідае на плечы халат, які валяўся на тапчане, побач з ім, і адчыняе дзверы.

ЮРКА (працягвае Валодзі руку). Вітай, Валодзік! Што новага?

ВАЛОДЗЯ (паціскае руку Юркі, другою рукою паказвае на вешалку). Здароў! Распранайся!

ЮРКА (распранаецца і разглядаецца па пакоі). Што? Працуеш?

ВАЛОДЗЯ (разводзіць рукамі). У мяне, як бачыш... Жонка з дачкою да бацькоў паехалі, а я, вось, мудрую, каб дзе як урэшце спецыялізацыю зрабіць. Сяджу і набіваю галаву ведамі. Сядай (запрашае; бярэцца рукою за заслону, якая адгароджвае кухню). Кавы табе, ці чаю?

ЮРКА (сядае ў крэсла) Дзякуй! Я толькі на хвіхінку. Пабачыў, што ў цябе яшчэ гарыць святло – думаю, загляну (устае з крэсла, падыходзіць да стала, бярэ паперы ў рукі і глядзіць іх). Часамі, ведаеш, хочацца пагаварыць...

ВАЛОДЗЯ (уваходзіць за заслону ў куце, у кухні). І вельмі добра, што забег. А ўсё ж – кавы ці чаю?

ЮРКА (сядае ізноў у крэсла). Ці я ведаю? Можна – чай, адно моцны. Такі, на дзве заваркі...

ВАЛОДЗЯ (высоўвае галаву з-за заслонкі). Робіцца! У гэтай справе я вядомы знахар. Заўсёды сам заварваю (хаваецца за заслону). Жонцы – да чайніка дакрануцца не дазваляю. Калісьці свой рэцэпт дачцэ ў пасагу перакажу (ізноў высоўвае галаву з-за заслоны). Да такой умеліцы адразу які-лень інтэлектуал за мужа папросіцца.

ЮРКА (развальваецца ў крэсле, смяецца). Альбо п’яніца добры. Я ведаў аднаго, які – на другі дзень – заўсёды моцным чаем лечыўся (устае, пачынае хадзіць па пакоі). Таксама па спецыяльным рэцэпце...

ВАЛОДЗЯ (выходзіць з-за заслонкі, з чайнікам да заваркі ў руках). Ну? Цікава!

ЮРКА (падыходзіць да Валодзі і тыцае пальцам у яго грудзі). А яно даволі простае (адыходзіць на крок, твар вясёлы. Робіць уражанне, што ў адной руцэ трымае шклянку, а другою – зверху – налівае ў яе ваду). Наліваецца шклянку моцнага чаю. Бярэцца шклянку леваю рукою (падымае левую руку, быццам шклянку трымаючы, угору) і, разоў пяць, падымаецца ўгору (апускае і падымае, некалькі разоў, руку з уяўнай шклянкаю). Пасля трэба ёю закруціць тры разы ў левы і, тры разы ў правы бок (адпаведна пакручвае, быццам мяшаючы ў шклянцы вадкасць. Затым, ізноў падыходзіць да Валодзі, які цэлы час, з чайнічкам у руцэ, вельмі ўважліва слухае, і тыцкае пальцам у яго грудзі). Гэта ўсё дзеля трэніроўкі (адыходзіць

на крок), каб рука не дрыжэла! (з націскам). Тады ўжо можна чай выпіць (робіць жэст вылівання нечага на падлогу), наліць паўшклянкі манапалёвай (смеючыся зацірае рукі) і-і (робіць паўзу), зажмурыўшы вочы, хлебануць (пстрыкае сябе пальцам у шыю).

ВАЛОДЗЯ (махае свабоднаю рукою, смяецца). А каб цябе!!! Заўсёды на якуюсьці дурніцу зловіш (уваходзіць за заслонку). Я думаў, ты ўсур'ёз...

ЮРКА (развальваецца ізноў у крэсле, выцягвае ногі на ўсю даўжыню). Усур'ёз! І ўсур'ёз ты мне скажы, золатца, ці выпадкова (бубніць пальцамі па стале) нямаш у тваім доме чаго закурыць, га?

ВАЛОДЗЯ (выносіць дзве шклянкі чаю, ставіць іх на стале). Скуль? Сам жа ж ведаеш, што я не куру. Можа я да суседа, тое, забягу зараз (кіруецца да дзвярэй).

ЮРКА (ускоквае з крэсла). Стань, чуеш? Ты куды здумаў? (падыходзіць да Валодзі – за руку адводзіць яго ад дзвярэй). Я ж таму да цябе і зайшоў, што ты не курыш (сядаючы ў крэсла). Бяда ў мяне, Валодзік!!

ВАЛОДЗЯ (падыходзіць да заслонкі і бярэцца за яе рукою). А каму сёння не бяда? Я ўчора, напрыклад, дзве талеркі пабіў, няхочучы (уваходзіпь за заслону).

ЮРКА (маркотна). Та-ак. Толькі, што я курыць, ведаеш, кінуў.

ВАЛОДЗЯ (выходзіць з-за заслонкі з місачкай цукру). Я пра тое якраз: жонка, са злосці, сціркай кінула ў мяне (ставіць цукар на стол і ідзе за заслонку, высоўвае адтуль галаву). Толькі што і кубак, які сціркаю тою, выцірала, таксама разам паляцеў.

ЮРКА. Знаку на табе, аднак, няма (прыглядаецца).

ВАЛОДЗЯ (выходзіць з-за заслонкі з лыжачкамі да чаю). У тым жа і бяда, даражэнькі (кладзе лыжачкі побач са шклянкамі). Калі б уцэліла, дык можа супакоілася б... (прысоўвае сабе крэсла і сядае). А так, пабачыўшы, што кубак, замест аб мой лоб, аб сценку растрэскаўся – баба ўскіпела і (разводзіць рукамі) з дачкой да бацькоў паехала!

ЮРКА (падсоўвае сабе бліжэй шклянку). У-у-у-у! Амаль, як у мяне.

ВАЛОДЗЯ (нахіляецца з зацікаўленнем у бок Юркі). Не?! А твая, цікава, чым – у цябе?

ЮРКА (са злосцю). Па-першае, не яна – у мяне, але я – у яе! Я ж табе, зрэшты, казаў... (Валодзю перад носам махае рукою). Я ж курыць (з націскам) кінуў!

ВАЛОДЗЯ (здзіўлена). А што гэта мае супольнага?

ЮРКА (устае і зверху паглядае на Валодзю). Няўжо не разумееш? (сядае). Адразу відаць, што не курыў ты ніколі,

ВАЛОДЗЯ (далей не разумеючы). Чаму? Разоў два, тры спрабаваць здаралася...

ЮРКА (махае рукою). А-а-а-ай. Гэта не тое (устае і пачынае нервова хадзіць па пакоі). Я, ведаеш, кінуў адразу (прыстаў і пільна ўглядаецца ў Валодзю). Вось так: узяў і кінуў (з націскам). Так-так (ізноў пачынае хадзіць) а рэшту папяросаў, якія меў у запасе, зачыніў у пісьмовым стале, на ключ.

ВАЛОДЗЯ (салодзіць сабе чай). Ну і правільна. Іх яшчэ і выкінуць трэба было.

ЮРКА (сядае, ізноў, за стол). У тым жа, бачыш, і справа, што я выкінуў (нахіляецца ў бок Валодзі). Выкінуў, значыцца, ключ ад таго стала (сядае выгодна). Гэта, каб не закурыць... няхочучы.

ВАЛОДЗЯ. Далей не разумею я, у чым справа? Ты, аднак, чай пі (падсоўвае яму цукар). Вось цукар: саладзі, калі даска,

ЮРКА (адсоўвае цукар). А ты слухай, не перабівай мне (нахіляецца да Валодзі). Па тое, каб не думаць пра гэтае паскудства, заваліўся я на тапчан, паклаў ля сябе паўкілаграма цукеркаў і пачаў чытаць нейкую брашурку аб шкоднасці нікаціну (развальваецца выгодна ў крэсле і ўздыхае). Гэта пра ўсялякія там ракі, ведаеш...

ВАЛОДЗЯ (ізноў падсоўвае яму цукар). А ты ўсё-такі чай пі, бо астыне. А зараз – перакусім: жонка прыйдзе (паўза; махае злосна рукою). А цьфу, каб яе ліха... Ізноў забыўся: я ж нават хлеба не купіў! (паўза). Усё, па звычцы, на бабу разлічваеш...

ЮРКА (махае рукою). Чакай. Няважна. Ты, вось, паслухай: грызу я сабе цукеркі, гартаю брашуру. Гляджу – малюнак! (з націскам). Ты разумееш? (устае, нахіляецца над Валодзем). Папяроса на малюнку тым, ды яшчэ прыкураная (выпрастоўваецца, зажмурвае вочы і задзірае галаву, уздыхае). Сівенькі дымочак так і сцелецца ад яе, так і клубуе... (нахіляецца зноў, над Валодзем). Разумееш? (пачынае нервова хадзіць па пакоі). Там, праўда, і надпіс быў: «Нікацін – твой вораг. Ад яго ўзнікае рак лёгкіх» (прыпыняецца і глядзіць на Валодзю). Дзе тут да рака, калі... калі на малюнак глянуўшы, так курыць захацелася, што сам, здаецца, ракам стаў бы!

ВАЛОДЗЯ (сёрбае чай). Дарэчы: а колькі часу ты ўжо не курыш?

ЮРКА (сядае, салодзіць чай). Як колькі? Ужо цэлых два дні! (мяшае лыжачкаю цукар). Ага! (сёрбае чай і ставіць шклянку на стол). Кінуў я, браток, тую брашуру, уключыў тэлевізар і зноў – за цукеркі! Смакчу і гляджу праграму. П'еса якаясьці якраз адбываецца... Пра дымок я стараюся забыцца (папівае чай).

ВАЛОДЗЯ (бярэ шклянку ў руку). Няўжо гэтаксама цяжка адзвычаіцца? (п'е чай).

ЮРКА Чаму: гэтаксама? (бярэцца за шклянку).

ВАЛОДЗЯ (папівае чай, апускае галаву і сарамліва гаворыць). Ну, бо я, ведаеш, тыя талеркі няшчасныя з рук выпусціў, будучы крыху падпіўшы (падымае галаву). Жонка даўно сварылася, каб перастаў я выпіваць. Сам, аднак, ведаеш: куды не сунуўся, якога б сябру не сустрэў, дык амаль заўсёды чарку перакульнуць патрэбна (паўза). А цяпер – бачыш (разводзіць рукамі). Аднаго мяне пакінула жонка і рабі тут, што хочаш.

ЮРКА (уздыхае). Так, як мая – мяне!

ВАЛОДЗЯ. А што? І твая?!

ЮРКА. Ну бо, ведаеш, у той п'есе, якую па тэлевізары паказвалі, выступала нейкая сучасная гераіня і... (адпівае чай) і, як на злосць, штохвіліну новую папяросу прыкурвала (паўза). Пацягне пару разоў (уздыхае) і кіне (узмахвае рукой у паветры), пацягне пару разоў (уздыхае) і кіне (узмах рукою ў паветра). А тут, ад цукеркаў, пачала мяне яшчэ пякотка ў горле дзерці (пахіляецца да Валодзі). Ты разумееш? (плюхаецца назад, у крэсла). Не вытрываў я і палез у пісьмовы стол, за папяросамі.

ВАЛОДЗЯ (сумна ківае галавою). Так-так, а-я-яй, разумею, браток. Падыме, такая, далікатненькімі пальчыкамі чарачку (падымае шклянку з чаем), гляне на цябе з-пад штучных веек (пахіляе галаву набок і, прыжмурыўшыся, паглядае на Юрку) і кажа: «Нават са мною не вып'еце?» (стараецца гаварыць гэта жаночым голасам). Гэтакім мяккенькім галаском спытаецца (паўза). Ну і хто тут вытрывае? Скажы!

ЮРКА (уздыхае). Нічога ты не разумееш. Ты толькі пра мяне падумай! (тлумачыць, махаючы рукою ў бок Валодзі). Я да стала – а ключоў да яго няма! У смецці ён (загараецца). Я да сметнічкі, а яна пустая: жонка апаражніла. Я – стол ламаць! Шкада, аднак! Мэбля дарагая сёння (стомлены). Сеў я зноў перад тэлевізарам. А там – тая малпа курыпь і курыць (паўза). Ну, хоць ты выхапі ёй з зубоў! І ў гэтакую, ведаеш, хвіліну падыходзіць да

мяне жонка і запалак пытае (паўза; адварочваецца). Ці ж гэта не здзек (і да Юркі). Вось я і штурнуў у яе ботам.

ВАЛОДЗЯ (абураны). Ты што? Жонку ўдарыў? Брыдка, Юрка. Гэта ўжо апошняе, да чаго можна дапусціцца...

ЮРКА (апусціўшы галаву, махае рукою). Думаеш, так адразу і ўдарыў? Нават не ўцэліў у яе, у бабу (уздымае галаву). Уся справа ў тым, што гэты бот быў яе і новы! (паўза). І ўдарыўся аб шафу, абцас у ім адламаўся (пахіляецца да Валодзі). А яна, маеш табе, у плач. Хапіла сына і – да мацеры! Не развіталася; дзвярмі адно ляснула!

ВАЛОДЗЯ (чэшучы патыліцу). Ну так! Дурна! Хоць ты смейся, хоць ты плач (уздымае галаву). Скажы, а грошай – твая – хоць пакінула табе?

ЮРКА (са злосцю). Адкуль? Усю маю зарплату з сабою панесла! Я ўжо два дні, як толькі кашу і ем (паўза). Нічога іншага не знайшоў у хаце. Ага! І агуркі марынаваныя... (паўза). Сёння, праўда, пазычыў сто злотых. На колькі іх, аднак, хопіць?

ВАЛОДЗЯ (бадзёра, нешта прыдумаўшы). Чакай. А тую кашу ты яшчэ маеш?

ЮРКА (неахвотна). Чаму не. Ёсць яшчэ яе кіль пару (паўза). Мы, калісь, у запас купілі (зварочваецца да Валодзі). І толькі, скажу табе шчыра, посная каша, гэта не ежа (паўза). Глядзець на яе і то цяжка, а есці – і не кажы.

ВАЛОДЗЯ (ускоквае, пачынае хадзіць па пакоі; раптам глядзіць на Юрку). Калі, бачыш, тут ёсць выйсце!

ЮРКА (махае рукою). Паводле мяне, дык тут можна ўжо выйсці толькі на балкон, глянуць на месяц ды завыць ваўком, калі не кінуцца, са злосці, галавою ўніз...

ВАЛОДЗЯ (падыходзіць да Юркі, бадзёра). Дурны! Пабачыш. Мы яшчэ пакажам нашым лялечкам, хто каго! (звяртаецца да гледачоў і ківае пальцам). Пакажам! (з націскам).

ЮРКА (здзіўлена). Як гэта – пакажам?

ВАЛОДЗЯ (сядае, абапіраецца локцямі аб стол і тлумачыць). А вось, падумай! (стукаецца пальцам у лоб). Бяда ў нас амаль аднолькавая (паўза). Абое мы саламянымі ўдаўцамі засталіся (паказвае пальцам на Юрку). Ты маеш кашу і 100 злотых. Я... (тыцкае сябе пальцам у грудзі). У мяне, праўда, грошай больш трох дзесятак не назбіраецца (перабівае Юрку, які хоча неш-

та сказаць), затое сала пару добрых кавалкаў у халадзільніку маю (працягвае руку). Хадзі, зробім суполку!

ЮРКА (здзіўлена). Суполку? Якую? (устае і пачынае хадзіць па пакоі, размахваючы рукамі).

ВАЛОДЗЯ. Бяры кашу і перабірайся да мяне жыць (нахіляецца ў бок Юркі). Я, як бачыш, і чай яшчэ маю, і цукру крыху (паўза). Ага, толькі солі прыхапі з сабою, бо ў мяне выйшла. Таксама – мыла, калі ёсць, вазьмі; мыцца ж трэба...

ЮРКА (стаіць на месцы і чухае патыліцу). А з жонкамі, што? Развод браць, ці як? (круціць галавою). Не, не браток (тлумачыць). Я сваёй нядаўна футра купіў і не думаю такое дабро, так сабе, за нішто з хаты выкінуць! (паўза). Паспрабуй, зарабі!

ВАЛОДЗЯ (падходзіць да Юркі і бярэ яго за плячо). А нашто адразу развод? (весела). Цудак ты, Юрка (стукае Юрку кулаком у спіну). Вешай на сваёй кватэры картку, што да мяне перабраўся, а я зараз жа патэлефаную цешчы, што мы вырашылі жыць разам і жонкам нашым тваю кватэру аддаем! (адыходзіць ад Юркі і ўглядаецца ў яго). Ну, чаго ты? Няхай карыстаюцца! Пабачым, хто каго?! Хто даўжэй вытрывае?

ЮРКА (павесялеўшы). А гэта, ведаеш, думка (пачынае мацаць сябе па кішэнях і ўзбуджана круціцца на месцы). Дык я, па дарозе, папяросаў пачак пару яшчэ прыхаплю (зусім весела). Весялей будзе!

ВАЛОДЗЯ (абураны). Ты што: здурэў?! (са здзекам). Па-пя-росаў (стукаецца пальцам у лоб). А грошы – адкуль? Не будзем жа апошнія капейкі на гэты смурод траціць! (уздыхае). А да першага – далёка (весялей). Вось, гарэлачкі бутэльку якую – гэта можна было б узяць (паўза). Да чаю, значыцца, да чаю, толькі да чаю, чарку...

ЮРКА (падпёршыся рукамі, абураны). Ах так! (рашуча). Яшчэ чаго? Папяросы, дык смурод?! А га-рэл-ка, гэта што – па-твойму? Лякарства? Багоў напой, амброзія? Фіялкамі пахне, райскім яблыкам смакуе? (рашуча). О не, браток! Калі так, дык ні таго, ні таго не купляем. Суполка, дык суполка!

ВАЛОДЗЯ (працягвае руку). Няхай будзе і так. Суполка, дык суполка!

ЮРКА і ВАЛОДЗЯ (падаюць сабе і ціснуць рукі, разам). Суполка дык суполка (звяртаючыся да гледачоў). Пабачым, хто каго?!

## *Дзея другая*

Тая ж, што і раней, дэкарацыя, толькі стол прыбраны. Каля тапчаноў валяюцца кніжкі і нейкія паперы. Таксама – і на крэслах, якія прысунутыя, па адным, да кожнага тапчана. Юрка, у піжаме валяецца на тапчане, з кніжкаю ў руках. Валодзя, у піжаме, паверх якой павязаны хвартушок, мітусіцца за заслонай – значыць, у кухні.

ЮРКА (з тапчана, адводзячы вочы ад кніжкі). Ну, як там з абедам, Валодзік?

ВАЛОДЗЯ (з-за заслоны) Цьфу! Цьфу! Чакай, руку апёк (паўза). Што мае быць, пытаеш? Ізноў тая каша! Ліха на яе – прыгарэла! (высоўваецца з-за заслонкі). І як гэта яны, жонкі, спраўляюцца яе варыць? Я яшчэ не паспеў і паўраздзела пра электракардыяграмы прачытаць ды ўжо і на табе!.. (паўза). Вазьмі, кветкі падлі, каб не пасохлі, а я гэту цацу зараз салам засквару і будзем есці.

ЮРКА (выпускае з рук кніжку, пераварочваецца на спіну, закладвае рукі пад галаву і глядзіць у столь. Гаворыць з'едліва). Есці! Колькі часу можна есці кашу з салам і сала з кашай упераменку? (уздыхае). Вось, каўбаскі бы, гарачай, кавалак ды з капустаю (складвае рукі, быццам да малітвы). Або калдуноў місачку (паўза). Такіх, каб тлушч па барадзе пацёк...

ЮРКА (лежачы, як раней, ды ўздыхаючы). Паесці добра... (паўза). Закурыць папяросу...

ВАЛОДЗЯ (апускае рукі і ківае галавою). Ага! Ага! Не пашкодзіла б і чарачка (гладзіць сябе па жываце). Пасля тлустай ежы яна на страўнік добра паўплывала б...

ЮРКА (сядае на тапчане, падкуліўшы ногі, і гаворыць са здзекам). Добра. Добра (паўза). Добра, што мы хоць водпускі з работы ўзялі. Заўсёды лепш сядзець у хаце, чым прыглядацца, як супрацоўнікі хлеб з вяндлінаю на снеданне ўплятаюць.

ВАЛОДЗЯ (сядае на другім тапчане, ківае галавою, уздыхае. Юрка, тым часам, гультаявата пацягваючыся, устае, бярэ з-за заслонкі збанок з вадою і пачынае паліваць кветкі, час ад часу паглядаючы ў акно). Мне – ведаеш – бывала, жонка булачкі з шынкай ці з сырам на работу давала з сабою... (Юрка загледзеўся ў акно і, замест на кветкі, лье ваду на падлогу).

ВАЛОДЗЯ (перапалохана крычыць). Юрка, Юрка, ці ты здурэў? На падлогу ваду льеш!

ЮРКА (прытамнее, хапае другою рукою за збанок). А-яй! Чорт вазьмі! (махае рукою ды зноў глядзіць у акно). Чакай, чакай! Ці мне гэта здаецца? Валодзік! Жонкі нашыя да нас у госці накіраваліся, паглядзі! (кліча Валодзіка да акна, з радасцю).

ВАЛОДЗЯ (падбягае да акна). А ну яго! Сапраўды! Цікава, у якой справе? (абодва ўглядаюцца ў акно). Ты глядзі! Мая Нінка яшчэ нічога сабе кабетка, га?

ЮРКА. І Марыйцы маёй нічога не бракуе (паказвае рукой на акно). Ты на яе ножкі паглядзі: ножка ў жанчыны – гэта ўсё! Ідзе, як на пружынках, ну, не?

ВАЛОДЗЯ (перапалохана, адскоквае ад акна). Зараз... Зараз... (Юрка адварочваецца ў яго бок). Юрка, мы ж не можам перад іх носам у балота тыцнуцца. Яны мусяць быць перакананыя ў тым, што мы жывем прыпяваючы (б'е сябе рукою па калені). А тут каша ды яшчэ прыгарэўшая! (паўза). А гар і яны, напэўна, ужо ў калідоры пачуюць.

ЮРКА (падбягае да дзвярэй, прыкладае да іх вуха, ківае пальцам – гаворыць шэптам). П-с-с! Па-ды-хо-дзяць. П-с-с-с! Глядзі, толькі дзвярэй не ад-чы-ні (жанчыны тым часам падыходзяць да дзвярэй, ад калідора, і прыслухоўваюцца).

ВАЛОДЗЯ (на ўвесь голас). Ай-ай, што ты нарабіў!? Прыпаліць такую смакавітую гуску! Ну, нічога, прыгарэла яна толькі з аднаго боку (цямкае, быццам есць штосьці смачнае). Г-у-м! А-я-яй! М-м-м! Не, есці можна (Юрка глядзіць на яго, не разумеючы. Валодзя кладзе палец на вуснах, каб той маўчаў, а потым стукаецца пальцам у лоб і паказвае на дзверы. – Марыйка і Нінка падыходзяць да дзярэй. Нінка трымае ў руках сумку. Прысланяюцца яны абедзве, да дзвярэй і слухаюць. – Юрка пачынае разумець Валодзю. Стукаецца далонню ў лоб і весялее).

ЮРКА (вельмі голасна і адбегшы ад дзвярэй). Можна! Можна! Не будзь такі далікатны! Глянь, бульбачка затое якраз падпяклася. Даставай лепш талеркі (бярэцца рукою за жывот, паказвае пальцам на дзверы і ціха смяецца. Марыйка з Нінкай, тым часам, здзіўлена паглядваюць адна на другую і слухаюць далей). Ага! Банку тую, з брусніцані, вазьмі адчыні! (з асалодаю). Гу-ся-ціна, яна з брусніцані найсмачнейшая!

ВАЛОДЗЯ (падбягае на пальчыках да дзвярэй, прыслухоўваецца, і адбягае на сярэдзіну пакоя, моргае ў бок Юркі, падпіраецца рукамі пад бакі і, звяртаючыся ў бок дзвярэй, гаворыць на ўвесь голас). А можа спачатку селядца? Селядзец – ён, ведаеш, апетыт завастрае. Ого селядзец! (валіцца на тапчан, ад радасці дрыгае ў паветры нагамі. Трымаецца за жывот, паказваючы пальцам на дзверы. – Марыйка і Нінка паказваюць, адна другой, на дзверы, са здзіўленнем круцяць галовамі і зноў слухаюць. Валодзя гаворыць голасна). Бо я, ведаеш, у апошні час не вельмі і есці магу. Затлуста, мусіць, гатуем сабе...

ЮРКА (важна). Таму і скаштуй селядца. Дык, якога табе? Бо ёсць марынаваны, а ёсць і ў алеі...

ВАЛОДЗЯ (канчаецца ад нямога смеху на тапчане). Мне ў алеі, калі ласка (паўза). І цыбулькі. Цыбулькі накладзі больш. Ды і квашаніны яшчэ падай. Нашто марнавацца мае? (паўза). Толькі з воцатам! Воцату не шкадуй...

ЮРКА (корчыць у бок дзвярэй смешныя міны і моргае да Валодзі). Зараз, зараз... Толькі хлеба нарэжу. Ага! Валодзя, той торт урэшце з’есці трэба. Нашто ён валяцца мае?

ВАЛОДЗЯ. А, выкінь ты яго к чорту! Глядзець ужо на яго не магу! Колькі дзён можна торт есці! Ёсць жа свежыя пончыкі, да чаю (Валодзя ляжыць на тапчане, Юрка падскоквае пасярод пакоя; абое рагочуць, засланяючы далонямі рот, і час ад часу паказваюць пальцамі ў бок дзвярэй).

НІНКА (Нінка з Марыйкаю прысланіліся да дзвярэй і ўважліва слухаюць). П-с-с-с! Ціха. Ты чуеш, Марыйка? А я яго так шкадавала, гуляку няшчаснага (з дакорам). Піражкоў з мясам напякла яму (паўза). Ведаю, што любіць іх (паўза). А ён тартамі раскідваецца! (абедзве адступаюць ад дзвярэй). Бачыш! Бачыш! (амаль плача). Яны – усе такія! Без жонак усё прагулялі б!

МАРЫЙКА (з’едліва) Нічога не скажаш. Б-е-д-нень-кія называюцца (уздыхае). Можа нават бялізны цёплай з хаты не ўзяў. Занясу яму – думаю – хоць кальсоны цёплыя, каб не мёрз... (паўза). А яму, бачыш, селядца трэба! (паўза). Апетыт завастрыць! (паўза; круціць галавою). Ой, тут нешта не так...

НІНКА (здзіўлена). Чаму гэта не так?

МАРЫЙКА (штурхае Нінку пальцам у грудзі). А адкуль у іх грошы ўзяліся, не ведаеш? Бо я свайму ні капейкі не пакінула (паўза). Адумаецца хутчэй, падумала, з галодным жыватом...

НІНКА (задумваючыся). Дык і мой, калі і грошай меў, то зусім мала. Уся каса ў мяне! Мужчыны – вядома – як дзеці. Грашыма распешчваць нельга (паўза). А можа яны што прадалі? У майго магнітафон быў добры...

МАРЫЙКА (круціць галавою, прыкусіўшы губу). Прадалі, дык прадалі: не ў тым бяда.

НІНКА (бярэ Марыйку за руку). А ў чым жа?

МАРЫЙКА (рашуча, падпёршыся рукамі). А ў тым, золатца, што мой нават яечні падсмажыць не ўмее. Хлеб рэжучы, ён нажом калечыцца. А тут раптам – печаная гуска! Квашаніна!?

НІНКА (падпірае бараду далонню, раздумвае). А можа – навучыліся?! Бо мой бульбу гатаваць умеў. Ну і чай, напрыклад, заварваў сам. Не ведаю, што і думаць?

МАРЫЙКА (штурхае Нінку пальцам у грудзі). Ведаеш, Нінка, што я табе па-сяброўску скажу?

НІНКА. Ну-у?

МАРЫЙКА (з націскам, расцягваючы словы). Тут адчуваецца жа-ночу-ю ру-ку!

НІНКА (адыходзіць на крок і здзіўлена глядзіць на Марыйку). Ах! Ах!..

МАРЫЙКА (рашуча). Так. Так, жа-но-чу-ю ру-ку (паўза). Толькі жанчына ўмее так нарыхтаваць (ківае пальцам). І то жанчына, якая любіць (бярэ Нінку за руку і гаворыць да яе ціхім голасам). Шкада мне цябе, Ніначка (паўза). Твой Валодзька, напэўна, кагосьці мае!

НІНКА (абурана). Як гэта – мае? Мой Валодзька? (рашуча). О не! Не! (паўза). Напэўна – не! Калі тут баба якая замешана, дык ясна, што гэта твайго Юркі справа (уздыхае). Мой Валодзік жа ж кахае мяне...

МАРЫЙКА (з'едліва смяецца). Х-м-м! Х-м-м! Ка-ха-е, ха-ха-ха... (паўза). Гэта за тое, мусіць, што ты яму лоб кубкам амаль не разбіла!?

НІНКА (абурана, патупвае нагою). Ну і што? Ну і што? А павер, што ён ніколі не выйшаў на работу не пацалаваўшы мяне (уздыхае, мала не плача). І называў мяне... называў мяне заўсёды сваёй найдаражэйшай мышкай (глядзіць горда на Марыйку). А вось пра Юрку я сама не раз чула... (паўза). Гарэлкі, быццам бы і не п'е, але за спаднічкамі вачыма водзіць... Казала мне, напрыклад, Галавешчыха...

МАРЫЙКА (абурана). А ты лепш сціхні (са здзекам). Мы-ш-ка мне знайшлася... З грацыяй маладога бегемоціка! (паўза). Львоў такімі мышкамі

можна было б палохаць (стукаецца пальцам у лоб). Мой Юрачка з-за мяне, дурніца ты, свету не бачыць!

НІНКА (з’едліва). Пэўна, глянуўшы на цябе, яму цёмна ў вачах робіцца... (расцягваючы словы). Па-ду-маць толькі: дражніць беднага чалавека пытаннем аб запалкі ў той час, калі ён кідае курыць. Жудасць!

МАРЫЙКА (са злосцю хапае Нінку за плячо і трасе). Ты! Ты! А ты футра бачыла, якое ён мне купіў?

НІНКА (вырываецца, адступае). Ага! Ага! Галавешчысе я адразу казала, што Юрка недарма Марыйцы вочы муціць дарагімі падарункамі. Усе мужчыны мастакі на гэта.

МАРЫЙКА (ледзь не плача). Перастань! (тупае). Перастань, мышка ты аблезлая! Юрка – мой!!! Мой і мой! (уздыхае). Я ягоная сярэбраная лісічка. І таму мне і футра ён... (тыцкае пальцам у грудзі). Во!

НІНКА (з’едліва) Для яго сярэбраная, дык можа і так... (паўза). У тваё ж гады сівыя валасы – не навіна.

МАРЫЙКА (абурана). Не сівыя, не сівыя, але русыя! А па-другое... А па-другое, я бачыла твайго Валодзьку, у клубе, з вельмі цікавай бландзінкай... І што ты на гэта скажаш?

НІНКА. Фу! Як гэта – што? Мусяць жа людзі недзе сядзець... Асабліва, калі месц не хапае...

МАРЫЙКА (салодкім голасам). Ага! Ага! Я, ведаеш, таксама падумала, што з месцамі, відаць, цяжкавата, калі пабачыла, што тая яму амаль на калені не залезла (памаўчаўшы). Хаця, мне месца знайшлося...

НІНКА (са здзекам). Думаю, пэўна, каля таго чорнага піяніста з вусікамі... Толькі, што ён у табе бачыць?

МАРЫЙКА (са злосцю). Ну, ведаеш!

НІНКА (таксама са злосцю). А што табе здаецца? (Юрка падыходзіць да дзвярэй і прыслухоўваецца).

ВАЛОДЗЯ (шэптам). Ну, і што? (паўза). Яшчэ стаяць?

ЮРКА (прысланіўся да дзвярэй, кладзе палец на вуснах). На сходах нешта балбочуць. П-с-с-с! Цыц! Цыц! (голасна). Аднак, адмыслова жыць без жонак, Валодзя!

ВАЛОДЗЯ (устаў з тапчана, ходзіць па пакоі, гаворыць з уздыхам). Куды лепей! Свабода! Свабода! Ці ты разумееш? (Марыйка і Нінка хутка прысланяюцца да дзвярэй, слухаюць).

ЮРКА (прастуецца пры дзвярах, моргае, разводзіць рукамі і гаворыць таксама з уздыхам). Увесь свет твой: сонца, паветра, кветкі... (з націскам). І жанчыны!

ВАЛОДЗЯ (ціха, са злосцю). І нават гэта праклятая каша, якая ў зубы залазіць (галасна). Угу! Угу! Жанчыны і, скажам, магнітафоны...

МАРЫЙКА (шэптам). Ціха! Цішэй! Ты чула? (абурана). Жанчыны!!! (з дакорам). І гэта мой Юрачка?!

НІНКА (адыходзіць ад дзвярэй). Бачыш. Бачыш, чаго захацелі? Свабоды ім, трутням! (з націскам). І гэтак – мой? Я добра чула (з'едліва). Валодзень-ка, цацачка мая...

МАРЫЙКА. Ц-с-с! Ціха! (Нінка зноў прысланяецца да дзвярэй, абедзве слухаюць).

ЮРКА (шэптам). А, чаму магнітафоны?

ВАЛОДЗЯ (шэптам, стукаецца пальцам у лоб). На магнітафон жа найграеш, што захочаш, а баба пляце табе тое, што ёй самой сліна на язык прынясе. Ну, і магнітафон жа прыцішыць можна, або і зусім выключыць... (галасна). А мяне, дарэчы кажучы, дзяўчаты калісь любілі (уздыхае). Ох, як любілі! (шэптам). Ну і насолім мы сёння ім!

ЮРКА (моргае да Валодзі). Ага! Ага! Успомніш – плакаць хочацца. Як сёння бачу... Такая, напрыклад, Волечка... (уздыхае). Ох, каханне, каханне... Ох, ох... (Юрка і Валодзя падыходзяць да тапчана і сядаюць, адзін каля другога).

ВАЛОДЗЯ (шэптам, смеючыся). Хі-хі-хі, гэта тая, якая табе, у дзесятым класе, па мордзе дала за тое, што пацалаваць яе хацеў?

ЮРКА (шэптам, ківае галавою). Ну! Ну! Пляскачанка! (галасна). А цалавала як агонь – не дзеўка! Галава хадуном хадзіла.

МАРЫЙКА (хоча ўварвацца ў пакой, Нінка адцягвае яе за руку). Чуеш? Чуеш? Ну, я яго, вужа агіднага, зараз прыдушу!

НІНКА. Ціха! Ціха!

ВАЛОДЗЯ (уздыхае, гаворыць галасна). Былі часы... Гандзя – называлася яна... Куды я, туды і яна...

ЮРКА (шэптам і хіхікаючы). Ага. Ага. Ты ёй, памятаю, жабу за каўнер укінуў. Ой, і ўцякала яна ад цябе!

ВАЛОДЗЯ (галасна, з уздымам). А возьме прытуліцца, за шыю схопіць, сілаю не адарвеш яе!

НІНКА (плаксівым голасам). М-м-м-м. Не магу... М-м-м-м, не магу, Марыйка... Гэта ён, пэўна, пра бландзінку тую?.. А я яму, падлу, піражкоў... (пачынае плакаць). У-у-у. У-у-у-у-у... (плача, злуецца, тупае нагамі; выцягвае з сумкі каструлю з піражкамі і пачынае кідаць імі аб дзверы). А на табе! А на табе! А на табе! Удавіся! Удавіся, разам з бландзінкай, у-у-у-у-у... (плача).

МАРЫЙКА (трасецца са злосці, адцягвае Нінку за руку). Ха-дзі! Хадзі, Нінка! Н-н-н-е н-н-е-р-р-р-вуйся! Больш тут нагі нашай не будзе!

НІНКА (плача на ўвесь голас, закрывае твар далонямі). У-у-у, а яму піражкоў... У-у-у-у-у!..

МАРЫЙКА (супакойваецца, звяртаецца да Нінкі). Нінка... Альбо, не... Мы так справы не пакінем. Дапільнуем зладзейку (трасе кулаком). Адвучым мужоў ад нас красці (цягне Нінку за руку). Хадзем!

НІНКА (далей плача). А я піражкоў яму... У-у-у-у-у...

ЮРКА (устае з тапчана, падбягае да акна, заціраe рукі). Валодзік, глянь! Ужо на вуліцу выйшлі... Ну і злосныя, пэўна (адварочваецца ад акна да Валодзі). А чым гэта яны, цікава, аб дзверы таўклі?

ВАЛОДЗЯ (падбягае да дзвярэй). Угу! Цікава! (адчыняе дзверы, схіляецца, пачынае на каленях збіраць піражкі; радасна крычыць). Глядзі, Юрка! Піражкі з мясам, ды цёпленькія яшчэ (устае і, з поўнымі прыгаршчамі піражкоў, ідзе да стала; кладзе іх на стол).

ЮРКА (пачынае радасна танцаваць па пакоі разам з Валодзькам). Ура! Жывем! Давай сюды (падбягае да стала, бярэ і надкусвае адзін піражок; ловіць Валодзю за руку і разам падыходзяць яны на край сцэны, звяртаюцца да гледачоў). Не дай Бог, яшчэ астынуць! (і зноў кідаюцца да піражкоў).

## Дзея трэцяя

Дэкарацыя тая ж, што і ў другой дзеі. Хлопцы, у піжамах, ляжаць кожны на сваім тапчане. Кожны з іх трымае ў руцэ па кавалку засохлага хлеба і спрабоўвае яго грызці.

ВАЛОДЗЯ (перастае грызці хлеб). Юрка!

ЮРКА (угрызаецца ў хлеб). Угу, чаго?

ВАЛОДЗЯ (уздыхае). Што? Грызеш?

ЮРКА (перастае грызці). Ага. Грызу (ізноў грызе). Слаба ідзе, халера.

ВАЛОДЗЯ (уздыхае). Не тыя ўжо зубы...

ЮРКА (пацягваецца). Каторы гэта ўжо дзень?

ВАЛОДЗЯ. Мусіць, дванаццаты?.. Чакай! Палічу! (лічыць на пальцах, задумваецца). Хлеб мы елі па паўкілаграма ўдзень (памаўчаўшы). Буханку мы куплялі на мае нарадзіны (паўза). Дваццатага, значыць, сёння.

ЮРКА (сядае). Ага! Ты памятаеш, тады, за апошнія грошы яшчэ маргарыну паўпачкі купіў. «Пальмы»! Ох і смаката была!

ВАЛОДЗЯ (махае рукою). Перастань, бо пад лыжачкай смактаць пачынае (ізноў махае рукою). Не перабівай (тлумачыць). Ад дваццатага – тры дні (думае). Сёння, значыць, маем дваццаць трэцяга (паўза). Так! (паўза). Во! Такім чынам, гэта, Юрка, ужо чатырнаццаты дзень, як мы...

ЮРКА (стукаецца па каленях). А ну яго! Я думаў, прынамсі, паўгода мінула!..

ВАЛОДЗЯ (уздыхае). Шкада мне цябе, Юрка (зноў уздхае). Былі б грошы, дык хоць пачку папяросаў купілі б (паўза). Заўседы лягчэй было б табе!

ЮРКА (здзіўлена). А на якое ліха мне яны патрэбны?! (паўза). Я і забыўся аб іх (паўза). Ты, ведаеш, чаго мне хочапца?

ВАЛОДЗЯ (здзіўлены). Ну?

ЮРКА (уздыхаючы, разамлеўшым голасам). Кашы! (паўза). Беленькай, сыпістай кашкі з селядцом!

ВАЛОДЗЯ (з уздымам). Ага! Ага! І з прыгарам. Хоць крышку з прыгарам (паўза). У гэтым жа ўвесь арамат!

ЮРКА (чухае патыліцу, гаворыць вінаватым голасам). Ты, Валодзік, не гневайся...

ВАЛОДЗЯ (здзіўлена). За што?

ЮРКА (вінавата). Я, бачыш, думаў... (паўза). Значыць, хацеў табе я на радзіны гарэлкі хоць з чвэртачку дастаць... (паўза). Даруй! (паўза). Ну, не ўдалося...

ВАЛОДЗЯ (устае з тапчана, падыходзіць да Юркі, нахіляецца над ім). Якую зноў чвэртачку? Ты што, звар'яцеў?! (з дакорам). Таксама маеш пра што думаць (пачынае хадзіць па пакоі, уздыхае). Вось, каб гэтак Ніначка мая да нас прыйшла (ізноў уздыхае). Пасварылася б з намі – гэтак добра!

ЮРКА (з зацікаўленнем). Ну, і што?

ВАЛОДЗЯ (здзіўлена). Як гэта, што? (тлумачыць з уздымам). І , каб пачала, са злосці, піражкамі ў нас, як тады ў тыя дзверы, шпурляць!

ЮРКА (падскоквае на тапчане). Ага! Ага! (з асалодаю). І, каб кожны піражок меў, гэтак, з кілаграм, прынамсі (уздыхае). Як уцэліць, ды каб аж пахіснуцца!

ВАЛОДЗЯ (пасумнеў). Юрка!

ЮРКА (ізноў лягае на тапчане, з рукамі пад галавою). Угу!

ВАЛОДЗЯ (ізноў пачынае грызці хлеб). Ты хоць вадою запівай. Яно заўсёды сытней (уваходзіць за заслону, у «кухню» і выносіць адтуль кубак з вадою, сядае на тапчане, грызе хлеб і папівае вадою з кубка).

ЮРКА (злосна). А ну яго! Я ўжо ад раніцы і так з паўвядра выпіў (паўза). Палічы! (пачынае загібаць пальцы). Замест чаю – ужо маеш кубак. А замест супу? А замест кампоту? А, так сабе, колькі хлябтаў? (паўза). Гэтак і жабы ў жываце завесціся могуць. Добра, што хоць хлеб, як той камень...

ВАЛОДЗЯ (угрызаючыся ў хлеб). Чаму?

ЮРКА (сядае на тапчане і бярэцца таксама за хлеб). Быў бы мяккі, дык адразу з раніцы з’елі б. А так – на абед хапіла ды, можа, і на вячэру нешта застанецца?.. (да дзвярэй, ад калідора, падыходзіць скромна апранутая, маладая дзяўчына з партфелем у руцэ. Звоніць).

ЮРКА (паддзыгае на тапчане). Гэй! Нехта звоніць!

ВАЛОДЗЯ (шэптам). Адчыняць?

ЮРКА (махае рукою). Давай! (ускоквае з тапчана).

ВАЛОДЗЯ (падбягае да дзвярэй). Хто там?

ІНКАСАТАРКА (стоячы за дзвярыма). За святло! За газ!

ВАЛОДЗЯ (адчыняе дзверы, запрашае ў кватэру). Калі ласка, заходзьце!

ІНКАСАТАРКА (уваходзіць). Добры дзень (разглядаецца па пакоі). А дзе тут у вас можна прысесці?

ВАЛОДЗЯ і ЮРКА (разам). Добры дзень! Добры дзень!

ВАЛОДЗЯ. Вось, за сталом. Падай, Юрка, крэсла (Юрка скідае з аднаго крэсла кніжкі, на падлогу. Падсоўвае тое крэсла да стала. Інкасатарка сядае ў ім і пачынае выпісваць квітанцыю).

ІНКАСАТАРКА (канчае пісаць, падымае галаву з-над стала). Так, за святло будзе 150 злотых (заглядвае ў паперы). За газ... усяго 28 злотых (здзіўленая). А... за газ нешта мала?! Вы заўсёды больш плацілі (паўза). Можа ў вас лічыльнік папсаваны?

ВАЛОДЗЯ (махае рукою). Не! Скуль! (штурхае кулаком у бок Юрку).

ЮРКА (паважна). Мы, я і калега, больш у рэстаранах, тое... (паўза) ну, харчуемся...

ВАЛОДЗЯ (моргае да Юркі, заціpae рукі бадзёра). Ага! Ага! (паўза). Ведаеце, мужчыны... Гатаваць нам не хочацца.

ЮРКА (штурхае Валодзю). Ну, пэўна... Што нам (заікваецца). Гм, гм... хацеў я сказаць: нашто нам гатаваць?

ВАЛОДЗЯ (з уздыхам). А як жа! А як жа! (моргае да Юркі, сур'ёзна). З раніцы зойдзем, напрыклад, у кафейку. Пару яек на шынцы, булачкі там нейкія, масла закажам. Вось табе і снеданне.

ЮРКА (заклаўшы рукі на жывот і ўзіраючыся ў столь, аблізваецца ды ўздыхае). Ага! Ага!

ВАЛОДЗЯ (далей тлумачыць інкасатарцы). Таксама і абеды, ды і вячэры: шніцэль там які, ці адбіўная катлета...

ЮРКА (пахіляецца над інкасатркай). А вам можа, грамадзяначка, кавы ці чаю?

ІНКАСАТАРКА (складвае свае паперы ў партфель, пакідае на стале квітанцыю). Чаю? (паўза). Чаю – з прыемнасцю! Толькі, калі ласка, без цытрыны...

ЮРКА (падыходзіць на ўскрай сцэны і звяртаецца, шэптам, да гледачоў). Ну нахабны ж народ завёўся... (круціць галавою). Цытрыну ёй, бачыце, яшчэ падавай... А я думаў, што адмовіцца... (адыходзіць у глыб сцэны і голасна звяртаецца да Валодзі). Валодзік! А ты купіў, чаго трэба? Сёння ж тваё дзяжурства!

ВАЛОДЗЯ (грозіць Юрку кулаком, злосна шэпча). Дзёрнула ж цябе, нялёгкая (голасна, перапалохана). Ай! Ай! Ну, зусім забыўся, Юрачка! (паўза). Ну, як на злосць! (бярэ інкасатарку за локаць). Вы даруйце, даражэнькая. Зараз я збегаю ў краму (разглядаецца, шукае). Дзе мае боты? (раптам крывіцца, быццам ад болю, прысядае на тапчане, бярэцца за нагу і енчыць). Ой! Ой! Нага! Уй! Уй, як круціць (спадцішка паказвае Юрку язык; звяртаецца да інкасатаркі і цэдзіць скрозь зубы). Застарэлы раматус, відаць (паўза). А на двары такая слата... Ай-вой-ой-гу-у-у... (гудзіць, быццам яму зуб рвалі).

ІНКАСАТАРКА (устае з крэсла, спачувае). А вы не турбуйцеся.

ВАЛОДЗЯ. Я зараз (прыпадымаецца і, ад болю, ізноў валіцца на тапчан). Ой! Ай-вай! Гу-гу-у-у...

ІНКАСАТАРКА (усхваляваная, падыходзіць да Валодзі і кладзе яму руку на плячо). Ну, што вы? Не трэба. Абыдзецца. Я ўжо пайду. Вось вам толькі квітанцыя... З вас усяго 178 злотых.

ЮРКА (за плячыма інкасатаркі бярэцца за галаву, падбягае да Валодзі, цягае яго за руку, на ўскрай сцэны і шэпча).Ты, ёй жа плаціць трэба!

ВАЛОДЗЯ (бярэцца за галаву, шэпча). Ай-яй-яй, не падумаў (паўза). А, можа, гадзіннік у застаў яна возьме?

ЮРКА (шэпча). Дзе там! (думае). А – ну, давай, падліжамся. Можа, да першага пачакае? (няўпэўнена). Можа?

МАРЫЙКА (да дзвярэй кватэры, ад калідора, падыходзіць Марыйка з Нінкаю. Марыйка цягне Нінку за руку і прыгаворвае голасным шэптам). На свае вочы бачыла. На свае вочы бачыла: бландзінка! І такая – нічога сабе...

НІНКА (чуць не плача). Шт-о-о-о? Бландзі-і-н-ка? (ківае галавою). Ага! Ага! Проста да іх і паперла!

МАРЫЙКА (тупае нагою). Ну, добра! (бярэцца за клямку, з пагрозаю). Зараз паглянем...

НІНКА (адцягвае яе за руку). Ц-с-с-с... Цішэй! Спачатку паслухаем (абедзве прыхіляюцца да дзвярэй і слухаюць).

ВАЛОДЗЯ (падморгвае Юрку і падбягае, злёгку кульгаючы, да інкасаторкі, бярэ яе пад локаць, гаворыць з уздыхам). А вы, даражэнькая, сёння цудоўна выглядаеце!

ІНКАСАТАРКА (далікатна вызваляе руку, скромна апускае вочы). Ну, што вы. Я ж, звычайна... Вядома, на рабоце...

ЮРКА (падыходзіць бліжэй, стае перад інкасатаркай, разводзіць рукамі і гаворыць усхвалявана). Сапраўдная прыгожасць, гэта якраз тая, якая зіхаціць штодзень (бярэ інкасатарку за руку). Гатоў я прысягнуць, што мой сябра ўжо кахае вас!

ІНКАСАТАРКА (збянтэжана). Ну, што вы? (мармыча, панурыўшы галаву).

ВАЛОДЗЯ. Г-ы-м-к, тое... Ну, як бы тут сказаць?.. Хэ-хэ-хэ...

ЮРКА (паказвае рукою на Валодзю). Самі бачыце: ад уражання ён слова вымавіць не можа (падпёршыся рукамі пад бакі). І не дзіва! На вас хопіць

толькі паглядзець (разводзіць рукамі). Колькі ў вас жаноцкасці, свежасці, цеплыні!

ІНКАСАТАРКА (абурана). Панове, перастаньце жартаваць! Я пачынаю саромецца. Не можна так, не дурэйце!

ВАЛОДЗЯ (падымае галаву). Калі ён праўду кажа! (паказвае на Юрку). Ды вы самі сваёй вартасці не дацэньваеце (адбягае на ўскрай сцэны, пахіляецца ў бок гледачоў, прысланяе руку да вуснаў і шэпча). Нават, як для нас, дык прынамсі, на 178 злотых вартасць тваю, дзеванька, ацэньваем... Як на квіце!

ЮРКА (пачынае хадзіць па пакоі і гаварыць з уздымам). Такая жанчына, як вы, жанчына, якая ўмее стварыць атмасферу... (прыстае перад інкасаткай). Гэта мара кожнага з нас мець такую, як вы, жанчыну.

МАРЫЙКА (адсоўваецца ад дзвярэй, абурана). Чуеш? А я думала, што гэта... (тупае нагою). Не сцярплю!! Я не вытрываю! Я яму і ў хвост, і ў грыву!...

НІНКА (злосна). І мой не лепшы! Добрая суполка: двух з адною знюхаліся, жарабцы!

МАРЫЙКА (бярэцца за клямку). Наперад!

НІНКА (рашуча). Давай! Толькі не дрыжы, бы вадою аблітая! Ну!!!

МАРЫЙКА і НІНКА (убягаюць, абедзве, у пакой; разглядаюцца; падпіраюцца рухамі пад бакі. Разам). А-г-а-а! Не ча-ка-лі?!

Хлопцы – напалоханыя. Інкасатарка – здзіўленая.

ВАЛОДЗЯ (падбягае да Нінкі і бярэ яе за руку). Нінулька, мышка мая!

ЮРКА (падбягае да Марыйкі, хоча абняць яе). Лісічка мая сярэбраная, Марыйка!

МАРЫЙКА і НІНКА (вырываюцца, разам). Не трэ-эба! Мы ўсё чу-у-лі!!

НІНКА (падыходзіць да інкасатаркі і з’едліва дапытваецца). Дык гэта вы, мадам, на кухні гэтых... гм... гм... кавалераў гаспадарыце? Га?

ІНКАСАТАРКА (нічога не разумеючы). Даруйце, я нічога не разумею?! Я не тое... Я не ад кухні... Я толькі ад газу...

МАРЫЙКА (падбягае таксама да інкасатаркі). Ага! Дык, значыць, яшчэ і другая прыходзіць? (крычыць, тупаючы нагой). Атмасферу стварыць, як гэта мой мужанёк заўважыў...

ЮРКА (хоча Марыйку адцягнуць за руку). Марыйка! Лісічка мая! Не нервуйся! Я ўсё растлумачу...

МАРЫЙКА (адпіхае Юрку, трасе яму кулаком перад носам). Сама вучоная! Я ўсё бачу! Я табе, вось, зараз так ствару, што не тое, што ў атмасферу – ты ў космас вылеціш, нягоднік! Во! (кулак перад носам).

ІНКАСАТАРКА (перапалоханая, хапаецца за галаву). Людзі добрыя! У чым тут справа?!

НІНКА (паказвае рукою на інкасатарку, ківае галавою, гаворыць са здзекам). Бедненькая, у чым справа, не ведае?.. Паспрабуй забараніць мужу піць гарэлку, а ў яго, адкуль не вазьміся, спецыялістка ад газу пад рукою знойдзецца.

ВАЛОДЗЯ (складвае рукі, як да малітвы). Нінуля! Я ўсё растлумачу. Пакінь!

НІНКА (пачынае крычаць). М-м-м-м, добра, пакінь!.. Я табе ўсё!.. М-м-м-м... Я табе піражкоў!.. М-м-м-м... А ты?! (пачынае плакаць). У-у-у-у-у!..

ВАЛОДЗЯ (абдымае яе за плечы). Мышка любенькая, Нінулька, не плач. Золатца ты маё!

ІНКАСАТАРКА (бярэцца зноў рукамі за галаву). Ой! Ай! А-яй! Маманькі мае! (хапае партфель і выбягае за дзверы; вяртаецца, прыадчыняе дзверы, крычыць). Рахунак – поштай! Рахунак! На пошце заплаціце! (выбягае).

НІНКА (перастае плакаць, крыху супакойваецца). М-м-м, які рахунак? За што?

ВАЛОДЗЯ (абдымае Нінку за плечы, цалуе ў лоб). Супакойся, мышка, золатца маё адзінае: за святло і за газ рахунак жанчына прыносіла.

НІНКА (зусім супакоілася). Дык яна не да цябе?

ВАЛОДЗЯ (тлумачыць Нінцы). Адкуль жа! Па ўсіх кватэрах ходзіць.

НІНКА (раптам тупае нагою). Р-р-азумею! (падбягае да Юркі, бярэ яго за грудзі, трасе). Дык гэта твая, зводнік, справа? (са здзекам): «Сябра вас ужо кахае!». Та-ак? (трасе Юркам): «Прысягаю?» (яго голасам). Т-а-ак?

ЮРКА (моліцца). Марыйка! Ніначка! Паслухайце!

МАРЫЙКА (стараецца адпіхнуць Нінку). Нінка, ты яго пакінь! Гэта мой муж і толькі я маю права... Я яго зараз... (лупіць Юрку па карку). Я яму зараз нервы абцішу... (лупіць яго).

НІНКА (бярэ астатак хлеба, які ляжаў на крэсле, і тыцкае ім Юрку пад нос). О, я яго накармлю прысягамі... О не! Я яму папрысягаю!..

ВАЛОДЗЯ (стараецца іх разлучыць). Ну, што вы – падурэлі! Дзяўчаты!

ЮРКА (жанчыны далей лупцуюць Юрку, ён раптам хапаеццаа за галаву і падае на тапчан, енчыць). Ой-вай-ох! Мая галава! Ой, гуза набілі! Гуза, як сліўку!!! Як яйка гусінае!

НІНКА (спалоханая адбягае ад Юркі і прыглядаецца да Валодзі). Ах, што ж я начаўпла!!!

МАРЫЙКА (мала не плачучы нахіляеццаа над Юркам, гладзіць яго па галаве). Ой, Юрачка! Ой, сонейка маё! А што табе? А, чым цябе гэта ведзьма трэснула?!

ЮРКА (ляжыць на тапчане і стогне). О-о-о-о (трымаецда за галаву). У галаве гудзе (сядае). О-о-о-о! Як – чым трэснула? (паўза). Вячэраю! (жанчыны глядзяць на яго, здзіўленыя. Юрка падымае хлеб, які ўпаў на падлогу, і паказвае ім). Ну, хлебам, які нам на вячэру застаўся (бярэцца за галаву). Во, якога гуза набіла!

МАРЫЙКА (сядае каля Юркі, туліць яго, цалуе ў лоб). А бедненькі ты мой, а родненькі! Я адразу казала, што гэта Валодзька ва ўсім вінаваты! Ён, Валодзька гэты!

НІНКА (адцягвае Марыйку ад Юркі). Ты майго Валодзьку не чапай! Ты майго Вадодзьку не чапай!! Твой усю гэту кашу заварыў!..

ВАЛОДЗЯ (падбягае, цягне Нінку за руку). Нінулька, кінь! Разам мы гэта!

МАРЫЙКА (стараецца схапіць Валодзю). Не мой, але твой! Во! І я яму зараз пакажу! Я пакажу!.. (Марыйка рвецца лупіць Валодзьку, а Нінка – Юрку. Хлопцы стараюцца іх супакоіць і, урэшце, стомленыя, падаюць абодва на падлогу, і сядзяць на ёй, абапёршся плячыма, адзін аб другога. Кабеты, перапалоханыя, пахіляюцца над імі).

НІНКА. Ай-ай! Валодзічак! Ты, што гэта? (хоча падняць яго).

МАРЫЙКА. Ой-ой! Юрачка! Што з табою?

МАРЫЙКА і НІНКА (разам). Хлопчыкі, любыя нашыя, што з вамі?!

ВАЛОДЗЯ і ЮРКА (разам стогнучы). Есці! Есці-і-і-і!! Есці далі б што... (жанчыны здзіўлена паглядаюць на сябе).

ЮРКА (стогнучы). Трэці дзень ужо адным хлебам перабіваліся...

ВАЛОДЗЯ (з енкам). А Нінцы трэба было яшчэ пра кашу ўспамінаць! Адразу ў жываце забурчэла...

МАРЫЙКА і НІНКА (разам). Ой, маманькі! Ой, татанькі!..

МАРЫЙКА (з недаверам). А гуска? А селядзец? А квашаніна? (да хлопцаў).

ЮРКА (уздыхае). Выдумка ўсё гэта наша.

МАРЫЙКА і НІНКА. Якая выдумка?

ВАЛОДЗЯ. Мы ведалі, што вы пад дзвярыма стаіце і пазлаваць вас хацелі... (хлопцы далей сядзяць на падлозе, а кабеты літуюцца над імі).

МАРЫЙКА. Ой, Нінуля!

НІНКА. Ой, Марыйка!

МАРЫЙКА і НІНКА, А што мы нагатуем ім?

МАРЫЙКА. А, можа, крупнічку?

НІНКА. Адбіўную катлету на другое?.. Я, вось, зараз у краму збегаю!

МАРЫЙКА (забягае за заслону, у кухню, і выходзіць адтуль). Дык ты і прыправаў купі, бо ў іх тут нават солі, ды і той няма! Ну і, дарэчы, чвэртачку якую лепшай... прыхапі. Бачыш, Юрачка мой зусім аслабеў. Падтрымаць яго трэба.

ЮРКА (ускаквае з падлогі, махае рукамі). Чвэртачку? Якую чвэртачку? Ты што, баба, блёкату аб'елася?! Га?! (з дакорам). За гэтыя ж грошы паўкілаграма добрай каўбасы купіць можна! Каўба-скі, смачнай! Ці ты разумееш? Каўбас-кі! У-у-у... (аблізваецца).

НІНКА. Ну, дык я пабегла, Валодзік! Якіх табе папяросаў купіць? «Спортаў» ці, можа, даражэйшых?

ВАЛОДЗЯ (седзячы на падлозе). Што? Папяросаў?! Згінь-прападзі ты з папяросамі! (ускаквае на ногі). Ты – што? Мільён выйграла? Грошы з дымам пускаць хочаш? Каб ты мне не пасмела... (тупае нагою, пачынае тлумачыць). Ты ж зразумей: за гэтая ж грошы – кашкі... белай, кашкі кулёк купіць можна (соладка ўздыхае). І згатаваць яе, і каб прыгарэла яна! Так. Каб, абавязкова, з прыгарам! (звяртаецца да Юркі). Ты, Юрка, памятаеш?

ЮРКА (аблізваецца). Угу-угу! І саланінкай заскварыць! Ух, слаба робіцца мне... (сядае абы-дзе).

МАРЫЙКА (рашуча). Чакай, Нінка! Хлопцы, ціха! (усе пaглядаюць на яе і слухаюць). Пры такім выпадку робім новую, шырэйшую суполку!

НІНКА і ЮРКА, ВАЛОДЗЯ. Я-кую? Якую?..

МАРЫЙКА. Вам жа ж, хлопцы, яшчэ два тыдні водпуску засталося. Хадзеце, паедзем дзвюма сем'ямі, у адпачынак! Ну, у горы, напрыклад, ці куды?..

ЮРКА, ВАЛОДЗЯ (паглядаюць на сябе, разам). А ведаеце, добрая думка...

НІНКА (з уздымам). А там, у горах, мы вас ужо адкормім, небаракі, што аж пазгароўвае вас... (засмяялася ад радасці).

МАРЫЙКА, ВАЛОДЗЯ, ЮРКА, НІНКА. Дык едзем! Што? Давайце едзем. Усе разам!

Усе хапаюцца за рукі і спяваюць на вядомую мелодыю:

«Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою!
Радасць і гора, і шчасце дзяліць,
Толькі з табою!»

(Дзеляцца на пары і танцуюць далей).

ЮРКА (танцуе з Нінкай аж на ўскраіне сцэны, звяртае галаву да гледачоў і спявае).

«Смачна пад'есці, кефірам запіць,
Толькі з табою!
Замест, во, гарэлкі – каўбаскі купіць,
Толькі з табою!»

ВАЛОДЗЯ (танцуе з Марыйкай, таксама на ўскраіне сцэны, звяртае галаву да гледачоў і спявае).

«Замест дыму, глытаць кісларод,
Толькі з табою!
Змяняць папяросы на поўны жывот,
Толькі з табою!» (гладзіцца адной рукою па жываце).

Валодзя пачынае танцаваць з Юркам. Кабеткі танцуюць разам, на ўскраіне сцэны, звяртаюцца да гледачоў і спяваюць:

«Калі любіш мяне, гарэлкі не пі,
Буду з табою!
Сама пацалую, адно не куры,
Буду з табою!»

(усе разам бяруцца за рукі, прытанцоўваюць і спяваюць):

«Гэтак не страшны цяжкія шляхі,
Будуць з табою!
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою» (два разы).

**КАНЕЦ**

# Прыгоды Белага Грыба

## (п'еса ў трох дзеях)

Дзеючыя асобы:

**Белы Грыб** – умоўны наратар, хлапец пераапрануты за грыба; на ім – капялюх накшталт грыба, уся вопратка белая.

**Марыся** – маладое, вясёлае дзяўчо, якое канчае гандлёвы тэхнікум і прыехала да бацькоў на канікулы. Апранаецца яна па-сучаснаму, аднак жа так, каб было выгодна і па лесе пабегаць, і ў хаце дзе што зрабіць. У горадзе апранаецца, вядома, адпаведна да ўмоў.

**Соня** – маці Марысі. Апранаецца яна так, як вясковая гаспадыня пры хатняй рабоце.

**Язэп** – бацька Марысі. Звычайны селянін. Будучы ў горадзе, апранаецца ён элегантна.

**Язычыха ды Мальвіна Хрэніха** – вядомыя вясковыя пляткаркі. Апранаюцца яны так, як і ўсе старэйшыя ханчыны ў вёсцы: даўжэйшыя спадніцы, хусткі.

**Віктар Хмялеўскі** – закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум. Працуе ён аграномам, добра зарабляе, прыгожа і модна апранаецца. Кахае Марысю.

**Міхась Зручны** – канчае беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Кахае Марысю. Апранаецца ён скромна.

## Дзея першая

На сцэне лес. Паасобныя галінкі, выразаныя з фанеры ды кардону, адпаведна размаляваныя. Кусцікі, пянькі. Сям-там зроблены, з таго ж матэрыялу, грыбок. Праўдзівік, лісічка, сыраежка. Грыбы даволі вялікія, большыя чым звычайна, умоўныя.

Па ўсім лесе, з усіх бакоў, чуецца: «А-у! А-у! А-у! Э-й! Э-гэ-гэй!» (гэта крычаць, аукаюць грыбнікі).

БЕЛЫ ГРЫБ (вылазіць з-за дрэва, бярэцца рукамі пад бакі, разглядаецца, хапаецца за галаву-шапку і звяртаецца да гледачоў). Ой, маманькі мае! А што ж гэта сёння ў нашым лесе чаўпецца? Шапкі з-пад хвойкі не высунеш. Хто з кашом, а хто з лубянкаю. Разня ідзе бязлітасная (праводзіць далонню па горле). Чаго добрага, на племя ніводнага з нас не пакінуць (пака-

звае рукою на параскіданыя па сцэне грыбы). О! Ізноў хтосьці ідзе! Хутчэй за ялінку і ў мох – каб не ўгледзелі (хаваецца).

МАРЫСЯ (на адной руцэ вісіць кошык, у другой – трымае ножык; што і раз пахіляецца яна, грыбка быццам бы зрэжа і ў кошык кідае. Ходзіць туды-сюды паміж дрэвамі). О!

ВІКТАР (з лубянкаю ў руцэ завіхаецца навакол Марысі, якая не звяртае на яго ўвагі; то спераду забяжыць, то з боку, то навокал абыдзе. Абняць, здаецца, хоча яе, але баіцца. Просіць). Марысенька, золатца маё! Ты хоць слова добрае скажы. Пашкадуй (стараецца абняць Марысю за талію).

МАРЫСЯ (адскоквае, заносіць на яго кошык). Куды? Прымі лапы, а то кошыкам трэсну. Во, бачыла, старая Язычыха па лесе лазіць (паказвае рукою кудысьці ў лес). Да яе ў абдымкі палезь. Ха-ха-ха-ха (смяецца і адбягае).

ВІКТАР (з дакорам, апусціўшы галаву). Ну, чаго ты? Ты ж ведаеш, што я адну цябе... (махае рукою, моўкне).

МАРЫСЯ (смяецца, пачынае, прытанцоўваючы, бегаць паміж дрэвамі і навокал дрэў і Віктар – за ёю, але яна што і раз высуне галаву з-за дрэўца і смяецца). Ну і што? Ну і што? А я іншага кахаю, ха-ха-ха-ха... Ну і што? Ну і што? А я іншага кахаю, ха-ха-ха-ха...

ВІКТАР (прыстае, моліць). Марысенька! Не муч! Выслухай! На век я твой. На руках цябе насіць буду.

МАРЫСЯ (высоўвае галоўку з-за дрэва, смяецца, падманваецца). А ты лепш паршука нашага панасі, ха-ха-ха-ха... Яму ўжо, татка казалі, ад сытасці хадзіць цяжка, ха-ха-ха-ха... А я сама, куды захачу, дам рады пабегчы, ха-ха-ха-ха... Куды захачу! Куды захачу! Куды захачу (уцякае ў лес і знікае Віктару з вачэй, за сцэнай).

ВІКТАР (маркотна пляцецца між дрэвамі). Вось асот, а не дзеўка! Хоць слова вымавіць дала б, растлумачыць. А любая, любая! І толькі да яе адной цягне. Ну, быццам зелля якога хто падсыпаў (бярэцца за галаву). Бедная мая галаванька! Хоць ты ёю аб пень трэскай (пачынае разглядацца). І куды ж гэта, каза тая, пабегчы магла? (прыкладае далоні да вуснаў, кліча, углыбляецца ў лес і знікае за сцэнай). А-у! Марыся! Пачакай! А-у! Марыся! Ма-рыся! Марысенька! А-у-у!

БЕЛЫ ГРЫБ (вылазіць з-за куста, атрэхвае адзенне, паказвае рукою ў той бок, дзе зніклі маладыя). Во! Бачылі грыбнічка? (звяртаецца да гледачоў, тлумачыць). З аднаго боку, скажу вам, страшна ў кошык лезці. З другога –

крыўдна бывае (паказвае рукою на капялюх). І шапачка ў мяне, здаецца, што трэба (праводзіць рукамі ўздоўж цела). І ножка – не згоршая (б'ецца кулаком у грудзі). Чарвякоў нават блізка не дапускаю (разводзіць рукамі). А яны, маеш табе: у мох нават не заглянулі (пачынае круціцца наўкола, перадражніваючы Віктара). І той каля яе, зусім ях мухамор каля сыраежкі, завіхаецца, а яна... (прыстае, робіць паўзу, падпіраецца рукамі пад бакі, звяртаецца да гледачоў, з'едліва). Ха-ха-ха-ха... і ха-ха-ха-ха!.. (разводзіць рукамі). Ну, ці ж не крыўдна? Нагою хоць каторае пхнула б (спалохана азіраецца, прыкладае далонь да вачэй, зіркае ў глыб лесу). Ой! Цёткі якісьці сюды накіроўваюцца! (задумана). Можа хоць гэтыя дацэняць? (тупае нагою). А я, вось, так сабе і не дамся (паказвае пальцам на кусцікі). Залезу пад папаратнік (ківае пальцам у бок гледачоў). Няхай шукаюць. Няхай шукаюць (хаваецца).

На сцэну ўваходзяць Язычыха з Мальвінай. Абедзве з кошыкамі, нажамі. Што і раз схіляюцца, збіраючы грыбы. Ходзяць паміж дрэвамі: адна сюды, другая туды.

ЯЗЫЧЫХА (звяртае галаву ў бок Мальвіны). Мальвіна! Мальвіна! А ты бачыла?

МАЛЬВІНА (праступецца, звяртаецца ў бок Язычыхі). А чаму ж мне не бачыць, куманька? Я ж і без акуляраў яшчэ (перабірае рукою грыбы ў кошыку), Богу дзякаваць, і чырванагаловікаў, і лісічак, нават баравікоў дзесятак знайшла.

ЯЗЫЧЫХА (ставіць кошык на зямлі, абапіраецца далонямі аб калені, звяртаецца да Мальвіны). Ой! Табе адно грыбы ў вачах. Далей свайго носа не бачыш (Мальвіна зацікаўлена глядзіць на яе; Язычыха тлумачыць ёй жэстыкулюючы рукою). Пытаюся цябе, ці бачыла, як гэта Хмялеўскіх Віктар з Марыськаю бушавалі?

МАЛЬВІНА (махае рукою). А-а! Так (пачынае ізноў збіраць грыбы). Дай ім Бог здароўечка, і каб грыбкоў як найбольш знайшлі.

ЯЗЫЧЫХА (падпіраецца рукамі пад бакі, са здзекам). Грыбкоў? Якраз ім і грыбкі ў галаве (тлумачыць, жэстыкулюючы). Глянула б, як ён ля яе мітусіўся (паказвае рукою раз туды, раз сюды). І туды забяжыць, і стуль гляне (рысуе пальцам кола ў паветры). І навокал. І навокал.

МАЛЬВІНА (не разгібаецца, адмахваецца рукою). Не гаварылі б, куманька. Ой, не гаварылі б. Слухаць сорамна (ставіць кошык на зямлю, перапалохана бярэцца за галаву). Ой! Грэх гэта ж смяротны.

ЯЗЫЧЫХА (б’ецца кулаком у грудзі). А каб мае вочы сонца не бачылі! А каб мой язык калом стаў ды браму пякельяую падпіраў. Дык няўжо ж ты мяне дурною лічыш? На свае ж вочы я бачыла!

МАЛЬВІНА (здзіўлена круціць галавою). Марысю з Віктарам? Не верыцца: дык няўжо Марысю з Віктарам?!

ЯЗЫЧЫХА (стукаецца далонню ў лоб, абурана). Дык жа не Кастуся свайго нябожчыка – зямля будзь яму лёгкаю! Пэўна, што Віктара з Марысяю (бярэцца за кошык). Адразу пазнала (падымае палец угору). Ад мяне ніхто не схаваецца!

МАЛЬВІНА (усплёсквае далонямі). Ой! Дык падумаць страшна! Падумаць страшна (складвае далоні, як да малітвы, паглядае ўгору, уздыхае). Нябожчык мой, памятаю, Вінцук і той у лесе мяне самую адно прылавіць здолеў (апускае вочы, жэстыкулюючы тлумачыць Язычысе). І то я ад яго ўцякла б! Чэснае слова, уцякла б – калі б стрэльбы пры ім не было; заўзяты быў ён паляўнічы (ізноў уздыхае ды ўзносіць вочы ўгору). Ну і не скажаш: прыгожы то ён быў . Прыгожы! Каленкі самі гнуліся (паглядае паважна на Язычыху). Тае стрэльбы, то мы пасля з гадзіну шукалі – забыліся, дзе кінуў.

ЯЗЫЧЫХА (пачынае зноў збіраць грыбы). Э-э! Ізноў ты пра Вінцука свайго пачала. Не тыя ж часы былі. Не тая моладзь (звяртае галаву ў бок Мальвіны). Ты глянь адно, што сёння чаўпецца: жах адзін!

МАЛЬВІНА (збіраючы грыбы, не разгінаючыся). А што ж чаўпецца? Дзякаваць Богу, тыя ж, што і за нашых часоў, кусцікі растуць. А праўду табе сказаць, то дзеўкі сёння, што рэпа спелая пайшлі. І кругленькія, у якім месцы трэба, і пякучыя з выгляду – укусіць страшна (соладка ўздыхае). А на зуб якая калі возьме... (раптоўна прастуецца, напалоханая). Ой! Цьфу! Цьфу на яго! (плюе за сябе). Думаць нават сорамна, грэх!

ЯЗЫЧЫХА (прастуецца, абураная). Таксама мне – дзеўкі! Жэрдкі неабструганыя... Памідоры я лепшымі падпіраю... (ківае галавою, успамінаючы). Вось за нашых часоў бывала: жыў бы мой Кастусь... (звяртаецца да Мальвіны). Растлумачыў бы ён табе.

МАЛЬВІНА (падпіраецца рукамі пад бакі, абурана). Вось, думаеш, не памятаю? Можа скажаш, што гэты самы, ну, як яго, шкляроз у мяне? (далонню падпірае бараду, задумваецца). Калі ж гэта было? Чакай! (падымае палец угору, радасна). Ага! Дык ясна! На Купалле ж! Тады, калі гэта ў Іцкаву, крамара таго нашага, казу пярун трэснуў (тыцкае пальцам у бок Язычыхі, тлумачыць). Ты, памятаеш, быццам мыш пабачыўшы, на гулянцы ты самлела?

ЯЗЫЧЫХА (заплятае пальцы, уздымае вочы ўгору, соладка ўздыхае). Ага! Ага! Так яно і было. Так яно і было: самлела я, мышку пабачыўшы. А ён...

МАЛЬВІНА (з дакорам, жэстыкулюючы). Ну вось! А ты думала, што я нічога не памятаю (тлумачыць з уздымам). Дык Кастусь жа твой, тады, на рукі цябе падхапіўшы, у лужыну задам так і сеў (рубае рукою). Так і сеў (тлумачыць далей, жэстыкулюючы). А пяціпудовыя мяхі ж, хлапец, лёгка варочаў...

ЯЗЫЧЫХА (абурана). Ну-ну-ну-ну! Ты не тое... Мяшкі-й-й... Я ж тады не мяшком была! (сумна ківае галавою, успамінаючы). Богу дзякуй, грудзінай аб дрэўца абапруся – яблыкі сыплюцца.

МАЛЬВІНА (згодна). Дык я ж, куманька, што? Вядома ж, памятаю.

ЯЗЫЧЫХА (згодна, лагодным голасам). Ну вось! Сама ж ты бачыла. Па-хрысціянску мы, з Кастусём маім... Бацюшка вянчаў, пеўчыя спявалі. Ну і дзед Пятрусь, усёй вёсцы сват, хлебам-соллю вітаў перад хатай.

МАЛЬВІНА (радасна ківае галавою). Яно вядома, што так. Вядома. Дружкаю я была на тваім вяселлі (бярэ кошык, падыходзіць да Язычыхі, прыкладае далонь да вуснаў і голасна ёй шэпча ў вуха). Бацька, памятаю, жэрдзіну на мяне амаль не паламаў за тое, што з Вінцуком, пасля танцаў, у сена закапаліся. Ой, было, было...

ЯЗЫЧЫХА (паважна ківаючы галавою і трасучы пальцам). Ну, вось-вось! Кажу ж табе, што не тая сёння моладзь, якая за нашых часоў была, Куды там... (бабы бяруць кошыкі і, збіраючы грыбы, знікаюць у лесе).

БЕЛЫ ГРЫБ (вылазіць з-за дрэва, падскоквае раз на адной, раз на другой назе, абтрасае капялюх ды адзенне, падпіраецца рукамі пад бакі і, абураны, гаворыць). Ну, вось табе маеш! І гэтыя таксама не знайшлі мяне! (злосна трасе рукою, паказваючы ў лес). Ну і нашто ж яны ў наш лес гэта пруцца (тыцкае сябе пальцам у грудзі). Я ж з-пад тае папараці што і раз галаву высоўваў (разводзіць рукамі). І каб якая баба ў той бок хоць глянула!

А, заяц бы іх затаптаў: як смаржчкі паморшчаныя, а яшчэ ім былое прыемна ўспомніць (прыкладае далонь да вачэй, глядзіць у лес, паддзыгвае весела ўгору). А глянь жа ж! Ізноў бяжыць Марыся. Ад гэтае, мусіць, ужо не схаваюся (разглядаецца навокал). Хоць не, сяду вось тут, ля пянька (паказвае пальцам). Хавацца болей не буду (рашуча). Няхай бярэ!

На сцэну ўваходзіць з кошыкам Міхась. Памаленьку снуецца туды-сюды паміж дрэвамі, грыбоў шукае. За ім, з лесу, выбягае Марыся. Паціхеньку, на пальчыках, смеючыся. Хаваецца, каб Міхась не пабачыў яе. Падбягае да яго асцярожненька, ззаду, ставіць кошык на зямлю, прысланяе яму, хуценька, вочы далонямі і захліставаецца смехам.

МАРЫСЯ, Ха-ха-ха-ха!.. (Міхасю ў вуха). А-у!А-у! А-у! А, адгадай, хто? А, адгадай, хто? Ха-ха-ха-ха!...

МІХАСЬ (бярэцца, асцярожна, за пальчыкі, якія прысланяюць яму вочы, жартаўліва, весела). А вось, калі адгадаю, дык што за гэта будзе?

МАРЫСЯ (весела, аж паддзыгвае – далей прысланяе Міхасю вочы). А мусіць – не адганеш!? А мусіць – не. Ты ж, напэўна, іншай тут чакаў. Напэўна іншай!

МІХАСЬ (стараецца разняць пальцы Марысі). А калі адгадаю, то пацалуеш? Ну, як?

МАРЫСЯ (смяецца, не пускае ягоных вачэй). Ха-ха-ха-ха!.. Яшчэ чаго захацеў? Ты сабе панечкаў гарадскіх цалуй, ха-ха-ха-ха... (здзекліва). Вось, мусіць, смачна?

МІХАСЬ (з прытворнай злосцю). Ну, чакай ты ў мяне! Адгадаю, хто, дык тады ўжо не вырвешся. Хоць крапівою будзеш, а выцалую.

МАРЫСЯ (смеючыся). Ха-ха-ха-ха!... А вось і не! А вось і не! А мне маманька не дазваляюць. Ад хлапцоў уцякаць кажуць, ха-ха-ха-ха!

МІХАСЬ (вырываецца, хапае Марысю, глядзіць, хто гэта прысланяў яму вочы). Ну, чакай жа ж ты... (спалохана). Ой! Марысенька? (разгублена, не ведае, куды вочы падзець). А я і не сніў! І яшчэ цалавацца хацеў лезці (хапаецца за галаву). Вось жа дурань!

МАРЫСЯ (чамусьці сумна і нават са злосцю тупае ножкаю). А дурань ты і ёсць! Пэўна, што дурань (здзекліва). Табе толькі з маляванымі лялямі і слініцца! (з дакорам). А сапраўды цалавацца ты, мусіць, і не ўмееш. Вось што! Вось што! (вырываецца Міхасю і пачынае ўцякаць – не надта, аднак, хутка).

МІХАСЬ (прытамнее і весялее, падпіраецца рукамі пад бакі). То ты та-ак? Я ж цябе зараз... (смяецца, бяжыць за Марысяю).

МАРЫСЯ (павесялелая, смяецца, круціцца паміж дрэвамі, быццам уцякаючы). Не так, а квак! Ха-ха-ха-ха! Ха-ха-ха-ха! Ха-ха-ха-ха! (Міхась хапае яе, туліць, прыціскае да грудзей; яна не вырываецца). Ой!!!

МІХАСЬ (сапучы, ці то ад стомы, ці з перажыванняў, стараецца пацалаваць Марысю). Бачыш, злавіў! А цяпер і пацалую. Вазьму і пацалую. І што? І што?

МАРЫСЯ (голас у яе ламаецца, нясмела) А я... А я... А я цябе – кошыкам! (нясмела падымае ўгору руку з кошыкам). Пусці! Пусці, шкоднік, бо я з кошыкам... (быццам бы вырываецца, а туліцца да Міхася). Ой! (спалохана, кошык падае на зямлю). Упаў кошык (з мальбою). Міхась, пусці! Маманька ж не казалі. Міхась! Міхасёк...

МІХАСЬ (туліць яе галоўку да грудзей і гладзіць па валасах, голас ягоны дрыжыць). Марыся... Марысенька... Сэрцайка маё, кветачка кволая! Каханейка.

МАРЫСЯ (вырываецца, адбягае пару крокаў ад Міхася, прысланяе вочы далонямі, уздыхае і ўсхліпвае). Ой-ой-ой! Ой-ой-ой! Плакаць буду. О-о-ой, а што маманька скажуць? О-о-й! (паглядае паміж пальцаў на Міхася).

МІХАСЬ (пяшчотна, голас дрыжыць, падыходзіць да Марысі, абымае яе за плечыкі, гладзіць). Ну, даруй, птушанятка маё. Выбачай, месячык сярэбраны. Я ж не хацеў... Я і не думаў. Яно ж самое... Я ж на цябе заўсёды, ну, як на абразок углядаўся. Паціхеньку кахаў... Не смеў... (моліць). Марыся... Марысенька...

МАРЫСЯ (адскоквае ад Міхася, узіраецца на яго паважна, перахіліўшы галоўку). А не махлюеш ты???

МІХАСЬ (з перакананнем б'ецца ў грудзі). Дык на здароўе бацькоў маіх, на шчасце дзетак будучых (працягвае рукі да Марысі, моліць). Даруй, Марысенька, малінка-ягадка мая калючая, каханечка маё.

МАРЫСЯ (спачатку глядзіць на яго, патупіўшы вочкі; губка дрыжыць; пасля весялее, пачынае ўсміхацца і, урэшце, захлістваецца шчаслівым, серабрыстым звонам). Ха-ха-ха-ха! Ха-ха-ха-ха! І я ніякая не калючая. Ха-ха-ха-ха!.. А я, калі каго люблю, дык зусім не калючая, ха-ха-ха-ха! (пачынае ўцякаць ад Міхася). А цалавацца ты ўсё роўна не ўмееш (уцякае паміж дрэў,

смяецца. Міхась, шчаслівы, стараецца яе дагнаць). Не ўмееш! Не ўмееш (абое, радасна смеючыся, знікаюць недзе за дрэвамі; Марыся смяецца). Ха-ха-ха-ха! (перапалохана). О-о-о-ой! (з мальбою, пяшчотна) Міхась... Міхасёк родненькі... Ро-одненькі мой... (цішыня; паўза).

БЕЛЫ ГРЫБ (выходзіць на сцэну, азіраючыся ва ўсе бакі. Абедзвюма рукамі трымаецца за капялюх). Ой, шапачка ты мая бедная, галованька мая няшчасная. Пасярод дарогі, здаецца, ля пянька тырчэў ды і то не зрэзалі (разводзіць рукамі). І што мне рабіць? Куды мне падзецца? (тупае нагою). Хоць ты самагубствам канчай! (працягвае рукі ў бок гледачоў і тлумачыць). Не буду ж я свой век капялюшнікам чарвівым дажываць (разглядаецца, радасна). О! Маладыя на палянцы кошыкі пагубілі. Пэўна, вернуцца па іх? (задумана). Залезу я хіба сам у кошык?! (сячэ рукою, рашуча). Няхай смажаць, няхай вараць, няхай нават у воцаце марынуюць (выходзіць на сярэдзіну сцэны, высока ўздымае галаву, разводзіць рукамі і дэкламуе): Во, хто жыў сам сабе (працягвае заціснуты кулак з узнятым угору вялікім пальцам). Іншым пшык (паказвае гледачам хфігу), а ўсё мне (тыцкае сябе пальцам у грудзі). У грамадскі не бяруць таго кошык (круціць адмоўна галавою і паказвае пальцам на адзін з кошыкаў). Маладосць гэта бель (разводзінь рукамі і разглядае сваю белую вопратку). З векам счарнееў сцябель (вядзе рукамі ўздоўж тулава і ног, выкручваецца і гідліва паглядае на сваё цела). У тых, якіх не туды завёў пошук (разгублена топчацца па сцэне, нечага шукаючы, прынюхваецца па-сабачаму носам, урэшце, стае, апускае галаву і безнадзейным жэстам разводзіць рукамі).

## *Дзея другая*

Кухня ў вясковай хаце: стол, лаўкі, печка з ляжайкаю. На лаўцы, пры сцяне, стаяць вёдры на ваду ды кошык з грыбамі. На ляжайцы спіць Язэп.

БЕЛЫ ГРЫБ (усоўваецца ў кухню, сядае побач з кошыкамі. Ставіць рукі локцямі на калені, далонямі падпірае бараду, хвілінку думае, пасля ўстае, падыходзіць на ўскрай сцэны, пахіляецца да гледачоў і гаворыць). Не шанцуе мне, ведаеце. Мусіць, зараз пачну чарвівець ад злосці. Ну, ведаеце,

мала што ўсе бакі паабіваў, капялюх пакумячыў у тым кошыку пакуль дахаты данеслі яго, то яшчэ кінулі, разам з іншымі, на лаву і ніхто у той бок нават не гляне. А тлумачылі ж мне старэйшыя, што нам, белым, усюды пашана. Што нас гаспадыня адразу першых – якога сушыць, якога марынаваць, а якога і на патэльню! Марыся прынесла нас, паставіла, завіхнулася па хаце, у люстра разоў тры глянула, пакрыўлялася і пабегла, быццам ёй хто пяткі падсмальваў. Гаспадар, самі бачыце, спіць-храпе, а гаспадыня толькі і ведае бегаць сюды-туды. Яшчэ і не прысела. Я тут ужо куты паспеў абгледзець. Адзін рыжы кот, у сенях, звярнуў на мяне ўвагу, ды і той зірнуў толькі, і пайшоў па якіхсьці сваіх справах (спалохаўся, прыслухоўваецца, глядзіць у бок сцэны). Мабыць, дзверы скрыпнулі? Трэба мне хіба на сваё месца... Можа ўжо мая чарга настала? Ліха іх, зрэшты, ведае, якія тут парадкі (хаваецца за сцэну).

СОНЯ (уваходзіць у хату з вядром бульбы, ставіць вядро каля дзвярэй, ідзе да Язэпа і пачынае яго трэсці за плячо). Язэп! Язэп, ты што гэта на ляжайцы разлёгся? Язэп! Ты што сабе думаеш?

ЯЗЭП (уздрыгваецца праз сон). А? А? Што? (сядае, працірае вочы). А што? У чым справа?

СОНЯ (падпёршыся рукамі пад бакі, абурана). Пайшоў бы хоць каровам даў. Мне ж, бачыш, есці згатаваць трэба, свінням бульбы яшчэ натаўчы. Добра, што Марыся хоць падлогу працерла. Магла, аднак, і тыя грыбы, што прынесла, перабраць. Ніяк рукі да іх не дойдуць.І куды ж гэта яна пабегла, сукенку новую надзеўшы?

ЯЗЭП (пацягваецца). А-а-а-а (пазяхае). Ну, іду (устае). Ужо іду, Сонечка. Я ж сам ведаю. Ты ўжо выбачай. Гэта на Марысю нашу, сёння глянуўшы, сагнула мяне чамусьці. Пабач! Кветкаю дзеўка выбуяла. Пара замуж аддаваць (разводзіць рукамі, круціць галавою). А мне ўсё здавалася, што не такі я стары яшчэ (чухае патыліцу). Так і змарыла. Задумаўся, бачыш, так і змарыла (павесялеўшы). А каб ведала, цаца ты мая любая, які мне сон прысніўся!

СОНЯ (забываецца пра ўсё, з зацікаўленнем). Н-у-у-у? А раскажы, што такое?

ЯЗЭП (з усмешкаю). Калі, ведаеш, дзіўна так неяк...

СОНЯ (падбягае да яго, бярэ за руку і цягне за стол; сядаюць). Раскажы. Расказвай, Ёзічак, хутчэй. Ну, як там было?

ЯЗЭП (з хітрай усмешкаю адсоўваецца на другі канец лаўкі, абапіраецца локцямі аб стол і, размахваючы рукою, расказвае). Сплю я сабе, ведаеш, сплю, сплю, сплю...

СОНЯ (абурана). Сплю, сплю... Зараз, чаго добрага, ізноў заснеш (з'едліва). На гэта ты, вядома, мастак (патрабавальна). Ну, расказвай жа хутчэй!

ЯЗЭП (быццам бы паважна). А ты не перабівай (задумваецца). Дык на чым жа я кончыў? Ага! Сплю я сабе гэтак, ведаеш, і здаецца мне, што ты ўжо есці згатаваць паспела ды і каровам сама дала...

СОНЯ (са злосцю). Я, вось, табе зараз і дам... Адразу перастанеш.

ЯЗЭП (засланяецца рукамі ад Соні). А ты чаго дзыгаеш? Даказаць хоць дай: па парадку трэба ж...

СОНЯ (трасе яму пальцам перад носам). Ведаем мы твае парадкі (супакойваецца). Кажы, ну, кажы ўжо (ізноў грозіць пальцам). Толькі без выдумкі.

ЯЗЭП (з таямнічым тварам). Дык сплю я сабе, ведаеш,і , здаецца, чую, як раптам грукае хтосьці ў дзверы. Грукае, а ў сенях – шум страшэнны, натоўп, здаецца, народу...

СОНЯ (заварожаная). Ну і што? Ну і што?

ЯЗЭП (адсоўваецца яшчэ далей ад Соні, з уздымам). Як гэта, што? Бягу, адчыняю, а тут хлопцы з усяе нашай вёскі ды яшчэ і з суседніх... Гляджу: а дзе-нідзе і мястовыя морды мільгаюць. І ў кожнага, бачу, у руцэ паўлітра...

СОНЯ (прыстае, сваім вушам не верыць). Што-о-о?

ЯЗЭП (з асцярогаю аглядаецца на Соню). Што, што... А, ты што думала? Дзядзька Язэп! Дзядзька Язэп – адзін цераз другога крычаць – Марысеньку вашую мы сватаць прыйшлі, няхай там цётка закуску на стол ставіць, чаркі першатрэ...

СОНЯ (устае, з пагрозаю). Так і ведала, што дурэць пачнеш...

ЯЗЭП (выскоквае з-за стала). Ну, Соня, Сонечка!.. А ведаеш? І яшчэ няхай тую – крычаць яны – бутэльку, што цётка ў дзежцы прыхавала ад мужа, абавязкова на стол ставіць! Во, нахабнікі! Абавязкова няхай, кажуць, ставіць – дамагаюцца яны... Вось што!

СОНЯ (абураная выбягае з-за стала, хапае з печы апалонік, трасе ім у паветры). Вось я табе зараз і пастаўлю! Вось я табе зараз і пастаўлю – гуза на лобе! Бачылі, што старому лайдаку сніцца? Пра работу і дык з вас ніводзін не прысніць. Чакай, вось, я цябе зараз апалонікам... Адразу паддзыгнеш маладым...

ЯЗЭП (уцякае ад Соні, засланяецца рукамі). Ой, Сонечка! Ой, Со-онечка! Пажартаваць ужо не можна, ці што?

СОНЯ (трымаючы апалонік). Бачылі вы яго, жартаўніка? (падпіраецца пад бакі). Пастарэў – гэтак кажа, калі каровам даваць трэба! Змарыла... А казала Марыся, што, калі ты да яе ў горад, у інтэрнат той заехаў, дык там каля якіхсьці настаўніц нават добра завіхаўся. Пеўнем спяваў – у кафейку запрашаў... Яно і вядома, што свае каровы, гэта не гарадскія цялушкі (здзекліва). І чамусьці не марыла там цябе, няшчасце ты на маю галаву!..

ЯЗЭП (б'ецца у грудзі). Ну, Сонечка! Ну, вось табе слова гонару! І ў галаве нават не было, каб у кафейку – не тое, што... (тлумачыць). Ну, вядома, наша вучыцца дзяўчо... Не пашкодзіць, думаю сабе, знаёмствы... (вельмі ўстрывожаны).

СОНЯ (сядае за стол, абапіраецца плячыма аб сценку). А ты мне, бычок, валом не рыкай! Ведаеш, чаго ты варты. Адсапціся хоць дай (уздыхае пару разоў). У-у-х! У-у-х!.. Бачыш ты яго? (ківае пальцам у бок Язэпа). Ведаем мы, ведаем (рашуча). Ты, вось, лепей каровам дай, аўса кабылцы падкінь ды дроў нанясі ў хату (са злосці трасе рукамі ў яго бок). Я што, думаеш, распеважуся? Бачыш, што адно дзве рукі маю ды і тыя ўсё занятыя.

ЯЗЭП (накладае шапку, выходзіць). Ну, добра ўжо. Добра, іду (выйшаўшы, прыадчыняе дзверы і ўсоўвае галаву назад у хату). А, вось, калі б ты так большую частку работы на язык узяць магла: як па масле паехалі б справы (хутка зачыняе дзверы).

СОНЯ (тупае на яго нагою). І яшчэ ты тут? (пачынае займацца хатнімі справамі: там паставіць, там пераставіць; бульбу чысціць).

Нехта стукае ў дзверы.

ЯЗЫЧЫХА (прыадчыняе дзверы, заглядвае; на яе твары ліслівая ўсмешка). А Сонечка! А добры вам дзень! А да вас можна?

СОНЯ (добразычліва, завіхаючыся каля хатняй работы). Заходзьце, цётка! Заходзьце! Прысядзьце! Прысядзьце хоць дзе, калі ласка... Занятая, як бачыце. Жніво, здаецца, кончылася, да капання – далёка, а нам, бабам, ніколі перадыхнуць няма як.

ЯЗЫЧЫХА (спачуваючы). А пэўна, Сонечка. А няўжо ж (з хітрынкаю, радасна). А я, ведаеш, вось у грыбы сёння хадзіла.

СОНЯ (нават не аглядаецца). А вам, цётка, што: самі вы, як той кол у плоце. Вам хоць у грыбы, хоць у ягады, а хоць і на прыпечак заваліся! Не тое, што мне, сям'ю маючы...

ЯЗЫЧЫХА (з дакорам). Ой, не кажы, Сонечка. Не кажы. Я ж і кароўку трымаю, і парасятка, як і ўсе, гадую. І гарод палоць трэба. Ну і, ведаеш, Мальвіна, Хрэніха старая, равесніца мая, што і раз зняможа... Трэба ж зайсці да яе, хоць слоўцам перакінуцца (з хітрынкаю). А, дарэчы кажучы, з ёю сёння якраз у грыбы хадзіла... Марысю вашу бачылі...

СОНЯ (не вельмі звяртаючы ўвагу на тое, што старая гаворыць). А так, і яе сёння – з кошыкам – з самага рання панясло.

ЯЗЫЧЫХА (салодзенькім галаском). Ага! Ага! З кошыкам ды з Віктарам Хмялеўскіх (круціць галавою). Ну, і ну! Ну, і ну! На свае вочы бачыла.

СОНЯ (раптам глядзіць на Язычыху). А гэта вы што гародзіце?.. (абурана). А каб вам, цётка, тыя вочы выпучыла! Ці ж гэта дзеўцы ў лесе хлапца сустрэць ужо нельга? Ну, што тут дрэннага?

ЯЗЫЧЫХА (дабразычліва). А я ж і не кажу... Сама маладою была... Невялікі грэх пад кусцікам пацалавацца разоў пару... З кім гэта, зрэшты, не здаралася? Ці ж я што кажу?

СОНЯ (разгублена). Як гэта – цалавацца? Што вы, цётка, мелеце? (абурана). Распусцілі язык, як дзедаўскую пугу!

ЯЗЫЧЫХА (салодзенька, з хітраю усмешкаю). А я нічога. А я ж нічога. Віктар Хмялеўскі жа ж хлопец хоць куды... Хоць, ведаеш, Сонечка, ўжо не адна дзеўка з лесу, замест грыбоў, што іншае ў хвартушку дамоў прынесла.

СОНЯ (пачынае разумець, закіпае). Гэта вы, што? (падпіраецца рукамі пад бакі). Пра дзіця наша – гэтак!? Пра Марысеньку маю?

ЯЗЫЧЫХА (круціць галавою, аднекваецца). Ды адкуль жа? Ды адкуль жа (раптам здзекліва). З кім жа, зрэшты, не здараецца? (устае, пачынае спяшацца). Дык, мусіць, пайду я ўжо, Сонечка. Пайду... Парасятка ж там яшчэ не кормленае.

СОНЯ (ад абурэння слова не можа вымавіць, а пасля прарываецца). Дык гэта ты пра Марысеньку маю? (тупае нагамі, крычыць). А каб у цябе ўсе парасяты паздыхалі, свіння ты! А каб у цябе певень па-воўчаму выў, а куры па-свіному хрукалі!.. А каб ты, на ясны месяц узіраючыся, гаўно бачыла... (плюецца, хапае мятлу). Цьфу! Цьфу! Бачыш ты яе? Пра дачушку

маю язык распусціла... (размахвае мятлою). А ну з мае хаты! Вон – кажу! І каб парога больш пераступіць не смела! Бачыш ты яе?

ЯЗЫЧЫХА (уцякаючы да дзвярэй, спалохана). Ой, Сонечка! Ой, Сонечка! А што ж я такое сказала? Здаецца, што на языку, тое і ў сэрцы...

СОНЯ (кіпіць ад злосці, махае мятлою). А каб табе той язык карова пад хвост уперла ды адпусціць не хацела, калі ты дзяўчат ім паганіш! Вон з мае хаты, а не, то мятлою!... (Язычыха выбягае, Соня сядае на лаву, уздыхае). Ух! Ух! А ну яе, Язычыху! А ну яе! І засапласся ж я...

ЯЗЭП (уваходзіць у хату з бярэмем дроў, здзіўлена). А гэта тут што такое чаўпецца? Чаго ж гэта ведзьма старая, Язычыха, з нашае хаты, быццам бы на мятле, выскачыла? Мяне мала з ног не збіла ды сабаку да паўсмерці спалохала: у буду залез, не выганіш – а вые, быццам бы хто павесіўся. Чаго гэта вы тут не падзялілі? Нездарма кажуць, што дзве бабы, гэта ўжо кірмаш...

МАРЫСЯ (весела ўбягае ў хату, у прыгожай новай сукенцы). Ма-ма! Мамка! А вам можа дапамагчы ў чым? (заглядае ў вёдры). О, вады няма! Прынясу, пабягу! (хапае вёдры і выбягае з хаты).

СОНЯ (знерваваная). Язэп! Казаць табе нават не хочацца.Сядай, Ёзічак, пагаварыць нам трэба. Бяда, ведаеш, сталася...

ЯЗЭП (кідае дровы пад печ, развальваецца на лаве). А што табе зноў за бяда? Што Язычыху паперла? (смяецца). Не бойся, ног не паламала... А, калі што, дык языком падпірацца будзе – ён у яе якраз доўгі.

СОНЯ (амаль не плача, вочы працірае). Язэп! Калі, ведаеш, яна ж пра Марысеньку нашу, пра дзіця нашае любае... Ну, ведаеш, што яна – з хлопцамі сёе-тое... Па лесе. З Віктарам гэтым, Хмялеўскіх, аграномам, быццам,..

ЯЗЭП (перастае смяяцца, устае, абапіраецаа кулакамі аб стол, азвярэў). Што гэта, быццам? Што гэта, быццам? Вось, вазьму зараз лейцы ў рукі!.. Абедзвюм вам зараз «быццам» будзе... Смаркатая яна яшчэ, а ўжо хлопцы ёй у галаве?!

СОНЯ (збянтэжана). Ёзік! Родненькі мой! Дык ты ж падумай... Ёй ужо, як бы не было, дзевятнаццаты гадок пайшоў...

ЯЗЭП (злосна). Ну, і што з гэтага? Ну, што – скажы? Пацягну, вось, зараз пару разоў папругаю па тым месцы, адкуль ногі растуць. Задніца спухне – галаве лягчэй будзе (з абурэннем). Не на тое ж мы яе вучыцца пасылалі? (сядае, задумваецца, уздымае галаву). І ты, кажаш, што – з Віктарам?

СОНЯ (усплёсквае рукамі, з абурэннем). Ну, Ёзік! Ну, міленькі! Дык дачушка наша гэта ж. Ну, папругаю – ці ж можна?.. Гэта, быццам бы ты па сэрцы мяне паласнуў.

ЯЗЭП (супакойваецца крыху, бурчыць). Ну! Ну! Завялася ўжо. Што гэта – думкі выказаць ужо не можна?.. Яно, папруга, вядома, не выпадае... (б'е кулаком аб стол, злуецца). І перастань ты, урэшце!.. Сама ведаеш, што я нават гнядой нашай і тае ні разу не сперазаў, а ты – Марысю... (ізноў злуецца, задумваецца). І кажаш, што – з Віктарам?

СОНЯ (сядае каля яго, бярэ за плячо, просіць). Ну, Ёзічак... Ну, пакуль яе няма... Хадзем, вырашым!

ЯЗЭП (паніклым голасам). А вырашаць тут што? Вядома ж! (звяртае галаву да Соні). Ты што, у лес са мною не хадзіла?

СОНЯ (адсоўваецца ад яго, з абурэннем). Ну, ведаеш!... Гэта ж з табою!.. З іншым я, хоць ты яго мёдам памаж, не пайшла б.

ЯЗЭП (здзекліва). Ой, ёй-ёй! Забылася ўжо, мусіць, як гэта паніч Стрункоўскі да цябе халяўкі смаліў? Мяне хамам называў? (задаволена). Гэта пакуль яму, худзяку няшчаснаму, я сківіцы не звярнуў, на балоце (падпірае далонямі бараду, глядзіць і ўспамінае). Я гэта – кажа – пане Юзку, два гектары балота вам танна ў арэнду аддам... Каб вы адно ад панны Соні здалёк трымаліся (звяртаецца да Соні). Ты ўдумайся толькі? І я ў яго панам зрабіўся, а ты паннаю (трасе кулаком, гаворыць з уздымам). А я, кажу, паніч, я вам зараз у морду заеду, дык вы не толькі ад Сонечкі мае, але і ад мяне самога, Богу дзякуй, здалёк трымацца будзеце... (б'е кулаком па стале). Ды і заехаў – ведаеш? Адно зубы яму заляскалі (ківае галавою). Ніхто не бачыў, здаецца, але і так, памятаеш, мяне папацягалі...

СОНЯ (з дакорам). Ну, няўжо ж не памятаю?.. Толькі ты, Ёзічак... Ну, ці ж так можна? Сам жа добра ведаеш, як было. На мяне бацька крычалі, і маці мяне лаялі. А ці ж я – за каго іншага? Ты ж суджаным быў і ўсё... (падсоўваецца да Язэпа, гладзіць яго па галаве). І шчырае, шчырае табе дзякуй... (ускоквае). Хочаш – да ног табе пакланюся, гаспадарык ты мой? (прысядае каля Язэпа, туліцца да яго). Век мы пражылі, а крыўднага слова я ад цябе не пачула. Ні разу рукі на мяне не падняў – не раўняўшы з сяброўкамі маімі (ускоквае). Хочаш? (падае на калені і да Язэпавых каленяў галаву прыціскае). У ногі пакланюся табе.

ЯЗЭП (разгублена, не ведаючы, што рабіць, гладзіць яе па галаве, па плячах). Ну! Ну! Ты не тое... Ну, устань, кажу... (устае сам, падымае Соню, туліць яе да грудзей, абымае). Здурэла баба... Ну, чаго ж ты... Перастань! Зойдзе яшчэ хто, ці Марыся ўбяжыць... (далікатна адсоўвае ад сябе Соню, працірае кулаком вока, адно, а пасля другое). Ну, перастань! Бачыш, штосьці ў вока ўпала... Бачыш жа – слязавіць, во...

МАРЫСЯ (уносіць вёдры з вадою, ставіць; твар радасны, звяртаецца да бацькоў). Мамачка! Мамачка! І я вам ужо вады прынесла. А, ведаеце, калі я вядро з калодзежа цягнула, узяўся Міхась дапамагаць мне, гэты – Зручных. Да самае хаты вёдры ён паднёс мне. Вам казаў кланяцца...

ЯЗЭП (Соня адыходзідь да печы, штосьці там перастаўляе. Язэп памалу ідзе да стала, сядае на лаву, глядзіць з-пад ілба). А Віхтар Хмялеўскіх часамі нічога не казаў?

МАРЫСЯ (здзіўлена). Ну, што ты, татулю? Пры чым тут ён? Віктар жа аграном... (захлістваецца смехам). Ха-ха-ха-ха! А вы ведаеце, як дзяўчаты высмейваюць яго? (робіць паважную мінку, шырока расстаўляе ногі і, паказваючы рукою, стараецца гаварыць мужчынскім голасам). Вось, тут вапна, там салітра, а на стол стаўце паўлітра (радасна смяецца). Ха-ха-ха-ха! (падбягае да Яззпа, сядае побач з ім, туліцца да яго). А я такая радая, татулю. А я такая радая! (абымае яго за шыю і цалуе ў адну і другую шчаку). Хадзеце, я вас пацалую (адсоўваецца ад яго, смешна крывіцца). А ў вас барада не паголеная. Вы зусім, як той вожык, колецеся.

ЯЗЭП (разгублена). Ай, Марысенька... дык, хто ён? Я не люблю, калі бабы сліняцца (быццам бы разгневаны). А, урэшце, нашто ліжашся, калі калюся? Каза ты разбрыканая! Як ліпучка ты прыліпла. Ой, мусіць, чагосьці ўжо хочаш ад мяне? А ну, кажы мне зараз! (хапае Марысю, садзіць на калені). А ну, прызнавайся мне тут жа, адразу: чаго ад таткі захацела? Не скажаш, дык заказычу! (пачынае яе казытаць).

МАРЫСЯ (рагоча). Ха-ха-ха-ха! Ой! Ой! Ой, татка! Ой, нядобра! Ой! Усё ўжо скажу. Усё, што хочаце. (Соня, тым часам, выходзіць; Марыся вырываецца бацьку, смяецца, уцякае па ўсёй хаце, а той расставіў рукі, бурчыць чмялём і стараецца злавіць яе).

ЯЗЗП (для смеху зрабіў страшны твар, бегае, памаленьку, за Марысяю). Гум-гум-гум, злаўлю – заказычу! Гум-гум-гум, злаўлю – заказычу! Лепей прызнайся ва ўсіх грахах, сарока.

МАРЫСЯ (рагоча, уцякае). А вось, уцяку – і не скажу! А, вось, уцяку – і не скажу!

СОНЯ (уваходзіць, здзіўлена глядзіць, усплёсквае рукамі). Ёзік! Ёзік, што гэта вы!? (абурана). Ну, стары зусім звар'яцеў! Ёзік! Я ж Віктару зайсці наказала...

ЯЗЭП (спыняецца, сумнее, чухае патыліцу). Т-а-а-к! Можа і добра, што наказала – хто яго ведае? Т-а-а-к! А можа і добра? (круціць галавою, разгублены). Хоць яно – і туды, і сюды, і гэтуды – ведаеш... (углядаецца на Соню). А дзе ён?

СОНЯ (паказваючы на дзверы). А ўжо ідзе.

Марыся стаіць і нічога не разумее, уздымае ды апускае плечыкі, дзівіцца.

ЯЗЭП (рашуча). А чорт яго, зрэшты, бяры! Няхай ідзе! Ма-а-рыська!!!

МАРЫСЯ (здзіўлена). Ды я ж тут, татку.

ЯЗЭП (злосна махае рукою). Ну і добра, што тут (рукою паказвае на лаву). Сядай, вось, за стол!

СОНЯ (вінаватым голасам). Марыся! Дачушка! А ты паслухай! А я вось Віктару Хмялеўскіх зайсці наказала... Гэта бацька з ім наш пагутарыць хацеў.

МАРЫСЯ (нічога не разумеючы). Калі бацька хочуць, то іх справа. А я тут пры чым? Пайду, лепей кніжку пачытаю (выходзіць).

ЯЗЭП (чухае патыліцу, выкручваецца). У-гу! У-гу! Г-м-м-м-м. Хацеў? Чортаў я там хацеў! (пачынае злавацца). Ну, чаго ж вам ад мяне трэба? Ці ж я гэта ў грыбы хадзіў? Ці ж я гэта паміж кусцікамі круціцца хацеў? А з Язычыхаю таксама не я калякаў. Бабскія гэта справы і ўсё (рашуча). А я кабылу паіць пайшоў – вось што! (выходзіць, ляскае дзвярыма).

СОНЯ (ходзіць па хаце, трымаючыся за галаву). Ох-ох-ох-ох!... Ох-ох-ох-ох!... Бяда, людзенькі мае! Бяда!

ВІКТАР (стукае ў дзверы і адразу ўваходзіць, прыгожа апрануты, у белай кашулі, гальштуку). Добры вечар, цётка Соня. Вы мяне, здаецца, клікалі – папытаць пра нешта хацелі?

СОНЯ (усхапілася, прыкідваецца вясёлай). Ой, Віктарчык! Але, але. Пэўна – што. Ты, вось, прысядзь! Сядай, калі ласка! (садавіць яго за стол). Калі, ведаеш, не я гэта, шчыра кажучы, клікала цябе. Гэта Язэп мой якуюсьці справу да цябе мае. Вось, прыйдзе зараз. Кабылу напаіць пайшоў.

ВІКТАР (разглядаецца, круціцца на лаўцы). Цётанька! Цётань-ка! А Марыся ваша, дзе? Бо я, цётанька, ведаеце...

СОНЯ (не дае яму закончыць, салодзенька). Ведаю, Віктарчык. Ведаю. Усё ведаю, Язычыха старая сёння заходзіла да нас (расцягваючы). Усё, усё расказала. Ты, вось, пачакай: Язэп прыйдзе. З ім пагутарыш.

ВІКТАР (не разумее, у чым справа; круціцца, разглядаецца). Цётанька! Цётанька! А Марыся – дзе?

ЯЗЭП (уваходзіць, невыразны, прыкідваецца здзіўленым). Г-м-м... У-у-у! Глянь, Соня! Віктар да нас прыйшоў (звяртаецца да Соні). Соня!!... А ты, чаго? Клікала яго можа?..

СОНЯ (абурана). Або ты не ведаеш?

МАРЫСЯ (паціхеньку ўваходзіць і сядае збоку). Добры вечар...

ЯЗЭП (нерашуча, крэкчучы). Ага! Ага! Ясна. Пэўна, што ведае, калі клікала. Так. Так. А ты, Віктар, прысядзь. Сядай! Сядай, калі ласка!

ВІКТАР (здзіўлены). А я ўжо добрую хвіліну, як сяджу, дзядзьку (уляпіў вочы ў Марысю).

ЯЗЭП (разгублены). Ну, і дзякуй Богу! Дзякуй Богу. Сядзі, калі сядзіш. Прысяду, мусіць, і я (сядае на лаву і маўчыць).

СОНЯ (перапыняе маўчанне, з дакорам). Язэп, а ты ж пагутарыць меўся... Чаго гэта сядзіш капіцаю?

ЯЗЭП (злосна). Ша! Змоўкні, баба! (з’едліва) Не ведаю – думаеш? (Звяртаецца да Віктара). А ну, Віктар! Усё мне тут, як ёсць бы на споведзі, выкладвай!

ВІКТАР (адрывае вочы ад Марысі, уздрыгвае). А? Дзядзенька? А, пра што гэта? А. У чым справа?

ЯЗЭП (б’е кулаком у стол, грозна). Ты што: не ведаеш, паскуднік? А пра Марысю... Па лесе, дык што: я з ёю лазіў? Не бойся, людзі ўсё бачаць...

МАРЫСЯ (ускоквае, спалоханая). Татулю! Родненькі! А вы ж нашто гэта? Сораму не маеце... Ён жа сваёю, а я сваёю дарожкаю...

СОНЯ (збіраецца сцебануць сціркаю, тупае нагою). А сціхні мне! А ну! І пайшла ў спальню! Там тваё месца... (з’едліва) Ужо старая Язычыха добра падгледзела, дзе і якія сцежкі-дарожкі крыжуюцца... (Марыся выбягае, амаль з плачам).

ВІКТАР (разгублена). Ну, дзядзенька! Ну, цётанька! Ну, сустрэў вашу Марысю ў лесе, нават крыху пахадзілі разам – не буду заракацца (раптам рашаецца, устае, з уздымам гаворыць). А зрэшты! Усё скажу. А тады – хоць

нажом рэжце... (рашуча). Ну, кахаю я Марыську вашу, нічога тут, як кажуць, не схаваеш...

СОНЯ (хапаецца за галаву, енчыць). Ой! Ой! Падумаць страшна... Дочанька наша бедная...

ЯЗЭП (да Соні). Сціхні, баба! (да Віктара, прыязна). Ну, вось. Ну, вось! Адразу гэтак і трэба было... (Крычыць). Марыся!!! А ну, хадзі сюды! (Да Віктара). А ты, Віктар, сядай! (Віктар сядае).

МАРЫСЯ (убягае, звяртаецца да бацькі). А што, татку? У чым справа? Вячэру можа падаць на стол?

ЯЗЭП (маніць яе пальцам). А ну, хадзі! (паказвае на лаву). Сядай побач – не прыдурвайся! (задаволены, паказвае на Віктара). Бачыш, што кажа прыхвасцень твой? Быццам кахае ён цябе... Ну, во! (здзекліва). Сама аглянь! Галаву панурыўшы, сядзіць. Вінавтаы, пэўна, паскуднік...

ВІКТАР (з узнятаю галавой глядзіць проста на Язэпа). А я, дзядзьку што? Вядома! Хлопец! Я, як той казаў: тое, што ў гародзе хрэн! Ад вашае Марысенькі, аднак – шчыра кажу – я здалёк...

ЯЗЭП (перабівае, не дае закончыць). Хрэн – не хрэн, не напалохаеш. У вайну, гэту апошнюю, нам, браток, не толькі хрэн церці, пераціраць давялося. Хоць і слёзы часам і цяклі, але рука не дрыжэла... (звяртаецца непасрэдна да Віктара, грозна). Ты адразу кажы!.. Жаніцца – будзеш?

ВІКТАР (разгублены, напалоханы, здзіўлены). Як гэта, дзядзеньку, жаніцца? Я і не думаў ніколі, пакуль што... Ды і з кім жа ж?

СОНЯ (з дакорам). І пытаешся яшчэ? (соладка). Ой, Віктар! Віктарчык! Вядома, з Марысяй нашай... з кім жа ж?

ВІКТАР (не ведае, што робіцца). Ой, цётанька! Ой, дзядзенька! Усё гэта так раптам... А я ж не тое...

ЯЗЭП (не дае яму закончыць, звярэе, падсоўвае яму кулак пад нос). А ты тое... кулак мой бачыў?!!

МАРЫСЯ (засланяе далонямі вочы, галосіць). А татуленька! А маманька родненькая мая! А што гэты вы завялі? Дык сорамна ж так... Як можна?

ВІКТАР (прытамнее, твар у яго аж ззяе ад радасці, пачынае запінацца). А я ж тое... Дзядзенька... сказаць хацеў, што з радасцю. З радасцю! Ой! Цётанька! Дык я ж з ахвотаю.. (сумнее раптам, апускае галаву). Толькі, ці яна захоча за мяне... Толькі, ці яна пайсці за мяне захоча?

ЯЗЭП (здзіўлены і абураны). Яшчэ чаго?..

СОНЯ (соладка і радасна паказвае на Марысю, якая стаіць сярод хаты, панурыўшы галаву). Дык што ты, Віктарчык? Дык, што ты? Бачыш – пачырванела ўся, як вяргіня тая... (радасна ўсплёсквае рукамі). Ой, вяселле ж мы вам справім, вяселле! На ўсю вёску!... На ўсю ваколіцу!

МАРЫСЯ (горда ўздымае галаву, падбягае да стала, паказвае Віктару хвігу). А дулю яму пад нос – а не вяселле! Вось, што! (са здзекам). Бачыш іх – захацелі!.. (тыцкае сябе пальцам у грудзі). А я – што? Чалавек, ці кол асінавы? Спачатку мяне ж, здаецца, спытаць трэба было б... (злосна тупае нагою). Забіце, за гэтую «вапну-салітру» не пайду! Не раз яму, зрэшты, казала. А залаты ён будзь. А нават, калі б у яго замест носа – вішня, а замест вушэй, марцыпаны тырчэлі! (тупае нагамі). Не! Не! І яшчэ раз не! (з’едліва). Бачылі? Вяселля ім захацелася... (злосна). Да нашай гнядой няхай сватаецца. Дастане капытам па лобе – будзе ведаць...

ВІКТАР (зусім разгублены, няшчасны, падбягае да Марысі, абымае яе за плечыкі, пяшчотна). Марысенька! Міленькая! Дык чаму ж ты так? Я ж не сам... Бацькі твае ж гэта... Клікалі мяне, то я і прыйшоў. За што ты мяне так? Я ж цябе сапраўды... І я ахвотна!..

ЯЗЭП (не ведае, што рабіць, што думаць. Хоча быць паважным, але смех бярэ яго, не можа паўстрымацца, пырхкае ў далонь). Гммм. Хмм. Ха-ха-ха-ха! Хммм. Сонька! Бачыла ты, як сарока наша разышлася? Хммм. «Вапна-салітра», ха-ха-ха-ха! Да гнядое, а тая – капытам яго! Ха-ха-ха-ха! Хмм, хммм... (стараецца ўтрымаць павагу).

СОНЯ (разгубленая, абураная, падбягае да Язэпа, трасе яму кулаком перад носам, злосна). Ну, дурань! Ну, зусім дурань, стары! (бяжыць да Марысі, з мальбою). Дачанька! Дачухна! Апамятайся! (галосіць). Ой, Віктарчык! Ой, дзетанькі вы мае! А што ж гэта чаўпецца?

МАРЫСЯ (адсоўваецца ад Віктара, паважна, далікатна). А ты, Віктар... А ты, Віктарчык, не гневайся. Не я ж цябе клікала, не я ж маніла. Казала ж табе: іншага кахаю! Жартавала, думаў? (падыходзіць да яго, бярэ за руку). Ну, даруй ужо. Не выганяю я цябе, але ўсё ж уцякай. Бачыш, што ў хаце? Думаеш, мне будзе лёгка? А пасля, што?

СОНЯ (галосіць). Ой, ой! І што ж гэта чаўпецца?! Ой, ой! І што ж гэта чаўпецца?! Звар’яцела, дзеўка, ды і стары! Ой, ой!

ЯЗЭП (ашалелы). А зразумей тут што! А будзь я гарбаты! Уцямі вазьмі!! Ці ж я ўжо адурэў – ці тут усе павар’яцелі?!

ВІКТАР (з мальбою). Марысенька! Я ж сапраўды... Я ж з ахвотаю...

МАРЫСЯ (далікатна вядзе Віктара за руку да дзвярэй). Ну, ідзі, Віктарчык, ідзі – ліхам не памінай. Я так толькі, са злосці «вапна-салітра» сказала, а ты хлапец добры (уздыхае). Што ж, калі я іншага кахаю... Зусім, зусім іншага (папіхае яго да дзвярэй). Ну, ідзі, ідзі ўжо! Каб, Бог даў, цябе якая пакахала так, як я – саколіка майго... (задумваецца). А вось, ці ён – мяне? Зоркі, мусіць, адны на небе ведаюць ды і тыя не скажуць. А месячык новы, рогам сагнуўшыся, з бяды мае дзявочай, пэўна, смяецца...

ВІКТАР (з пачуццём). Марысенька! А ты ж павер...

ЯЗЭП (трымаючыся за галаву). Ну, хадуном галава ходзіць. Ну, хто ж іх, маладых, зразумее? Здаецца ж, як найлепей хацеў....

СОНЯ (галосіць). Ой-ёй-ёй! А няўжо ж яна такая, як і я, дурная? А няўжо ж бацькоў слухацца не захоча? А за якую ж гэта кару? А бедныя ж мы, бабы, бедныя! А чаго ж толькі не валіцца на нашу галаву – ды кахаць нам яшчэ трэба. А злітуйцеся, людзенькі добрыя!

МАРЫСЯ (сумная, выпіхае Віктара за дзверы). Ну, ідзі. Ідзі ўжо! Так яму і быць. Так яму і быць. Не абміне, пэўна, чалавек долі сваёй, па якіх бы яму задворках не блукаць. Будзе, што будзе! Так. Будзе, што будзе! Ну, ідзі ўжо! Ідзі!

ВІКТАР (панурыўшы галаву). Дык іду ж, сонейка маё. Проста ў цемру іду! І будзь табе шчасце – шчасцем, з маім не раўняючы. З маім не раўняючы...

СОНЯ (Віктар выйшаў, а яна бяжыць за ім). А Віктарчык! А Віктарчык! А даруй жа нам, няшчасным. Не папрэш жа супраць ражна. Бачыш сам – уперлася дзеўка! (выбягае з хаты, за Віктарам).

ЯЗЭП (круціпь галавою, зусім разгублены). А чорт бы вас усіх пабраў! Усе, быццам блёкату аб'еліся. І дзеўка, здаецца, пры ўсіх правах, і той неблагі, і мы з бабаю, мусіць, не зусім ужо дурныя, а што выходзіць – самі, здаецца, бачыце... А ну яго! Пайду, лепей загляну, як там гнядая наша... (выходзіць з хаты).

МАРЫСЯ (плачучы). А бедная ж я, бедная! А дзе ж ён, мой саколік, а дзе ж ён, родненькі? А каб ён хоць мяне зразумець хацеў... (выбягае з хаты, з плачам).

БЕЛЫ ГРЫБ (уваходзіць, чухае пад капялюхом, трасе галавою). Ну і што? Ну і што? Чулі – бачылі? Самі, мусіць, сцямілі, што і да чаго? А я, вось, калі

б сам не рыпаўся, пэўна запляснеў бы ў кошыку... А сваёю дарогаю – дзіўна?! Зусім іначай, чым у нас, у лесе. Сярод звяроў – сваты простыя: сілаю мераюцца ахвотнікі, бяруць рагамі. А тут – сэрца... Таксама, дзіва нейкае? Зусім загадка! Што такое: на зуб не возьмеш, а ные, кіпцюром, здаецца, не дастанеш, а раздзіраецца, рогам не праткнеш, а баліць, не хуліган, кажуць, а б'ецца? Паспрабуй адгані – будзь разумны! Хаця, што там: чалавечыя пытанні няхай людзі адгадваюць. А нам, грыбам, свая грыбная сцежка-дарожка.

## Дзея трэцяя

Пакойчык у гарадской кватэры: ложка, стол, крэслы. Сям-там, роўна пакладзеныя, кніжкі, сшыткі. На ложаку, у халаціку, Марыся ляжыць на жываце, гартае кніжку і робіць запісы ў сшытку.

На ўскрай сцэны, на пальчыках, падыходзіць Белы Грыб; кладзе палец на вуснах. Гаворыць голасным шэптам, пахіліўшыся ў бок гледачоў.

БЕЛЫ ГРЫБ. П-с-с-с! П-с-с! Цішэй! Бачыце, Марыся навукаю занятая. Няхай. Няхай! Лепей, каб не бачыла, што я з банкі вылез. П-с-с! Ніколі, ведаеце, не верыў, што з роднага лесу-бору ажно ў горад траплю. Нават калі мяне, разам з іншымі, у банку запіхнулі і залілі кісляцінай нейкай, то здавалася, што ў найлепшым выпадку – на святочным стале пабываць давядзецца. А тут: маеш табе! Павезла мяне Марыся, разам з іншымі ласункамі, у свет шырокі. І вось я, бачыце, тут. Цікава, хто гэта і з якой нагоды відэльцам у мяне ткне і, як смачную закусь, пахваліць? (аглядаецца, кладзе палец на вуснах). П-с-с! (нехта звоніць). Чуеце? (прыкладвае далонь да вуха). Звоніць нехта!? (звяртаецца да гледачоў). Цікава, які госць? (разглядаецца, неспакойна). Трэба хутчэй назад, у банку лезці. Можа, чаго добрага, на стол выкласці захочуць? (Выбягае са сцэны. Званок далей звоніць).

МАРЫСЯ (устае з ложка, павольна і неахвотна, закладвае кніжку алавікам і ідзе адчыняць дзверы). Хто там?

МІХАСЬ (з-за дзвярэй, радасна). Я! Я! Адчыняй хутчэй! Я гэта, Міхась!

МАРЫСЯ адступае, спалоханая, крок назад. Задумваецца. Працягвае руку да дзвярэй і прымае яе назад. Урэшце, рашаецца і адчыняе дзверы.

МІХАСЬ (убягае з кветкаю ў адной – і з чамаданчыкам у другой руцэ. Радасна ўсміхаецца; чамадан ставіць ён на падлозе, распасцірае рукі, быццам хоча абняць Марысю). Добры дзень, Марысенька! Вось і я. Хуценька

губкі падстаўляй. Вось і я, ва ўсёй сваёй мужчынскай, нямытай-голенай пасля дарогі, красе.

МАРЫСЯ (нейк сумна, апусціўшы вочы). Бачу ж я, што ты, Міхась, гэта. Сама ж бачу, ну, і па голасе з-за дзвярэй ужо пазнала (робіць запрашаючы жэст рукою). Вітай! Заходзь, калі хочаш. Ты што? З Варшавы проста? Дахаты яшчэ не заязджаў?

МІХАСЬ (весела, жартаўліва, кланяючыся ў пояс). Мадам! Дазвольце чалавеку, прыгожасцю вашаю асляпленаму, урычыць вам гэтую чырвоную гваздзіку (праступаецца, б'ецца адною рукою ў грудзі, а другою працягвае Марысі кветкі). Гэта сімвал, мадам (б'ецца яшчэ раз у грудзі). Сімвал майго да вас кахання і пустэчы ў маёй кішэні (захлістваецца шчаслівым смехам). Ха-ха-ха-ха! У іншым выпадку я б вас – з ног да галавы – кветкамі абсыпаў. Ха-ха-ха! Павер, Марысенька! Ад пятак да галавы – толькі твае вушкі, з-над горбы кветак, тырчэлі б (уручае кветку і весела смяецца). Ха-ха-ха-ха!..

МАРЫСЯ (бярэ кветку, быццам бы нехочучы, вочы надалей апушчаныя, сумная). Дзякуй табе. Мілы ты, вельмі мілы, Міхасёк (уздымае вочы, разглядаецца па пакоі). А дзе гэта вазончык мой? Трэба адразу ў ваду ўставіць (знаходзіць вазон, ставіць у яго кветку, звяртаецца да Міхася і глядзіць яму ў вочы). Толькі навошта гэта? Няма, Міхасёк, патрэбы. Кветкі ж дарагія цяпер. Ну, і наогул, усё гэта не мае сэнсу.

МІХАСЬ (падбягае да Марысі, надалей вясёлы, здаецца, не заўважае яе дзіўнага настрою. Стараецца абняць яе за плечы). А хто пацалуе? А хто пацалуе? (з дакорам). То я тры гадзіны ў цягніку таўкуся, цераз цэлы горад бягом пру, каб яе хутчэй пабачыць, а яна мяне адным дзякуй збыць хоча? (твар вясёлы, стараецца пацалаваць Марысю). Ой, не выкруцішся. Не ўдасца збыць мяне абы словам!

МАРЫСЯ (не адпіхае Міхася, але далікатна высоўваецца з ягоных рук. Твар у яе паважны, сумны. Адыходзіць так, каб паміж ёю і Міхасём быў стол. Гаворыць ціха, сумна, з нейкай шкадобай). Не трэба, Міхасёк (просіць). Выбачай мне. Сапраўды – не трэба. Не мае ўсё гэта сэнсу. Ты лепей прысядзь (паказвае рукою на крэсла). А я чаю, хуценька, завару – ты ж любіш... Сядай, Міхасёк! Я зараз.

МІХАСЬ (бачыць, штосьці не так: паважнее, ідзе да Марысі, а тая адыходзіць ад яго так, каб стол быў увесь час паміж імі). Марысенька! Золатца!

Што гэта з табою сёння? А можа, цябе прыкрасць якая напаткала? Няўжо ж не пацалуеш нават? За што крыўдзішся? А можа я ў чым вінаваты?

МАРЫСЯ (перастае ўцякаць, павольным крокам адыходзіць да ложка, сядае; галаву абхапіла рукамі. Уздыхае некалькі разоў, гаворыць, мякка). А ў чым жа ж ты можаш быць вінаваты, хлапчук ты мой дурненькі? (уздымае галаву і ўглядаецца ў Міхася). Не ў тым жа ж, што наймілейшым мне быў? Што сэрца дрыжэць прымусіў? ШІто шчасцем даў захліснуцца?

МІХАСЬ (падбягае да Марысі, сядае побач з ёю, абымае за плечы, туліць яе галоўку да грудзей, гаворыць, усхвалявана). Марыся! Марысенька! (з дакорам). А нават пацалаваць не хочаш (гладзіць яе па галаве). А я так бег! Людзі за мною аглядаюцца, а я пру ва ўсё лапаткі, быццам мне пяткі хто прысмаліў. Каб толькі да цябе хутчэй. Бачыш, прыбег, а ты – крапівою...

МАРЫСЯ (далікатна раздымае ягоныя рукі, крыху адсоўваецца, просіць). Пакінь! Пакінь мяне, Міхасёк, сёння. Ды, наогул, пакінь. Не прыходзь болей. Не мае ўсё гэта сэнсу. Ну і я права не маю.

МІХАСЬ (бярэ яе за далоні, стараецца заглянуць у вочы, а яна галаву адхіляе, гаворыць з дакорам). Ты гэта што, кацяня, ізноў выдумала? І гэта пасля ўсяго таго, што паміж намі было?.. А мары нашыя?! А планы на будучыню?! (амаль сілаю туліць яе, цалуе ў лоб, у вочы, і зноў бярэ яе за рукі, і ў твар заглядае). Перагну, вось, зараз цераз калена... Хто гэта абяцаў мне праўду заўсёды гаварыць? Так слова трымаеш? А ну, дурніца малая, кажы зараз, у чым справа... (абурана). Няўжо ж я ўжо чорны табе?

МАРЫСЯ (стараецца выхапіць далоні, адварочвае галаву, амаль плача). Не трэба. Не вымагай! Не трэба, Міхасёк, табе ведаць. Не маю я права. Табе – вучыцца: навукі гадоў яшчэ во колькі... Сама я. Сама я, Міхасёк. Я моцная. Я дам рады. А ты пакінь... Пакінь, любенькі мой! Пакінь і болей не прыходзь, Табе не можна (звяртае да яго твар, вымае адну руку, гладзіць яго па валасах). Ты добры. Не можна табе. Табе навукі гадоў яшчэ, во, колькі!...

МІХАСЬ (знерваваны, устае, пачынае хадзіць па пакоі і гаворыць). Ну, што гэта ты сёння, дзеўка, абвяла? Ну, не прыязджаў некалькі тыдняў... Сама, аднак, ведаеш, што ўніверсітэт гэта не сярэдняя школа... Пішу рэдка. Не разумею я гэтага, думаеш?... Калі – не магу! Павер – не магу!! (ходзіць па пакоі). І бачу цябе ў думках, здаецца! І хвалююся, што там з табою? А вось напісаць, ну, катарга! Бацькам – і тым добра, калі раз у месяц пару слоў чыркну...

МАРЫСЯ (сядзіць на ўскраі ложка, падпірае бараду далонямі, локці яе на каленях. Гаворыць цераз слёзы). Калі, Міхасёк... Калі, бачыш...

МІХАСЬ (падсядае да яе, туліць, кладзе галаву яе сабе на калені, абцалоўвае лоб, валасы, вочы, шукае вуснаў; шэпча здушаным голасам). Бачыш, бачыш... Што бачыш? Гэта ты бачыць павінна, што ўсе мае думкі паланіла! Што жыву, быццам заварожаны... З кніжак, з вітрынаў, са сцен кватэры, адусюль, здаецца, твой твар на мяне паглядвае. Вочы заплюшчыш і ўжо цеплыню тваіх рук на шыі чуеш... А ты...

МАРЫСЯ (утуліла галаву ў ягоныя калені, абняла яго рукамі, пачынае хныкаць). Калі... калі, Міхасёк... Калі, ведаеш...

МІХАСЬ (гладзячы яе валасы, плечы). Ведаеш, ведаеш... Адно ведаю, што і я цябе, і ты мяне любіш, і што чым хутчэй разам будзем, тым больш шчасця ад жыцця захапіць здолеем. Мука ж гэта здалёку жыць – тыднямі не бачыцца!

МАРЫСЯ (далей хныкаючы сядае, упіраецца далонямі Міхасю ў грудзі, глядзіць яму ў вочы. Гаворыць цераз слёзы). Калі... калі, Міхасёк... Калі нельга табе... (адпіхае яго, адварочвае галаву). Калі... я – цяжарная!!! Дзіцё ў мяне будзе!... (звяртае да яго галаву, з вачэй бягуць слёзы). А табе – нельга... Табе – вучыцца гадоў яшчэ, во, колькі!.. А я... А я... (засланяе твар далонямі, падае на пасцель і моўкне ад плачу). А я сама... Сама, Міхасёк... А ты ідзі... ідзі... родненькі. Нельга табе... ідзі... я, сама...

МІХАСЬ (аслупянеў, сядзіць, галаву рукамі абхапіў, не варушыцца. Марыся плача ў падушку. Пасля добрай хвіліны Міхась, памаленьку, устае, засоўвае рукі ў кішэні, пачынае, апусціўшы галаву, памалу хадзіць па пакоі. Гаворыць сам да сябе). Так... Ну, так... Т-а-а-к!... У-г-г-гм... Так... (рашуча падыходзіць да Марысі, трасе яе за плечы). Марыся! Марыся! А ты пэўная?... А да доктара – хадзіла?

МАРЫСЯ (далей плача, утуляе галаву ў падушку, адпіхае яго адною рукою). Ідзі... ідзі... Не муч... Ідзі і не прыходзь болей... Хадзіла я і яшчэ ісці трэба. Сама я... Не муч... Ідзі...

МІХАСЬ (адыходзіць ад Марысі, ідзе ў бок стала). Т-а-а-к... Г-м-м-м... (сядае за стол, на крэсле, падпірае бараду рукамі, глядзіць недзе ў сценку). Г-м-м-м... Т-а-а-к... (сядзіць добрую хвіліну, Марыся плача. Хтосьці голасна ў дзверы – раз, другі, трэці).

ЯЗЭП (крычыць з-за дзвярэй). Марысенька! Марысенька! Заснула там, ці што? Адчыняй хутчэй! Марысенька!

МІХАСЬ (памаленьку устае, падыходзіць да дзвярэй, адчыняе іх і вяртаецца ізноў за стол. Сядае, як і сядзеў, углядаецца на плачучую Марысю, уздыхае). Ух, ух!...

ЯЗЭП (увальваецца ў кватэру, вясёлы: у адной руцэ вялікая торба, поўная чагосьці, у другой – сетка, набітая пакункамі. Весела крычыць). А, гэта мне што такое? Бацькі роднага ўпусціць не хочаш? Ой, мусіць, кавалера прыхоўваеш? А мне клункі гэтыя ўжо рукі адцягнулі! Чорт ведае, чаго толькі туды старая не наклала: вяндліны, саланіны, мёду, смятаны... Карову гатова табе ў горад яшчэ пераслаць! Паказвай, каза, лепей куды выкладваць?... (разглядаецца па пакоі, здзіўлена паглядае на плачучую Марысю, пасля на Міхася, і моўкне на добрую хвіліну. Ставіць клункі на падлозе). Ого! А кавалер і сапраўды ёсць... (здзіўлена). А гэта вы тут чаго? (ківае ў бок Марысі галавою). Тая раве, на бацьку зад выпучыўшы (звяртаецца да Міхася). Ды і ты, Зручны, хмараю сядзіш, быццам салёнага пахлёбаўшы!.. Чаго вы тут не падзялілі? Што тут робіцца? (хоча ісці да Марысі). Марыська! Ану мне ўставай, вочы абатры! Тлумач, што і як? Прывітайся хоць з бацькам.

МІХАСЬ (устае з-за стала, хапае яго за руку). Стойце, дзядзька Язэп! Не чапайце яе! (Язэп стараецца выхапіць руку, Міхась цягне яго да стала). Кажу – не чапайце! Без таго ёй цяжка. Лепей сядайце. Я сам... усё, што трэба... ну, скажу.

ЯЗЭП (далей рвецца). Марысенька! (звяртаецца да Міхася). Яна – дачка мне, няхай сама тлумачыць. А ты мне – хто? Чужы!

МІХАСЬ (не пускае Язэпа, гаворыць паважна). Ну і што? Пакуль, вядома, чужы... А далей – самое відаць будзе. Вы, лепей, сядайце (садавіць Язэпа ў крэсла). Перадусім, добры вам дзень! (цісне яму далоню і сам сядае ў другім крэсле).

ЯЗЭП (паглядаючы на Марысю). Няхай сабе будзе і добры... (Марыся далей плача; Язэп пачынае злавацца, звяртаецца, раптам да Міхася і б’е кулаком у стол). Ну, кажы! Кажы, халера, хоць ты, бо ўжо галава трэскаецца! Альбо я, альбо вы тут павар’яцелі! Кажы ж!

МІХАСЬ (бярэ Язэпа за руку, гаворыць паважна). А вы супакойцеся, дзядзьку. Нам, як мужчына з мужчынам, пагаварыць трэба.

ЯЗЭП (крыху супакойваецца). Сапляк ты яшчэ, а не мужчына! (ужо спакойна). Добра ўжо, кажы, што там маеш? (Марыся перастае плакаць, пахліпвае, паціхеньку і крадком паглядае то на бацьку, то на Міхася, прыслухоўваецца размове). Ох-ох-ох...

МІХАСЬ (глядзіць Язэпу ў твар, голас дрыжыць). Можа я і сапляк яшчэ, дзядзьку... Пярэчыць не буду... А толькі быць мне бацькам вашаму ўнуку (апускае галаву). Цяжарная, дзядзьку, Марыся... (запінаецца). Дзіцё ў нас будзе...

ЯЗЭП (Язэпу адымае дух. Ён прыўстае, апіраецца кулакамі аб стол, пахіляецца над Міхасём, хвіліну маўчыць, слова вымавіць не можа, а пасля, глухім голасам, пытае). Што? Што ты сказаў?! (Марыся, тым часам, заплаканая села і, трымаючыся за край ложка, спалохана глядзіць на іх).

МІХАСЬ (уздымае галаву, глядзіць у вочы Язэпу, стараецца гаварыць спакойна, але голас яго дрыжыць). А тое, што чулі, дзядзьку (запінаецца). Дзіцё ў нас будзе і я бацькам яму...

ЯЗЭП (хвіліну маўчыць, а пасля звярэе, хапае Міхася за грудзі, уздымае яго з крэсла, трасе ім, крычыць). Што?! І гэта ты – мне!? Гэта ты – мне, вось, так сабе, сказаць важышся?! (кідае Міхася на сцяну, хапае крэсла, крычыць). Дачку апаганіць?.. Заб'ю... Заб'ю на месцы!..

МАРЫСЯ (кідаецца з крыкам да бацькі і хапае яго за грудзі, уласным целам засланяе Міхася). Татку! Родненькі! Не біце яго! (Язэп, трымаючы крэсла, далей рвецца да Міхася, які стаіць, абапёрты спінаю аб сцяну). Сама я... Не нінаваты ён... Яго не чапайце, татку!.. Добры ён... Гэта я вінавата!

ЯЗЭП (пускае з рук крэсла, яно падае на падлогу. Адпіхае Марысю, хвіліну глядзіць на яе, а пасля заціскае кулакі і памалу ідзе ў яе кірунку). То так яно? Па тое галубілі?.. Сабе шкадавалі, каб табе было? А ты, што?! Нам, старым, на сорам...

МІХАСЬ (кідаецца паміж іх, засланяе сабою Марысю, гаворыць цвёрда, хоць і голас яму дрыжыць). Ну, біце, дзядзька! Калі хочаце, біце! (ударае сябе кулаком у грудзі). Толькі мяне біце! (заціскае кулакі, грозіць). А яе не чапайце, бо пакрыўджу! Дурніцу дзяўчо гародзіць, а вы слухаеце (б'ецца кулаком у грудзі). Я вінаваты і мне адказваць (падыходзіць да Язэпа, грудзі ў грудзі). Біце! Біце, калі вам лягчэй ад таго будзе! Толькі яе не чапайце! Не чапайце! Бо пакрыўджу! Мая яна...

ЯЗЭП (апускае рукі, зусім разгублены, прыгорбіўся, раптам пастарэў, адварочваецца ад Міхася, падымае з падлогі крэсла, сядае на ім. Абхапіў галаву рукамі, стогне). Вось табе і маеш! Вось табе і маеш!.. Каб хоць мая Соня на месцы была, было б з кім параіцца. А тут – маеш табе! Ні ён, ні яна не вінаваты. Ну, ці чуў гэта хто? Ці хто бачыў? А галава ж ты мая бедная! А хоць ты трэсні ёю аб сцяну!

МІХАСЬ (туліць і супакойвае Марысю). Ну, Марысенька! Ну, золатца маё! Ці ж можна гэтак? Супакойся, зорачка мая бліскучая.

МАРЫСЯ (уздымае на яго вочы, моліць). Ну, ідзі! Бяжы ўжо, Міхасёк! Бачыш, татка злосны. Ну, бяжы! Я яму сама ўсё... Ён добры... Любіць мяне... Даруе...

МІХАСЬ (здзіўлена). Куды? Нашто? І дароўваць – што тут і каму? (Рашуча). А мы, вось, з таткам зараз пагаворым ды і вырашым адразу ўсё, што трэба.

ЯЗЭП (пасядзеўшы, пастагнаўшы, ускоквае з крэсла, трасе рукамі і звяртаецца да Міхася ды Марысі). Ну, скажыце ж хоць што-кольвек! Азвіцеся хоць! (тыцкае сабе пальцам у грудзі). Дык вы ж, чаго добрага, яшчэ мяне ва ўсім абвінаваціце! Самі цеста замясілі, а мне давядзецца за вас пірагі пячы!? (уздымае рукі ўгору, трасе імі, глядзіць у столь, енчыць). Што ж я скажу матцы? Што ж я скажу матцы?!

МІХАСЬ (бярэ Марысю за руку і цягне яе да Язэпа; бярэ Язэпа за плячо). Дзядзьку! Дзядзьку – дык ясна ж, што?

ЯЗЭП (апускае рухі, глядзіць на Міхася з Марысяй, гаворыць здзекліва). Ясна? Каму і што ясна? Гэта можа я вінаваты? Дык мяне ж матка з хаты выганіць за такую навіну (хапаецца за галаву). Адна дачка. Адна дачка!..

МІХАСЬ (кранае яго далікатна, за рукаў, просіць). Дзядзьку! Дзядзьку!.. Як бацьку роднага прасіць вас хачу.

ЯЗЭП (здзіўлены, апускае рукі). Чаго ж прасіць? Як прасіць? Калі трэба было прасіць, то сам браў, а, пашкодзіўшы, з просьбамі прыходзіш?

МІХАСЬ (кланяецца яму нізка, Марысю трымае за руку, просіць). Даруйце, дзядзеньку, неразумнаму! Як бацьку роднага вас прасіць хачу: аддайце, замуж за мяне, Марысю вашую! Любая яна мне! Без яе не магу я жыць! Аддайце, дзядзьку... З цэлага сэрца – прашу! Век вам буду ўдзячны!

ЯЗЭП (спачатку вырачвае на іх вочы, а пасля пачынае паціраць рукою лоб; адмахваецца. Кіруецца ў бок ложка). Чакайце! Чакайце! Лепей няхай

я прысяду... Чамусьці дрыжыкі па нагах бегаюць мне і ў галаве круціцца... Крыху замнога мне, мусіць, уражанняў на сёння...

МАРЫСЯ (сядае, задумваецца). Міхась! Міхасёк! Не можна табе! Не маю я права... Табе ж вучыцца гадоў яшчэ, во, колькі!... А я... А я... А я тое, што камень на шыі буду табе... Міхасёк родненькі – не можна табе!...

МІХАСЬ (бярэ яе за рукі, вясёлы, бадзёры). Сціхні мне, брыданька мая! Чула, здаецца? Наперла мяне жаніцца і рабі тут, што хочаш... І сціхні, бо яшчэ іншую выберу за жонку – нашто мне такая плаксівая і языкатая? І што тады скажаш? Пацалавала б лепш, будучага мужа, замест дурніцы гарадзіць (туліць яе да грудзей і цалуе; Марыся абымае яго за шыю і, ад радасці ды шчасця, плача).

ЯЗЭП (прытамнее. Абапёр ён рукі аб калені і ківае галавою). Ну, так! Ну, так! Нават пры мне, пачалі цалавацца! А каб іх!... (стукаецца далонню па калене). І паглядзіце толькі! А тая зноў раве... І адкуль гэта ў яе столькі вады на слёзы бярэцца? Ну, ці табе яшчэ мала, ці як? (трасе далонямі ў бок Міхася). Міхась! Зяцёк! Ну, ты яе яшчэ раз пацалуй – можа, урэшце, супакоіцца баба...

МІХАСЬ (адварочвае галаву ад Марысі і моргае да Язэпа). Каго, як каго, а вас, дзядзьку, як будучага цесця, я заўёды з ахвотаю паслухаю (мацней туліць Марысю і доўга цалуе яе).

ЯЗЭП (падыходзіць да Міхася і Марысі, якія цалуюцца, абыходзіць іх навокал, заглядвае з аднаго, заглядвае з другога боку, круціць галавою. Звяртаецца да гледачоў, паказваючы на маладых). Вось, падлы! Пагляньце толькі, як прыляпіліся! Ні шчылінкі! Паперкі паміж імі не прасунеш (заглядвае). Зусім, як мы з Соняю калісьці (адварочвае галаву, чухае патыліцу). Вось ліха – а яно і ўспомніць добра. Шкада, шкада, што Соня не бачыць (папярхнуўся). К-ха! К-ха! К-ха! (кашляе). Ой! Ой! На бяду успомніў. А згінь ты – прападзі! Цьфу! Цьфу! Ць-фу! (тройчы плюе ўбок). Дык ёй жа ж трэба будзе яшчэ ўсё вытлумачыць (усплёсквае рукамі, перапалоханы, падбягае да маладых і адрывае іх ад сябе). Дзеці! Дзеткі! Марысенька! Зяцёк каханы! А мы і не падумалі! А мы і забыліся (цалуе Марысю у лоб, а пасля – Міхася). Жывіце багата! Жывіце багата!.. Толькі... Толькі, што я матцы ў хаце скажу? Як вытлумачуся?..

МІХАСЬ (падыходзіць да Язэпа, абымае яго за плечы). Нічога, татку. Напэўна, нейк будзе. Абавязкова прыдумаем нешта...

МАРЫСЯ (кідаецца бацьку на шыю). Абавязкова! Абавязкова нешта прыдумаем! Ох, якая я радая, татку! Радая, радая!!!

ЯЗЭП (задумваецца, гладзіць Марысю па валасах і далікатна здымае яе рукі з шыі, і цалуе ў лоб). І я рады, дачушка! І я рады! Вось, толькі, каб маці ад радаснай навіны не папярхнулася! Т-а-а-к! Дасць яна нам перцу! Усыпле і ў хвост, і ў грыву! Не ведаеш яе ты яшчэ! Не ведаеш... (звяртаецца да Міхася). Вось што, зяцёк! Ты ў салдатах не быў, а мне да самага Берліна прайсці давялося. Так, што слухай! Хутчэй за ўсё нам давядзецца, паводле ўсіх законаў тактыкі, заняць кругавую абарону (ківае пальцам). Зразумей: кру-га-вую? Спосаб вядомы, выпрабаваны. Сам генерал Паўлюс яго стасаваў пад Сталінградам. Вялікі спецыяліст.

МАРЫСЯ. Татку! Татку! А гэта вы пра таго Паўлюса, якому так у зад далі, што з усёй арміяй у палон здаўся?

МІХАСЬ (адказвае). Так, Марысенька. Той самы. Той самы.

ЯЗЭП (спалохана). Ой, маманькі мае! Ізноў бяда. Дык ясна ж, што яму там здорава дасталася... Ну, а калі яму, вопытнаму ваяку, усыпалі, то нам, гэтакім аматарам, Соня нават пазіцыяў заняць не дазволіць! Раз-два паказа, дзе ракі зімуюць! Ну, і як тут, што тут і кудою тут? (задумваецца, чухае патыліцу, звяртаецца да Міхася). Вось, зяцёк, што! Відавочна, давядзецца нам добра мазгамі паварушыць! (падымае палец угору). А яны, вядома, непалосканыя працуюць слаба. Закуска ёсць, а чвэртачку, недзе ў торбе, маю. Скокні ты, каханенькі, на адной назе і здабудзь дзе яшчэ бутэлечку... Ну, бо што гэта было на двух мужчын...

МАРЫСЯ (перабівае). Татку! А ці варта?

ЯЗЭП (тупае нагою). Абціхні, каза, калі мужчыны паважныя справы абмяркоўваюць! (звяртаецца да Міхася). Бачыш! Зусім у мацеру ўдалася. Тая, таксама, адно гарэлку пабачыўшы, адразу свярбячкі нейкай дастае. Дык ты хуценька: бягом туды і назад!

МІХАСЬ (разводзіць рукамі). Калі абавязкова хочаце, то я ўжо збегаю – супраць ражна перці не буду. Толькі, ці не замнога будзе? Ну, бо, ведаеце татку, мне яна шкодзіць і я амаль у рот не бяру гэтага зелля... Часамі віна шкляначку... ды і то рэдка... Калі, аднак, абавязкова... Ну, што ж, пабягу...

ЯЗЭП (уляпіў вочы ў Міхася, сваім вушам не верыць). Што? Як ты сказаў? (складвае рукі, як да малітвы, просіць). Зяцёк! Зяцюльку, даражэнькі! Міхасёк – ты ж мне родным сынам будзеш! Скажы толькі, ну, любенькі.

Моў, што ты пажартаваў са старога. Ну, прызнайся! Будзь чалавекам: пі! А можа табе дактары не дазваляюць? Плюнь ты на іх, золатца, на жывадзёраў няшчасных!

МІХАСЬ (здзіўлена). Калі не. Вось, калі, ведаеце, пасля гарэлкі то і вучыцца цяжка, а яшчэ і спортам займаюся. Ну, і наогул смешна гэта рабіць сябе дурнем за ўласныя грошы...

ЯЗЭП (заплятае пальцы, уздымае рукі ўгору і галосіць). Ой-ёй-ёй! А каб яно згарэла, а каб яно здохла! Усе, якія ёсць беды, усе на маю сівую галаву! У старога Язэпа і не п'ючы зяць! Быццам бы мне і мала было жонкі-цвярозніцы. Ой-ёй-ёй! Ну, хто гэта чуў, хто гэта бачыў!? Засмяюць у вёсцы. Праходу не будзе! (хапаецца за галаву). Ой! А тут яшчэ перад бабаю тлумачыцца трэба! Ой-ёй-ёй!

МАРЫСЯ (тузае Язэпа за рукаў). Татульку! Татуленьку. А можа мамка якраз радая будзе, што Міхась па гасподах не бегае, гарэлкі не любіць? Мне здаецца, татку, што яна напэўна радая будзе і можа... можа, выбачыць нават тое, што мы гэтак, ну, так сабе, без іхняга, матчынага дазволу...

ЯЗЭП (адразу спакайнее, задумваецца, а пасля кідаецца цалаваць Марысю). А дачушка ты мая. А разумніца! Бачыш, вось, што навука робіць! Нездарма столькі гадоў над друкаваным і пісаным пракарпела! Мы тут, мужчыны, галавы ламаем, а яна, баба, маеш табе, адразу што і як уцяміла! (пачынае прытанцоўваць на сцэне). Ну, вядома ж! Ну, вядома ж! Ясна, што з двух бед заўсёды меншую выбіраюць (звяртаецца да гледачоў). Неп'ючы зяць – ці да вас гэта дайшло? Знайсці, у сённяшні час, такое дзіва, як неп'ючы зяцёк!? Дык Соня мая такому гатова ў ногі пакланіцца! Калі б нават крывабокім ён быў, дык і тое выбачыла б! Не махлюючы, яна гатова мне за такое шчасце яшчэ і паўлітра паставіць! (б'ецца, з разгону, рукою па калене). Вось ліха! Толькі з кім жа я вып'ю? (весялее). А, было не было: ёсць суседзі – будзе каго і запрасіць, будзе з кім стукнуцца! (падбягае да маладых, бярэ іх за рукі, цягне да дзвярэй). Няма што, дзеткі! Няма што: збіраемся і едзем. Едзем адразу! Вось, уцешыцца Соня! Вяселле адбубнім – уся вёска пад платамі ляжа! Паехалі, дзеткі! Паехалі!

МАРЫСЯ. Калі вы, татку, кажаце, што...

МІХАСЬ. Вядома, паехалі! Шчасце ж яно не чакае. Даецца ў рукі – бяры! Не паспееш схапіць, з пустым застанешся! Паехалі!

Бяруцца ўсе за рукі; наперадзе – Язэп, за ім Марыся, на канцы Міхась і, вясёлым карагодам, прытанцоўваючы, выходзяць са сцэны. Міхась на хвілінку цягне цэлы карагод назад, хапае свой чамадан і ўсе выходзяць за кулісы. Карагод, цэлы час, хорам прыгаворвае:

– Едзем-едзем. Едзем-едзем!.. (у апошню хвіліну Міхась адварочвае галаву да гледачоў, моргае).

БЕЛЫ ГРЫБ (высоўвае галаву з-за кулісаў, звяртаецца да гледачоў). Ну, як там? Паехалі ўжо? Можна вылезці – ножку, хоць крышачку, распрастаць? (выходзіць на сцэну, прысядае некалькі разоў). Вось так! Вось так! (раптам падбягае на ўскрай сцэны, бярэцца пад бакі, пахіляецца да гледачоў). А вы думаеце, што я шкадую? Крыўдна мне, што сёння відэльцам не парнулі? (круціць галавою). О не, браткі! Нездарма ад пачатку ўсё чуў я і бачыў.

Дэкламуе:

Сярод хвоек каханне (паказвае рукою кудысьці за сцэну), сярод вуліц спатканне. (Круціцца наўкола і паказвае рукою на пакойчык). Слёзы, радасць, двух сэрцаў біццё (прыкладае руку да сэрца). Капялюх я свой скіну перад тым, што настане (бярэцца рукою за капялюш). Перад новым, шчаслівым, спадзяваным жыццём!

Кланяецца да самяй зямлі і выбягае са сцэны.

КАНЕЦ

# Зямля

Дзеючыя асобы:

**Пятрусь** – гаспадар, 52 гады.

**Алёна** – яго жонка, 45 год.

**Рыгор** – яго сын, 18 год.

**Валодзя** – сусед, гаспадар, 50 год.

**Марыся** – дачка Валодзі, 17 год.

Вясковая хата. За сталом, задумаўшыся, сядзіць Пятрусь. Перад ім талерка з ежай. Алёна замятае падлогу.

АЛЁНА. Пятрусь! (Пятрусь не чуе). Пятрусь!

ПЯТРУСЬ. Чаго?

АЛЁНА. Перастань сабе ўрэшце галаву марочыць. З'еш лепш што-небудзь. Няхай Рыгорка робіць, як хоча. Не прымусіш жа яго на гаспадарцы застацца.

ПЯТРУСЬ. Што? Не прымушу? (крычыць, б'е кулаком у стол). Хто? Я? Значыць, ты мяне яшчэ слаба знаеш. Я ж на яго, вырадка, галаве вось гэтую лаўку дашчэнту паламаю, а прымушу.

АЛЁНА (заламвае рукі). Вось ізноў сваё пачынае. Хаця пры ядзе не крычаў бы. Чаго добрага яшчэ папярхнешся.

ПЯТРУСЬ. Маўчы, баба! (папярхаецца, кашляе).

АЛЁНА (падбягае да Петруся). Даражэнькі мой! У дрэнную хвіліну, мусіць, вымавіла. Цьфу! Цьфу! Цьфу! (сплёўвае тры разы цераз плячо). Бачыш! А што я табе гаварыла?!

ПЯТРУСЬ (перастае кашляць). А што ты там разумееш? Сама скажы. Ну, хто ж гэта бачыў, каб гаспадарку кідаць? І гэта мой сын? Не! (крычыць, трасе кулаком). Знаць не захачу! Адракуся! Кавалка хлеба не дам!

АЛЁНА. Нельга быць такім зацятым, Пятрусь. Ён жа ў нас адзін. Дзіця яшчэ.

ПЯТРУСЬ. Дзіцяня! (з абурэннем). Баба заўсёды сваё. Для цябе ён заўсёды дзіцянём будзе. Пацікавілася б лепш, дзе гэта твой сынок па ночы шляецца. Гадзіна дзявятая, а яго яшчэ ў хаце няма.

АЛЁНА (узварушваючы плячамі). Ат! Пайшоў пэўна ў школу. Там цяпер тэлевізар паставілі, і моладзь кожны вечар збіраецца перадачы глядзець.

ПЯТРУСЬ (устае, тыча Алёне пальцам у грудзі). Во! Во! Бачыў я той яго тэлевізар. Бачыў! На дзвюх ножках, з косамі, у спаднічцы. І глядзіць ён яго не ў школе, а над ракою. Новая марка тэлевізара – Марыся называецца. Яго не толькі паглядзець, не толькі паслухаць, да яго і прытуліцца можна. Што рот разявіла? Так. Так. Марыся – дачка Валодзі. Мне Міколка, пастух, ужо даўно гаварыў. Не хацеў я верыць Аж сёння, вяртаючыся з лесу, сам убачыў. Сядзелі каля самага моста, прытуліўшыся. Нават мяне не заўважылі, хоць я добрую хвіліну да іх прыглядаўся.

АЛЁНА. Перастаў бы ты, Пятрусь, дурніцы малоць. Ён жа нядаўна толькі 18 год скончыў. Рана яму за дзяўчатамі бегаць.

ПЯТРУСЬ. Ты мне зубы не загаварвай. Я не сляпы. Добра бачыў. Падумай лепш, што з ім рабіць будзем (ходзіць злосна па хаце, залажыўшы рукі за плечы). Навошта здалася яму тая навука? Скончыў жа сем аддзелаў. Не – далей прэцца. У горад захацеў. Вёска яму не падабаецца! Думае, што ў горадзе працаваць не трэба. Грошы на вуліцы ляжаць. Там якраз толькі і чакаюць на такіх, як ён (сядае і ківае галавою). А гаспадар з яго добры быў бы. Я да яго добра прыгледзеўся. Ці араць, ці касіць, ці жывёлу дагледзець – на ўсё майстар. І зямлю быццам бы любіць. Чорт знае, што яму ў галаву стрэліла. Раней жа ён толькі і марыў пра тое, каб самастойна гаспадарыць (хвіліну маўчыць). А кніжачак, памятаеш, розных напрыносіць. Начытаецца – і давай мяне, старога, вучыць. І тое яму не падабаецца, і другое, і ўсё нейкія навінкі хацеў бы ўводзіць.

АЛЁНА. Дык памятаю ж. Спачатку баялася нават, што прыб’еш ты яго калі за гэта. Не вытрымаеш. Як гэта, каб яйка курыцу вучыла?

ПЯТРУСЬ. Якую ізноў курыцу? Запамятай сабе назаўсёды, што я хоць і стары, а ўсё ж яшчэ певень. Сама ты курыца. А тое, што ён навінкамі цікавіцца, гэта добра. І тое, што не згаджаецца са старыною, таксама добра. Так і трэба. Зямля яна, бачыш, Алёнка, так, як тая капрызная маладзіца. Мала, што каля яе ходзіш, круцішся. Мала, што яе грудзі потам зрошваеш. Усе сілы ёй аддаеш. Трэба ведаць яшчэ, што яна любіць, чаго дамагаецца. Усё новых дарог да яе сэрца шукаць трэба. І перш за ўсё, Алёнка, любіць яе трэба, любіць моцна, з цэлага сэрца гэту нашу зямлю родную. Во! Толькі

тады яна табе адплаціць шчодрым, як вялікае каханне, ураджаем (нехта стукае ў дзверы).

АЛЁНА. Калі ласка.

Уваходзіць Валодзя, знімае шапку.

ВАЛОДЗЯ. Добры вечар!

ПЯТРУСЬ. А! Валодзя! Добра што зайшоў. Прысаджвайся, калі ласка (Валодзя сядае).

ВАЛОДЗЯ. Я якраз і прыйшоў з табою пагутарыць. І пагутарыць сур'ёзна. Як бацька з бацькам.

ПЯТРУСЬ. Ну! Аб чым жа гэта? Што здарылася?

ВАЛОДЗЯ. У тым то і справа, што трэба ўсё выясніць, пакуль яшчэ не здарылася. Пасля можа быць позна.

ПЯТРУСЬ. У чым справа?

ВАЛОДЗЯ. Вось што, Пятрусь! Скажы ты свайму Рыгору, каб перастаў за Марысяю шляцца. Зусім мне дзяўчыну з дарогі збіў. Яна не для яго (стукае рукою ў стол).

ПЯТРУСЬ. Э-э, брат! А гэта чаму ж? Чым ён табе дрэнны?

ВАЛОДЗЯ. Дрэнны – не дрэнны, а яна не для яго. Яна ў горадзе вучыцца. Сярэднюю школу канчае, у людзі выбіваецца. А ён што?

ПЯТРУСЬ. У горадзе кажаш? (чухае патыліцу). Вучыцца? Не для Рыгора? Гм! Цікава. Валодзя! А ты Рыгорку аб гэтым казаў?

ВАЛОДЗЯ. А як жа. Я яму не раз, прахвосту, тлумачыў. Куды, кажу, прэшся, галава драўляная? Навошта мы дачку вучым, на тое, каб на вёсцы засталася? За гарадскога яе замуж выдамо. Паняю будзе.

АЛЁНА (тупае нагою злосна). А ты нашага Рыгора прахвостам не называй. Ты б замест таго, каб на яго хлусіць, лепш сваёй дачкі пільнаваў бы. Сама, пэўна, хлапцу на шыю вешаецца.

ВАЛОДЗЯ (устаючы). Што? Што ты сказала?

ПЯТРУСЬ (устае, раскладае рукі). Ну! Ну! Цішэй! Ты, Валодзя, супакойся, а ты, Алёна, таксама язык прыкусі. Разявіла горла на ўсю хату. Апраніся ды ідзі, Рыгора пашукай. Ага! Як будзеш ісці каля гасподы, дык захапі там нам бутэлечку чаго-небудзь мацнейшага. Бачыш, якая сітуацыя выйшла? Без паўлітра не разбярэш.

ВАЛОДЗЯ (злосна). Пляваў я на твайго паўлітра. Няма аб чым гаварыць. Па-вашаму, значыць, Марыся сама хлапцу на шыю вешаецца?

ПЯТРУСЬ. Ды перастань ты. Не дурэй! Алёна! Ты што, яшчэ не выбралася?!

АЛЁНА. Іду ўжо, іду! (Алёна выходзіць).

ВАЛОДЗЯ. Іду і я.

ПЯТРУСЬ (бярэ яго за плячо і саджае). Куды? Сядай! Трэба нешта вырашыць. Спяшацца, брат, трэба толькі пры лоўлі блох. А ў сур'ёзных справах так нельга. Трэба падумаць.

ВАЛОДЗЯ. Няма тут аб чым думаць. Не бачыць Рыгорку Марысі, як сваіх вушэй.

ПЯТРУСЬ. Чакай! Не гарачыся! Дай мне хоць пару слоў сказаць.

ВАЛОДЗЯ. Ну, добра! Гавары! Толькі хутка.

ПЯТРУСЬ. Перш за ўсё скажу я табе, што Марыся ваша мне вельмі падабаецца. Золата – не дзеўка. І разумная, і гаспадарная, і стройная такая – усё ў яе на сваім месцы.

ВАЛОДЗЯ. Яшчэ б (твар яго крыху праясняецца).

ПЯТРУСЬ. І галоўнае, што з добрай сям'і.

ВАЛОДЗЯ. А як жа (твар зусім дабрэе).

ПЯТРУСЬ. А Рыгор наш – прахвост.

ВАЛОДЗЯ (задаволена). І яшчэ які. Што праўда, то праўда.

ПЯТРУСЬ. Вось бачыш. Мужчына з мужчынаю заўсёды дагаворацца.

ВАЛОДЗЯ. Чаму ж не, калі па-добраму.

ПЯТРУСЬ. Толькі вось што: паняю Марысі ніколі не бываць.

ВАЛОДЗЯ. А гэта як разумець?

ПЯТРУСЬ. Не будзь ты дурны, Валодзька. Няўжо ж ты забыўся, як сапраўдныя паны выглядаюць? Разам жа мы да вайны парабкамі ў маёнтку працавалі, разам плечы гнулі, панам кланяліся. І разам з табою потым тых паноў гнаць памагалі.

ВАЛОДЗЯ. Дык гэта ж зусім іншае. Што гэта мае супольнага з Марысяй?

ПЯТРУСЬ. Ты ж сам сказаў, што як вывучыцца, дык паняю будзе.

ВАЛОДЗЯ. А чым жа? Мы не вучоныя – мужыкі, значыць. А вучоная – дык пані.

ПЯТРУСЬ. А цьфу на цябе. Ніякія мы не мужыкі. Мы перш за ўсё людзі. Мы грамадзяне такія самыя, як і гарадскія.

ВАЛОДЗЯ. Ну, быццам бы яно і так.

ПЯТРУСЬ. А што часамі не вучоныя – гэта не наша віна. Не мелі нашыя бацькі магчымасці нас з табою ў школу пасылаць.

ВАЛОДЗЯ. Яно так і было.

ПЯТРУСЬ. Во! І не таму мы сваіх дзяцей у школы пасылаем, каб з іх паноў-дармаедаў гадаваць, а таму, каб разумнейшыя за нас былі. Каб менш гарбом, а больш галавою працавалі.

ВАЛОДЗЯ. А як жа ж. І я так думаю. Вось скончыць Марыся школу. У горадзе і замуж выйдзе...

ПЯТРУСЬ (перабівае). Ну і гавары з ім. А чаму ж ты сам у горад не перабіраешся?

ВАЛОДЗЯ (абурана). А ну яго! А чаго я там не бачыў? Мне і ў роднай вёсцы добра. Тут жа і дзяды і прадзеды жылі. Тут я выхаваўся. Дык гэта ж мая бацькаўшчына. Куды мне перабірацца? Здурэў я, ці што?

ПЯТРУСЬ. Дык нашто думаеш дачку туды перці?

ВАЛОДЗЯ. Як нашто? Там жа народ усё ж нейкі разумнейшы. Усе ж вучоныя ў гарадах жывуць.

ПЯТРУСЬ (з насмешкай). Народ разумнейшы. Прыязджаў да мяне ў мінулым годзе адзін такі разумны – на лета адпачыць. Цялушкі ад бычка адрозніць не мог.

ВАЛОДЗЯ. Гэта той у акулярах? Худы такі?

ПЯТРУСЬ. Ну!

ВАЛОДЗЯ (смяецца). Памятаю. Касіў я авёс. А ён, бач, падышоў, паглядзеў і кажа: «Ну, і буйнае жыта ў вас вырасла, гаспадар». Баба мая толькі ў кулак пырснула і кажа яму, што гэта авёс. Здзівіўся крыху і зноў да мяне звяртаецца: «А гэта яравы авёс у вас ці азімы?» Доўга мы з жонкаю рагаталі.

ПЯТРУСЬ. Вось бачыш. Кожны чалавек па-свойму разумны. Селянін разбіраецца ў гаспадарцы, механік у машынах, доктар у хваробах. Кожны чалавек у сваёй прафесіі разумны. Не бойся. І ў горадзе дурняў хапае (уваходзіць у хату Алёна). Нарэшце. А ў нас ужо ў горле зусім перасохла. Стаў, маці, бутэльку на стол і дай чым закусіць. А дзе Рыгор? (уваходзіць Рыгор). О! Ёсць. А ну, хадзі сюды. Гавары, дзе быў. Толькі, глядзі, не хлусі, а то пуга па табе даўно ўжо сумуе.

РЫГОР. Нашто мне махляваць? Над рэчкаю быў, татка.

ПЯТРУСЬ. Сам быў ці з кім?

РЫГОР (апускае галаву). Сам.

ПЯТРУСЬ. Праўду кажы, а то бізуна вазьму. З кім быў?

РЫГОР. Ну, з сябрамі быў, купаліся мы.

ПЯТРУСЬ. А колькі ж тых сяброў там з табою, сынок, было? Што-о? А мо гэта не сябры былі, а сяброўкі? Гавары! (Рыгор маўчыць, апусціўшы галаву).

ВАЛОДЗЯ. Ну, што маўчыш? Гавары!

РЫГОР. Калі ўжо вельмі хочаце ведаць (звяртаючыся да Валодзі) дык я быў з вашаю Марысяю.

ВАЛОДЗЯ (ускаквае). Што? З Марысяю ноччу купацца ўздумаў? Дык я ж цябе зараз... (хапае Рыгора за грудзі).

ПЯТРУСЬ. Пастой! (смяецца).

РЫГОР (вырываючыся). Дзядзька Валодзя! Дзядзька Валодзя! Гэта я толькі так сабе змахляваў. Мы толькі пасядзелі, пагутарылі.

ВАЛОДЗЯ (трасучы Рыгора). Як я табе зараз пагутару, дык ты месяц часу не сядзеш – так табе гэтае самае месца спухне (пускае Рыгора і сядае).

ПЯТРУСЬ. Чакай, Чакай, Валодзя! Мы тут зараз усё гэта вырашым на месцы. А ну, Рыгор! Бяжы па Марысю! Скажы, што бацька яе кліча. Няхай зараз прыходзіць.

РЫГОР (патупіўшыся). Не пайду.

ПЯТРУСЬ (моргае да Рыгора). Бяжы, дурань (Рыгор выходзіць).

АЛЁНА (шэпча). Што гэта ты, стары чорт, задумаў?

ПЯТРУСЬ (шэптам). Цыц! Маўчы! Убачыш. Зараз нашы дзеткі прыйдуць.

ВАЛОДЗЯ. А ці гэта варта, Пятрусь, дзяцей мучыць? Ці ж мы з табою лепшыя былі? (смяецца). Памятаеш, Алёна, як нас твой бацька ганяў, калі мы з Петрусём прыходзілі цябе на танцы клікаць? Петруся нават раз калом па плячах сцебануў. Га, Пятрусь?

ПЯТРУСЬ (смеючыся). Яшчэ як адлупцаваў. Я тыдзень часу не мог пасля разагнуцца.

АЛЁНА. Знайшлі пра што ўспамінаць. Яшчэ чаго добрага дзеці пачуюць. Прыклад з вас браць будуць.

ВАЛОДЗЯ і ПЯТРУСЬ (смеючыся). А яны ўжо даўно бяруць.

ПЯТРУСЬ. Яшчэ чарачку?

ВАЛОДЗЯ. Хопіць, хопіць (уздымае рукі ўгору). Нашто самім сябе туманіць? Як успомнім маладыя гады, дык вочы і без гарэлкі заблішчаць. Вось ад чаю я б не адмовіўся.

АЛЁНА. Зараз налью (налівае чай і ставіць на стол; уваходзяць Рыгор і Марыся).

МАРЫСЯ. Добры вечар. Добры вечар, цёця.

АЛЁНА. Добры вечар, дачушка.

ПЯТРУСЬ. Добры, добры. Ну, падыдзіце сюды бліжэй, верабейчыкі. Мы вас тут зараз аб нечым запытаем (Рыгор і Марыся падыходзяць і сядаюць).

ПЯТРУСЬ. Раскажыце вы нам перш за ўсё, што вы там упоцемку над рэчкаю рабілі. Га?

МАРЫСЯ (здзіўлена). Як што? Гутарылі, дзядзечка.

ПЯТРУСЬ (прaцяжна). Г-у-у-утарылі. Ага. А можа, яшчэ здалёк ад сябе сядзеўшы.

МАРЫСЯ (апускае вочы). Чаму здалёк? Прытуліўшыся.

ВАЛОДЗЯ (устае і злосна кажа). А можа яшчэ цалаваліся? (Марыся і Рыгор маўчаць, апускаюць галовы).

ПЯТРУСЬ. Ну як? Цалаваліся? Гаварыце!

РЫГОР (падымае горда галаву). А калі б нават цалаваліся, дык што?

ВАЛОДЗЯ (пагражаючы кулаком). Быў бы ты маім сынам, правучыў бы я цябе за такія штучкі.

МАРЫСЯ (рашуча). А гэта зусім не ён. Гэта я яго цалавала.

ПЯТРУСЬ. Вось табе і на. Што ты цяпер скажаш, Валодзя? (смяецца). Не далёка яблыка ад яблыні ўпала. Па табе пайшла дачка – з перчынкаю.

ВАЛОДЗЯ (з дакорам). Марыся! Ты што, здурэла? Сораму не маеш. Як так можна?

МАРЫСЯ. А вас, тата, мама ніколі, будучы яшчэ дзяўчынай, не цалавала?

АЛЁНА (смяецца). Ну, Валодзя! Сам уліп, сам вылазь цяпер.

ПЯТРУСЬ (смеючыся). Вось дык дзеўка!

ВАЛОДЗЯ (засмучана). Ну! Гм. Ну, як гэта сказаць? Ну, калі і цалавала, дык так, каб ніхто не бачыў (палохаецца, закрывае рот рукою, потым сплёўвае). Цьфу! А ну яго! Што я пляту? Дзе, дзе там. Ніколі не цалавала. Гэта ж сорамна.

ПЯТРУСЬ (смяецца). Не ўмееш ты, брат, махляваць. Махні лепш рукою. Дай дзецям нацешыцца.

ВАЛОДЗЯ (абурана). Як жа гэта? Ніна мяне кахала, дык мы ж пасля пажаніліся. А яны што? (паказвае пальцам на Марысю і Рыгора).

МАРЫСЯ (цвёрда). А я якраз Рыгора кахаю.

ВАЛОДЗЯ (выпучыўшы вочы). Што?!

МАРЫСЯ (тупае нагою і крычыць). Кахаю, кахаю, кахаю. І мы пажэнімся, пажэнімся, пажэнімся!

ВАЛОДЗЯ (амаль што не плача). Рыгор, як жа ж гэта?

РЫГОР (сур'ёзна). А так і будзе. Мы ўжо аб усім дагаварыліся.

ВАЛОДЗЯ. Дык ты, Марыся, што? Школу кідаць думаеш?

РЫГОР. Нельга так. Школу Марыся абавязкова павінна скончыць. Мы з ёю яшчэ маладыя, пачакаем.

МАРЫСЯ. А пэўна! І пачакаем, і дачакаемся.

ВАЛОДЗЯ (задумаўся). Гм. Так. Так. А ты, Рыгор, што? На гаспадарцы пакуль застанешся?

РЫГОР. Што вы, дзядзя Валодзя! Я таксама еду вучыцца. Я ўжо ўсё аформіў. Бацька яшчэ здаровы. Сам пакуль з гаспадаркай управіцца. Хіба вы не разумееце, што ў сённяшні час нельга інакш? Не быць жа мне дурнейшым за іншых?

ПЯТРУСЬ (са злосцю). Не, браток! На гэта я не дазволю. Ты што, белены аб'еўся? Гаспадарку кідаць? Рыгорка? Ну, зразумей! Кожны кавалак гэтай зямлі потам тваіх продкаў прапоены. І не толькі потам. Не раз наш род кроў за родную зямлю праліваў. Кіпцюрамі яе панам з горла выдзіралі. А ты хочаш вось так сабе ўсё гэта кінуць? Не! Ніколі не дазволю.

ВАЛОДЗЯ. Пятрусь! Пачакай! Гэта ж бы зусім нядрэнна было б. Глядзі! Абое вывучацца і тады мы іх возьмем і пажэнім. Га?

ПЯТРУСЬ. І што? Абое панамі будуць, як ты казаў. Родных бацькоў будуць цурацца? О, не! Не дазволю!

МАРЫСЯ. Дзядзя Пятрусь! Дзядзечка!

ПЯТРУСЬ (тупае). Не! Не! Не!

РЫГОР. Тата! Дык гэта ж не назаўсёды.

ПЯТРУСЬ. Што? Як гэта разумець?

РЫГОР. Я ж думаю, тата, сельскагаспадарчы тэхнікум канчаць. Скончу. Вярнуся. Вазьму тады гаспадарку ў свае рукі. Ой, татка. Я ж тут такія справы развярну. Мы ж з вамі разам...

ПЯТРУСЬ (перабівае і кідаецца сыну на шыю). Сынок! Ты гэта сапраўды? Не жартуеш?

МАРЫСЯ (радасна). Так! Так, дзядзечка. Мы ж так вырашылі.

РЫГОР (з павагай). Ну, ясна. Мяне ўжо прынялі на першы курс тэхнікума.

ПЯТРУСЬ (крычыць). Алёна, чуеш? (абымае Марысю і Рыгора). Дзеткі, дзеткі родненькія. Вось пацешылі вы мяне, старога (плача, раптам ускаквае). Валодзя! Чорт лысы! Мабыць, мы аднак пажэнім гэтых парасят? Га?

ВАЛОДЗЯ (смяецца). А чаму ж не? З Рыгора добры муж выйдзе. Ён і працавіты, і гарэлкі не п'е.

АЛЁНА. Не так, як вы, хрычы старыя. Без гэтага чортавага зелля абысціся не можаце.

ПЯТРУСЬ (уздымае рукі ўгору). Эй! Валодзя! Дык мы ж тут яшчэ па чарцы калісь вып'ем! Вып'ем за нашых дзяцей. За ўсю вясковую моладзь. За будучыню і за нашу родную зямлю. Моцна мы ў яе ўраслі. Глыбока запусцілі карані. Не лёгка нас ад яе адарваць. Бо мы сяляне, мы ёсць соль гэтай зямлі. Ну, дзеткі! Ідзіце, цалуйцеся! Маладосць – буйнасць.

АЛЁНА (з дакорам). Пятрусь!

ВАЛОДЗЯ (весела). Нічога! Нічога! Дазваляем.

ПЯТРУСЬ. А я вам, сябры, пад сакрэтам (звяртаецца да публікі) яшчэ скажу, што, будучы маладымі, мы з гэтаю маёю Алёнаю (бярэ Алёну за руку) ля таго самага мосціка над рэчкаю так цалаваліся, што яшчэ сёння як успомню, дык мне горача робіцца.

АЛЁНА (сарамліва). Пятрусь, цішэй. Моладзь слухае. Ды і сорамна ж так перад усімі прызнавацца. Што людзі скажуць?!

УСЕ (уваходзяць). Маладых таксама трэба разумець.

К А Н Е Ц

# Вываражыла

## (бытавая камедыя)

Дзеючыя асобы:
**Язэп** – солтыс, гадоў каля 50-ці.
**Алёна** – яго жонка.
**Бабка Галаўская** – варажыха.
**Сымон** – малады селянін.
**Пучок** – селянін.
**Цётка Вольга** – жонка Пучка.
**Насця** – дзяўчына-аграном.
Селянін першы.
Селянін другі.

На сцэну перад заслонай выходзіць дзядзька з вусамі, апрануты ў вышываную кашулю, падпярэзаны саматканым поясам. Ён звяртаецца да гледачоў:

– Шмат ёсць, браткі, розных прафесій на свеце. Кожная па-свойму цікавая. Кожная патрэбная. Няма аднак другой такой адказнай пасады, як пасада солтыса. Мала таго, што ён – прадстаўнік улады ў вёсцы. Да яго, як да чалавека вядомага, раз-пораз звяртаюцца суседзі з рознымі пытаннямі і клопатамі. Усё ён мусіць ведаць, усім мусіць нешта дараіць. А гэта, паверце мне, бывае часамі нялёгка. Як цяжка бывае часамі вырашыць тое ці другое пытанне, пабачыце праз хвілінку самі.

Выходзіць

### Карціна першая

Хата солтыса. Стол, крэслы. На стале талеркі, кубкі, попельніца. Алёна замятае.

СОЛТЫС (сядзіць за сталом). А ты ведаеш, Алёна, што ў мяне сёння вялікае свята? Юбілей.

АЛЁНА (праступаецца і абапіраецца на мятлу). Ці ж бывае ў цябе, Язэп, калі-небудзь свята? Усё з нейкімі справамі па вёсцы бегаеш. Адпачыць не маеш калі. Трэба і пра сябе крышку думаць. Здароўе берагчы.

СОЛТЫС (пацягваецца). Падумаць толькі, што прайшло ўжо дваццаць год з той пары, як я стаў солтысам у нашай вёсцы (з задумаю). Тады яшчэ не было нашай мураванкі, не было электрычнага святла. Была пакрыўляеная ад старасці дзеравяная хата, быў я і былі людзі.

АЛЁНА. Людзі! Людзі! Людзі заўсёды былі і будуць.

СОЛТЫС. Што ты, Алёна, разумееш? На маіх вачах добрая палавіна вёскі вырасла. Усіх я ведаю і ўсе мяне ведаюць і шануюць. Няма той хаты, дзе мяне чужым лічылі б.

АЛЁНА. Ды ёсць і за што, Язэп. Ёсць за што.

СОЛТЫС. Я самога Сымона Гаротнага – сёння найлепшага гаспадара, калісьці за вушы драў за тое, што ў чужыя сады лазіў. Я ж выкіраваў у людзі нашага агранома – Насцю. А самага дужага мужыка ў вёсцы – трактарыста Ваську, памятаю, нават раз па мяккім месцы адлупцаваў. Ды ці ўсіх злічыш? (стук у дзверы, уваходзіць трое сялян.)

СЫМОН. Дзядзька Язэп, да вас можна?

СОЛТЫС. Калі ласка! Калі ласка! Заходзьце.

АЛЁНА. Глядзіце толькі, каб ногі добра выціралі

СОЛТЫС. Сядайце. Сядайце.

СЫМОН. А мы, дзядзя Язэп, вас у святліцы шукалі. Не знайшлі ў святліцы дык дахаты прыйшлі. Думаем, што вы нам парадзіце, а то сорам на ўвесь павет.

СОЛТЫС. А ў чым справа, Сымон?

СЫМОН. Што тут многа гаварыць. З крамаю ў нас бяда.

СОЛТЫС. Як гэта з крамаю? Такую ж краму як у нас, рэдка ў якой вёсцы пабачыш. Тут ганарыцца трэба, што такую шыкоўную грамадскім чынам пабудавалі. Прычым тут сорам?

СЫМОН. У гэтым і ўся справа, дзядзечка. Крама як цацка, а вось прадавец усё ўражанне псуе. Усёй вёсцы за яго чырванець прыходзіцца.

СОЛТЫС. Які прадавец? Сцяпан?

СЫМОН. А хто ж?

СОЛТЫС. Дык гэта ж вельмі акуратны і сумленны хлапец. Адзін са спрытнейшых у вёсцы.

СЕЛЯНІН ПЕРШЫ. Быў, быў. Паглядзелі б цяпер. Стаіць за прылаўкам як слуп які. Кожны заказ яму па тры разы паўтараць трэба.

СЕЛЯНІН ДРУГІ. Ды колькі не паўтарай, не зразумее. Непрытомны нейкі. Замест солі цукар суне ў рукі. Васілю замест папяросаў макароны ўпёр (звяртаецца да Сымона). Ну ці не так, Сымон?

СЫМОН. Што там макароны. Пазаўчора як прадаў старой Рыгорысе замест аўсянкі мыльных платкаў, дык мала са свету не звёў бабульку.

Абамлела бедная з перапалоху, калі пабачыла, што мужыку пасля некалькіх лыжак супу пачала пена з рота ісці. Думалі ўжо па бацюшку бегчы.

СОЛТЫС. Не магу проста паверыць. Каб Сцяпан?

СЫМОН. Мы ўжо яму разоў дзесяць увагу звярталі. Лаялі нават. А з яго ўсё – як з гускі вада. Дзядзя Язэп! Прадаць прадстаўнікам з павета замест гарэлкі бутэльку воцату! Дагэтуль мы неяк цярпелі. Учора ён аднак перабраў мерку. Падумайце толькі. Ці гэта не нахабства?

СОЛТЫС. Проста дзіўна. А вы яго не пыталіся, мо ён хворы ці што?

СЕЛЯНІН ПЕРШЫ. А ці з ім дагаворышся?

СЫМОН. Таму якраз мы і прыйшлі да вас, дзядзечка, каб вы з ім пагаварылі. Калі б было кім замяніць, мы даўно звольнілі б яго. А так спадзяемся толькі на вас.

СОЛТЫС. Гм. Так. Ну, добра. Вось што, сябры. Ідзіце вы цяпер дахаты, а па дарозе скажыце Сцяпану, каб пасля працы зайшоў сюды на хвілінку. Паспрабую з ім пагаварыць.

СЫМОН. Дзякуй вам, дзядзя Язэп. Дабранач. А Сцяпана я лепш да вас прывяду. Яшчэ дзе заблудзіць. Па ім цяпер усяго спадзявацца можна.

СЕЛЯНІН ПЕРШЫ. Дабранач.

СЕЛЯНІН ДРУГІ. Дабранач.

СОЛТЫС. Усяго добрага. Няма пакуль што дзякаваць.

Выходзяць.

АЛЁНА. Ну, а я ўжо спаць пайшла. Глядзі, не сядзі доўга. Дабранач (выходзіць).

СОЛТЫС. Дабранач, Алёнушка. Дабранач (звяртаецца да гледачоў). Ну вось табе і маеш. Паспрабуйце адпачніце. Трэба ж памагчы людзям (чухае галаву, ходзіць па сцэне). І што ж гэта такое са Сцяпанам магло здарыцца? Не звар'яцеў, здаецца? Гарэлкі таксама амаль не п'е. Цікава. А мо ён сапраўды хворы? Ну, чарвякі там нейкія мае ці іншую ангіну? Нічога. Нейк разбярэмся. Сёння пагутару з ім, а заўтра завязу да доктара, няхай праверыць. А там будзе відаць.

Заслона

## Карціна другая

Кватэра солтыса. Стол, засланы сурвэтаю, два крэслы, лаўка. На лаўцы міска, пад лаўкаю вядро з вадою. У кутку полка з кніжкамі.

Стук у дзверы. Уваходзіць Сымон.

СЫМОН. Добры дзень, дзядзя Язэп.

СОЛТЫС. А! Гэта ты, Сымон. Добры дзень. Заходзь. Заходзь.

СЫМОН. Я, дзядзечка, толькі на хвілінку. Хацеў спытацца, што доктар сказаў наконт Сцяпана.

СОЛТЫС (махае рукою). Няма што і гаварыць. Дрэнная справа.

СЫМОН. Такі хворы?

СОЛТЫС (са здзекам). Хворы. Хворы. Лекар сказаў, каб яму другім разам галавы не заварочвалі, бо такіх хворых дык у плуг замест каня запрагаць можна.

СЫМОН. Як жа гэта так? Дык можа яго трэба да спецыяліста? Да гэтагага... ну таго, што клепкі ўпраўляе? Неўролага... Ці як.

СОЛТЫС. Лекар кажа, што не трэба.

СЫМОН. Дзядзечка! Гэта ж немагчыма! Чаму ж бы ён тады такія штукі рабіў? Ну і, канец канцоў, што ж нам з ім рабіць? Не можа так быць далей. Парайце нешта. Вы ж солтыс. Чалавек адказны.

СОЛТЫС (злуючыся). А што ж табе, скажы, магу параіць? Што я – дух святы, каб ведаць, што ў чыёйсьці мазгаўні творыцца? І ўрэшце, я маю даволі сваёй работы і не абавязаны якімісьці крамамі займацца. Вось што!

СЫМОН. Ну, што ж. Калі так, дык я пайшоў. Хацеў бы вам толькі яшчэ сказаць, што непрыгожа так людзей у бядзе кідаць (з дакорам). Мы ж на вас спадзяваліся.

Выходзіць.

СОЛТЫС (злосна). У бядзе кідаць. Добра яму гаварыць. І будзь тут солтысам. Усё на цябе спадзяюцца, а ты папрабуй памажы, калі не ведаеш як.

Стук у дзверы. Уваходзіць Алёна з мятлою.

АЛЁНА. Добры дзень Язэпка. Мусіць, да рання прасядзеў нахмураны нейкі.

СОЛТЫС. Які там добры, Алёна? Гадасць нейкая, а не дзень.

АЛЁНА. Не грашыў бы, Язэп. Глянь за акно. Цяпло. Сонейка свеціць. Дзянёк на радасць удалы. А ты – гадасць...

СОЛТЫС. Не ў надвор'і тут справа. Ці ты ведаеш, Алёна, што гэта значыць падмануць давер людзей?

АЛЁНА. Ох, Язэп, Язэп. Непатрэбна забіваеш сабе галаву ўсялякімі чужымі справамі.

СОЛТЫС. Не чужымі, Алёна. Не чужымі! Агульнымі. Усёй вёскай мы краму будавалі і ўсіх датычыць тое, што ў ёй творыцца.

АЛЁНА. Дык гэта ты пра Сцяпана?

СОЛТЫС. Вядома, пра яго. Ну скажы сама. Што я тут магу зрабіць? Гэта, канец канцоў, не мая справа.

АЛЁНА. Чаго ты тады турбуешся? Не твая справа дык плюнь.

СОЛТЫС. Калі бачыш? Яна хаця і не мая, а ўсё ж мне трэба было б ёй заняцца, памагчы людзям. Я ж солтыс. Каб гэта вядома было, што з ім такое.

АЛЁНА. Вас, мужчын, ніколі не зразумееш. Самі сабе клопатаў шукаеце. А я, Язэп хаця і дурная баба, у школах не вучылася, а ведала б, куды звярнуцца. У вашых паперках не ўсё напісана.

СОЛТЫС. Бабскія гутаркі.

АЛЁНА. Бабскія не бабскія, а ведала б.

СОЛТЫС. Ведала б. Ведала б. У душу яго заглянула б? Ці што?

АЛЁНА. А мо і заглянула б (абапіраецца аб мятлу). Што ты думаеш? Сілы таемныя ўсё могуць.

СОЛТЫС. Ды гавары ты з толкам.

АЛЁНА. Ты бабу Галаўскую, варажыху, ведаеш? Жыве тут каля нас недалёка. Паклікаў бы яе. Яна ж па мутнай вадзе чытае, чорным па белым усё вылажыць. Нішто перад ёю не схаваецца.

СОЛТЫС (злосна). Цьфу! Я думаў, што ты разумнае скажаш. Звар'яцела баба.

АЛЁНА. А ты, Язэп, не кідайся. Яна сваю спарву добра ведае. Не дарма да яе паўвёскі варажыць ходзіць наконт таго, ці ў даным годзе лепш кантрактаваць аплаціцца. І ніколі яна не памыляецца. Летась таксама як вываражыла Валодзю, што штучных угнаенняў у гэзсе для ўсіх не хопіць, дык так яно і было.

СОЛТЫС (абураны). Гэтага яшчэ не хапала, каб я, солтыс, да варожкі звяртаўся. Раз, што не веру ў гэтакія штукі, а па другое – высмеюць у павеце, калі даведаюцца.

АЛЁНА. А ты яе сюды, да нас паклікаў бы. Усё было б пацiхеньку. Ніхто б і не ведаў.

СОЛТЫС (чухае галаву). А мо і праўда, паклікаць? Хаця не. Не выпадае (ходзіць па сцэне). І рабі тут што хочаш (працягвае рукі да гледачоў). А штосьці ж рабіць трэба! Трэба неяк раскусіць гэтага чорта – Сцяпана (махае рукою). А! Было не было. Іншага выхаду няма (звяртаецца да Алёны). Збегай, Алёна. Пакліч бабку!

АЛЁНА (ставіць мятлу ў кут, падыходзіць да дзвярэй). Я мігам, Язэпка. Толькі ведаеш, яна дарма варажыць не захоча.

СОЛТЫС. Добра, добра. Ведаю. Ідзі, кліч (Алёна выходзіць). Ай, ай, ай! (ходзіць хвіліну па сцэне, трымаючыся за галаву, а потым звяртаецца да гледачоў). Вось да чаго абставіны прымусілі. Я, солтыс, у бабак помачы шукаю (сядае за стол, абапірае галаву на далоні і задумваецца).

Ціхі стук у дзверы.

СОЛТЫС (устае і ідзе ў бок дзвярэй). Заходзьце.

Уваходзяць Алёна з бабкаю.

БАБКА. Добры дзень, сынок. Чула я, што ты мяне клікаў.

СОЛТЫС. Вось што, бабка. Хоць усялякія там варажбы – гэта хлусня і я ў іх не веру...

БАБКА (перабівае солтыса). Галасней. Нічога я не чую, сынок. Ты галасней, галасней гавары.

СОЛТЫС (вельмі голасна). Коратка кажучы, маю да вас, бабка, адну справу.

БАБКА (махае рукою). Ведаю. Ведаю. Я, сыночак, усё ведаю.

СОЛТЫС (здзіўлена). Як гэта ведаеце? Адкуль?

БАБКА. А мне, сынок, Алёна па дарозе ўсё расказала (перапалохана хрысціцца і мармыча пацiху, каб солтыс не чуў). Амаль не прагаварылася. Цьфу! Цьфу! Цьфу! (сплёўвае тры разы ў кут. Голасна). Ад прыроды мне, сынок, такая сіла дана. Усё я ведаю.

СОЛТЫС (вельмі голасна). Ну, калі ведаеце, дык тым лепш. Тады рабіце сваё.

БАБКА. А ты, родненькі, не турбуйся. Зараз я ваду замучу, пагляджу, пачытаю. Не турбуйся. Ад бабкі Галаўскай нічога не схаваецца.

АЛЁНА (падае ваду). Вось вада, бабулька.

БАБКА (бярэ вядро). Дзякуй, дачушка (ставіць на стол міску, налівае ў яе ваду, дастае з-за пазухі пару мяшэчкаў і сыпле з іх нешта ў ваду, прыгаворваючы). З хлебнае печы жменю попелу кідаю. Скажы, чорнае, як вароны крыло, каб паказала мне вадзіца ўсё, што было (разглядаецца, ці ніхто не чуе і дагаварвае) і не было.

СОЛТЫС (стоячы ў другім канцы сцэны гаворыць паціхеньку сам да сябе). Цікава, колькі ж яна за свае фокусы захоча?

БАБКА (прастуецца і заварочвае галаву ў бок солтыса). Нямнога, сыночак. Нямнога. З мяне і соценькі хопіць.

СОЛТЫС (здзіўлена). Як вы пачулі? Я ж, здаецца, гаварыў зусім ціха?

БАБКА (падымае палец угору). Калі, родненькі, што важнае, дык ад мяне, слава Богу, і паціхеньку даходзіць (пахіляецца зноў над міскаю і, мяшаючы ў ёй пальцам, паціху мармыча). Муціся, муціся, вадзічка чыстая. Лавіся, лавіся ў мутнай вадзе рыбка вялікая і малая. Лавіся за сто і пяцьдзесят злотых. І сёння і заўтра, і на векі вякоў.

СОЛТЫС (прыслухоўваецца). А што вы там мармычаце такое? Заклінанні?

БАБКА (падымаючы галаву з-над міскі). Малітвы. Малітвы, сынок, чытаю. Не перашкаджай (солтыс з Алёнай падыходзяць бліжэй, бабка накрывае міску вялізнаю хутскаю, усоўвае пад хустку галаву і пачынае варажыць; святло прыцямняецца). Прамень святла таемнага, раз'ясні ваду чорную. Муць на самае дно загані. Тое, што трэба, пакажы.

АЛЁНА. Страшна. Ой, як страшна.

БАБКА. Хвалюе вада. Хвалюе. Муць разыходзіцца (усхвалявана). Бачу! Бачу! Так, гэта ён. Як заварожаны стаіць. А што гэта каля яго круціцца, як змяя чорная? О! Ужо яму рукі скруціла. Паварушыцца не дае. Белы туман яму Божы свет засланяе, а вусны, як воскам чырвоным, залеплены. Нават крыкнуць не можа (глухім голасам). Ой, расплываецца вобраз. Немагчыма нічога разгледзіць. Не хоча выдаваць свае тайны вада мутная (падымае галаву з-над міскі).

СОЛТЫС (хвалюючыся). Бабка! Бабка! Што гэта ўсё значыць? Чаму далей не гаворыш?

БАБКА (разводзіць рукамі). Не відно нічога, сынок. Вада хвалюецца. Сіла нячыстая перашкаджае. Уміласцівіць яе трэба.

СОЛТЫС. Якім спосабам?

БАБКА. А ты, саколік, міску перахрысціўшы, соценьку пад яе пакладзі. Грэшныя грошы нячыстую да сябе прыцягнуць, а хрэст святы яе супакоіцца прымусіць.

СОЛТЫС (крывіцца). А 50 злотых не хапіла б?

БАБКА (абурана). Што ты? Што ты? Такою ўзяткаю ў сённяшні час не толькі што сілу пякельную, а самага нікудышняга чыноўніка не ўміласцівіш. Кладзі, саколік, сотню.

СОЛТЫС. Ну, добра ўжо. Добра.

Хрысціць міску і кладзе пад яе 100 злотых.

АЛЁНА. Ой, маманькі мае. Як страшна.

БАБКА (усунула зноў галаву пад хустку). Так. Цяпер добра. Пасвятлела вада. Выразней відаць. Што я бачу! Не туман гэта белы, а тварык дзявочы хлапцу свет прысланяе. Рукі змяёй скруціла каса чорная. Не воск чырвоны, а вусны другія да вуснаў прыляпіліся. Грахоўнай сеткай маладая ведзьма хлапца апутала. Не разарваць яе без свяшчэнніка.

Падымае галаву з-над міскі.

СОЛТЫС. Як гэта – не разарваць без свяшчэнніка? Гаварыце ж па-людску.

БАБКА. А проста, жаніць яго трэба. Мігам яму, сляпому, вочы адчыняцца. Як мыльны пухір, увесь чар лопне. Падгарэць яму крышачку – у сямейным агні – і будзе зноў нармальным чалавекам.

СОЛТЫС. Гм. Цікава. Вельмі цікава. Ха-ха-ха! (смяецца). А вы ведаеце, бабуля, што гэта магчыма. Можа Сцяпан сапраўды закахаўся? Вочы ж яго затуманены, зусім як у барана вясною.

БАБКА. Закахаўся, саколік. Напэўна, закахаўся.

АЛЁНА. Цікава, што гэта за прыгажуня спакой Сцяпану адабрала?

СОЛТЫС (стукаецца ў лоб). Ну пэўна. Бабка! Вы ж яшчэ ўсяго не сказалі. Што гэта за яна, вы не бачылі?

БАБКА. Усё, сынок, усё ў мутнай вадзе ўмеючы пабачыць можна. Вось толькі сіла бесаўская надта заўзятая. Хоць і менш, чым раней, а ўсё ж перашкаджае. Сунь ты ёй яшчэ з 50 злотых у зубы, можа супакоіцца.

СОЛТЫС (круціць галавою). А ну яго з бесамі. Здорава яны ж дзяруць! Голага раздзелі б (махае рукою). Чаго ж аднак не робіцца для грамадскай справы? (выцягвае 50 злотых і кладзе пад міску).

БАБКА (хаваецца за хустку). О! Зусім іначай. Выразна цяпер відаць. Знаёмы твар нейкі. Зараз. Зараз. Няхай мяне! Дык гэта ж Пучкова Гандзя (прастуецца, скідае з міскі хустку, вылівае ваду ў вядро, хавае грошы за пазуху).

Усе хвілінку маўчаць.

СОЛТЫС. На табе!

БАБКА. Ну, усё, сынок. Замучылася я. Пайду ўжо. Калі спатрэбіцца, тады другі раз паклічаш (выходзіць).

СОЛТЫС (трымаецца абедзвюма рукамі за галаву і ходзіць па сцэне). Здурэць можна. Навошта я пачаў пад старасць у варажбу верыць?

АЛЁНА. А казала я табе, што бабка Галаўская ўсё выявіць.

Заслона

## Карціна трэцяя

Хата Пучка. Стол. Вакол – лаўкі. За сталом сядзіць Пучок і чытае «Ніву». Стук у дзверы. Уваходзяць солтыс і Сымон.

СОЛТЫС. Добры дзень, Пучок.

СЫМОН. Добры дзень.

ПУЧОК. Добры дзень (крычыць). Вольга! Гасцей маем. Перакусіць дай што (звяртаецца да гасцей). Сядайце (падсоўвае лаўкі). Вось хоць тут.

СОЛТЫС. Дзякуем (сядаюць). Прыйшлі даведацца, як там нашыя маладажоны пражываюць.

ПУЧОК. Добра. Ды яшчэ як добра. Самому зайздросна (смяецца). Адно без другога кроку не ступіць. Вадой іх не разальеш. Толькі што выйшлі недзе з хаты. У краму мусіць пайшлі.

СЫМОН (зацірае рукі). Так, дзякуючы вам, дзядзька Язэп, маем цяпер поўны парадак. Гандзя Сцяпану і ў краме памагае. Кіпіць у іх работа. Калі б не тое, што яны час ад часу цалуюцца за прылаўкам, дык нахваліцца нельга было б.

ЦЁТКА ВОЛЬГА. Добры дзень. Дарагія госці.

СЫМОН. Добры дзень, цёця Оля.

СОЛТЫС. Добры дзень, Вольга.

Цётка Вольга ставіць на стол талеркі, кладзе відэльцы, ставіць агуркі і хрэн у баначцы.

СЫМОН. А вы, цёця, не шкадуеце, што дачку замуж аддалі?

ЦЁТКА ВОЛЬГА. Чаго ж? Сцяпан – хлапец нядрэнны.

СЫМОН. Ну, глядзіце, каб не пашкадавалі. Вы ж яшчэ молада выглядаеце, а яны з вас хуценька бабульку зробяць. Будзеце ўнукаў калыхаць.

ЦЁТКА ВОЛЬГА. Гэта, Сымонка, як Бог дасць.

СОЛТЫС (смяецца). Ой, дасць, дасць. Доўга вам чакаць не прыйдзецца.

ЦЁТКА ВОЛЬГА. Вам, мужчынам, заўсёды адны дурніцы ў галаве. Перакусіце лепш крыху. Вось каўбаскі свежай прыгатавала (уносіць каўбаску і ставіць на стол). Калі ласка, бярыце хлеб (падсоўвае). Язэп! Частуйся каўбаскаю (падае яму каўбасу). Гурочка каму? Можа, хрэну? (Падсоўвае і тое, і тое). Зараз чаю яшчэ прынясу.

СОЛТЫС. Дзякуем, Оля. Не клапаціцеся. Мы ўжо снедалі.

ЦЁТКА ВОЛЬГА. Нічога. Не лопнеце (выходзіць).

Стук у дзеры – уваходзіць Насця.

НАСЦЯ. Добры дзень.

ПУЧОК. А! Наш аграном. Добры дзень.

СОЛТЫС. Добры дзень.

СЫМОН. Добры дзень. Сядай, Насценька. Памагай налягаць на каўбасу.

НАСЦЯ. Я толькі на хвіліну. Зайшла глянуць, як там Гандзя са Сцяпанам ладзяць.

СЫМОН. Ды і мы з солтысам па той прычыне.

ЦЁТКА ВОЛЬГА (ставіць чай, прыносіць Насці талерку і відэлец). А вы ешце, ешце (накладае Насці каўбасу). Каўбаскі, Насценька, паспрабуй (працягвае ёй агуркі). Бяры гурочак.

Усе ядуць. Цётка Вольга выходзіць.

СЫМОН. А наш солтыс, сябры, аднак хітрун. Як гэта ты Сцёпу раскусіў? Мне і ў галаву не прыходзіла, што тут у каханні справа.

ПУЧОК. Што ты! Нават мы з Вольгаю да апошняй хвіліны нічога не дадумаліся. Бегала сабе дзяўчына кожны вечар быццам у школу – тэлевізар глядзець. А тут раптам спраўляй вяселле.

СЫМОН. Праўда! Скажыце, дзядзя Язэп, як гэта вы здагадаліся?

СОЛТЫС (неахвотна). Ну! Як вам сказаць? Ну! Гэта нават не я.

НАСЦЯ. А хто ж?

СОЛТЫС. Ну як вам тут выясніць?..

ПУЧОК. Гавары, Язэп!

СОЛТЫС. Ну добра! Раскажу. Абяцайце толькі, што гэта між намі застанецца.

Усе згаджаюцца.

СЫМОН. Пачынайце расказваць!

СОЛТЫС. Бачыце, гэта мне мая Алёна нараіла, каб паклікаць бабку Галаўскую.

НАСЦЯ. І што? Гэта яна вам сказала?

СЫМОН. Не перабівай!

СОЛТЫС. Не сказала, а выважыла. (Насця пачынае смяяцца). А вы смейцеся. Я сам у ніякія ворожбы не веру. Тут аднак было без падману. Не ведаю якім чынам, а аднак бабка прачытала з міскі з вадою ўсё так, як яно было. Слова ў слова.

НАСЦЯ. З міскі з вадою? Ой! Не вытрымаю! (смяецца).

ПУЧОК. Не перашкаджай, Насця.

СОЛТЫС. Так то бачыце, а я цяпер сам не ведаю, што думаць. Мо сапраўды ў гэтых ворожбах ёсць нешта? Бабка ж праўду казала.

НАСЦЯ. І гэта так, дарма, ад добрага сэрца?

СОЛТЫС. Ну не. Прыйшлося даць ёй 150 злотых. Калі ўдумацца, дык гэта не так ужо і дорага.

НАСЦЯ. 150 злотых? Ой, не магу! (смяецца).

СЫМОН. Насця! Чаго ты рагочаш?

НАСЦЯ. Ой, не магу (смяецца). Як жа бабцы было не варажыць! Ды яшчэ і за 150 злотых. Так варажыць і я ўмела б. Каб толькі знаходзіліся ахвотнікі плаціць (смяецца). Ну і падвяла ж яна вас, дзядзька Язэп!

СОЛТЫС. Чаму ж гэта?

НАСЦЯ. А тое, што Сцёпа з Гандзяй, штовечара, у старой Галаўскай у садочку спатыкаліся.

СОЛТЫС. Немагчыма.

НАСЦЯ. Старая іх амаль кожны вечар ганяла. Лаялася. Яны ёй увесь агарод стапталі. Ну, скажыце, як ёй было не вываражыць? Ды яшчэ за такія грошы? (смяецца).

Усе, акрамя солтыса, смяюцца.

СОЛТЫС (да гледачоў). Ну вось! Бачыце, як гэта часам у жыцці бывае? Нялёгка, сябры, часам солтысу даводзіцца. Нялёгка. Ну, скажыце самі. Ці ёсць якая больш адказная пасада?

Заслона

КАНЕЦ

## *Дзіўны горад*

*(п'еса ў адной дзеі)*

Дзеючыя асобы:

**Бусел** – хлопчык у доўгіх чырвоных панчохах, белых трусіках, на якіх ззаду прычэплены чорны хвосцік. Да рук ён мае прымацаваныя белыя з чорным крылы, зробленыя з паперы або матэрыялу. Абады крылаў можна зрабіць з дроту. На галаве ён мае маску з буслінай дзюбаю.

**Домікі** – тры макеты домікаў, зробленыя з кардону так, каб стаячыя за імі дзеці маглі іх варушыць з месца на месца.

**Цюцька-Брахунчык** – хлапец у светлых нагавіцах з панашыванымі на іх каляровымі латкамі. Ззаду нагавіцаў зроблены са спіральна скручанага дроту, абшытага матэрыялам, хвост. У светры гольф. На руках рукавіцы з адным пальцам. На галаве маска сабакі.

**Дзядзька Лесавік** – у капелюшы, гумовых ботах, з палкаю. У зубах трымае люльку.

**Траўкі** – шэсць дзяўчат. Абвешаныя травою сапраўднаю або з паперы. З травы спаднічкі, з травы шырокія каўнерыкі, пучкі травы каля косак і на запясцях. У валасах рознакаляровыя ўстужкі.

**Кветачка Духмяная** – дзяўчынка ў капялюшыку-кветцы, на целе прымацаваны зялёныя лісточкі, зялёныя панчошкі, кароценькая каляровая спаднічка, зялёны светрык.

**Злыдзень-Неразумны** – хлапец брудны, непрычэсаны, у падзёртым адзенні.

**Пчолка Бзум-Бзум-Бзум** – на галаве вялізныя вочы. З кардону дзве пары крылаў, дзве пары дадатковых ног. Светрык у палоску. У руках дзіда-джала.

**Людзі** – а) дзяўчынка-школьніца, б) старая бабулька з палачкаю, в) рабочы.

**Кусцік-Растрапунчык** – хлапец абвешаны зялёным галлём на галаве, вянок з галля. У кожнай руцэ трымае па галіне.

БУСЕЛ (выходзіць перад заслону). Клё-клё-клё. Добры дзень, дзеці. Вельмі мне прыемна сустрэцца і пагутарыць з вамі. А то (задзірае адну нагу ўгору, пахіляецца ўперад і махае крыламі, быццам ляціць) лётаеш увесь час над балотам, жаб-кватух ловіш і няма да каго нават дзюбы адчыніць. Так-так, так-так, так-так. Дазвольце, аднак, я на адной назе стану (прыстае на адной назе; ступню адной нагі абапірае аб калена другой). Мне так выгадней будзе. Гэта ж наша бусліная звычка. А ці вы ведаеце, чаму я да вас клё-клё-клё прыляцеў? (пачынае доўгімі крокамі хадзіць уздоўж сцэны, пахілены да гледачоў і голасна шэпча). Хачу я вам, дзеткі родненькія, расказаць, што ў траве пішчыць. (Голасна) Клё-клё. Так-так. Што ў траве пішчыць. Клё-клё. Так-так. Што ў траве пішчыць (стае пасярод сцэны на адной назе і ківае дзюбаю). Вось паслухайце. Не вельмі даўно, не надта далёка адгэтуль, пабудавалі добрыя людзі прыгожы горад (звяртаецца ў бок заслоны, разводзіць крыламі, заслона рассоўваецца, на сцэне домікі, ківае галавою ў бок гледачоў). Клё-клё. Так-так. Вельмі, вельмі прыгожы горад.

ДОМІКІ (спяваюць).

*Мы новыя домікі тра-ля-ля-ля-ля*
*Паміж намі вуліца сцежачкай лягла.*

БУСЕЛ (ківае галавой і спявае). Клё-клё. Так-так. Сцежачкай лягла.

ДОМІКІ (гойдаюцца з боку на бок і спяваюць).

*Вуліца тут, вуліца там*
*Вось і маеце горада план.*
*Вуліца тут вуліца там*
*Вось і маеце горада план.*

БУСЕЛ (ківае галавой і спявае). Клё-клё. Так-так. Вось і маеце горада план (выходзіць на сярэдзіну сцэны, разводзіць крыламі). Клё-клё. Так-так. Вельмі прыгожы быў горад (стае на адной назе, падпірае галаву крылом). Чамусьці, аднак, было ў тым горадзе надта сумна. Ні птушачка не праляціць, не заспявае. Ні мушка не бзыкне над вухам. Ні пчолка не загудзе. І сумна было ў горадзе і нейк душна. Людзі хадзілі па ім з апушчанымі галовамі і чыхалі, і чыхалі, і чыхалі (адыходзіць на край сцэны, разводзіць кры-

ламі, а цераз сцэну ў рытм сумнай музыкі праходзяць людзі з апушчанымі галовамі, усе чыхаюць; бусел памалу выходзіць на сярэдзіну сцэны, ківае галавой). Клё-клё. Так-так. Чамусьці было ў тым горадзе надта, надта сумна і ўсе людзі чыхалі, чыхалі і чыхалі. Вось так, а-а-аапчых. Брррр клё-клё-клё (стае на адной назе). Пачалі людзі раіць, што тут рабіць (людзі бяруцца за рукі ўкруг, збягаюцца і разбягаюцца, спяваючы).

ЛЮДЗІ.

*Вось бяда, вось бяда, аа-пчых.*

*Горад ёсць, жыцця няма, а-а-пчых.*

*Ах ды ох, а-а-пчых,*

*Ах ды ох, а-апчых.*

*Жыцця ў ім няма.*

БУСЕЛ. Прыдумалі ўрэшце паклікаць на дапамогу вядомага чарадзея, дзядзьку Лесавіка (Людзі згуртаваныя, нешта мармычучы, сходзяць са сцэны ўсе з аднаго боку. Час ад часу чыхаюць). Клё-клё. Так-так. Самога дзядзьку Лесавіка з ягоным сабакам Цюцькам-Брахунчыкам.

ЦЮЦЬКА (уваходзіць разам з Лесавіком. Бегае па сцэне і нюхае; спявае).

*Я вам не звычайны пёс.*

*Усё разнюхае мой нос.*

*Гаў-гаў-гаў, нюх-нюх-нюх,*

*Тут нездаровы дух,*

*Нюх-нюх-нюх, а-а-пчых, а-а-пчых.*

*Што гэта можа быць?*

*Нюх-нюх-нюх, нюх-нюх-нюх,*

*Тут нездаровы дух.*

*Тут нічым не пахне мусіць,*

*Толькі пыл у носе круціць.*

А-а-пчых, а-а-пчых (чыхае трасучы галавой; вые). Ууууу. Сумна тут (звяртаецца ў бок гледачоў, робіць рэверанс, разводзячы лапамі). Будзем знаёмыя: я Цюцька-Брахунчык. Прызнаны вораг злыдняў і прыяцель дзяцей. Паводле штату я залічваюся да найлепшых памочнікаў дзядзькі Лесавіка.

ЛЕСАВІК (у адной руцэ палка, а ў другой люлька; прытанцоўвае гапака і спявае).

*А я, дзядзька Лесавік,*
*Моцны як жалезны цвік.*
*Не хварэю я ніколі,*
*Бо жыву ў зялёным боры.*
*Го-го! Го-го! Таму я, чарадзей,*
*Мяне любяць птушкі, пчолы.*
*Я паветра маю ўволю.*
*Людзі вераць ў мае чары,*
*Бо умею здзяйсняць мары!*

Го-го! Го-го. Таму я чарадзей (прыстае, круціць носам, чыхае). А-а-пчых, а-а-пчых, Ох! Ох! Сапраўды, пыл у носе круціць (рубае рукою ў паветры і тупае нагою). Каб ён здох. А памагчы людзям трэба. Як думаеш Цюцька-Брахунчык?

ЦЮЦЬКА (ківае галавою). Ой трэба, трэба. Тут жа ж задыхнуцца можна. Вррр, гаў-гаў-гаў, а-а-пчых.

ЛЕСАВІК. Ну, калі так, дык пачаруем браток крыху, і клікнем на помач нашых зялёных памочнікаў.

ЦЮЦЬКА. Але, дзядзенька. Але. Клікнем на помач нашых зялёных памочнікаў. Врр, гаў-гаў-гаў. А-а-пчых.

ЛЕСАВІК. Дык за работу (адварочваецца плячыма да гледачоў, круціць у паветры палкаю і прыгаварвае).

*Чары-мары, бор сыры,*
*чатыры мухі ў кісялі,*
*плавае павук у супе,*
*дзве блыхі скачуць па пупе.*
*Чары-мары, бор сыры,*
*да работы гультаі!*

(ходзіць па сцэне і, прыклаўшы далонь да рота, гукае). Гэй, людзі, людзі, усе сюды. Гэй, да работы гультаі! (Людзі збягаюцца, чыхаюць, Лесавік, разводзячы рукамі, тлумачыць). Без работы няма чараў, не здзейснім без працы мараў. Усе са мною! Гукнем на помач нашых зялёных сяброў (Людзі стаюць у рад за Лесавіком, усе абыходзяць вакол сцэны і выходзяць).

ДОМІКІ (ківаюцца з боку на бок і спяваюць).

*Што гэта будзе? Што гэта будзе?*
*Зямлю капаюць рыдлёўкамі людзі.*

*Ой, ёй, ёй. Ой, ёй, ёй. Што гэта будзе.*

БУСЕЛ (ківаючы дзюбай). Клё-клё. Так-так. Землю капаюць рыдлёўкамі.

На сцэну ўваходзіць Лесавік, Цюцька і Людзі. Людзі трымаюць за таліі па дзве Траўкі. Лесавік вядзе Кветачку Духмяную. Цюцька цягне Кусцік-Растрапунчык.

ЛЕСАВІК. Сейце траўку, сейце траўку (Людзі раскручваюць Траўкі і адыходзяць пад Домікі. Траўкі круцяцца на пальцах паасобку; спяваюць). *Ля-ля-ля. Ля-ля-ля.*

ТРАЎКІ (бяруцца за рукі ўкола круцяцца, спяваюць).

*Мы траўка, мы траўка. Ля-ля, ля-ля, ля-ля.*

*Без зялёнай траўкі свет быў бы невясёлы,*

*Патрэбная траўка ў горадзе і ў полі.*

*Мы траўка, мы траўка. Ля-ля, ля-ля, ля-ля.*

ЛЕСАВІК. Вось так. Вось так. А цяпер сярод траўкі кветачку духмяную пасадзім (раскручвае Кветачку Духмяную, тая круціцца, танцуе; Траўкі адчыняюць кола, упускаюць усярэдзіну Кветачку і зноў замыкаюць кола; Кветачка танцуе, круцячыся ў адзін бок, Траўкі круцяцца ў другі).

ЦЮЦЬКА. А тут, збоку, я пасаджу кусцік. (Цягне Кусцік-Растрапунчык, ставіць яго і абтопвае яго лапамі). Хоць ён і растрапунчык, а ўсё ж патрэбны.

ТРАЎКІ, КВЕТАЧКА і КУСЦІК (прытанцоўваюць і спяваюць).

*Дзе сумна, дзе пуста,*

*Дзе цяжка людзям жыць,*

*Засеяць трэба траўку,*

*Кветак насадзіць.*

КВЕТАЧКА. *Дзе кветачкі духмяныя!*

ТРАЎКІ. *Дзе траўка зелянее!*

КУСЦІК. *Галоўкаю трасе! Дзе кусцік-растрапунчык,*

ЛЮДЗІ. *Там вясёлы ветрык*

*Усе смуткі дзесь развее!*

*У дагэтуль сумны горад*

*Смех, радасць прынясе!*

БУСЕЛ (ківаючы галавою з боку сцэны). Клё-клё. Так-так. Смех, радасць прынясе (выходзіць на сярэдзіну сцэны перад рэшту акцёраў, стае на адной назе і, махаючы крыламі, гаворыць з уздымам). Буйна парасла траўка

гарадскія паркі і скверы (Траўкі, узяўшыся за рукі, круцяцца кругом Кветачкі, напяваючы ціхенька «ля-ля-ля, ля-ля-ля», то прысядаюць да зямлі, то ўздымаюцца). Ад кветачкі духмянай пах па ўсіх вуліцах разыходзіцца (Кветачка, узняўшы рукі над галавою, круціцца на пальцах сярод Травак у іншым, чым тыя, напрамку).

А непаседа Кусцік-Растрапунчык так пацешна трасе кучаравай галоўкаю, ажно домікі са смеху паддзыгваюць (Кусцік робіць пацешныя міны, трасе галавою, размахвае галінамі, якія трымае ў руках; Бусел зыходзіць са сцэны).

ДОМІКІ (хістаюцца з боку на бок, перасоўваюцца пару крокаў убок, назад і зноў убок, і дэкламуюць хорам).

*Што за радасць, што за смех,*

*Ха-ха-ха-ха!*

*Вокны адчыніць не грэх,*

*Ха-ха-ха-ха!*

*Людзі перасталі чыхаць,*

*Ха-ха-ха-ха!*

*Ходзяць прытанцоўваючы,*

*Ха-ха-ха-ха!*

ДЗЯЎЧЫНКА (прабягае праз сцэну прытанцоўваючы).

*У школу, у школу.*

*Хутчэй, хутчэй, хутчэй* (абягае вакол травак і хаваецца за сцэнай).

БАБУЛЬКА (прабягае вакол Травак, паддзыгвае і прыгаварвае).

*Хоць старая ўжо я, а паддзыгну, гоп-са-са!*

*Хоць старая ўжо я, а паддзыгну, гоп-са-са!*

РАБОЧЫ (прабягае вакол Травак, то прысядзе, то падскочыць, прыгаворвае).

*Не бракуе мне ахвоты выбірацца да работы.*

*Не бракуе мне ахвоты выбірацца да работы.*

БУСЕЛ (выходзіць на сярэдзіну сцэны, трымаючы ў руках малое дзіцятка, ляльку загорнутую ў пялюшкі). Клё-клё. Так-так. Вельмі вясёлым стаў гэты горад і мы, буслы, з радасцю насілі ў яго маленькіх дзяцей (бярэ ў зубу рог пялюшкі, каб дзіцё вісела быццам у дзюбе, стае на адной назе і махае крыламі, быццам лётае; дзыгаючы на адной назе вакол Травак, вылятае за сцэну).

ЛЕСАВІК (стае з боку сцэны; у адной руцэ люлька, у другой – палка; размахвае люлькай і гаворыць). І было б у гэтым горадзе ўсё добра, калі б не Злыдзень Неразумны (Лесавік, паказваючы рукою на Злыдня, які тым часам выбег на сцэну і разглядаецца). Не мыўся ён. Не хацеў вучыцца. Бацькоў не слухаў. Адно шукаў, дзе б шкоду зрабіць. То ён траўку нагамі прытопча (Злыдзень тупае нагамі вакол Травак; частка Травінак сядае на зямлю, панурыўшы галоўкі). Глядзяць Людзі, глядзяць Домікі, усе глядзяць, не ведаюць, што рабіць і ўздыхаюць.

ЛЮДЗІ (разводзячы рукамі, Домікі, хістаючыся з боку ў бок, Траўкі, Кветачка, Кусцік, усе разам хорам). Вось і Злыдзень. Вось і Злыдзень. Адно шкоду робіць.

ЛЕСАВІК. То ён на кусціку галінкі abламае (Злыдзень падбягае да Кусціка, выкручвае яму рукі; рукі з галінкамі апускаюцца). А ўсе глядзяць. Не ведаюць, што рабіць і ўздыхаюць.

УСЕ (хорам). Вось і Злыдзень. Вось і Злыдзень. Адно шкоду робіць.

ЛЕСАВІК. Аднойчы ён захацеў нават сарваць Кветачку Духмяную (Злыдзень бярэ за талію Кветачку і цягне яе да сябе; Кветачка выкручваецца і плача). І тады не вытрымала ўрэшце Пчолка Бзум-Бзум-Бзум.

ПЧОЛКА (вылятае з-за кветачкі, махае джалам і пачэсвае адну нагу аб другую). Усе стаяць. Бзум-бзум. Усе глядзяць. Бзум-бзум. Ніхто не рушыцца. Бзум-бзум. Дык я яго сама (налятае на Злыдня і коле яго джалам).

ЗЛЫДЗЕНЬ (уцякае па сцэне перад пчолкаю, хапаецца за джаленыя месцы і крычыць). Ой-ой-ой. Ой-ой-ой. Я больш не буду.

ЛЕСАВІК. Глянулі ўсе (Домікі хістаюцца, Людзі, прыклаўшы далоні да вачэй, углядаюцца). Зразумелі, што са злыднямі якраз так і трэба. І ўзяліся ўсе разам.

ДОМІКІ (паддзыгаюць і тупаюць нагамі). Сценкамі цябе прыдушым. Дзвярыма цябе прышчымім.

ЗЛЫДЗЕНЬ (бегае па ўсёй сцэне і стогне). Ой-ой-ой. Больш не буду. Ой-ой-ой! Больш не буду!

ДЗЯЎЧЫНКА (выбягае на сярэдзіну сцэны і пішчыць). За вуха яго трэба! За вуха!

БАБУЛЬКА (выбягае на сярэдзіну сцэны, махае кульбачкаю і крычыць). А я яго, кульбачкаю, родненькага! А я яго, кульбачкаю, каханенькага!

РАБОЧЫ (выбягае на сярэдзіну сцэны, адпярэзвае пояс і крычыць). Давайце яго мне! Давайце яго мне!

ЦЮЦЬКА (падбягае да Лесавіка, з нагі на нагу перастулае). Ой, вытрымаць цяжка. Ой, вытрымаць цяжка. Дазвольце мне яго, дзядзенька, зубамі за тое самае месца, адкуль ногі растуць... В-р-р-р-р (варчыць на прабягаючага побач Злыдня). Дазвольце яго за тое месца, скуль ногі растуць, схапіці (усе Людзі і Цюцька ганяюць Злыдня вакол Травак; выганяюць яго са сцэны і выбягаюць самі).

ЛЕСАВІК. Выгналі Злыдня Неразумнага. Стала зноў у горадзе весела, весела, весела. І ўсе з той пары супольна пільнавалі, каб ніхто больш зелені не нішчыў (уваходзяць усе акцёры, гавораць хорам).

УСЕ. Так. Так. Цяпер мы ўсе супольна пільнуем, каб злыдні зелені не нішчылі. Так. Так. Усе супольна пільнуем.

БУСЕЛ (вылятае перад акцёраў). Клё-клё. Так-так. Вось бачыце, які гэта цяпер горад. Жадаю вам, каб і вашая вёска ці горад былі поўнымі зелені ды кветак і, каб не было ў іх месца неразумным злыдням.

УСЕ (разам спяваюць).

*Дзе сумна, дзе пуста,*
*Дзе цяжка людзям жыць,*
*Засеяць трэба траўку,*
*Кветак насадзіць.*
*Дзе кветачкі духмяныя* (Кветачка, танцуючы, прабягае перад хорам),
*Дзе траўка зелянее* (Траўкі, круцячыся, прабягаюць перад хорам),
*Дзе кусцік-растрапунчык*
*Галоўкаю трасе* (Кусцік выбягае перад хор, робіць міны, трасе галавою),
*Там вясёлы ветрык*
*Усе смуткі дзесь развее,*
*У дагэтуль сумны горад*
*Смех, радасць прынясе.*

Заслона

***

Wersy poetyckie Jerzego Geniusza powoływała do życia tęsknota. A z tęsknoty rodzi się zazwyczaj poezja niekłamana, prawdziwa do łez, lgnąca do ziemi – zawsze łapczywej na odciśnięcie ludzkich stóp, głodnej człowieczego ciepła. Wypełniona marzeniami jakby z bajki wyprowadzonymi.

Ilekroć wsłuchiwałem się w Jurkowe wersy, odczuwałem czymże jest dotkliwy ból sieroctwa. Towarzyszył młodzieńczy bunt wobec rzeczywistości, w której przyszło żyć Poecie, dzieląc los swojej Mamy – wybitnej białoruskiej Poetki. Wobec kłamstw, które mieniły się być Prawdą. Wobec ciemności, która odbierała źrenicom widzenie i radość życia. Wobec ideologicznej pętli, która się zaciskała trudną codziennością boleśnie wokół szyi.

Zrozumiałem to, kiedy dane mi było stanąć przy grobie rodziców poety, na wzniesieniu cmentarnym w Zelwie. Zrozumiałem wówczas kalectwo przerwanego dzieciństwa, przedwczesne wypędzenie w dorosłość, w jej bóle trwania i w nie wygaszone tęsknoty.

Byłem niegdyś świadkiem jak z czułością dotykał Jerzy kart książeczki z bajkami swojej Mamy dla ukochanych wnucząt, przesłanymi z Zelwy, przez czujne kordony graniczne. Była tam ilustracja wilka, z krwistą koroną wciśniętą na zwierzęcy łeb. Bajeczne beztroskie wędrowanie zamieniało się nagle w sowiecką rzeczywistość. Mit raju rozpływał się, zionęło pustką.

Zrozumiałem wówczas Jurkową poezję, gęstą od znaczeń i podtekstów, metafor i symboli. Kiedy pojawiało się w niej światło i zanurzało w sobie elementy wytęsknionego świata, zrozumiałem bolesne pytanie: „Czemuż ja czarny Mamo, czemuż ja czarny, choć białą noszę twarz…".

Na dach rodzinnego domu Poety w Zelwie zarzuciliśmy pęk kwiatów. Wtedy przystąpiłem do przyswajania polszczyźnie Jurkowych tęsknot.

*Jan Leończuk*



Хата Геніюшаў у Зэльве




Прага, люты 1938

Юрка Геніюш з маці
Ларысай на Вышаградзе,
Прага, 1940



Юрка Геніюш з маці
Ларысай, Прага, 1941





Юрка Геніюш з бацькамі Янам і Ларысай, Прага, 1941



Юрка Геніюш з бацькамі Янам і Ларысай, Прага, 1944



Ларыса, Міхась і Юрка Геніюшы (1967)



Геніюшы: Янка, Валянціна, Алесь, Ларыса, Юрка і Міхась



Геніюшы: Юрка і Янка (ззаду), Міхась, Ларыса, Алесь і Валянціна



Юрка і Валянціна Геніюшы (Беласток, 60-я гады XX ст.)



Юрка, Ларыса
і Валянціна Геніюшы
(Беласток, вясна 1967)



Юрка, Міхась і Валянціна
Геніюшы (Беласток, 1967)





Юрка Геніюш з маці Ларысай (Беласток, вясна 1967)



AKADEMIA MEDYCZNA
W BIAŁYMSTOKU

L. 1665/6/66

DYPLOM

Obywatel/ka Jerzy
Geniusz
urodzony dnia 21 m-ca X r. 1935
w Zelwa
po odbyciu studiów na Wydziale Lekarskim
w latach od 1957 do 1966

i złożeniu przepisanych egzaminów uzyskał
dnia 7 stycznia 1966 r.
tytuł **lekarza,** stanowiący dowód ukończenia szkoły wyższej i uprawniający do ubiegania się o stopień naukowy doktora oraz o prawo wykonywania zawodu w myśl przepisów prawnych obowiązujących w Polskiej Rzeczypospolitej Ludowej.

Białystok, dn. 15. II. 1966 r.

Dziekan Rektor

Geniusz Jerzy
własnoręczny podpis

Mz Am-1 zam. 5035|PWHDA|W-wa
Opol 2553/65 5450 O-4.717

Дыплом Медыцынскай акадэміі ў Беластоку



Перад будынкам амбулаторыі
ў Васількаве, 1967



У амбулаторыі
ў Гарадку



Юрка Геніюш
на працы




Перад будынкам Хуткай медыцынскай дапамогі ў Беластоку, 1969

Алесь, Юрка і Валянціна Геніюшы, Беласток, 1969





Юрка Геніюш з сынамі
Міхасём і Алесем, Варна,
Балгарыя, 1971



Злева: Ян, Міхась, Валянціна,
Аляксандр і Юрка Геніюшы,
Мінск, лета 1973

Юрка і Валянціна Геніюшы
з сынамі Міхасём і Алесям,
Беласток 1978



Членскі білет
сялянскай партыі ЗСЛ



ZJEDNOCZONE
STRONNICTWO LUDOWE

Legitymacja członkowska

Nr 0009132

podpis

Nazwisko Geniuse

Imię Jery

Data urodz. 21. X. 1935 r

jest członkiem

ZJEDNOCZONEGO
STRONNICTWA LUDOWEGO

Data wstąpienia do ZSL 27. VI. 1962 r

Legitymacja wydana przez PK ZSL

w Białymstoku

Sekretarz PK ZSL

(m.p.)

Prezes PK ZSL

Białystok, dn. 15. VIII 1968 r.



У Белавежы на семінары Беларускага літаратурнага аб’яднання «Белавежа». Злева: Сакрат Яновіч, Аляксандр Баршчэўскі, Юрка Геніюш, Мікола Лобач, Віктар Швед, Георгій Валкавыцкі

Аляксандр Баршчэўскі, Аляксандр Іванюк, Юрка Геніюш



# Змест